16+

# МАЛАДОСЦЬ

падпісныя індэксы
індывідуальны — 74957
ведамасны — 749572
льготны — 00731
льготны
для настаўнікаў — 00592

ISSN 0131 2308
09/2017



Маладосць 09/2017

Таму, хто думае

у нумары:

**Пра фемінізм па-беларуску,**
новыя мовы,
неабыякавасць і буслоў

**Законы лічбавай эпохі**
і «пасткі» для чытача

**Студэнцкая справа**
**Уладзіміра Дубоўкі**
і іншыя студэнцкія справы

**БрамаМар-2017:**
Любоў-маркоў
у дантава-шэкспіраўскіх каларытах





Вечарам у адной з зал Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна.
Злева направа: студэнты факультэта эканомікі і гандлю Інстытута народнай гаспадаркі імя В. Куйбышава камсамольцы А. Пашкевіч, М. Янкоўская, Н. Герус і В. Кісялёва.

Фота А. Дзітлава.

«Маладосць» № 1. Студзень, 1954 год.

←

Надвячоркам у адной з зал Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры.
Злева направа: студэнты Інстытута журналістыкі БДУ Марыя Страх, Ганна Варонка, Сяргей Грудніцкі і вучаніца гімназіі № 1 імя Ф. Скарыны Яна Нікіфарава.

Фота Кастуся Дробава.

Рэдакцыя часопіса «Маладосць» выказвае падзяку
Дзяржаўнаму музею гісторыі беларускай літаратуры за прадастаўленыя магчымасці.

# Заплечнік з пралескамі

Вясна. Верасень. Вецер. Штурхае нас наперад. Дзьме ў спіну. Ледзь не кранаючы вуснамі чорны заплечнік з успамінамі. З такімі рознымі ўспамінамі. Салодкімі, салёнымі, горкімі, кіслымі, гарачымі, цёплымі, халоднымі, чыстымі, бруднымі, светлымі, цьмянымі, цёмнымі. І дзесьці там у асабліва важным аддзеле-кішэні ляжаць яны. Заўсёды свежыя. Заўсёды блізкія. Заўсёды здольныя вярнуць праз гады і дзесяцігоддзі ўсмешку на твар. Лекцыямі, кантрольнымі, перапынкамі, курсавымі, знаёмствамі, спробамі, крыўдамі, сустрэчамі, агнямі, сонцамі, утульнасцю, яркасцю, выбухамі ляжаць у нашых заплечніках пралескі. Вечныя пралескі нашага вечнага юнацтва. Першыя кветкі нашага «ўпершыню».

Вясна. Верасень. Вецер. Штурхае нас наперад. І мы крочым з ветрам. Мы не затрымліваемся. Тое, што нам патрэбна, мы заўсёды нясём з сабой і ніколі, наколькі б цяжкім не стаў наш заплечнік успамінаў, не выкінем. Можа, толькі часам спынімся, з пяшчотай дастанем чароўныя кветкі і пакінем іх след радкамі на якіх-небудзь старонках.




# 09

16+

**Штомесячны літаратурна-мастацкі**
**і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс**

**(766) ВЕРАСЕНЬ, 2017**

**Выдаецца з 1953 года**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ**

Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013,
Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005,
Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэл.: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.
maladost@zviazda.by

**http://zviazda.by/be/edition/maladosc**
**Група VK: https://vk.com/club75787481**

**ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ**

*00592 — індывідуальны льготны для настаўнікаў*

*74957 — індывідуальны*

*749572 — ведамасны*

*00731 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 16 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец:

рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»

Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: *Н.І. САВЕЛЬЕВА*
Дызайн вокладкі: *Н.І. САВЕЛЬЕВА*
Стылістычны рэдактар: *Г.І. ВЕРАБЕЙ*

Падпісана да друку 18.09.2017. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера лёгкамелаваная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 15,12. Ул.-выд. арк.16,28. Тыраж 1544 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект». ЛП №02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь

Змест




**Канстанцін Касяк**

## Гісторыя аднаго знаёмства

У кожнай гісторыі ёсць свой пачатак. Добра, калі ён інтрыгуючы. Яшчэ лепей, калі за пачаткам ідзе працяг. Ну і, вядома, кожная гісторыя мае фінал. Да яго, спадзяюся, яшчэ далёка.

Дзесяць гадоў таму, у адзін з вераснёўскіх вечароў, да мяне падышла дзяўчына і прапанавала сустракацца. Вось так проста, як кажуць, з месца ў кар'ер. Часу на «падумаць» было няшмат — усяго пяць хвілін. Вырашаць трэба было надзвычай хутка.

Яна была для мяне загадкавай асобай, якая нечакана і раптоўна ўварвалася ў маё жыццё. Модная: карэ, джут, джынсы, абцасы. Першыя часы мне нават падавалася, што гэта нейкі прыкол або нават злы розыгрыш

Да гэтага дня мы былі слаба знаёмыя — вучыліся на адным факультэце, у паралельных групах, але ніколі асабліва не камунікавалі. Хіба што недзе выпадкова перасякаліся. Я нават не ведаў, як яе завуць. Маша, Таня, Лена — перабіраў я тады ў галаве. Аказалася — Святлана. У маім жыцці да таго моманту не было ніводнай Святланы.

Узважыўшы ўсе «за» і «супраць», я не змог адмовіцца ад гэтай авантуры і, зразумелая рэч, згадзіўся. Тым больш, што дзяўчыну я ўпадабаў: мініяцюрная, светленькая, нардычнай знешнасці. Яна лёгка сышла б за скандынаўку ці ў крайнім выпадку за жыхарку Балтыйскага ўзбярэжжа. Я і раней заўважаў яе, адзначаючы для сябе яе прыгажосць, хоць паўтаруся: мы ніколі раней не камунікавалі.

Пра сваю новую спадарожніцу я нічога, у прынцыпе, не ведаў. Яна была для мяне загадкавай асобай, якая нечакана і раптоўна ўварвалася ў маё жыццё. Модная: карэ, джут, джынсы, абцасы. Першыя часы мне нават падавалася, што гэта нейкі прыкол або нават злы розыгрыш. Я ўсё чакаў падвоху, шукаў яго, але менш за ўсё нашы адносіны нагадвалі жарт.

Вельмі хутка ўсё закруцілася ўсур'ёз і надоўга. Не абышлося і без драматычных момантаў, куды ж без іх: слёзы, сваркі, расстанні. Дзякуючы гэтым адносінам я стаў вельмі стрыманым і загартаваным.

Але мяне не пакідала ўвесь час адна думка: яна ведае пра мяне болей, чым я пра яе. Шукаючы адказ на гэта пытанне, я ніяк не мог даць рады. А адказ, як бывае ў такіх гісторыях, быў пад самым носам!

Цяпер сацыяльныя сеткі існуюць на любы густ: УКантакце — для школьнікаў, Facebook — для разумнікаў, Twitter — для аматараў кароткіх паведамленняў, LinkedIn — для паспяховых, Instagram — для аматараў пасціць бясконцыя фотачкі. Выбірай на любы густ. Можна мець акаунты ва ўсіх адразу або толькі выбарачна. Якое раздолле!

У далёкім 2007 годзе, калі мы пачалі сустракацца, папулярнай была толькі адна сацыяльная сетка, калі яе можна так назваць, — блогавая платформа Livejournal. Чаго там толькі не рабілі: выкладалі вялікія фотарэпартажы, знаёміліся, пісалі справаздачы і допісы-прасціны ні пра што, спрачаліся і дыскуціравалі. У нас асабліва любілі баталіі на гістарычную тэматыку. Было сапраўды весела!

Хтосьці, каб не быць апазнаным, «шыфраваўся», а хтосьці наадварот — не хаваў свае даныя, выстаўляючы ўласнае жыццё на ўсеагульны агляд. Я быў недзе пасярэдзіне: з аднаго боку, усе *свае* ведалі, хто я, пад якім нікам хаваюся, з іншага — для чужых ні мой блог, ні аватарка, ні тым больш нікнэйм не павінеў быў сказаць чагосьці пэўнага. Але як жа я памыляўся насамрэч…

Гадоў пяць таму я напісаў апавяданне. Не лепшае з напісанага мной, хутчэй наадварот. Цяпер бы я так не пісаў, тым больш не спрабаваў бы яго апублікаваць. А тады я доўга думаў, куды яго прыладзіць. У выніку ў ліпені 2013 года апавяданне пад грыфам «Упершыню ў «Маладосці» пабачыла свет на старонках аднайменнага часопіса. Называўся той тэкст «Блог», і апавядалася ў ім пра незвычайнае знаёмства хлопца і дзяўчыны. Каханне, студэнцтва, час выпрабаванняў, іспытаў і вольнага жыцця. Гэта была мая першая публікацыя ў часопісе.

Пачыналася апавяданне так: *«Гэта адбылося ў высакосны год. Справы мае ў той час ішлі не лепшым чынам»*. Перачытваючы той тэкст, я сам сабе здзіўляўся: хіба цяпер мае справы ідуць лепшым чынам, або пасля заканчэння ўніверсітэта яны пайшлі ўгару? Жыццё ж, сапраўды, штука зменлівая: белыя і чорныя палосы мяняюцца з такой хуткасцю, што не паспяваеш заўважаць. Таму і шаша гэта часцяком шэрага колеру. Але ёсць і ў ім прыемныя рэчы! І пра іх трэба некуды пісаць. Чаго ж маўчаць! Іншая справа, што толькі пасля таго, як мінае пэўны час, пачынаеш разумець, чаму студэнцкія гады называюць самымі шчаслівымі: у большасці яны бесклапотныя. Прынамсі, калі параўноўваць іх з далейшым дарослым жыццём.

І вось я пісаў у свой дзённік пра рэчы, якія мяне тады хвалявалі. Найбольш, канешне, пра адзіноту. Мне тады падавалася, што ніхто мяне не разумее, нікому я не патрэбны. Якія душэўныя пакуты! Хацелася, пэўна, каб пашкадавалі.

Мне б хацелася сказаць, што ўсё, напісанае ў тым апавяданні, — праўда, або наадварот, што ўсе персанажы выдуманыя і нічога агульнага з рэальнымі не маюць. Але ж гэта літаратура — таму няхай усё існуе на памежжы

Калі настрой быў добры, я пісаў бадзёрыя і пазітыўныя допісы пра тое, што будучыня належыць нам, маладым і моцным, і гэтак далей... Але я ніяк не мог падумаць, што ўсё гэта чыталася. Прычым чыталася чалавекам, абыякавым да інтэрнэту і сацыяльных сетак. Тым не менш мой блог яго, дакладней яе, зацікавіў. Прычым настолькі, што яна вырашыла пазнаёміцца са мной асабіста.

Мне б хацелася сказаць, што ўсё, напісанае ў тым апавяданні, — праўда, або наадварот, што ўсе персанажы выдуманыя і нічога агульнага з рэальнымі не маюць. Але ж гэта літаратура — таму няхай усё існуе на памежжы. Лепш распавяду пра тое, што засталося за кадрам.

Па праўдзе кажучы, я і цяпер здзіўляюся яе смеласці: будзь я дзяўчынай, ніколі б не падышоў да сябе падобнага. Больш за тое — ні за што не сустракаўся б з такім. А яна вось вырашыла паспрабаваць.

Апавяданне «Блог» заканчваецца словамі галоўнага героя: «Заўтра для мяне пачнецца новае сапраўднае жыццё». Гэта адзіныя словы, якія напісаў не я. Іх дапісала яна. І гэта было праўдай: наперадзе нас чакала абрадавае вяселле каля Нявесцінага каменя ў традыцыйным стылі (хоць нам і дазволілі абысціся без вышыванак), спякотныя Балканы, халодная Балтыка і сумеснае жыццё.

Неяк, калі ўсё толькі яшчэ пачыналася, яна сказала мне, што ніколі ні з кім не сустракалася больш за месяц. Але са мной вырашыла затрымацца на дзесяць гадоў — спачатку ў якасці дзяўчыны, а потым і ў якасці жонкі. Смелым шанцуе — іначай не скажаш. Хацеў бы, каб гісторыя гэтага знаёмства цягнулася бясконца.



Ігар Палынскі

# гісторыя пра неабыякавасць і буслоў

часам пішу для Зялёнага партала (greenbelarus.info — рэсурс таварыства «Зялёная сетка», супольнасці экалагічных арганізацый, ініцыятыў, экспертаў). таму мае кантакты ёсць шмат у каго на Полаччыне — у экалагічных актывістаў, калег-журналістаў і г. д.

вясной мінулага года нехта з іх параіў звярнуцца да мяне навапалачанцы Алесі. яна напісала мне ўкантакціку і распавяла, што ў вёсцы пад Полацкам ля дома яе бацькоў даўно жыве сям'я буслоў. на гняздо напаў іншы бусел, выкінуў з яго гаспадара і рэціраваўся. бусел-гаспадар быў паранены — не мог трымаць шыю. а бусліха засталася пільнаваць яйкі, нікуды не злятала.

параненую птушку сталі даглядаць бацькі, спрабавалі паіць са шпрыца… але праз дзень ім трэба было на нейкі час з'ехаць з вёскі.

«дапамажыце! загінуць абедзве птушкі!» — напісала Алеся.

ліст прыйшоў позна вечарам, вядома, звязацца з кімсьці мне ўжо не ўдалося. на наступны дзень мы з Алесяй сустрэліся і паехалі ў вёску, каб забраць бусла, — яго згадзіўся паглядзець вядомы полацкі ветэрынар, прычым бясплатна.

дрэва, на якім знаходзіцца гняздо, сапраўды вельмі высокае. паранены бусел («мы назвалі яго Ванькам!» — распавялі бацькі Алесі; бусліху назвалі Мар'яй) выглядаў слабым, але прагнуў жыць…

«жыць павінен!» — такім было рэзюмэ ветэрынара па імені Сахаіб. без рэнтгену, канешне, цяжка было сказаць, ёсць мікрапераломы шыі ці не. аднак навобмацак, па словах Сахаіба, з шыяй у птушкі было ўсё ў парадку.

бусла згадзіўся прытуліць аддзел экалагічнага выхавання Полацкага раённага цэнтра дзяцей і моладзі. «канешне, прывозьце! будзем старацца забяспечыць яму належныя ўмовы!» — паабяцала тагачасная дырэктарка Наталля Задаліна.

…але ў гэтай гісторыі не было хэпі-энда. на наступны дзень мне патэлефанавалі і паведамілі, што Ванька не выжыў.

я прыгадаў гэтую гісторыю зараз таму, што нядаўна Алеся напісала зноў. «у нас зноў бяда з бусламі! упала дрэва з гняздом, а бусляняты яшчэ не лётаюць — ходзяць па полі… у нас тут шмат бадзяжных сабак, лісы — не выжывуць дзеткі! што рабіць?»… на вушы ставілі нават полацкіх пажарных — яны ўжо гатовы былі ехаць з лесвіцай, каб пасадзіць буслянят у пустое гняздо непадалёку. у выніку бацька Алесі сам аднавіў гняздо на вышыні ў пару метраў.

...нехта кажа: нельга ўмешвацца ў ход падзей прыроды. іншыя паспачуваюць і — «ну, а што мы можам зрабіць?» і зусім нешматлікія паставяць на вушы ўсіх, каго толькі можна, каб выратаваць жыццё бездапаможных істот.

прырода. чалавек у сваім імкненні прыстасаваць яе для сваіх патрэб зайшоў ужо настолькі далёка, што кожны, нават самы маленькі крок, нават выратаванне няшчаснай птушкі — крок на шляху да таго, каб заслужыць яе дараванне.





**Кацярына Захарэвіч**

## Дарослыя

Касечка вельмі хацела стаць дарослай. Гэта ж такія выгоды: можна будзе самой вырашаць, калі класціся спаць, як бавіць час, што есці (марозіва, піражкі з павідлам газіроўкай запіваць — і ніякіх супоў!). Не трэба хадзіць у школу, змагацца за адзнакі, чырванець за адзнакі, калі не змагалася, хавацца ад настаўніц, калі ходзіш з мамай па горадзе.

Калі ты дарослы, ты ходзіш на працу, перакладаеш паперы з месца на месца, п'еш гарбату з шакаладкай і думаеш пра сваё. Напрыклад, пра тое, што кожны чалавек — сусед па парце, мінак на вуліцы ці самы страшны вораг у школе — такі, як і ты, чалавек, у яго ў галаве сядзіць такое ж самае «Я», што і ў цябе, і ён бачыць цябе не так, як ты сябе бачыш, а з боку, зусім чужой, суседкай па парце, мінаком ці дзяўчынкай-няўклюдай, якую можна крыўдзіць і не баяцца помсты.

Ці можна ўяўляць, што ты адначасова сядзіш за партай у класе і падымаешся над класам да самай столі і бачыш сябе толькі галавой з бантам сярод дваццаці чатырох галоў з бантамі і без. Потым ты праходзіш праз столь, усё яшчэ бачыш дваццаць пяць галоў, старанна чапляешся поглядам за сваю, але ўжо не ўпэўнена, ці твая гэта. Падымаешся яшчэ вышэй — класаў і галоў робіцца больш. Потым больш робіцца і будынкаў, і ты нават не ўпэўнена, які са шматлікіх у горадзе — школа. Яшчэ больш складана — знайсці свой горад, калі ты ў космасе. І тут пачынаецца самае цікавае. Калі ты ў космасе, сярод зорак, трэба як мага больш рэзка і хутка, каб не паспець забыцца, упасці да сябе сапраўднай — якая сядзіць у класе і ледзь не плача, бо атрымала чарговую «чацвёрку» па матэматыцы. Які сэнс мае матэматыка, Касечка, яе «чацвёрка», усе «чацвёркі» свету, калі падымаешся ў космас і бачыш, што не ўяўляеш сабой нават кропку на Зямлі, нягледзячы на вялікія банты? Ад гэтага рабілася сумна, але лёгка і спакойна, прынамсі, пакуль не трэба было казаць маме пра кепскую адзнаку. Потым, значна пазней, Кацярынка даведалася, што не адной ёй прыходзілі ў галаву такія думкі — ужо напісаў Максім Багдановіч, але Кацярынку гэта не надта кранула, бо яе займалі зусім іншыя праблемы.

Зрэшты, і «Я» ў кожным чалавеку, і космас, для якога зусім не мае значэння Касечка, будуць здавацца лухтой, таму што дарослая Кацярынка будзе ведаць нашмат больш, чым ведае Касечка, і думаць будзе пра штосьці большае, чым яна сама. Вось бы пабачыць сябе праз гадоў дзесяць-пятнаццаць… Кацярынка, безумоўна, будзе вартай усякіх захапленняў.

Кацярынка перачытвае дзённік Касечкі. Ну так, «Я», ну так, космас. Толькі лепш бы ты, Касечка, матэматыку з фізікай вучыла ды і на іншых дакладных і карысных прадметах настаўнікаў слухала, чым пра космас думаць. Ён будзе існаваць незалежна ад цябе, а што будзеш рабіць ты? Як будзеш вырашаць шматлікія дарослыя пытанні, якіх нашмат больш, чым на ўроках дакладных дысцыплін? Бяда такая, што ні марозівам, ні шакаладкай ні заесці — ды і вагі лічбу недазволеную паказваюць. І ўвогуле, 22.00 на гадзінніку, час класціся спаць — заўтра зноў уставаць рана, на працу.

Карацей кажучы, калі б Касечка і Кацярынка сустрэліся, яны б адна адну не зразумелі.



## Дзмітрый Шулюк

# Прачнуцца ў целе

Неяк ранкам Грэгар Замза прачнуўся ў целе жука. Чулі гэтую гісторыю? Гісторыя дзіўная, але не сказаць каб фантастычная. Усе мы прачынаемся. Устаём. Пачынаем кантактаваць з людзьмі. А тыя крычаць, разбягаюцца. «Жук! Жук!» Глядзяць і не бачаць. Што гэта той самы жук, які жыве з імі колькі ўжо гадоў. То бок, той самы чалавек. Складана не заблытацца, лепш проста падысці да яго і спытаць: «Хто ты?»

У юнацтве я пазнаёміўся з готамі. Мне падабалася ў іх усё: знешні вобраз, унутраны, Смерць, творчасць. Мне падабалася іх культура. Otto dix з іх змрочнымі тэкстамі. Дзіўнай для мяне на той час музыкай і голасам. Дзіўнай і адначасова сваёй. Быў такі час. Цяпер ён далёкі і салодкі, але адначасова я шчаслівы ад таго, дзе я цяпер і хто я.

Неяк ранкам ён прачнуўся ў целе яе. Чулі гэтую гісторыю? Гісторыя дзіўная, але не сказаць каб фантастычная. Усе мы прачынаемся. Устаём. Пачынаем кантактаваць з людзьмі. А тыя крычаць: «Ты что, лесбиянка?» «Я хлопец». «Почему это тёлка о тёлке поёт?» «Я хлопец». Ён рабіў усё, каб яго цела было яго целам. Не яе. Гэта складана. Гэта цяжка. Вельмі цяжка. Ён хаваўся ў творчасці. Ці не хаваўся. Займаўся творчасцю. Стварыў гурт. Спяваў. Выходзіў на сцэну перад натоўпам і спяваў. А натоўп глядзеў уважліва, ці вылучаюцца пад майкай грудзі, ці ёсць кадык, намёк на расліннасць на твары, голас ці не занадта дзявочы. Натоўп шукаў, знаходзіў і гучна паведамляў яму пра свае знаходкі. Ён напружваў галасавыя звязкі, ён раздаваў сябе. Адна з песень была звычайнай гісторыяй. Убачыў дзяўчыну. Пакахаў. Паехаў за ёй на край свету. А там яна здрадзіла. Звычайная тэма. Звычайная песня. Звычайныя вялізныя выдаткі часу на тэкст, музыку, рэпетыцыі. Незвычайная рэакцыя. Ці звычайная? Тэкст, музыка, рэпетыцыі… «Почему это тёлка о тёлке поёт». Недастаткова высокі. Голас недастаткова хрыплы. Знешнасць зусім небрутальная. Якая каму розніца, што ён — Грэгар Замза. Што неяк ён прачнуўся ранкам у яе целе. Важна толькі само цела. Важна, што ён — жук.

Амаль адначасова пазнаёміўся з музыкай Otto dix і 45-хвілінным відэа пра лёс удзельнікаў гэтага гурта. То бок, аднаго з удзельнікаў. Клавішнік Сяргей расказваў пра тое, як хацеў быць мастаком. Пра тое, што для яго бацькі слова «мастак» было ледзь не сінонімам слова «гей» і яўным антонімам да слова «мужчына». Пра тое, як уцёк з дому. Начаваў пад мастом. Я быў юнак юнаком. Мне гэта ўсё было блізкім. Бо гэта было балюча. А я з мазахістычным задавальненнем усмоктваў у сябе ўсё, што балюча. Жыў у вечнай асалодзе болю.

Неяк ранкам ты прачнулася ў зламаным целе. Для цябе гэта было дзіўным? Неверагодным? Кафка пісаў не пра гэта. Кафка пісаў пра таго, хто можа стаць на ногі, на ўсе шэсць, і поўзаць па хаце, перабіраючы імі, прывыкаючы да іх. Новых, прыгожых. Ты прачнулася ў зламаным целе і стала ім. Ты стала толькі сваім целам. У вачах, якімі ты глядзела на сябе з люстэрка, адбівалася толькі цела і ніякіх вачэй. А вакол хадзілі людзі і казалі: «Беднае цела, як шкада гэта цела, што ж далей

станецца з такім зламаным целам, яно ж такое зламанае, гэта цела». Яны паважалі сябе за свае словы. Яны рабілі добрую справу. Яны спачувалі беднаму целу. А пасля тыя ж яны хвалілі гэта цела за тое, што тое працягвае жыць. Жыць сваім зламаным жыццём. Як жа яшчэ жыць целу? Часам целу «шанцавала», але ж яно ўсё роўна зламанае. Яму ж усё роўна не быць шчаслівым. Яно проста зламанае цела. Ты верыла ім? Ты ім верыла. Ты забылася, што яны не ведаюць, якое ў цябе сэрца. Што яно большае, чым любое цела. Яны не ведаюць, якое ў тваім сэрцы мора. Што яно большае, чым любыя іх мары, планы, пачуцці. Яны не ведаюць, якое ў тваім моры неба. Што яно большае, чым усё іх жыццё, разам з іх целамі, такімі незламанымі. Неяк ранкам ты прачнулася ў зламаным целе. Пацягнулася. Усміхнулася. І пабегла жыць, свяціць, гарэць. Бо пад каляным панцырам любога жука хаваюцца празрыстыя, тоненькія крыльцы. Шчаслівых табе палётаў, мой Грэгар Замза.

Вакаліст гурта Otto dix Міхаэль Драу для мяне знаёмы яшчэ і як пісьменнік. Яго «Паліўны цыкл» — дзіўная з'ява. З тых рэчаў, якім ставіш альбо два балы, альбо дзесяць. Бо гэта мастацтва бруду. Міхаэль утоптвае чытача ў зямлю. У зямлю, пакрытую ванітамі, экскрэментамі, гніллю. І чытачу застаецца толькі не варушыцца. Проста ляжаць ва ўсім гэтым, каб нечакана зразумець, якое незвычайнае неба. Там, зверху. Які невыносна вялікі гэты свет. Невыносна прыгожы. Яшчэ больш невыносны ад таго, што замест таго каб ляцець да гэтых зорак, пазнаваць гэтую бязмежнасць, мы ўтоптваем у бруд адно аднаго і самі сябе. Мы проста набітыя бессэнсоўным смеццем целы. Нас варта было б паставіць пасярод агарода, каб пудзілі варон. Для чаго мы яшчэ прыдатныя?

Неяк ранкам яна не прачнулася. Тата патэлефанаваў мне і сказаў, што яна не прачнецца больш. Сказаў: «Няма ў нас Алёнкі». Але ж была. Ляжала ў труне. Труну неслі. Адразу да касцёла. Пасля на могілкі. Пасля апусцілі пад зямлю. Вось і няма. Цела. Ніякага цела. Ёсць толькі дзевятнаццаць гадоў памяці. З пражытых мной дваццаці васьмі. Разам. Дзень за днём. Доўгія размовы вечарамі, калі бацькі ўжо загадалі выключыць святло, а спаць ніякага жадання не было. Размаўляць. Пра ўсё размаўляць. Пра літаратуру. Пра Генрыха Наварскага. Пра музыку. Ці што мы там слухалі. Слухаю. Фільмы. «Мяцежны дух». Дзевятнаццаць гадоў, калі гэта «цела» не ляжала пад зямлёй. Прачыналася кожнай раніцай. Прачыналася і не здзіўлялася гэтаму. Прачыналася. А зараз. Дзе яна? Ці ёсць яна ў гэтых радках? Ці хапае гэтых аркушаў, каб стаць яе целам? Неяк ранкам яна прачнулася радкамі на паперы. Зноў прачнулася.

> Неяк ранкам я прачнуўся ў звычайным чалавечым целе. Неяк ранкам я прачнуўся ў целе. Неяк ранкам я прачнуўся. Неяк ранкам я знішчыў жучынае цела

Готы для мяне, і не толькі, засталіся ў мінулым. Otto dix часам слухаю. Рэдка. Бо штосьці змянілася. Няма гэтай апантанасці болем. Ёсць апантанасць словамі. Ёсць смутак. Парадаксальны смутак. Шчасце з прысмакам смутку. Ёсць пошукі. Пастаянныя пошукі. Пастаянны рух свядомасці. Руйнаванне даляглядаў. Руйнаванне руін. Руйнаванне цела гэтага Сусвету. Які большы за любое цела. Бо ў ім ёсць месца для яго, для цябе, для яе. Бо ў ім, у табе, у ёй ёсць месца для гэтага Сусвету. Большага за любое цела.

Неяк ранкам я прачнуўся ў звычайным чалавечым целе. Неяк ранкам я прачнуўся ў целе. Неяк ранкам я прачнуўся. Неяк ранкам я знішчыў жучынае цела, адарваў па чарзе жучыныя лапкі, разбіў аб сцены цвёрды жучыны панцыр, адарваў, разбіў, адарваў, разбіў. Неяк раніцай я прачнуўся ў рэштках жучынага цела. Смярдзючых, ліпкіх, агідных. Я глядзеў у неба, на зоркі. Я жывы. Я адмаўляюся быць персанажам Франца Кафкі. Ён мой. Я ніколі не буду целам.

Otto dix — расійскі дарквэйв-гурт, створаны ў 2004 годзе ў Хабараўску. Заснавальнікі — Міхаэль Драу (Міхаіл Сяргееў) і Мары Сліп (Сяргей Слабодчыкаў). Абодва займаюцца літаратурай, выдалі некалькі кніг. Акрамя таго, Міхаіл заснаваў пластычны тэатр «Паноптыкум», а Сяргей праводзіць прыватныя курсы, арыентаваныя на стварэнне і прасоўванне музыкі.



**Яна Мусвідас**

# Фемінізм па-беларуску

**Нядаўна ездзілі з бацькамі ненадоўга ў Вільню, «пагуляць». Стоячы ў чарзе на мяжы, я вырашыла разрадзіць атмасферу і выпаліла: «А вы ўвогуле ў курсе, што я феміністка?» Абодва сінхронна павярнуліся і ў адзін голас спужана прамовілі: «ТЫ???»**

Дзеля справядлівасці скажу, што мае бацькі — людзі адукаваныя. Яны шмат ведаюць/чытаюць/пазнаюць. Але нават іх ад слова «фемінізм» кідае ў нейкія незразумелыя стэрэатыпныя дрыжыкі.

Часта, калі я кажу людзям пра тое, што я феміністка, сустракаю неразуменне: «Ты ж носіш доўгія валасы, голіш ногі, трэніруеш попу і рыхтуеш свайму хлопцу вячэру?» — І? Для мяне дзіўна, што шмат хто ў XXI стагоддзі лічыць, што ўсё гэта і фемінізм — рэчы ўзаемавыключальныя. Чаму грань паміж радыкальным фемінізмам і класічным была сцёртая ва ўспрыманні беларусаў?

Хочацца расставіць кропкі над «і». Фемінізм змагаецца за роўныя правы жанчын і мужчын. Гэта значыць, калі я хачу прысвяціць сваё жыццё толькі кар’еры і мне не падабаецца фарбаваць фэйс і гатаваць ежу — я маю на гэта права. Але калі хочацца, то сядзець дома, мыць падлогі, чытаць глянцавыя часопісы — гэта асабістая справа кожнага. Фемінізм — гэта права выбару.

Наогул, выбар павінен мець любы чалавек. Думаю, калі б у грамадстве было крыху менш стэрэатыпаў, то шчаслівых і багатых сем’яў стала б больш. Наглядна можна растлумачыць на прыкладзе дэкрэтнага водпуску. Бяром сям’ю, дзе жонка — генеральная дырэктарка буйнога прадпрыемства, а муж — слесар. Нараджаем ім дзіця і адпраўляем жонку ў дэкрэт. Што адбываецца з матэрыяльным дабрабытам сям’і? Ці хацела гэтая жанчына адрывацца ад працы на некалькі гадоў? Ці гатова яна рызыкаваць кар’ерай, якую будавала гадамі? Чаму сям’я так зрабіла? Адказ адзін: «Так прынята». У пытаннях дэкрэтнага водпуску соцыум дыскрымінуе мужчыну як бацьку і жанчыну як «будаўніка» кар’еры. Не верыце? Прагугліце. На TUT.by лёгка можна знайсці матэрыялы пра цяжкасці сем’яў, дзе ў дэкрэт вырашана было адправіць бацьку.

Складанасць барацьбы за роўнасць і выбар у тым, што гэта змяя кусае саму сябе за хвост. Многія трактуюць гендэрную роўнасць так, як выгадна ім. Сымона дэ Бавуар у кнізе «Другі пол» распавядае пра пісьменніцу, якая не дазволіла змясціць свой партрэт сярод жанчын-аўтарак: ёй хацелася стаяць у адным шэрагу з мужчынамі. Каб дамагчыся гэтага, яна скарыстала сувязі мужа.

Яшчэ адзін прыклад таго, як стэрэатыпы падыгрываюць самі сябе, — новыя правілы некаторых еўрапейскіх і амерыканскіх кампаній. Там, каб пазбегнуць дыскрымінацыі, увялі абавязковую квоту «жаночых месцаў». З-за гэтага часам выбіраюць не кандыдата-мужчыну, рэзюмэ якога падыходзіла больш, а менш адукаваную жанчыну. Потым гэтая жанчына працуе не так добра, і работадаўца з калегамі пераконваюцца, што дзяўчыны дурнейшыя.

Як знайсці залатую сярэдзіну ў пытанні роўнасці — не зусім зразумела, хоць гэта пытанне і актуальнае ўжо не першае стагоддзе. Думаю, праблему трэба вырашаць не «зверху», а «знізу». Кожны сам павінен усвядоміць і «пераварыць» гэтую роўнасць. Але трошкі мер «зверху» усё ж не пашкодзіць. Напрыклад, спецыяльныя дысцыпліны ў школах і іншых установах адукацыі, заахвочванне бацькоў, якія ідуць у дэкрэт (як у шведаў) і г. д.

*P. S.* Калі жанчын перастануць лічыць слабымі, ім больш не будуць саступаць месца ў транспарце і прытрымліваць дзверы. Магчыма, большасці беларусак такой цаной гэта і не трэба. Але я не супраць перастаць уціскаць «дзвярыма метро» мужчын.

# Знікненні ў цені

Ноч. Ноч. Ноч. Штосьці знікае ў ночы. Ноччу не глянуць у вочы. Ні праўдзе, ні жыццю, толькі снам. Сам сабе гуляю ў небе. Лятучай коткай. Лятучая мыш. Пакуль ты спіш. Над табой. Над зямлёй. Над бетонам. Над Коласам і яго Сымонам. Туды — да другога Сымона. Які чырвонай кропкай стаіць паміж месцамі з'яўлення і знікнення. Месцамі бурлівага жыцця і забыцця.

Станцыя Мінск—Пасажырскі. Мінск пачынаецца з вакзала. Гэта банальна. Бо стабільна. Звыкла. Знаёма. Не нова. Цягнікі цягнуцца туды-сюды, а ў іх трасуцца людзі. Са сваімі алкагольнымі гукамі. Са сваімі смярдзючымі шкарпэткамі, дзецьмі-кветкамі, кветкамі. Якія дадаюць новага жыцця паветру. Новыя людзі выходзяць з вагонаў. Адкуль іх прывозяць? Навошта? Хто? Людзі вылазяць сотнямі і выносяць сотні кілаграмаў рэчаў. Яны вырашылі жыць у Мінску. Яны вырашылі жыць вечна. Яны вырашылі не заўважаць, як цягнік, што прывёз іх, напоўніўся новымі сумнымі змрочнымі людзьмі. Новымі сумнымі змрочнымі людзьмі з іх сотнямі кілаграмаў рэчаў. Яны вырашылі жыць не ў Мінску. Яны вырашылі жыць вечна. Яны вырашылі не заўважаць, што цягнік — той самы, шлях — той самы, неба — тое ж цёмнае ў хмарах. І я. Я — сведка былых падзей — бачыў гэтых людзей тады.

Вакзал. Месца спатканняў, развітанняў, спадзяванняў. Вакзал. Вечна жывы і квітнеючы. Вакзал. Са сваімі зонамі для курэння, зонамі, за якія абавязковым лічыцца стаць хоць адной нагой у час працэсу. Працэсу, не зразумелага для мяне і ці зразумелага для вас. Пускаць дым у лёгкія, бы ў вочы. У ночы. Зоркі гараць, быццам там зверху, вышэй за мяне, таксама паляць. Паляць. Паляцець бы туды і правесці межы. І назваць пасля межы «сузор'ямі».

Вакзал. З цягніка выходзяць старыя тэклі. Азіраюцца. Быццам трапілі ў цёмны страшны лес. Быццам зараз выскачыць шэры воўк. Быццам шэрыя ваўкі могуць зацікавіцца старымі тэклямі. Тэклі саромеюцца спытаць дарогу. Не ведаюць, як спытаць. Як сказаць пра сына, які не вярнуўся. Знік дзесьці на гэтым вакзале. Знік, як усё тут знікае. Сустрэчы, развітанні, спатканні, дыялогі, пацалункі, абдымкі, кава, піва, цукеркі. А міліцыянер такі сур'ёзны — да яго не падыдзеш. Яму нічога не растлумачыш. Ён, магчыма, нават па-вясковаму не разумее. Ён паглядзіць на яе — і ў турму…

Шэры горад — страшны лес. Маленькая згорбленая тэкля крочыць незнаёмымі сцяжынкамі з піражкамі для сына. Абапал сцяжынкі не растуць кветкі. Маленькая згорбленая тэкля не заўважае, як пачынае знікаць.

Вакзал — вечна жывое сэрца горада. Усе вены і артэрыі сыходзяцца на вакзале. Нясуць свежую і нясвежую кроў. Нясуць, і нясуць, і нясуць. І не ведаюць, што сэрца прабіта. І не ведаюць, што кроў гэтая выцякае, што хворая кроў выцякае, і замест яе цягнікі прывозяць новую хворую кроў.

Вакзал. Тэкля. Ноч. Касцёл святых Сымона і Алены. Чырвоная кропка паміж месцамі з'яўлення і знікнення. Тэкля… Крок… Крок… Тэкля чакае свайго сына, шукае сына. Сына. А сын знік. У месцы знікнення. За моцнымі мурамі. Там, дзе не бурліць жыццё. Там, дзе бурліць нежыццё. У мінскім анты-вакзале.

Ноч. Ноч. Ноч. Я не лётаю над вуліцай Валадарскага. Лепш вярнуцца на вакзал. Туды, дзе спатканні, сустрэчы, развітанні, пацалункі, абдымкі, каханні. Туды, дзе ў разбітае сэрца цягнікамі вязуць кроў. Неачышчаную, неадфільтраваную. Я сам буду фільтрам, буду сачыць за новымі васілямі і старымі тэклямі. Але не той — тая ўжо знікла. ■





**Анхела Эспіноса Руіз**

## Новая мова — новае жыццё

«А вы ведаеце, наколькі я разумная па-іспанску? Натуральна, не». Так адказала Глорыя, гераіня серыяла *Modern Family* на пастаянныя жартачкі пра яе недасканалую англійскую. Серыял з'яўляецца камедыяй, сітуацыі ў ім — пераважна чысты абсурд, але некаторыя моманты з цудоўнай актрысай Сафіяй Вергарай — дужа падобныя да жыцця. Асабліва да таго светласумнага, поўнага прыгод, непаразуменняў і адкрыццяў жыцця эмігранта. Глорыя — жонка вельмі амерыканскага амерыканца, яе сын недавучвае і/альбо забывае родную мову маці, іспанскую, а ў сям'і ніхто не валодае іспанскай (ні якай іншай замежнай мовай на нармальным узроўні, дарэчы) акрамя самой Глорыі. Яна размаўляе і па-англійску. Як філолаг з вопытам выкладання замежных моў навват скажу, што размаўляе добра. Але, як большасць дарослых, якія пачынаюць вывучаць нейкую мову адносна позна, размаўляе недасканала. Плюс, я ўжо сказала, што мы маем справу з камедыяй, і моўныя жарты эфектыўныя, безумоўна. Але ўсё ж, як той кажа, не варта (у жыцці, не ў серыялах) смяяцца з таго чалавека, які размаўляе на тваёй мове недасканала і з акцэнтам, бо гэта значыць, што ён, як мінімум, двухмоўны.

Я пачала вывучаць англійскую, нібыта той дзень — апошні мой дзень на зямлі, а мяне трэба пахаваць з сертыфікатам узроўню С2

Ведаеце, дарагія чытачы, мяне часта пытаюць, ці не заўважыла я нейкія падабенствы і адрозненні паміж беларусамі і іспанцамі. Я шчыра веру ў індывідуальнасць чалавека, і таму мне цяжка адказаць на ўлюбёнае пытанне беларускіх знаёмых і незнаёмых. Магу затое сказаць: ёсць такое падабенства (шкада, што яно, хутчэй за ўсё, адмоўнае, чым станоўчае): статыстычна беларусы і іспанцы саромеюцца размаўляць на тых мовах, на якіх гавораць недасканала. І ў выніку — так, менавіта ў выніку, а не наадварот — яны рэдка валодаюць іншымі мовамі альбо слаба іх ведаюць, нават калі вывучалі гадамі і гадамі, кроўю і потам, пяццюстамі кнігамі. І гэта лагічна.

Сама я пачала моцна цікавіцца мовамі на 14-м годзе жыцця. Мая школа стала двухмоўнай на год пазней, чым я паступіла. Гэта значыць, што я не трапіла ў англамоўную групу. Тагачасная маладая, я хвалявалася, што людзі, на год маладзейшыя за мяне, будуць ведаць англійскую дасканала (зноўку гэта слоўка з'явілася, глядзіце!), а я — не. Ну, бо так думаюць наіўныя падлеткі. І дзякуй усім багам пантэона! Я пачала вывучаць англійскую, нібыта той дзень — апошні мой дзень на зямлі, а мяне трэба пахаваць з сертыфікатам узроўню С2. А, як ведаеце, я жыла тады ў Малазе. Як, магчыма, не ведаеце, гэта вельмі касмапалітычны горад з портам і пераважна турыстычнай эканомікай. Значыцца, у нас безліч замежнікаў штогод, увесь год. Сапраўды! І я заўважыла, што яны не баяцца размаўляць па-іспанску! Ого як! Ну, прыйшоў турыст у краму, зрабіў тысячу памылак, а ваду купіў. Камунікацыя адбылася. Паспяхова. З памылкамі. А ваду купіў. Бачыце, я адкрыла Амерыку другі раз пасля 1492 года. Праўда, кантэкст дапамагаў. У Малазе ўсе прывыклі да замежнікаў, ад іх залежыць шмат чый заробак, і мясцовыя людзі бачаць іх штодня і ставяцца да іх з разуменнем і ўсмешкай. Кожны гатовы дапамагаць, паўтараць павольней

колькі заўгодна (гэта ўсё адно лепш, чым самому быць прымушаным загаварыць па-англійску, не?), паказваць пальцамі, прабачыць памылку і недакладнасць. Але глядзі ж ты, прыходзіць замежнік, які ведае літаральна тры іспанскія словы. «Quiero comprar cerveza»[1], напрыклад. А атрымлівае ад цябе нейкі адказ, просценькі, кароценькі, бо чуеш акцэнт, няўпэўненасць у голасе, паказваеш заадно рукой, дзе крама, а другой рукой — колькі каштуе літр. А ён вывучыў яшчэ тры словы і цяпер ведае шэсць. А ты вывучаў англійскую ўсё жыццё, а піва ў Лондане не набудзеш, бо сорамна, страшна, твой кот хварэе, баліць нага, і не можаш падысці, і не так моцна піць і хочацца, а ўсё адно. І я тады прыняла, напэўна, самае важнае рашэнне ў сваім жыцці: я пачала жыць без сораму. Уяўляеце, якое гэта жыццё?

Вядома, ёсць моманты, калі я стамляюся. Калі я пачынаю вывучаць мову, я магу глядзець фільм чатыры разы. Першы — у дубляжы, каб усё зразумець і ведаць загадзя, што будзе. Другі — на новай мове са зразумелымі мне субтытрамі, каб быць упэўненай, што нічога не прапусціла з выказванняў. Трэці раз — зноўку на новай мове, але з субтытрамі на той самай, каб навучыцца пісаць словы, якія не ведала, а апошні — без субтытраў, на мэтавай мове яшчэ разочак, бо гэта практыка менавіта для слыху. Таму варта выбіраць вельмі якасныя фільмы і мовы, якія сапраўды моцна падабаюцца.

Бываюць сітуацыі, калі з мяне смяюцца, як з Глорыі ў серыяле, але гэта найменшая мая праблема, бо я ж адмовілася ад моўнага (і не толькі) сораму, і даўно. Самае горшае, напэўна, гэта тыя дні, калі матывацыя падае і ўжо не бачыш ні сэнсу вывучэння, ні любові да літаратуры (культуры, людзей!), ні прагрэсу — шляху, ужо пройдзенага. Але такія дні варта прымаць, адпачываць, рыхтавацца, каб удвая мацней вучыцца заўтра. У любым выпадку, мой шлях пладавіты, прынамсі, пакуль што. Кожная мова зрабіла мне нейкі падарунак, нягледзячы на тое, ці давучыла я яе да добрага ўзроўню, ці толькі да турыстычнага, ці ведаю адно алфавіт, як здарылася з арабскай. Некаторыя застаюцца, а іншыя адкладваюцца на потым. Гэта нармальна, агульная жарсць гарыць у сэрцы і мазгах, як у 14 гадоў.

[1] «Я хачу набыць піва» (ісп.). А чаго вы чакалі?

Ну, прыйшоў турыст у краму, зрабіў тысячу памылак, а ваду купіў. Камунікацыя адбылася. Паспяхова. З памылкамі. А ваду купіў

Увогуле, першай была англійская, потым сама прыйшла французская, бо ў школе ўсё адно нечаму вучылі і шкада было не працягваць. Славянскія мовы былі наступныя, разам з рознымі мёртвымі мовамі, якія былі па-іншаму цікавыя. Як некаторыя пачынаюць з лёгкіх наркотыкаў, а потым знаёмяцца з больш цяжкімі рэчывамі, так я пераходзіла з агульнавядомай англійскай да новых, больш экзатычных лінгвістычных сістэм. Так я дайшла і да фантастычнай, казачнай беларускай мовы, у якой канчаткова знайшла сябе як літаратарку, калі магу сама нешта ў такім духу сказаць. Як вядома, мовы не існуюць у вакууме. Разам з імі адчыняюцца вокны ў новыя літаратуры (гэта мяне, мабыць, найбольш цікавіць), дзверы ў новыя культуры. Пазнаеш новую ежу, адрозную музыку. Бачыш, якім чынам мова кшталтуе ход думак, і, наадварот, думкі ўплываюць на лексіку, сінтаксіс. Самае галоўнае, зрэшты, — новая мова дае магчымасць удалай камунікацыі з новымі людзьмі. Нельсан Мандэла сказаў: «Калі размаўляеш з чалавекам на мове, якую ён разумее, твае словы трапляюць яму ў галаву. Калі размаўляеш з чалавекам на яго роднай мове, словы твае трапляюць у сэрца». А ведаеце, пасля дзесяцігоддзя вопыту вывучэння замежных моў і цікавых размоў на мовах сяброў і блізкіх, якія сталі блізкімі менавіта тады, калі абрынуўся моўны бар'ер, магу пацвердзіць, што гэта праўда. Імкненне быць бліжэй да чалавека, паказаць зацікаўленасць да яго, яго мовы, яго ладу жыцця і пачуццяў — гэта трапляе непасрэдна ў сэрца. А сэрца не звяртае ўвагі ні на якія памылкі.

Ты вывучаў англійскую ўсё жыццё, а піва ў Лондане не набудзеш, бо сорамна, страшна, твой кот хварэе, баліць нага, і не можаш падысці, і не так моцна піць і хочацца, а ўсё адно



# Уладзімір Шымаў: «Маё студэнцтва — гэта бібліятэка, тэатры і зноў бібліятэка»

**З Уладзімірам Шымавым, рэктарам Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта, старшынёй Рэспубліканскага савета рэктараў вышэйшых навучальных устаноў («рэктарам у квадраце»), безумоўна, цікава было пагаварыць пра тое, якім ён быў студэнтам. Цікавасць гэтая падмацоўвалася яшчэ і тым, што яго альма-матэр — Маскоўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя М. В. Ламаносава. У выніку чытачу абавязкова перадасца тое задавальненне, якое атрымала ад размовы з Уладзімірам Мікалаевічам Святлана Воцінава.**

**— Найперш скажыце, чаму менавіта МДУ і чаму менавіта эканоміка? Як ажыццяўляўся выбар?**

— Выбар універсітэта быў зроблены дзякуючы маёй старэйшай сястры, якая паступіла ў МДУ на філалагічны факультэт. Як брат, які вельмі яе паважае і любіць, я пайшоў услед за ёю, стварыўшы маленькую сямейную традыцыю. А што датычыцца эканомікі, то яна мяне вельмі цікавіла з малых гадоў. Меў, памятаю, гадоў чатырнаццаць, калі пачаў рэгулярна, кожны тыдзень, купляць і чытаць «Эканамічную газету». Мама і тата, педагогі, глядзелі на мяне са здзіўленнем: эканамічная прэса здавалася ім, як мінімум, нецікавай. Акрамя таго, у школе мне вельмі падабаліся прадметы, звязаныя з праблемамі развіцця эканомікі, — напрыклад, эканамічная геаграфія. Такім чынам, на час заканчэння школы я дакладна ведаў, што буду паступаць на эканамічную спецыяльнасць. І сабе не здрадзіў.

**— Маскоўскі дзяржаўны ўніверсітэт таго часу…**

— Як цяпер любяць гаварыць, у рэйтынгавай іерархіі ён адзін з нешматлікіх у свеце. З пункту гледжання знешняга назіральніка гэта цудоўны будынак на Вераб'ёвых, тады Ленінскіх, Гарах, шыкоўны палац. Прыехаўшы ў яго вучыцца з невялікага шахцёрскага гарадка з насельніцтвам у 320 тысяч чалавек (Уладзімір Мікалаевіч Шымаў да паступлення ў МДУ жыў у горадзе Горлаўка Данецкай вобласці. — С. В.), канечне, захапляешся ім бязмерна. Па-першае, на той час гэты будынак быў яшчэ не стары і вельмі дагледжаны: усё ў мармуры і дубе, упрыгожана цудоўнымі карцінамі. Па-другое, прафесарска-выкладчыцкі састаў у ім такі, што прываблівае не толькі нас, савецкую моладзь, але і моладзь з усяго свету. Цяж-

ка назваць краіну, якая не прадстаўлена ў гэтым універсітэце сваімі студэнтамі. Таму адчуваецца адначасова гонар — за тое, што здолеў паступіць у такое месца, і — асабліва ў першы час — страх: паступіць паступіў, але як цяпер не вылецець? Я заўсёды добра вучыўся, але тут чакала новае, незнаёмае… Было, увогуле, адчуванне, што студэнтам я стаў выпадкова. Хаця конкурс быў неверагодны — дзесяць чалавек на месца, з якіх дзевяць медалістаў; пасля першага экзамена па матэматыцы нас засталося 1,2 чалавека на месца і далей усё пайшло прасцей. Але да пачуцця радасці і шчасця дадалося адчуванне, што мне проста вельмі пашанцавала. Яно знікла толькі тады, калі выкладчыкі пачалі ўводзіць нас у чароўны працэс навучання.

Калі б вы ў мяне спыталі, што я больш за ўсё памятаю з тых гадоў, я пачаў бы адказ з абвяржэння міфа, што студэнцкая пара́ — лёгкая і бесклапотная. Гэта не так. Гэта ўзрост наш даваў нам такія ўражанні. А насамрэч тыя, хто прыйшоў вучыцца па-сапраўднаму, працавалі вельмі многа і вельмі цяжка. На 21-м паверсе ў нас была шыкоўная бібліятэка. Сапраўды шыкоўная. Успаміны пра яе настолькі неўміручыя, што я імкнуўся, як мог, зрабіць таксама прыгожай і настолькі ж утульнай і бібліятэку нашага ўніверсітэта. Хаця, канечне, бібліятэку МДУ паўтарыць немагчыма. Зялёныя лямпы, цудоўныя скураныя крэслы, індывідуальныя сталы, якія адгароджваюць цябе ад суседзяў і, што самае захапляльнае, уся найбагацейшая бібліятэка МДУ у тваім распараджэнні. Я ў тыя гады ўпершыню прачытаў Булгакава. Нідзе яго немагчыма было здабыць, а я замовіў — і прачытаў.

Мой звычайны студэнцкі дзень складаўся з заняткаў, якія пачыналіся ў 8.15 (і якія я часам прапускаў — па тых прадметах, якія не вельмі мяне цікавілі), і працы ў бібліятэцы (а калі прапускаў заняткі, то адразу выпраўляўся туды). І гэта быў, як сённяшняя моладзь сказала б, поўны кайф. Таму што ўсё пад бокам, усё пад рукой, і ты паглыбляешся ў гэтую атмасферу галавой і сэрцам. Для мяне вучоба ў МДУ звязана і з радасцю пазнання, і з каласальнай штодзённай працай. Але былі і іншыя інтарэсы. Масква адкрывала для нас, перыферыйных хлопцаў і дзяўчат, магчымасць карыстацца яе багатымі культурнымі каштоўнасцямі. У той час на піку папулярнасці, у творчым росквіце была Таганка, «Современник», Вахтангаўскі, Тэатр сатыры з выдатнымі акцёрамі, сярод якіх Мішулін, Міронавы, Пельцар, Гафт. Гэта ж таксама трэба было ўбачыць. А грошай пастаянна не хапала, і трэба было ісці на Маскву—Таварную, каб нешта падзарабіць. Бо квіток у тэатр, як ні круці, каштаваў нямала — ад 1 рубля 20 капеек да 3 рублёў. Маё студэнцтва такім чынам — гэта бібліятэка, тэатры і зноў бібліятэка.

**— Што вы можаце сказаць пра выкладчыкаў? Некага, магчыма, варта ўспомніць асобна.**

— Так, бо гэта асаблівая матэрыя. Прафесарска-выкладчыцкі састаў МДУ фарміраваўся паводле пэўных прынцыпаў на працягу цэлых дзесяцігоддзяў. Сапраўды, яго складалі вельмі яркія асобы. Як цяпер памятаю, на адной толькі кафедры, дзе я вучыўся, працавалі дванаццаць дактароў навук. А пры кафедры існавала яшчэ і вялікая лабараторыя — са сваімі супрацоўнікамі. Загадваў кафедрай Юліян Глебавіч Саушкін. Калі не памыляюся, ён з'яўляўся прафесарам МДУ ў чацвёртым пакаленні. І ён меў такую традыцыю: першакурснікаў пасля заканчэння імі першай сесіі запрашаў да сябе дамоў. Жыў ён з жонкай у тым жа будынку, дзе і мы. Існавала так званая зона Б, а побач з ёю размяшчаліся прафесарскія кватэры. Прафесар Саушкін жыў у чатырохпакаёвай. Калі мы зайшлі ў яе, то замерлі ад нечаканасці і захаплення, паколькі гэта была не кватэра, а — зноў жа — бібліятэка. Я не лічыў спецыяльна, і таму мне цяжка цяпер сказаць, на колькіх мовах былі прадстаўлены тут кнігі, але мяркую, што, як мінімум, на васьмі-дзесяці. Гэта кнігі, якія збіраў ён, яго бацька і дзед. Самае цікавае — яны належалі да розных профіляў.

Юліян Глебавіч быў чалавекам энцыклапедычных ведаў, чытаў вельмі многа лекцый за мяжой на англійскай і нямецкай мовах. Іншымі словамі кажучы, ён быў эталонам такога, ведаеце, класічнага рафінаванага прафесара. Чым яшчэ ён нам запомніўся — на яго лекцыі збягаліся студэнты многіх факультэтаў. Проста паслухаць. І не толькі таму, што матэрыял цікавы, а яшчэ і з-за таго, як Юліян Глебавіч гэты матэрыял падносіў, з якой дыкцыяй. Потым, ужо на выпускным, калі

Гэта дарослыя зашораныя канонамі, правіламі, стандартамі. А ў маладога чалавека так: калі душа яго просіць песні, то ён яе абавязкова праспявае. Таму ўсё ў нас было гэтак жа, як і ў сучасных студэнтаў.

мы атрымалі дыпломы, пайшлі ў рэстаран і адчулі сябе яго калегамі, ён расказаў нам, што яго тата сябраваў з акцёрамі Малога тэатра, і калі Юліян Глебавіч, закончыўшы аспірантуру, пачаў працаваць у МДУ, тата сказаў яму: «Юля, аўдыторыяй трэба валодаць, а для гэтага трэба валодаць голасам». Уявіце сабе, голас і рыторыку яму ставілі артысты Малога тэатра. Ён мог панізіць голас да шэпту — і было чуваць, як у аўдыторыі лятае муха, а потым літаральна праз пятнаццаць секунд падняць да самага высокага тону. Гэта ўсё было так дарэчы і так заварожвала…

Лекцыі чыталі толькі прафесары, а дацэнты вялі семінары. Спецкурсы па эканамічнай геаграфіі і эканоміцы энергетыкі выкладаў Уладзімір Мікалаевіч Горлаў, чалавек з фантастычнай памяццю, фанат сваёй справы. Заняткі ў яго праходзілі як адна хвіліна, паколькі гэта было не проста цікава — у гэтым была нейкая магія. На факультэце працавала шмат такіх выдатных людзей, вучоных з імёнамі, вядомымі не толькі ў Савецкім Саюзе, але і ў Еўропе, і ў свеце. Я скончыў геаграфічны факультэт, аддзяленне эканамічнай геаграфіі, дзе вывучалася эканамічная геаграфія СССР, эканамічная геаграфія сацыялістычных краін, эканамічная геаграфія капіталістычных краін — такі блок дысцыплін. А на эканамічным факультэце абараняў сваю доктарскую дысертацыю. Лічу, што ў мяне два родныя факультэты.

**— Слухаючы гэта ўсё, немагчыма нават падумаць, што былі сярод вас студэнты безадказныя, легкадумныя, якімі часта бываюць студэнты, або што самі вы маглі такім быць. Але, напэўна ж, нешта такое павінна за гэтым хавацца. Ці можаце раскрыць гэты аспект?**

— Магу, канечне. Разумееце, у чым справа? Маладосць здольна ў нейкія моманты абстрагавацца ад адказнасці. Гэта дарослыя зашораныя канонамі, правіламі, стандартамі. А ў маладога чалавека так: калі душа яго просіць песні, то ён яе абавязкова праспявае. Таму ўсё ў нас было гэтак жа, як і ў сучасных студэнтаў. Але я магу назваць адно адрозненне, з якім я не магу змірыцца. Мы мелі непамерную павагу да нашых выкладчыкаў. Наш факультэт размяшчаўся на верхніх паверхах, куды ездзілі высотныя ліфты, у якія заходзілі вельмі паважаныя пажылыя прафесары і акадэмікі. Я і цяпер яскрава памятаю: калі акадэмік Маркаў, а ён быў маленькі і вельмі худы, падыходзіў да ліфта, хлопцы локцямі яго абаранялі. Ён заходзіў у ліфт і вакол яго сілай студэнтаў утваралася нешта накшталт вакуума. Барані Божа, каб да яго дакрануліся, каб яму было дыскамфортна! Разумееце? Другі момант. Мы, падышоўшы да дзвярэй кафедры, па дзесяць разоў ператоптваліся і пацелі, перш чым адчыніць іх і зайсці нешта спытаць. Бо саромеліся сваімі дробнымі праблемамі адцягваць увагу вельмі занятых людзей.

Сённяшняе студэнцтва іншае. Яно, як правіла, ідзе ў дзверы ўпэўнена, і калі яму нешта трэба, то нават у прыёмнай рэктара можа паводзіць сябе дастаткова шумна, патрабаваць неадкладнага прыёму. Я гэта трактую такім чынам, што грамадства і мы, педагогі, не здолелі прывіць ім гэта бязмернае пачуццё павагі да сваіх педагогаў. Яно прыйдзе, я ўпэўнены і ўсім ім гэта гавару, але прыйдзе значна пазней, чым з'явілася ў нас. І яны таксама пасля будуць успамінаць з павагай тых, хто так ці іначай паўплываў на іх станаўленне як асоб. Ну, а гэты кантраст паміж намі і імі застанецца як факт. З іншага боку, яны больш энергічныя, і гэта мяне вельмі радуе. Яны больш мэтанакіраваныя. Мы ў свае студэнцкія гады не мелі такіх дакладна акрэсленых мэт. З першых дзён навучання я цікавіўся навукай і ў гэтым накірунку, што называецца, паціху корпаўся. Закончыў навучанне, і адразу мяне рэкамендавалі ў аспірантуру, куды я і пайшоў. А мае сябры ў большасці сваёй не вельмі канкрэтна ўяўлялі сабе, як сказалі б сёння, кар'ерную лесвіцу бліжэйшых гадоў. Сённяшняя моладзь яшчэ на першым курсе плануе сваю будучы-

ню, і гэта вельмі добра. Яны ў нейкай меры больш развітыя, да прыкладу, у тым, што датычыцца камп'ютарнай сферы. Але калі пачынаеш размаўляць з імі пра сусветную культуру, літаратуру, тут яны «прасядаюць». Я ж лічу, што мы рыхтуем не толькі цудоўных спецыялістаў, мы рыхтуем культурных людзей, яшчэ і для гэтага нам, педагогам, трэба шмат працаваць.

Я з'яўляюся актыўным праціўнікам дэгуманізацыі адукацыі і глыбока перакананы ў тым, што гуманітарны складнік адукацыі — гэта важнейшая частка адукацыйнага працэсу. Барані нас Гасподзь зрабіць рэзкі крэн у бок адной толькі тэхнакратыі. Мы, грамадства ў цэлым, вельмі шмат што тады страцім.

**— Пра што ў БДЭУ можна дакладна сказаць, што гэта існуе дзякуючы таму, што вы вучыліся ў МДУ?**

— Не ведаю, з гэтай прычыны ці не, бо мая альма-матэр заўсёды са мною, але сваім студэнтам я гавару так: заканчваючы БДЭУ, вы яшчэ не разумееце, што ён будзе суправаджаць вас усё жыццё. І не толькі ва ўспамінах, але і ў дакументах, паколькі паўсюль, куды б вы ні трапілі на працу, трэба будзе згадваць яго як асобны пункт анкеты. І вы павінны называць свой універсітэт з гонарам. Калі ў вас гэта пачуццё гонару ўзнікла і будзе захоўвацца, значыць, вашы выкладчыкі зрабілі для вас усё магчымае. А вось адказваючы на ваша пытанне наўпрост, я сказаў бы, што для мяне ўніверсітэт — гэта храм. У храме заўсёды павінна быць чыста і прыгожа. Я імкнуся з дапамогай тых рэсурсаў, якімі ўніверсітэт валодае, зрабіць, дзе можна, прыгожа і абавязкова чыста. Першае, з чаго я пачаў, калі прыйшоў працаваць сюды рэктарам, упарадкаваў месцы агульнага карыстання. Я з гонарам сёння магу сказаць, што ўсе яны ў вельмі прыстойным стане. Кажуць жа, што тэатр пачынаецца з вешалкі. Так і ўніверсітэт, напэўна, таксама з вешалкі. Другая заўсёдная наша задача — надаваць як мага больш увагі адбору выкладчыкаў. Нам, канечне, складаней, чым у старыя часы, бо матывацыя да працы ў вышэйшай школе і навуцы была тады значна вышэйшая. Тым не менш я не перастаю памятаць, што прырода — гэта геніяльная рэч, яна фарміруе ў кожнага пакалення разнастайныя профілі патэнцыйнай занятасці. І наша задача — разглядзець на студэнцкай лаве тых маладых людзей, якія прыродай, Богам прызначаны для адукацыйнай і даследчыцкай дзейнасці. Калі такія знаходзяцца і крочаць пасля гэтай сцежкай, мы адчуваем сябе шчаслівымі педагогамі. Я вельмі рады, што мае вучні, якія пад маім кіраўніцтвам абаранілі кандыдацкія і доктарскія дысертацыі, усе навідавоку, большасць іх працуе ў вядучых універсітэтах краіны. Я імкнуся фарміраваць прафесарска-выкладчыцкі састаў, які можа быць узорам для сучаснага студэнцтва, — каб у іх узнікала жаданне ў нечым быць падобнымі да нас.

> Калі б вы ў мяне спыталі, што я больш за ўсё памятаю з тых гадоў, я пачаў бы адказ з абвяржэння міфа, што студэнцкая пара́ — лёгкая і бесклапотная. Гэта не так

**— Вы вельмі цікава адказалі і на тыя пытанні, якія мне не давялося агучыць. Ці ёсць яшчэ нешта, што вы хацелі б дадаць?**

— Паколькі ваш часопіс моладзевы, я хачу сказаць хлопцам і дзяўчатам: у жыцці адзін раз даецца чатырох-пяцігадовы перыяд, калі чалавек сапраўды вольны. Вольны ад нейкіх высокіх адказнасцей. Не пускайце на вецер гэтую свабоду і гэты час. Зразумейце, што вам трэба, — і грызіце гэты граніт. Бо калі раней дастаткова было атрымаць адукацыю і адзін раз за ўсю працоўную дзейнасць трапіць на курсы павышэння кваліфікацыі, то сёння інфармацыя настолькі хутка аднаўляецца, што галоўная задача вышэйшай школы — навучыць вучыцца. Мо гэта банальна гучыць, але гэта факт. Трэба зрабіць пазнанне арганічнай патрэбай на ўсё жыццё, і тады вы будзеце паспяховымі і пабудуеце выдатную кар'еру. Я хачу пажадаць вам глядзець на гады студэнцтва не толькі як на вясёлы час, але і як на час, які назаўсёды прывучыць вас працаваць. У гэты перыяд фарміруецца і так званы сацыяльны капітал — банк сяброўства. Я падтрымліваю кантакты практычна з усімі сваімі аднагрупнікамі, сярод якіх нехта таксама мае навуковую ступень, а нехта яе не мае. Вельмі важна ведаць, што яны ёсць — сябры, якія заўсёды дапамогуць. Поспехаў вам!

# Вадзім Банны: «Вучоба на факультэце журналістыкі дазваляе знаходзіць час на розныя рэчы, пачынаючы з напісання тэкстаў і завяршаючы SMM і PR»



**Вопытны журналіст са Жлобіна, «учарашні» студэнт, якому падчас абароны дыпломнай работы была зроблена (старшынёй ДЭКа) прапанова даць інтэрв'ю «студэнцкаму» нумару «Маладосці», дае яго студэнтцы сённяшняй, практыкантцы часопіса Анастасіі Петрушко.**

**— Пяты год ты жывеш у Мінску. І як табе сталіца?**

— Цікавы горад. Аднак у першы раз, калі я толькі прыехаў са Жлобіна, было крыху жудасна. У Жлобіне, дзе ўсё насельніцтва складае каля 90 000 чалавек, няма ніякіх таўкучак і такога шалёнага рытму. Спачатку ў сталіцы было складана. Па-першае, цябе адрываюць ад сям'і. Па-другое, вакол цябе людзі, якіх ты бачыш упершыню. Але мне вельмі пашанцавала, што я трапіў на самую душэўную спецыяльнасць журфака, дзе ўсе хутка сталі сябрамі. Вялікую ролю ў гэтым адыграла Інга Дзмітрыеўна Воюш — наш куратар. Менавіта яна стала самым блізкім чалавекам на журфаку для пятнаццаці «птушанятак». Калі пасля Дня першакурсніка ўсе разышліся хто куды, ІД, як мы яе называем, недзе каля другой гадзіны ночы прыслала мне паведамленне: «Вадзім, у вас усё добра?» Такія ж паведамленні атрымалі ўсе мае аднагрупнікі. Пасля такога адразу разумееш, што чалавек насамрэч хвалюецца. І нават ёсць упэўненасць, што калі ў цябе нешта сапраўды здарыцца, табе ёсць да каго звярнуцца. Дзякуючы падтрымцы куратара і групы для мяне адаптацыя ў Мінску прайшла лёгка. Цяпер сталіца не здаецца такой вялізнай, як раней. Я ужо пабываў на ўсіх станцыях метро і чакаю, пакуль адкрыюцца новыя, каб нешта абнавіць для сябе *(смяецца)*. Мне даводзіцца ездзіць у розныя раёны горада: Вяснянку, Чыжоўку, Зялёны Луг, Усход, Уручча… Горад вывучыў дасканала, і цяпер ён мне ўжо, як родны.

**— Калі выбіраць паміж Мінскам і Жлобінам, які горад табе бліжэй?**

— Жлобін — мая радзіма. У ім час ідзе павольна і адчуваеш сябе спакайней. Вось нядаўна ездзіў дадому. Зрабіў усе справы, якіх было шмат, а потым гляджу на гадзіннік — паўдня вольныя яшчэ! У Мінску не так. Вельмі шмат часу губляецца на дарогу: жывеш у адной частцы горада, а працуеш у іншай — вось ужо дзве гадзіны ўпустую. Ды і без гэтага час хутка ляціць: прачнуўся, з'ездзіў кудысьці — і вечар. Але з боку перспектыў і працы, канешне, Мінск па-за канкурэнцыяй. Тут больш магчымасцей для развіцця. Нават у галіне журналістыкі: у Жлобіне толькі тры газеты, сталіца прапануе куды больш — газеты і часопісы, інфармацыйныя агенцтвы і інтэрнэт-парталы — абы было жаданне і ўменне працаваць. Адназначна складана вызначыць, што лепей, аднак сёння мне бліжэй Мінск. Хоць, магчыма, гадоў праз 20-30 я буду лічыць інакш і захачу вярнуцца ў Жлобін, каб правесці далейшае жыццё ў ціхай і спакойнай атмасферы.

**— Ты сказаў, што ў Жлобіне ёсць тры газеты. Ці праходзіў ты там практыку, ці падзарабіў там грошай?**



— Канешне, як любы абітурыент з правінцыі, я пісаў у раёнку перад паступленнем. Мая называецца «Новы дзень». Не скажу, што гэты вопыт атрымаўся добрым. Больш за маленькія нататкі пра які-небудзь конкурс дзіцячых вершаў мне пісаць не дазвалялі. Пішучы пра гэта, звычайна пералічваеш прызёраў і… і ўсё, ніякага журналісцкага імпульсу. Аднойчы, праўда, далі магчымасць падрыхтаваць публікацыю да Дня смеху. Я сустрэўся са жлобінскай камандай КВЗ, знайшоў шмат цікавых фактаў пра гэта свята. Абяцалі, што тэкст пойдзе ў друк, але так ён і не пайшоў. Гэта стала апошняй кропляй, і я вырашыў паспрабаваць напісаць у другую раёнку — «Нюанс». Тут пачаў весці спартыўную рубрыку: пісаў пра хакейны клуб «Металург» і футбольны клуб «Жлобін». Тут я і зразумеў, чаму мае матэрыялы у «Новым дні» не ішлі і якім чынам рэдагаваліся. Менавіта ў «Нюансе» я зрабіў ільвіную долю сваіх публікацый перад паступленнем і атрымаў неабходную базу.

**— На якія тэмы ты б ніколі не напісаў?**

— Ніколі нельга заракацца, што не будзеш пісаць на пэўныя тэмы. Ты можаш сёння сказаць: «Фу, культура», а ўжо заўтра пачнеш захапляцца тэатрам. Калі я працаваў у спартыўнай журналістыцы, то нават і не думаў, што буду пісаць пра сельскую гаспадарку. Аднак сёння працую ў «Сельскай газеце». Не трэба цурацца ніякіх тэм, калі яны не выходзяць за межы этычных норм. Журналіст — гэта той самы рамеснік, які стварае масавы прадукт для людзей. Калі іх цікавяць бонсцікі, то і СМІ пішуць пра бонсцікаў. Калі масавага чытача зацікавіць «тэорыя струн», то пачнуць пісаць і пра яе. Журналіст у сучасных умовах павінен быць шматгранным.

**— Як і калі ты вырашыў стаць журналістам?**

— Перад паступленнем. У адзінаццатым класе ўжо трэба было ведаць, куды паступаць. Варыянтаў было шмат. Спачатку разглядаў юрыдычны і гістарычны факультэты. Яшчэ ў медыкі пайсці думаў, але з хіміяй было кепска, вучыцца складана, ды і выгляду крыві крыху баюся. Спыніўся на факультэце журналістыкі — тут трэба было здаваць маю любімую гісторыю Беларусі і не было тэхнічных прадметаў. Плюс магчымасць пісаць пра спорт. Я тады яшчэ марыў стаць спартыўным каментатарам, але ўсё ж пасля вырашыў быць пішучым журналістам.

**— Што са студэнцкага жыцця засталося ў памяці?**

— Больш за ўсё адклаліся ў памяці журфакаўскія мерапрыемствы: Дзень першакурсніка, Міс і Містэр журфак, журфакаўскі футбол. Асабліва адзначу апошняе, бо для журфака гэта іншая галактыка. Узроўнем сваім журфакаўскі футбол не дацягвае нават да аматарскага, але быў час, калі гульні збіралі больш заўзятараў, чым некаторыя каманды Вышэйшай лігі Беларусі. Людзей заваблівають не толькі гарбатай і печывам, а яшчэ і атмасферай. Сам пачаў гуляць толькі ў канцы другога курса, але мае буцы «дэбютавалі» раней *(усміхаецца).* На першым курсе падчас гульні супраць другога курса ў майго аднакурсніка Ігара Каралёва парваліся красоўкі. Я, доўга не думаючы, аддаў яму свой абутак. Так мае буцы забілі першы гол. Калі кранацца вучэбнага працэсу, то факультэт журналістыкі — гэта найперш людзі. Сярод студэнтаў я знайшоў нямала сяброў і людзей, да якіх заўсёды можна звярнуцца па дапамогу. Выкладчыкі ўвогуле змянілі маё жыццё. Фёдар Валянцінавіч Драбеня, напрыклад, прывіў любоў да кніг і літаратуры. З ім вучышся не чытаць, а аналізаваць… Журфак — гэта адна вялікая сям'я. Тут калі ты нешта хочаш, ты гэта атрымаеш.



**— Ці памятаеш ты сваю першую практыку?**

— Канешне. Прайшла яна ў «Спортивной панораме». З ёй, дарэчы, звязана цікавая гісторыя. Пісаў туды яшчэ абітурыентам, а калі паступіў на журфак, мне прапанавалі месца ў штаце. Для гэтага патрэбна было прынесці расклад заняткаў з універсітэта, але з-за цяганіны з паперамі нічога не выйшла. Аднак летам я трапіў туды на практыку, дзе атрымаў першы натуральны журналісцкі вопыт. Кожны дзень прыязджаеш у рэдакцыю, ходзіш на планёркі, выязджаеш на заданні — усё, як у дарослых *(смяецца)*. Памятую паездку на трэніроўку жаночай зборнай Беларусі па баскетболе. Пра гэты від спорта ведаў зусім няшмат, а пра жаночы — тым больш. А мне трэба было ўзяць каментарый у каго-небудзь з гульцоў. Гляджу, усе дзеўкі высачэнныя такія. Тут бачу адну недзе ростам з мяне. Думаю, ну ўсё, буду з ёй размаўляць. Толькі пасля даведаўся, што гэта самая камунікабельная баскетбалістка зборнай — Наталля Ануфрыенка. Першая практыка, напэўна, адбілася б у памяці лепш, калі б не працаваў на працягу першага курса. Але ўсё роўна было вельмі цікава і карысна.

**— Які жанр журналістыкі табе бліжэй?**

— Складана сказаць. Цяпер паняцце «жанр» вельмі размыта, і заявіць «я люблю рэпартаж» будзе не зусім правільным. Напрыклад, той самы рэпартаж сёння змешваецца і з артыкулам, і з каментарыем, і з карэспандэнцыяй. Я люблю жывыя матэрыялы, якія дыхаюць стылем пэўнага аўтара. Сам таксама імкнуся нечым прывабіць чытача да свайго тэксту. Падчас напісання матэрыялу заўсёды шукаю цікавы спосаб падачы інфармацыі. Людзям ўсё роўна, які жанр выкарыстоўвае журналіст, для іх галоўнае — знайсці нешта новае і цікавае для сябе. А будзе гэта артыкул ці замалёўка — няма ніякай розніцы.

**— Хто твой кумір у журналістыцы?**

— Спадзяюся, што калі-небудзь сам для сябе стану кумірам *(усміхаецца)*. А калі сур'ёзна, то гэта мой першы настаўнік — Віталь Бабін. Менавіта гэты чалавек стаў маім Вяргіліем у царстве журналістыкі: першыя крокі я рабіў пад яго кіраўніцтвам. Асаблівае месца ў маім станаўленні як журналіста займае Вадзім Кнырко, які вывеў маю стылістыку на новы ўзровень. І, канешне, Таццяна Ускова. Яе ў рэдакцыі «Сельскай газеты» называюць маёй «мамай», бо яна нянькчылася са мной падчас першай практыкі.

**— Чые тэксты цябе захапляюць?**

— Тут шмат аўтараў. Напрыклад, раней я кайфаваў ад інтэрв'ю Мікіты Мелказёрава. Калі Мікіта яшчэ працаваў на сайце Tribuna.com, раз у тыдзень выходзіла як мінімум адно крутое інтэрв'ю за яго аўтарствам. Дарэчы, на Onliner.by Мелказёраў працягвае трымаць высокую планку. Таксама падабаецца стыль яшчэ аднаго аўтара Tribuna.com — Алега Гаруновіча. У яго нейкі талент рабіць матэрыялы на складаныя тэмы вельмі простымі для ўспрымання. Раней любіў чытаць тэксты Васіля Мацвеева, які цяпер з'яўляецца галоўным рэдактарам газеты «Рэспубліка». Калі стаў працаваць у «Сельскай газеце», адкрыў для сябе Уладзіміра Субата з яго «вандроўкамі».

**— Цяпер ты працуеш у «Сельской газете». А як туды трапіў?**

— Неяк выпадкова. У нас былі заняткі па гісторыі беларускай журналістыкі, што вяла магістрантка Вікторыя Бабовіч. Мне якраз трэба было расказаць гісторыю «Сельской

Вадзім Банны

газеты», у якой тады працавала Віка. Супадзенне? Не думаю *(смяецца)*. Ёй спадабаўся мой адказ — і пасля заняткаў я атрымаў прапанову паспрабаваць свае сілы ў «Сельской газете». Падумаў, чаму не? Выданне рэспубліканскае, у кожнага на слыху. Пайшоў туды на практыку. Першы час не адрываў тэлефон ад вуха. У дзень прыходзілася пісаць па некалькі расшыраных нататак і яшчэ працаваць з вялікім па аб'ёме матэрыялам. Такім чынам я і адкрыў для сябе жанр маніторынгу. Адразу было складана, але разумеў, што каб расці і рухацца далей, трэба выходзіць з «зоны камфорту». Менавіта з-за гэтага я з задавальненнем перайшоў са спартыўнай журналістыкі ў тэматыку, з якой раней не меў ніякіх прафесійных спраў.

**— Якія планы ў цябе на будучыню?**

— Я прытрымліваюся японскай філасофіі, у якой гаворыцца: месца працы трэба мяняць кожныя два гады. Гэта патрэбна для ўнутранага развіцця. Кар'ерны рост, безумоўна, добрая рэч, але мяне больш цікавіць рост асабісты, таму што ёсць жаданне прагрэсіраваць і атрымліваць новы вопыт. На адным месцы гэта зрабіць цяжка. Пакуль што ў «Сельской газете» мне ўсё падабаецца, асабліва калектыў, які заўсёды дапаможа і накіруе ў правільны бок. Але я не лічу «СГ» вяршыняй сваіх магчымасцей. Заўсёды, дзе б ні знаходзіўся, ёсць куды рухацца і развівацца.

**— Як ты ацэньваеш сябе як журналіста?**

— Лічу сябе «зялёным»: мне яшчэ многаму трэба навучыцца. Нягледзячы на пэўны вопыт, я разглядаю яго як адну сотую частку таго, што яшчэ належыць пазнаць. Але ў вачах маіх гарыць жаданне вучыцца і пазнаваць нешта новае кожны дзень.

**— На тваю думку, якімі якасцямі павінен валодаць кожны журналіст?**

— Цярпеннем. Табе не раз будуць даваць выспятка, прабіраць без усялякай цэнзуры, і калі ў цябе хопіць цярплівасці выслухаць усё і прыняць, гэта пойдзе табе на карысць. Другая якасць — уседлівасць. Журналістыка — пастаянная манатонная праца, разнастайная, але манатонная. З года ў год гэта будзе ўсё больш нагадваць руціну… Таму час ад часу трэба мяняць месца працы, быццам пачынаць спачатку: новыя стылі, новыя людзі, новыя патрабаванні. І, канешне, эрудыцыя. Трэба валодаць нейкім базісам ведаў, каб была магчымасць аналізаваць. Журналіст, які піша пра тое, у чым не разбіраецца, — гэта павярхоўны журналіст.

**— Калі б ты вырашыў стварыць сваё СМІ, то што б гэта было?**

— Я жадаў бы стварыць медыцынскае выданне, зразумелае шырокаму колу людзей. У нас ёсць «Медицинский вестник», але ён больш накіраваны да медработнікаў. Мой СМІ імкнуўся б складаныя медыцынскія «рэчы» зрабіць даступнымі для разумення простаму чалавеку.

**— Якія СМІ ты чытаеш?**

— Як чалавек, які любіць спорт усім сэрцам, чытаю спартыўныя СМІ. Калі казаць пра беларускія, то па-за канкурэнцыяй — Tribuna.com. У кагосьці звычай піць каву раніцай, а ў мяне — чытаць Tribuna.com. Канешне, родную «Сельскую газету» таксама не абыходжу. Яшчэ магу адзначыць Onliner.by і TUT.by. Сваімі класнымі загалоўкамі і аўтарамі вабіць «БелГазета». З расійскіх сайтаў чытаю Sports.ru. Як прадстаўнік друкаваных СМІ я за газеты і час ад часу іх набываю. Я лічу, што газеты, як і папяровыя кнігі, ніколі не знікнуць.

**— Журналістыку лічаць чацвёртай уладай. Ці згодны ты з гэтым?**

— Не. Журналістыка можа толькі ўзняць праблему, адкрыць яе, а судовая, заканадаўчая і выканаўчая ўлады яе вырашаюць.

**— Якія парады ты даў бы юным журналістам?**

— Я і сам малады журналіст. Звяртаючыся да першакурснікаў, скажу: не трэба закідваць пісанне. Вучоба на факультэце журналістыкі дазваляе знаходзіць час на розныя рэчы, пачынаючы з напісання тэкстаў і завяршаючы SMM і PR. Рэкамендую не баяцца памылак. Правал — гэта штуршок, каб рухацца далей, паляпшаць сябе і сваё майстэрства. Не варта таксама адразу брацца за складаныя тэмы — такія, як палітыка і эканоміка. Неабходна рухацца ад простага да складанага.

# Святлана Курганава

# Брама будучыні (і мар)

Слоган літаратурнага конкурсу «БрамаМар» — «Дакраніся да сваёй мары». Гэта заклік да кожнага, хто жадае пісаць. «БрамаМар» збірае таленавітую моладзь, каб дапамагчы, накіраваць, падбадзёрыць, прымусіць глядзець на сваю творчасць па-іншаму — каб з'явілася самакрытыка, зніклі комплексы ці змянілася самаўспрыманне.

Ключавое тут — першы раз. «БрамаМар» — гэта той першы крок, які запамінаецца на ўсё жыццё.

Унікальная адметнасць «БрамаМара» — існаванне ў фармаце студэнцкага праекта: студэнты і арганізуюць гэты конкурс, і прымаюць у ім удзел. Прычым удзельнікі папросту могуць увайсці ў склад каманды арганізатараў. Калі паспееў пабыць і ў ролі канкурсанта, і ў ролі арганізатара, то ведаеш слабыя месцы. Шчыра скажу, што свой першы «БрамаМар» — у якасці толькі ўдзельніка — памятаю не вельмі. Другі — як вам сказаць... Усё ў адной установе адукацыі — і залікі, і «БрамаМар»... Так усё пераплялося, што цяпер здаецца: у мяне прымала залік спадарыня Людміла Рублеўская. А вось трэці раз, калі сама паўдзельнічала ў падрыхтоўцы, кожнай сваёй дэталлю адбіўся ў памяці — на жаль ці на шчасце.

На нейкія дробязі можна было не звяртаць увагі, калі б да гэтага сама не думала: «Ай-яй-яй, вось тут яны закасячылі добра».

## Навошта гэта ўсё?

— *Проста мы ў 2010 годзе вырашылі арганізаваць незалежны літаратурны конкурс*, — каменціруе куратар конкурсу Уладзімір Капцаў. — *Тады я, Маргарыта Аляшкевіч, якая толькі скончыла магістратуру і ўжо выкладала, і Аксана Чарнякевіч (Бязлепкіна) пачалі праводзіць гэты конкурс са сваімі студэнтамі, але для студэнтаў усіх навучальных устаноў Беларусі.*

«БрамаМар» праходзіць у два туры. Журы з работ канкурсантаў стварае шорт-ліст. Аўтары, якія ў яго трапляюць, прыязджаюць у Інстытут журналістыкі на кафедру літаратурна-мастацкай крытыкі і ўдзельнічаюць у другім туры, сустракаючыся з журы твар у твар.

Навошта патрэбны гэты другі тур? Такая сістэма, па-першае, дазваляе паставіць усіх ў аднолькавыя (прыемныя і адначасова складаныя) умовы, а па-другое, прымушае хутка думаць, выдаваць экспромт.

«БрамаМар» — гэта свайго роду медыятар паміж сталым і маладым пакаленнямі. Канкурсантам цікава паглядзець на членаў журы, з якімі яны, хутчэй за ўсё, знаёмыя завочна. А членам журы цікава паглядзець на тых, з кім яны, таксама завочна, знаёмыя — па іх тэкстах.

Цікава і тое, якія асобы чытаюць працы канкурсантаў і выстаўляюць адзнакі. Гэтыя імёны ў вас на слыху, калі вы цікавіцеся сучаснай беларускай літаратурай.

— *Мы стараемся падбіраць досыць розных асоб у кожную намінацыю ў якасці членаў журы*, — гаворыць спадар Капцаў. — *І збіраем разам тых, каго звычайна побач не ўбачыш. Калі зусім розныя людзі выбіраюць адных і тых жа фіналістаў, то, напэўна, у гэтым ёсць свая суб'ектыўная аб'ектыўнасць.*

Дзень другога тура — гэта не толькі заданні і іх выкананне, але і майстар-класы (МК), і сустрэчы з пісьменнікамі. МК праводзяцца ў кожнай намінацыі з яе ўдзельнікамі і членамі журы. Тут разбіраюцца творы, якія прайшлі ў фінал, мэтры адказваюць на пытанні пісьменнікаў-пачаткоўцаў, размаўляюць пра прыроду творчасці і пісьменніцтва і проста пра жыццё.

## «БрамаМар» — гэта шанец

Мы пагаварылі са студэнткай, якая сёлета была каардынатарам каманды арганізатараў конкурсу, — Настассяй Капцавай.

— Спачатку распавядзі, што ў гэтым годзе «БрамаМар» даў асабіста табе?

— *Перш за ўсё даў вопыт, як працаваць у камандзе, і асабісты выклік самой сябе: ці здольна я быць кіраўніком? Я не магу сказаць, што ўсё атрымалася ідэальна. Заўсёды бываюць хібы. Але адчуваю, што стала мацнейшай. Мне падаецца, што «БрамаМар» — гэта шанец не толькі для ўдзельнікаў, але і для арганізатараў раскрыць сябе. Каманда, з якой я працавала сёлета, — навічкі. Былыя арганізатары выпусціліся, і на іх месца прыйшлі тыя, хто раней удзельнічаў у конкурсе толькі як творца. То бок, у гэтым годзе*

*над арганізацыяй «БрамаМара» працавалі тыя, хто ведае, якія хібы здараліся ў мінулыя гады. Усе не выправілі, нарабілі крыху сваіх, але ж гэта першы раз. Не толькі я, але і кожны з нас раскрыўся з розных бакоў. Цяпер ты ведаеш, які ты чалавек і на якую працу здольны, што можаш рабіць тое, пра што ніколі не думаў, што здужыш. Для мяне гэта проста адкрыццё сябе.*

— Чаму ўвогуле ты вырашыла займацца конкурсам?

*— Я шмат чула пра конкурс з дзяцінства, таму што мой тата — яго куратар. Паводле яго слоў, гэта цікава і весела. Цяпер вось праверыла: сапраўды так. Летась я была тут простым валанцёрам. Тата сказаў: «У нас фінал конкурсу — ідзі і дапамагай». І калі з'явілася магчымасць стаць непасрэдным арганізатарам, сабраць сваю каманду і зладзіць свой «БрамаМар», я не адмовілася.*

— Сямейныя адносіны перашкаджалі ці дапамагалі?

*— Тата, выкладчык Інстытута журналістыкі БДУ і куратар праекта «БрамаМар», — гэта ўсё розныя людзі, таму і розныя адносіны. І цяжка ўвесь час памятаць: гэта не тата, а куратар. Калі мы не маглі дамовіцца, то я злавалася не на куратара, а на бацьку.*

— Вось вы арганізавалі конкурс. Як гэта — арганізоўваць конкурс?

*— Для арганізатараў усё пачалося ў кастрычніку. Спачатку мы павінны былі распрацаваць афішы, распаўсюдзіць інфармацыю, дзе толькі магчыма, каб болей студэнтаў маглі ўзяць удзел. Гучыць проста, але гэта займае шмат часу. Потым дамаўляліся з журы — хто пагодзіцца судзіць у гэты раз. Працы пачалі прымаць 15 снежня. Гэта быў толькі пачатак, і здавалася, што мала трэба зрабіць, але гэта была вельмі паспешная думка. Скончаны прыём прац быў 1 лютага. Самае цяжкае пачалося бліжэй да фіналу. Трэба было зноў дамаўляцца з журы — каб правесці майстар-класы, з музыкамі — каб аздобіць мерапрыемства, з вядучымі — каб прыгожа яго прадставіць, і напісаць сцэнарый фінальнай вечарыны. І ежу трэба было закупіць, і шмат што раздрукаваць...*

*Некаторыя проста адмаўляюць табе — кажуць: я не магу, я не хачу. І ты павінен штосьці з гэтым рабіць. Чалавечы фактар — страшэнная штука.*

## Калі гаварыць пра спакойнае жыццё, то яго няма пасля «БрамаМара» яшчэ доўгі час

*А сам фінал… Я паглядзела на сваю каманду арганізатараў і зразумела: кожны, дзе б ён ні знаходзіўся, зробіць працу на сваім полі. І можаш не хвалявацца, а спакойна разбірацца са сваім кавалкам працы.*

— Як ты лічыш, навошта праводзіць «БрамаМар»?

*— На маю думку, гэта не проста сустрэча пакаленняў. «БрамаМар» — гэта тое, што дапаможа паспрабаваць сябе, можа даць прыемныя знаёмствы і добрыя веды. Нам дасылаюць працы не толькі школьнікі і студэнты, але і магістранты, і аспіранты. З самых розных гарадоў і навучальных устаноў.*

*А фінальная вечарына — гэта дзень добрых пачуццяў. З тымі, хто прыехаў, правядуць майстар-класы, або яны проста адпачнуць, паслухаюць крытыкаў і пісьменнікаў, якія распавядуць нешта цікавае і вясёлае, навучаць нечаму новаму.*

— Што больш за ўсё ўзрушыла падчас падрыхтоўкі і правядзення конкурсу?

*— Другі тур і фінальная вечарына, калі мы як арганізатары забіраем вынікі ў журы і абвяшчаем пераможцаў. Для ўсіх гэта вельмі хвалюючы эпізод — і для нас, і для ўдзельнікаў. І вось я думаю: для кожнага пераможцы важна пачуць сваё імя і прозвішча на цырымоніі ўзнагароджання, таму для кожнага пераможцы ў нас ёсць дыплом. І можа праз колькі гадоў мы будзем чытаць зборнік з яго творамі і казаць: «Ён жа некалі прыязджаў да нас, ды, мабыць, з нас ўсё і пачалося».*

— А ці ёсць жыццё пасля «БрамаМара»?

*— Калі гаварыць пра спакойнае жыццё, то яго няма пасля «БрамаМара» яшчэ доўгі час: заўсёды ёсць што дарабіць. У мяне, напрыклад, пасля правядзення фіналу першы тыдзень разрываўся тэлефон і паштовая скрыня. Спачатку я была гатова плакаць: «Не, больш ніколі», але ўжо праз месяц прыдумляла, як што лепш зрабіць на наступны год. «БрамаМар» — гэта ўжо дыягназ. І лячыцца я не хачу.*

Вось такі ён, «БрамаМар», — адзін раз і на ўсё жыццё.

Бо лекаў ад мар яшчэ, дзякаваць Богу, ніхто не прыдумаў.

# Уражанні

## Ад членаў журы

**Зміцер Вішнеў,**
**член журы ў намінацыі «Паэзія»:**

— У мяне неадназначнае ўражанне ад прачытання твораў удзельнікаў «БрамаМара». З аднаго боку, бачна, што ёсць вельмі таленавітыя аўтары, але без школы, без рэдактара. Напэўна, абмяжоўваюцца размяшчэннем вершаў у інтэрнэце і абыходзяць бокам прафесійныя літаратурныя выданні. І былі бачныя тыя, хто пісаў, нібыта выконваў школьнае заданне: выкладчык сказаў, што трэба напісаць верш, — будзе вам верш! І вось такія «вершы» ўжо трапілі на конкурс. Такім «паэтам» увогуле «супрацьпаказана» вершаскладанне. Хіба для ўласнага спажывання. І тое не ўпэўнены. Скажу шчыра: трошкі расчараваны. Штогод бярэш удзел ў чытаннях маладых, чакаеш — ну, вось зараз! І... пшык!

**Алесь Емяльянаў-Шыловіч,**
**член журы ў намінацыях «Проза» (I этап) і «Пераклад» (II этап):**

— Удзельнікі сёлетняга конкурсу «БрамаМар» уразілі моцнымі і цікавымі тэкстамі. Шчыра скажу, што выбіраць лепшых было нялёгкай справай. Некаторыя работы хацелася б бачыць і чытаць у зборніках, якія, спадзяюся, будуць. Вельмі спадабалася, што цяперашняя генерацыя аўтараў піша арыгінальна, разнастайна і ў розных жанрах. Тут вам і магічны рэалізм, і фэнтэзі, і гатычны, і авантурна-прыгодніцкі, і дэтэктыўны раман. Лічу, што гэта вельмі добра. Што датычыцца заўваг — іх няшмат. Узровень валодання абедзвюма мовамі недасканалы — ёсць куды расці. Але калі параўноўваць з мінулым годам, сітуацыя палепшылася. Зычу ўсім удзельнікам, фіналістам і пераможцам сёлетняга конкурсу поспехаў, гармоніі, пазітыву і натхнення! Светлай дарогі ў літаратуру!

**Маргарыта Аляшкевіч,**
**член журы ў намінацыі «Паэзія»:**

— Гэта Максім Горкі казаў, што пісьменнікаў біць трэба? Калі біты працягвае пісаць, значыць, сапраўды пісьменнік. Можаш не пісаць — не пішы. Не засмечвай літаратурны свет: шлаку хапае. Сярод «брамамарцаў» гэтага года ў лідарах — тэма кахання. Вядома, узрост абавязвае. Але гэта яшчэ не тая Любоў, да якой дарастаць гадамі, а так сабе, любоў-маркоў, хуткаспелка, якую, бадай, павышаная заклапочанасць уласнай асобай прымушае бачыць у дантава-шэкспіраўскіх каларытах, з крывёй, соплямі і надрывам. Мае месца і «какетлівы дзявочы суіцыд» ((с) Хадановіч), за што хочацца крыху ўпікнуць маладзёнаў-паэтаў: вось вы самі скардзіцеся праз радок на штучнасць і сурагатнасць нашай эпохі, усюдыісны фальш (згодна-згодна) — і тут жа самі хлусіце, пішучы пра тое, чаго не ведаеце. Наталля Кучмель некалі раіла маладым: паміж прыгожым слоўкам і сапраўдным выбірайце сапраўднае. Ат, каб мы слухаліся! Вось жа, мушу нагадаць (найперш, пэўна, сабе), што ўменне пісаць у рыфму рытмічна і нават па-беларуску яшчэ нікога не зрабіла паэтам. Адна з цікавых тэндэнцый — «хрысціянская» паэзія, пад чым маю на ўвазе вершы, у якіх наўпрост пра Бога і/ці з адпаведнымі алюзіямі. Пляскаю ў ладкі, крычу «Віват!», але асцярожненька так шапчу на вушка: прынамсі, пра Бога занудна не пішыце, добра? І, беручы прарока Ісаю ў суаўтары (нават і праз эпіграф), задумайцеся пра кангеніяльнасць, лады? Сярод сёлетніх «брамамарцаў» ёсць некалькі класных аўтараў, за якімі — спадзяюся — буду далей сачыць па перыёдыцы. Некаторыя з іх, як прынята, трохі хуліганістыя, не ва ўсіх яшчэ сышлі прышчыкі росту, не ўсе знайшлі і прыручылі свой голас і часам даюць усялякіх «пеўняў», але працэс гэты вельмі цікавы і натхняльны.

**Святлана Воцінава,**
**член журы ў намінацыі «Крытыка»:**

— Пасля прачытання ўсіх работ у мяне ўтварыліся два стосы. Дакладней, стосік і стос. Стосік з двух аркушаў, на якіх значыўся нумар 15. Першае месца, такім чынам, было вылучана адразу. Стос жа складалі астатнія работы, з іх вылучыць нешта лепшае — каб цягнула на другое і трэцяе месцы — здавалася немагчымым (толькі трэцяе перачытванне гэта дазволіла, і тое таму, што ўдзельнікі, схаваныя пад нумарамі 18 і 21, прадаставілі не адну, а некалькі работ).

Маё ўражанне: у бліжэйшы час такой даўно жаданай магутнасці блока «Крытыка» у «Маладосці» не чакаецца. Мае «прыдзіркі»: выкарыстанне небеларускіх аб'ектаў крытыкі (хто ж пра наша пісаць будзе?!) і жудасная (менавіта такая, інакш не скажаш) заштампаванасць. Апошняе канстатую

як распаўсюджаную хваробу, якую можна, канечне, лячыць (як хранічную) у рэдакцыях, але было б лепш (не чакаючы «перытаніту») рабіць на журфаках прывіўкі.

Ну, а работа пад нумарам 15 друкуецца ў гэтым нумары ў рубрыцы «Тэатральнае». На яе палях я рабіла пазнакі: «на беларускім матэрыяле», «гармонія слоў», «вельмі інтэлектуальны тэкст», «не выпраўляць», «відаць, што артыкул пісаўся і перачытваўся, што аўтар уносіў праўкі, дапаўненні, даводзіў да дасканаласці».

## Ад удзельнікаў

**Аліса Скамароўская:**

— Я не ставіла на перамогу, а, па-першае, хацела завяршыць гештальт. Колькі вучылася, столькі планавала даслаць сваю кароткую прозу. Калі тэкстаў-думак ужо зашмат, ёсць неабходнасць іх занатаваць. А з цягам часу, калі і напісана нямала, хочацца, каб ішло далей. Я лічу, што маладым аўтарам трэба ўдзельнічаць у літаратурных конкурсах, каб расці. Гэта натхняе.

**Ксенія Крывецкая:**

— Для мяне найвялікшай каштоўнасцю з'яўляецца тое, што маю работу прачыталі і ацанілі знакамітыя пісьменнікі і дзеячы літаратуры. Алесь Бадак, Людміла Рублеўская, Алесь Емяльянаў-Шыловіч палічылі мой конкурсны твор вартым таго, каб пазмагацца за галоўны прыз. Гэты факт надае ўпэўненасці ў сваіх здольнасцях. Вялікая ўдзячнасць — Маргарыце Латышкевіч. Яна пабудавала майстар-клас такім чынам, каб пагаварыць пра твор кожнага з нас, прыязна і трапна акрэсліць станоўчыя бакі і накірунак, у якім пажадана рухацца далей. Майстар-класы Дзмітрыя Шулюка, Андрэя Жвалеўскага і Яўгеніі Пастарнак запомніліся прастатой і цёплай атмасферай. Шчырасць, з якой яны расказвалі пра сябе і адказвалі на пытанні, натхняюць на далейшую працу ў літаратуры. А сярод фіналістаў я знайшла сябра. Гэта Дар'я Значонак. Мы сутыкаліся з творчасцю адна адной на прасторах інтэрнэту, але асабіста пазнаёміліся толькі на конкурсе. «БрамаМар» падарыў магчымасць апынуцца у добрай кампаніі. Дзякую.

**Дар'я Значонак:**

— Пэўна, самае каштоўнае ў «БрамаМары» — гэта магчымасць пачуць аб'ектыўную ацэнку свайго твора і атрымаць карысныя парады па яго дапрацоўцы. Далёка не кожны літаратурны конкурс можа прапанаваць удзельнікам аналіз іх работ. Часцей пераможцы атрымліваюць дыплом і нават не здагадваюцца, што над творамі неабходна працаваць яшчэ і працаваць.

**Яўген Чукаў:**

— Удзельнічаю ў конкурсе другі год. Сёлета ўсё было менш напружаным. Але гэта не адмяняе значнасці мерапрыемства — як для мяне, так і для іншых удзельнікаў. «БрамаМар» — гэта малы крок, які так цяжка зрабіць у гэтым месцы у гэты час на шляху да мары. Магчыма, у будучыні пра мяне яшчэ даведаюцца як пра новага перспектыўнага пісьменніка.

**Алена Астаповіч:**

— Да апошняга моманту ніхто не ведаў, што я даслала свой твор на «БрамаМар», таму што я была ўпэўнена, што ў фінал не прайду. І калі дазналася, што мой твор выбралі, то была, здаецца, самай шчаслівай. «БрамаМар» дапамог мне паверыць у тое, што мая мара — стаць пісьменніцай — можа ажыццявіцца. Гэты конкурс пазнаёміў мяне з таленавітымі людзьмі, якія далі неабходныя парады. Было цікава, ярка і атмасферна.

**Яўген Чарнышоў:**

— Было нечаканасцю трапіць на сцэну «БрамаМара», у шэраг намінантаў-празаікаў, бо я «падаваўся» і на паэзію, і паэтычных радкоў скрэсліў больш. Конкурс парадаваў важкімі словамі тых, хто даўно ўжо віруе ў літсферах. Гэта былі або творцы, або творцы-рэдактары. Запомнілася ўсё і ад усіх: і добрыя парады Маргарыты Латышкевіч, і гарэзлівы выступ Дзмітрыя Шулюка, і вопытны пісьменніцкі дуэт Андрэя Жвалеўскага і Яўгеніі Пастарнак. Радасці дадаў ўручаны мне (як і астатнім канкурсантам) красавіцкі нумар «Маладосці» і выступ гурта Under the Roof падчас уручэння дыпломаў. Нягледзячы на ўсе плюсы, фінальнаму вечару не хапіла арганізацыйнай зладжанасці. Некаторыя моманты нагадвалі самадзейнасць. Але тут віна і адказнасць ляжыць не толькі на арганізатарах, але і на канкурсантах, збольшага пасіўных, як і належыць нашай беларускай традыцыі.




Ксенія Крывецкая

**нарадзілася 6 кастрычніка 1986 года ў Пінску. Яе жыццёвыя арыенціры: самаразвіццё, імкненне вызначыць сваё месца ў жыцці, паўнавартасна раскрыць свае здольнасці. Яе натхненне і захапленне — літаратура: чытаць і ствараць. Больш за ўсё любіць праводзіць час са сваёй сям'ёй — наведваць цікавыя мерапрыемствы, падарожнічаць па Беларусі, адкрываць невядомыя куткі і архітэктурныя каштоўнасці, папаўняць веды пра гісторыю нашага народа.**

## Падполле

— Ты яшчэ замалы, Паўлік, каб гэта разумець...

Так сказала мама. Яна шмат пажыла і выгадавала маіх братоў ды сясцёр, якія даўно разбегліся хто куды. Мы засталіся ўтрох: я, мама і дзядзька Мікалай — у нашым старым доме, дакладней, у падполлі. Мы хаваемся. Заўсёды хаваліся. Пуста: і наўкол, і ў жываце. Я прызвычаіўся да бесперапыннай валтузні і штурхатні, і цяпер цішыня здаецца загучнай. Ну, часцяком гэтую цішыню парушае наш дзядзька Мікалай, якога мы клічам проста Мікалаша. У яго нешта з галавой. Ці то з голаду, ці то яшчэ з чаго, але ён увесь час нешта грызе: алоўкі, галінкі, кардонкі. І погляд у яго пры гэтым такі... Карацей кажучы, ён забываецца. Страшна прызнацца, але я яго разумею. Бывае, самому так хочацца ўсадзіць зубы ў гэты аловак і жаваць яго, жаваць, пакуль ад яго нічога не застанецца. Мама кажа, што гэта «ад безвыходнасці». Я зноў нічога не разумею. Але ведаю, што Мікалаша нас загубіць сваім шоргатам. Гэта нам яшчэ шанцуе, што той Таўстун зверху нас не застукаў тут. Можа, ён састарэў, аглух. Можа, яму проста не хочацца спускацца. Але да гэтага часу ён сюды не заяўляўся. Калі ён сюды завітае — нам канец.

Праўда, не сказаць, што ў нас зусім ужо ніхто не бывае. Увесь час сноўдаюць гэтыя імігранты, лупатыя, крываногія. Брр. Яны шмыгаюць, як цені, і знікаюць, не кажучы ні слова. Але адзін застаўся. Жыве там, у куце, вытарэшчваецца на нас. Маўчыць, то корпаецца ў сваіх нешматлікіх манатках, то хаваецца — не відаць яго. Тоіцца. Я празваў яго Жорыкам, каб хоць неяк скінуць з яго таямнічасць і менш яго баяцца. Хоць мама на яго зусім увагі не звяртае. Кажа, нам яго няма чаго баяцца. Часам да яго запырхваюць розныя красуні (хоць бываюць і не надта). Але я ні разу не бачыў, каб яны выляталі назад. І ад гэтага крыху жудасна. Таму я вельмі баюся за Ларыску.

Ларыска ... Яркая прыгажуня! Яна заўсёды апранута ва ўсё блакітнае і радаснае. Калі яна залятае да нас, здаецца, што кавалачак летняга неба уварваўся ў падполле і раскідаў цемру па кутах. Ларыска любіць сонца, кветкі. Яна сама, як кветка. Яна звыклая да паветра і абшару. Падполле — не месца для такіх, як яна. У падполле яна зазірае толькі дзеля мяне. Сам жа я рэдка днём з'яўляюся на вуліцы. У асноўным уначы. У нас шмат ворагаў. Мама не ўхваляе наша сяброўства. Мама кажа, што гэта «ненатуральна» (яшчэ адно слова, якое я не магу зразумець і ўжыць у адносінах да нас з Ларыскай). І што Ларыска рана ці позна патрапіць да Жорыка. Трэба Ларысцы сказаць пра яго, але тады яна зусім перастане бываць у нас.

— Паўлік! Хопіць марыць! Бяжы наверх і пашукай, ці не засталося чаго. Я чула, яны вячэралі.

Гэта мама. Нам з ёй удваіх даводзіцца здабываць сабе ежу. На Мікалашу, як вы разумееце, разлічваць няма чаго. Ды ён і не есць нічога акрамя сваіх галінак. Лепш бы яму на зуб Жорык трапіўся. Лупатая пачвара. Ён, калі Ларыску бачыць, проста выскачыць гатовы са свайго кута! Не, трэба ёй усё ж сказаць.

Прабіраюся ўздоўж цёмных сцен і пыльных закуткоў наверх. Цішэй. Яшчэ цішэй. Бачу гаспадароў хаты. Яны павячэралі, але не разыходзяцца. Размаўляюць пра нешта. Я не разумею іх мову, але ад таго, як яны размаўляюць, мне робіцца сумна. Нешта здарылася або хутка здарыцца. Я ўспамінаю, што апошнія дні ў падполлі стала халадней: наверсе менш топяць печ. Раней гаспадыня старанна хавала ежу і замыкала хлеб у шафку. Цяпер — цэлы акраец мог апынуцца на падлозе. Горш, калі наогул нідзе нічога не было. Ні ежы. Ні гаспадароў. Да мяне даляцела слова ці то «эвакуацыя», ці то «міграцыя». Гэта што ж, яны таксама баяцца нашага іміграната Жорыка?! Ды калі б я быў на іх месцы, венікам яго пагнаў бы з дома! Нарэшце яны дагаварылі. І разышліся па пакоях. Я куляй зграбаю рэшткі ежы — і назад, у падполле, пакуль Таўстун не аб'явіўся. Мама механічна глытае сваю частку і некуды збягае. Здаецца, ёю таксама авалодала нейкае хваляванне. Мікалаша, і без таго нервовы, з падвоеным запалам прымаецца за адну з драўляных бэлек. Нешта пачынаю адчуваць і я. Зараз Ларыску шукаць бессэнсоўна. Але як толькі наступіць раніца, я такі выберуся вонкі. Трэба яе пабачыць. Ноч праходзіць трывожна і пад шоргат зубоў аб драўніну.

Як толькі ў шчыліну пранікае няроўнае ранішняе святло, я бягу вонкі. Ля самага лаза на паверхню я азіраюся: мамы няма, Мікалаша грызе (ён наогул спіць?), Жорыка не відаць. Асцярожна высоўваюся на вуліцу. Таўстуна няма, ды і іншых таксама. Траву даўно ніхто не касіў: радасць і для мяне, і для Ларыскі. Мне добра, бо можна схавацца, калі моцна прыгнуцца. А Ларыска ад кветак чмурэе. Гэта значыць, я хутка яе знайду. Я ўспамінаю, як яна лёгка да ўсяго ставілася і казала, што лета доўжыцца ўсё жыццё, і больш нічога няма акрамя сонца, гэтых кветак і ранішняй расы. Што яна не змагла б, як я, жыць у цемры, вечным страху і галадаць, здабываючы сабе ўбогія рэшткі з гаспадарскага стала. Што я мог ёй адказаць тады? З прыгажосцю немагчыма спрачацца. Заднім розумам я прыдумляў адказы і падчас нашай наступнай сустрэчы выдаваў ёй найбольш, на мой погляд, удалыя. Яна іх нязменна адбівала, а потым доўга смяялася з майго глупства, сур'ёзнасці альбо прыземленасці.

Напрыклад, я ёй казаў:

— Гэта ж выдатна, калі ёсць сям'я. Надзейней: шмат вачэй і вушэй!

— Гэта хто ў цябе надзейны? Мікалаша гэты прыдуркаваты? Ці маці, якая незразумела дзе бегае? Не, лепш наогул без сям'і. Сёння — тут, заўтра — там. Ні клопатаў, ні турбот.

— Але ж ты вяртаешся сюды!

— Вох, не кажы. Прывязалася я да цябе, заморак.

— Можа, я буду тваёй сям'ёй?

Мне нават няёмка стала: так яна на мяне паглядзела! Напэўна, я зноў нешта не тое сказаў. Яна раззлавалася, потым засмяялася і выпаліла:

— Памрэш, згінеш — шкадаваць не буду!

Я тады вельмі пакрыўдзіўся і на наступны дзень да яе не прыбег. І калі яна ў падполле зазірнула, схаваўся (хоць і рады быў, што яна мяне шукала).

Сёння я ўвесь дзень прабегаў, ужо пачало брацца на ноч, але так яе і не знайшоў...

Я вярнуўся дадому галодны і стомлены. Мама таксама толькі што вярнулася. Мікалаша выгрыз у бэльцы вялікую дзірку. Мама сказала, што пакуль мяне не было, прылятала Ларыска, пыталася пра мяне, але маме некалі было з ёй рот паласкаць: трэба было па справах бегчы. Ларыска мяне шукала! Мне радасна ад гэтага і сумна, што размінуліся. Заўтра дома буду сядзець. Чакаць. Зараз пабягу наверх, можа, ежа засталася. Мама мяне прытрымала:

— Паўлік, вось трапіш жа ты! Глядзі! — і яна паказала на столь.

За ўсёй сумятнёй у сваёй галаве я і не заўважыў таго, што ўжо даўно чулі мае вушы. Тупат, перацягванне цяжкіх прадметаў па падлозе, мітусня, гучныя галасы. Гаспадары кудысьці спяшаліся, збіраліся. Я адчуў, як у маёй душы нарастае трывога, якая пераходзіць у паніку. Мікалаша ашалеў і загойсаў. А я кінуўся наверх. Цёмныя сцены, пыльныя закуткі — туды, адкуль даносіўся шум. Так і ёсць: яны збіраюцца, цягаюць валізкі. Куфры раскрыты. Шафы з хатнім дабром расчынены, і з іх, быццам вантробы, вывальваецца адзенне і іншыя сямейныя пажыткі. Ежа. Выгляд ежы мяне крыху супакойвае — трэба праскочыць. Раптам я заўважаю Таўстуна. Ён глядзіць на мяне, я гляджу на яго. Але яму няма да мяне справы! Нішто сабе! І ён, здаецца, напалоханы і добра ўпісваецца са сваімі зрэнкамі-капейкамі ў агульную беганіну. Яго страх перадаецца мне. Жах ахоплівае мяне, я паварочваюся, каб бегчы. І раптам аглушальны свіст! Трэск! Усё быццам падскоквае ў паветры і змешваецца ў адну шэрую масу. Грукат! Агонь! Зноў свіст! Трэск! І так зноў, і зноў, і зноў!

Але я ўжо больш нічога не чую...

Развіднела. Не было каму сустракаць гэты новы ранак. Мой родны дом і маё падполле цяпер былі абломкамі і абрыўкамі таго, што калісьці і камусьці было дарага. А ў паветры ўсё яшчэ кружыўся попел. І ў гэтай шэрай заслоне прамільгнуў раптам кавалачак неба, блакітнага зыркага неба, аблытанага павуціннем. І гэты кавалачак неба зараз таксама абрывак таго, што было дарага менавіта мне. Мая Ларыска... Ты была найпрыгажэйшай з усіх матылькоў на свеце, ты была маім сябрам. Гэты крываногі лупаты павук Жорык дабраўся такі да цябе. Я тады шукаў цябе, наважыўся на небяспечнае падарожжа, але тваё падарожжа аказалася смяротным — ён знайшоў цябе першым. Як добра, што я пра гэта так і не даведаўся. Няма больш падполля, як няма ўсёй вёскі, і гаспадароў, і ката Таўстуна, і ўсёй нашай мышынай сям'і.

Я так і не зразумеў, што гэта была planавая бамбёжка мясцовасці. Я не зразумеў, што крылатым машынам — самалётам — няма справы да маленечкіх кропак унізе — людзей і ўжо зусім ніякага да мікраскапічных — мышэй. Я шмат чаго не зразумеў тады. І ўжо не зразумею. У бесчалавечным стаўленні чалавека да чалавека няма месца жалю.

Тым больш да жывёл.



Яўген Чарнышоў

Ч.ыЖ.

**з'явіўся на свет у межах 1994 года і горада Мінска. Юнацкі патрыятызм і любоў да мовы прывялі на філфак БДУ, які скончыў сёлета. Знаходзіць натхненне ў людзях, рэчах, абстракцыях і тым, як гэта ўсё можа цікава пераплятацца паміж сабой. Любіць Уітмана, Замяціна, «Флейту пазваночніка» і антыўтопіі.**






# Гэта скончылася, так?..

***

Воля пракрычала мне на вуха: «Я не хачу, каб гэта заканчвалася!»

І гэтай фразы было дастаткова, каб забыцца, што сёння апошні вечар, калі тут бліскае вясёлкавая музыка. Гукаколеры вырываюць звыклым трохсекундным рухам свайго механізма абрысы цёмнага памяшкання, дзе няма сэнсу ў вокнах. Тым не менш вокны ёсць.

П'едэстал сцэны пустуе, як храм. Масы запаланілі паверхню падлогі, назваўшы гэта «пляцоўкай для танцаў» у гонар тых ірацыянальных рухаў, якія тут робяць. Калі задумацца, то наўрад ці хто з іх змог бы растлумачыць гэтыя жэставыя парывы душы.

Але яны не задумваюцца. Натужная прага выявіць сваю больш нікому неўласцівую лічбу душы і спантанная вера ў сябе злучыліся ў вертыкальным выражэнні гарызантальнага жадання.

Гэта значыць, у таптанні на месцы замест руху наперад.

Яшчэ адзін локус — старэнькая драўляная стойка. Яна — шэрага з крапінкамі колеру. Тут стаю я.

І адно дзяленне секунднай стрэлкі таму стаяла і Воля. За час зруху ў гэтым дзяленні Воля паспела далучыцца да ірацыяналістаў, а я паспеў забыць пра яе існаванне.

Сузіранне таго, як масы сцвярджаюць сваю філасофскую канцэпцыю кожным ударам нагі аб падлогу і кожнай выпрастанай у паветры рукой — гэта ўсё не магло не натхніць мяне да абвяшчэння іх у глыбіні душы філасофскай сектай ірацыянальнага накірунку.

У адрозненне ад гэтых практыкаў я амаль заўсёды быў рацыяналістам-тэарэтыкам. У адрозненне ад іх — мая вера ў сябе ніколі не была спантаннай. Гэта значыць, што зараз яна не існуе.

І таму сцвярджэнне сябе на гэтай пляцоўцы папахвае ганьбай большай, чым выклік свету. Так, як, скажам, сцвердзіць магчымым дзяленне на нуль. Пры ўсім тым, што з некаторай доляй абстрагавання і бунту гэта магчыма; праўда заўсёды на баку таго, хто грамчэй крычыць.

А ў мяне ў той дзень асіп голас.

І мабыць, гэткія мае выклікі свету тады і адштурхнулі яе...

*

Яна прашаптала мне на вуха: «Я не хачу, каб гэта заканчвалася...»

Гэтай фразы было дастаткова, каб забыцца, што сёння апошні вечар, калі тут блiскацела вясёлкавая музыка нашых сэрцаў.

Яна не плакала. Толькі яшчэ больш захуталася ў мае абдымкі. Я адчуваў мелодыю яе дыхання. Слых маёй напятай натуры вырываў гэтыя абрысы з навакольнай цішыні, і кожная гукавая хваля яе паветра застывала нязвыклым трохсекундным вобразам у механізме маёй памяці.

П'едэстал сцэны нашага шчасця быў яшчэ запоўнены. На ім стаялі мы ў люстраным святле зорак. Гэта святло біла з вокнаў цёмнага памяшкання, дзе не было сэнсу ў вокнах.

Тым не менш вокны былі.

Будзённасць падлогі гэтай зямлі была далёка адсюль — яна прыйдзе толькі разам з рэжучым вочы золкам. Але пакуль што ў гэтым пакоі ляжала цемра для нас дваіх.

Прысутнасць ночы або дзяўчыны, як і заўсёды, расколвала на шчэпкі ўсю логіку маёй існасці і рацыяналізм думкі. Хаця, калі задумацца...

Але я не задумваўся. Я станавіўся з ёй (з ноччу, з Янай) такім жа ірацыянальным практыкам, як і ўсе. Лічбы сэрца рабіліся простымі — адмаўляліся быць падзеленымі, разарванымі на часткі бессэнсоўнасцю раскладання думкі.

І гэта значыць — у мяне замірала дыханне. А вертыкаль выражэння перацякала ў жаданую гарызанталь.

Гэта значыць, ...

Яшчэ адзін локус памяшкання — маладыя дзявочыя вочы. Яны — *шэрага* з крапінкамі колеру.

Тут стаяў я. І глядзеў у гэтыя вочы, у якіх адно дзяленне секунднай стрэлкі назад не было гэтых магутных кропель. Але я памятаю, як у папярэдняе дзяленне ў вачах было...

***

«Табе не нудна?»

Удар пытання ў зрэнках. Воля заўсёды глядзіць на мяне трохі даўжэй, чым звычайна на мяне глядзяць людзі. Мабыць, спрабуе думкай з-пад сваіх шакаладных кучаравінак патрапіць у сэнс загадкі маёй караткашэрснай галавы. У яе зноў не атрымліваецца гэта.

«Не», — добразычліва ўсміхаюся я. І нават не ведаю, ці хлушу: я сапраўды рады быць тут і глядзець у гэтыя заўсёды чыстыя карыя вочы, у гладкі разумны лоб, у гэтыя далёкія вусны на блізкім твары. Я рады.

Але...

Але.

*

...У тое папярэдняе дзяленне ў *шэрых* вачах — каханне. Такое, якога я не бачыў больш у аніводных вачах пасля той ночы.

Мае слабыя рукі сціскалі гэтыя мяккія плечы ўсё мацней. Тварам я адчуваў пальцы яе рукі, вільготнай ад выцертых слёз. Я сапраўды быў рады быць тут і дакранацца да гэтых заўсёды гарачых пальцаў, да яе пакручастых валасоў над глянцава-румянымі шчокамі, да гэтых блізкіх вуснаў на далёкім твары. Я рады быў цалаваць гэтыя вусны, якія...

***

«Што з табой?»

Зноў яна. Выгіб хвалявання на ўзнятых брывях. Гэта таму, што ў мяне на вачах дождж? Гэта таму, што я плачу? Плачу вось гэтымі вачыма, якія...

*

...былі шчаслівымі.

***

На наступны дзень Воля праводзіла мяне да самай станцыі. Я ведаю ўсё, што хаваецца за гэтым маўчаннем няёмкіх рухаў. Яе разумныя жаночыя вочы па-ранейшаму затрымліваюцца ў маіх мужчынскіх, спрабуючы разгадаць тайну. У яе зноў не атрымліваецца гэта.

«Бывай», — я адзначаю пацалункам ў шчаку маё і яе асобныя існаванні.

«Мы яшчэ пабачымся?»

*

На наступны дзень Яна праводзіла мяне позіркам з акна. Я ведаў ўсё, што за гэтым акном. Яе шчырыя дзявочыя вочы — *шэрыя* — па-ранейшаму затрымліваліся на маіх мужчынскіх плячах, спрабуючы разгадаць тайну нашай будучыні. Яе вочы дрыжалі ад пытання да адказу. Гэты адказ...

***

«Так», — кажу я.

Воля ўсміхаецца ад нечаканасці. Такая шчырая радасць. У гэткія моманты мне здаецца, што я *мог бы* пакахаць яе.

Цягнік пачынае рухацца. Развітальная ўсмешка, цёплыя вочы — і ўся яна рухаецца прэч, застаючыся на месцы.

Ці я апраўдаю радасць надзеі, што засталася ў гэтых вачах? Ці я змагу?

Бо калісьці...

*

«Так».

Яна ўсміхалася ад болю і страху. У такія моманты мне здавалася, што я буду кахаць яе заўсёды.

Але мне не хапіла спантаннай веры ў сябе, каб вылечыць яе твар ад пустэчы за гэтым акном. У мяне былі толькі мае ірацыянальныя лічбы, якія, на жаль, не дапамаглі ейным.

За гэтым акном...

***

Я азірнуўся. Мне не хапіла волі, каб не азірнуцца ў гэты момант. Воля глядзіць проста на мяне. Хоць і ведае, што я яшчэ вярнуся з-за гэтай шэрай шыльды цягніка, якая ўносіць ўдалеч мой позірк. Воля глядзіць, каб запомніць мяне.

Як калісьці глядзеў я...

*

Я азірнуўся. Мне не хапіла волі, каб не азірнуцца ў гэты момант. Яна глядзела сумнымі шэрымі вачыма.

Яна ведала, што я больш не вярнуся з-за гэтай шэрай дымкі туману. Я азірнуўся, каб запомніць яе.

Яна засталася зусім адна за гэтым акном.

За гэтым акном — пытанне да адказу. Пытанне...

**

…і я кажу ціха, нібы камусьці на вуха:

— Гэта скончылася, так?..






Дар’я Трайдэн



**нарадзілася 4 сакавіка 1995 года ў Гародні. У 2017 годзе скончыла Інстытут журналістыкі БДУ. Пісаць для яе — тое самае, што ісці па хісткай кладцы паміж усімі страхамі, слабасцямі і пяшчотамі свету. І гэта відаць у яе творах.**

# Палон

Калі б непрыгожыя цацкі маглі пісаць кнігі, мы б атрымалі шмат салодзенькіх апавяданняў пра калядныя цуды. Калі б ёлачныя іголкі маглі складаць вершы, мы б ведалі, як сумна паміраць у адзіноце. Калі б дзеці маглі распавесці, што яны бачаць у цемры шафы, мы б ніколі не майстравалі мэблю.

Дарослыя не вераць, што калісьці нарадзіўся той, каму быў неабыякавы бруд жыцця і боль душы чалавечай.

А калі вераць, дык навошта?

Паланэя — дзіця — памірала.

Гэта пачалося з канца кастрычніка: Паланэя клалася спаць удзень, чаго ніколі раней не рабіла, раніцай яе даводзілася браць на рукі і несці ў кухню, каб яна прыйшла да прытомнасці. Гледзячы кудысьці па-за маці, Паланэя сонна міргала і бязвольна расціскала бледныя вусны.

Яна спала ўсё больш і больш, нібы нешта цягнула яе ў свет умоўнасці і няпэўнасці. Тое, што спачатку трохі непакоіла бацькоў, пераўтварылася ў прадчуванне смерці Паланэі — дванаццацігадовай красуні, якая смяялася, калі сонца кранала яе твару.

Паланэя амаль не размаўляла з бацькамі. Раней яна таксама часам была задуменнай і засяроджанай, гадзіны праводзіла ў маўклівым вывучэнні хатняй бібліятэкі. Але пасля дзяўчынка хацела падзяліцца тым, пра што даведалася, што думала падчас самотных кніжных вандровак. Голас Паланэі, гучны, упэўнены, шчымліва-дзіцячы, прымушаў дрыжаць сэрцы бацькі, маці і бабулі: яны ведалі, што іх дзяўчынка неверагодная, адзіная ў свеце. Толькі вось трошкі ўпартая, непаслухмяная, нецярплівая. Калі б ёй навучыцца маўчаць і чакаць…

Паланэя вельмі любіла энцыклапедыі. Ёй падабалася дасканалая сістэма іх арганізацыі: лагічна акрэсленыя раздзелы, цікавыя факты, каляровыя малюнкі. Навуковая дакладнасць і строгасць зліваліся тут з мастацкай свабодай уяўлення.

Найбольш Паланэю цікавілі драпежныя жывёлы. Вялікія і малыя, з доўгай поўсцю і не — але з моцнымі зубамі. Малая ўяўляла, як зможа прыручыць самых страшных з іх, скарыць іх пагрозлівасць і сілу. Паланэі хацелася навучыцца быць такой, як лясныя драпежнікі, — зубатай, незалежнай, але з па-воўчы верным сэрцам.

На дванаццаты дзень народзінаў маці прынесла Паланэі ваўка. Срэбны маленечкі кулон паказваў, як спрытна бяжыць гэты звер. Пярэднія лапы падціснуліся пад грудзі, заднія — выцягнуліся ў бок ужо прамінулага кроку. Святло таршэра грала на рысачках срэбнай поўсці, кулон гайдаўся перад тварам зачараванай падарункам Паланэі.

«Паглядзі, гэта воўк. Ён будзе вазіць цябе на спінцы, калі ты будзеш паслухмяная і добрая», — маці прыўзняла Паланэю з ложка, паставіла на падлогу і падштурхнула да вялікага люстэрка. «Зашпілі», — працягнула кулон дачцэ. Маленькі воўк заззяў на белай начной кашулі Паланэі.

Кажуць, што ваўкі — гэта не да добрага, але інфармацыя недакладная.

Аднойчы Паланэі прысніліся кросны і шум акіяна.

Паланэя сядзела ў атачэнні жанчын з чужынскаю цішаю паміж вуснаў. Белая вопратка, цяжкія акружнасці золата на шыях і прыдалоннях, аднолькава пустыя і бяспечныя твары.

«Ты павінна чакаць, бо ты жанчына», — ваўкалак (калі б гэта быў не сон, можна было б здзівіцца) падштурхнуў Паланэю да кроснаў, і адзін з тонкіх зубоў зачапіў яе скуру.

Ваўкалак, як вядома, — гэта воўк, сапсаваны чалавечымі думкамі, страхамі і прымхамі. Гэта той, хто мог бы вырасці ваўком — годным, самадастатковым, але вырашыў жэрці кроў і палохаць.

Срэбная падвеска нагрэлася ад гарачай скуры Паланэі — палоннай ва ўласным сне. Маленькі воўк дрыжэў ад крывавага непакою яе сэрца, спрытныя лапы краналіся белай тканіны.

«Слухай, дзіця, калі ты існуеш сёння, то ты ведаеш, што гэты час твой. Ён пасуе да кожнага твайго руху, кожнай думкі. Дзякуючы табе гэты дзень светлы і шчаслівы. Дзякуючы табе заўтра можа быць прыўкрасным. Уставай», — маленькі воўкляснуў зубамі.

«Я не Пенелопа, я Паланэя», — адказала Паланэя ваўкалаку і прачнулася.

Ёлка стаяла ў самым вялікім пакоі кватэры. Бацькі ўжо думалі, што Паланэя яе не ўбачыць, але дачка села за калядны стол, рагатала наступнай раніцай, чытаючы Астрыд Ліндгрэн, задавала процьму пытанняў, спяшалася вывучыць тэарэму Піфагора, хоць у школе да яе не дайшлі, — карацей кажучы, была непаслухмянай, гаваркой, нязручнай, але такой прыўкраснай.

Калі б каляровыя ёлачныя цацкі маглі пісаць кнігі, мы б атрымалі процьму новых казак. Калі б святочны пірог мог напісаць вершы, мы б смяяліся і адчувалі, якое наваколле добрае. Калі б дзеці маглі распавесці, што ім сніцца, мы б сцераглі іх усю ноч.

Але пра гэта дзеці маўчаць — у іх таксама ёсць калядныя таямніцы.

## Чырвонае вяселле

Я бачу спіну маці ў дзвярным праёме. Нечыя рукі прышпільваюць белую кветку да яе белай сукенкі. Маці стаіць перад высокім люстэркам. Не ведаю, ці бачыць яна мяне, — мой непрыгожа разяўлены рот, мае круглыя вочы, мае далоні, прыціснутыя да грудзей.

Маці не паварочваецца. Сонца льецца на яе плечы, абмінаючы дзве цёмна-чырвоныя парцьеры. Сонца кранаецца яе прыгожага твару, што памаладзеў у прадчуванні шчасця. Сонца навобмацак аглядае чырвоны плед на складзенай канапе. Сонца патанае ў барвовым дыване. Падаецца, што ўвесь пакой набрыняў крывёю, і толькі белая постаць маці супрацьстаіць гвалту прасторы.

Я хачу легчы ўпоперак дзвярэй і заенчыць: «Мама, выйдзі адтуль, калі ласка, кінь гэта, пакуль не позна, давай вернемся разам у тую маленькую кухню, дзе была ружовая падлога (ты яе так пафарбавала — бо была каралевай і чараўніцай). Памятаеш, мы любілі адна адну, мы чулі нашы словы. Калі ласка, не дазваляй яму крыўдзіць нас — назаўсёды. Калі ласка, мамачка, калі ласка».

Я глытаю гэты бессэнсоўны плач. Я непрыгожая Касандра з тоўстымі сцёгнамі — мне не пасуе плакаць і прарочыць. Цётка Ліза чакае мяне ў калідоры, стрыечная сястра пераступае з нагі на нагу, мы павінны хутчэй ехаць рабіць прычоскі, і мой позірк, што чапляецца за матуліны плечы, усім замінае.

Маці мая, Медэя, няўжо ты не бачыш, што гэта не сонца, а бязлітаснае полымя, у якім мы ўсе згараем?

Парцьеры, дываны, вялікія букеты руж, рэпрадукцыя Сікстынскай мадонны, старое памутнелае люстэрка ў калідоры, ружовыя шпалеры з зорачкамі, што зззяюць у цемры, мебельны кухонны гарнітур, наш тоўсты шчанюк, два ложкі, канапа, цацачныя машыны, мае музычныя дыскі і плакаты, дваццаць адна пара тваіх тufляў, яго любімы нож — усё ахоплена полымем. Хутка нічога не застанецца апроч тваіх зламаных пальцаў, апроч напалоханых вачэй маёй малодшай сястры, апроч нажа — і апроч майго «я ведала».

## Туман, што прыйшоў раней

Яго знайшлі праз тры дні. Нельга сказаць, каб сястра спазнілася: лісты ад мёртвых амаль ніколі не бываюць тэрміновымі. Праз тры дні папера яшчэ пахла яго парфумай і крэмам для рук, і Каліне падалося, што гэты ліст не апошні, што яна яшчэ пабачыць, як Амарант папраўляе манжэты, робячы запісы для свайго даследавання.

Яе брат вывучаў старадаўнія спосабы стасункаў са смерцю, але ў выніку паспрабаваў самы няхітры з іх — памёр сам.

Яны былі блізнятамі і яшчэ з дзяцінства разумелі, што непарыўна звязаныя. Адмаўляць блізкасць інтарэсаў, спрабаваць пераадолець знешняе падабенства — гэта значыла б марнаваць час. Але бывае так, што чалавек перамагае ўладу часу і перакручвае лёс, бы мокры ручнік. І ўжо не знайсці вытокаў, не адсачыць перыпетый, што выткалі дыван фатальнага арнаменту.

Амарант і Каліна змяшалі любоў з нянавісцю так, што іх твары страцілі агульную нявіннасць. Яны атрымалі адбіткі цёмных учынкаў, зробленых у адзіноцтве, і калі б можна было чытаць па тварах так, як чытаюць кнігі, абое захацелі б прадаць маёнтак і з'ехаць — далей адно ад аднаго, бліжэй да людзей, не пазначаных праклёнам шляхецкай самазасяроджанасці.

У дзяцінстве Амаранта не вельмі цікавіла смерць. Яна існавала ў выглядзе метэаралагічнага прагнозу пра ранішні туман, што будзе вісець над яблынямі іх саду праз восемдзесят гадоў. Яна не стаяла перад вачыма. Яна не скрадала гукі і колеры, не звужала прастору да адной неспакойнай думкі. У Амаранта пакуль не было смерці.

Ён хацеў сабаку.

«Сабаку? Калі-небудзь ён памрэ, і ты зразумееш, што нават самая шчырая і адданая любоў пакідае цябе з пустымі далонямі. А калі ты хочаш лайку, дык будзь гатовы, што яна проста збяжыць ад цябе, — і гэта будзе яшчэ горш за смерць», — маці не глядзела ў Амарантавы вочы, як і заўсёды. Яе бязлітасныя прамовы рабіліся быццам не для прысутных і толькі фармальна былі звязаныя з размовай у пакоі.

«Мама, ты мяне любіш?» — Амарант заўсёды хацеў спытаць пра гэта, утаропіўшыся ў падлогу. Ён уяўляў, як маці апусціцца побач, возьме яго за падбароддзе, запэцканае ў суніцы, і адкажа: «Я цябе вельмі люблю». У яе вачах замільгацяць вільготныя зоркі, зоркі пацякуць па плячах, па далонях, змяшаюцца з сокам лясных ягад — і будзе соладка, і нябёсы будуць тут, паміж імі.

Але Амарант так і не спытаў у яе пра любоў: ён быў вельмі разумны хлопец.

«Я люблю цябе», — казала Каліна кожную раніцу, хоць яе і не пыталі.

Амарант, як і адзін нямецкі доктар, разумеў амаль усё — і яго пачало вабіць выключна тое, пра што нельга ведаць дакладна.

З цягам часу братава апантанасць смерцю стала падобнай да шырокай імклівай ракі. Яна пагрозліва і неадхільна ачэрчвала межы, за якія Каліна не магла заступаць. Кнігі, якія мелі дачыненне да чорнай і халоднай жарсці Амаранта, не пакідалі яго пакой. У дзяцінстве ўсе гісторыі былі агульныя, але плынь цёмных братавых думак паклала канец казкам дзяцінства.

Каліна адчувала сябе абрабаванай.

Калі Амаранту споўнілася дваццаць сем гадоў, ён вырашыў, што гатовы да выпрабавання сэрца. Калі яму наканавана страціць веру, то няхай так і здарыцца. Праклён матчынай мудрасці мусіў быць замацаваны ўласным досведам.

Так з’явіўся Галман — шчанюк лайкі, чорна-белы сабака, падобны да д’ябла-пярэваратня. Амарант карміў яго, маленькага, пяшчотна трымаў тлусценькае дзіцячае цельца на каленях, даглядаў, быццам асірацелага брата. Калі Галман падрос, на змену шчанюковай нязграбнасці прыйшла рэзкасць і сіла сабакі-падлетка. Ён насіўся вакол Амаранта, зазіраў у вочы, гучна і бессаромна брахаў. Сабачая непавага да галерэі партрэтаў Амарантавых продкаў давала гаспадару надзею, што жыццё вартае даследавання не менш за смерць.

«Ціха, Галман, ціха», — Каліна дакранулася да сабачага носа. Лайка відавочна хвалявалася: сабака ніколі не любіў сястру гаспадара, яго нерваваў конь, які шчыпаў траву побач, і незнаёмыя пахі дражнілі сабачы розум. Каліна ехала да гэтага лесу некалькі гадзін. Галмана схавала ў торбу, якую звычайна брала на пікнікі. Торба пахла яе цяжкай, змрочнай парфумай, і сабака енчыў ад недахопу паветра. Каліна не зважала на гэта, пакуль маёнтак не застаўся далёка, — так, што не дабегчы, калі цябе не вядзе чалавек.

«Пайшлі», — Каліна пацягнула сабаку наперад, моцна ўхапіўшы за карак. «Ну, давай». Яна пхнула яго ў бок лесу. Галман пацягнуў носам паветра і пабег. Ён больш не памятаў пра Амаранта.

Каліна ведала, што гэта праміне, і праз некаторы час сабака спыніць бег і захоча вярнуцца. Але не зможа знайсці шлях дадому: хвалі Калінінай парфумы аднеслі яго далёка-далёка, у зачараванае каралеўства, на другую зямлю. Спі, сабака, спі, гаспадар, спіце, няшчасныя.

Каліна не дакранулася да брата, як звычайна, калі яны суцяшалі адно аднаго.

«Маці наўмысна сказала табе пра ўвесь боль, які чалавек можа адчуць, пакуль ён жывы. Яна выракла цябе на вечнае чаканне. Ты гадаваў сабаку, адчуваючы прысмак хуткай страты. Ён адняў у цябе жыццё, але я магу вярнуць, паслухай», — шэпт сястры быў вар’яцкі-нявінны, быццам ніколі яе рукі не цягнулі Галмана да незнаёмага лесу, з якога няма выйсця.

«Каліна, не кранай яго», — Амарант адвярнуўся, не закончыўшы фразу. Размова была скончана.

«Прабач», — Каліна па-змяінаму выслізнула за дзверы.

*Любая Каліна, ён збег. Я ведаю ўсё, што будзе далей у жыцці: там будуць толькі страты, расчараванні і боль. Я ведаю ўсё, як ведала маці. Не ведаю толькі, што такое смерць. Але праз тры хвіліны я кіну тэарэтычнае, алхімічнае, баязлівае вывучэнне гэтага пытання і стрэлю сабе ў левую скроню.*

*Не віні мяне. Любоў заўсёды пакідае з пустымі далонямі — ты таксама павінна была гэта запомніць.*

*Амарант*

Каліна заплюшчыла вочы і дазволіла сабе паверыць, што пах ад гэтага ліста абяцае хуткую сустрэчу.

Ля яе ног ляжаў Галман. Брудны, падрапаны, ён вярнуўся да гаспадара нейкім цудам.



Вераніка Крупіца



**нарадзілася 27 чэрвеня 1996 года ў Полацку. Сёлета скончыла філфак БДУ і паступіла ў магістратуру на спецыяльнасць «Літаратуразнаўства». Займаецца музыкай, грае ў музычным гурце.**

# Шэрага колеру дым

## Чарнее лісце

Не выйсці
З рэк атрутных слоў,
Што топяць сцежкі нашы —
Чарнее лісце
Берагоў,
Змяняюцца пейзажы.
Ў мінулым
Цвіў кахання бэз,
Натхнённа ззялі твары:
Мяне цягнула —
Я палез
Ў душу тваю ахвярай.
Шукаў у ёй
Адбітак нас
І верыў: ёсць надзея.
Палаў табой,
Пакуль не згас,
Лічыў: ты — панацэя.
Аддаў, што ёсць:
І моц, і кроў;
Загойваў твае раны.
А вынік — злосць
Ад ланцугоў
Ды роспач ад падманаў.
Наперад крок
Рабіў, а ты
Інертна існавала.
Пачуццяў змрок
Тваіх — як дым,
Смяротная навала.
Раз'ела сэрца —
І пайшла,
А я, зламаны болем,
Здурнеў, здаецца,
Бо душа
Не хоча быць у волі.
Чарнее лісце,
Дым ірве,
Змяняе колер бераг.
Жылі калісьці,
А цяпер
Існуем без намераў.

***

Ты глядзі,
Безупынна глядзі на мяне.
Я пішу, гавару. Я крычу.
Але сэрца тваё без адказаў —
Крамень.
Можа, трэба пісаць урачу?

Мы змяніліся,
З рэек сышоў наш цягнік.
Нават знік пад абломкамі цень.
Ты не чуеш мяне,
Ты не чуеш мой крык.
Адзінота за намі ідзе.

Зразумець.
Зразумець так складана.
Баляць
Мае рукі ад холаду дзён.
Я хацела б у іх да скanчэння трымаць
Нашых дзікіх адносінаў плён.

Хутка сонца ўсё знішчыць,
І к вечару зноў
Не убачым тых доказаў «нас».
А на ноч я зраблюся ахоўнікам сноў —
Адстаю ціхамірны твой час.

## Пароль

Кранае боль штодзённы праз сцяну,
Што будавала з крыўды у паветры,
Што будавала я за метрам метры,
Пра што я гаварыла: «Пацягну!»

Але цягнуць няпроста. Мне ў грудзях
Шаптала сэрца: «Зноў адкрыйся лету,
Каб аднавіць свае былыя мэты,
Каб толькі шчасце нам было суддзя!»

Нам часта кажуць ўсё схаваць хутчэй
Ўнутры, каб зберагчы свае пачуцці.
Таму мы за сцяною думкі круцім
І пазбягаем злосніцкіх вачэй.

Не трэба сцен — не утрымаюць боль,
Затое не прапусцяць сонца промняў.
Ты гэта ў час адчаю, сябра, ўспомні —
І шчырасці адкрыецца пароль.

## Не трэба

«Сустрэнемся з табой», — усё падман,
Я словам моцным верыла дарэмна.
Працягу не чакалі узаемна,
Нас шкадаванне біла, як дурман.

І чутна толькі: «Не хапае сіл».
Калі ж па праўдзе — не стае жадання:
Калісьці лёгка раскрываў прызнанні,
Не ведаючы кошт, чаго прасіў.

Не трэба гэтых сувязяў, пакінь
Мінулае у полымі сучасным —
Рассеецца, як дым, і стане ясна,
Дзе праўда, што маны знішчае плынь.

Сустрэнемся? Навошта гэты смак
Падманаў у нявінных спадзяваннях...
Не трэба абяцанняў пра спатканні —
Не трэба безадказнага «хай так».

***

Я стамілася раптам, надоўга, у цёмнае ночы,
Мой кастрычнік не скончыцца — шэрага колеру дым.
Мне б да мора паехаць цяпер, ў сакавіты мой Сочы,
Адшукаць да утульнага, ціхага шчасця хады.

Як складана у свеце, які для сябе напісала,
Бо вакол свет рэальны — і боль ад яго неслабы.
Мой квіток страціў мэту між цэглы сапраўдных вакзалаў —
Я сяджу паміж мар: да мяне б хто квіточак набыў.

Ад хваробы маёй рэдка добрыя сродкі бываюць —
Толькі пэўная шчырасць (а хто б мяне ёй акружыў?).
Побач лекаў няма, і я мары гадую на памяць —
Як плацэба-трыпутнік ад раку няшчаснай душы.



## Андрэй Козел



**нарадзіўся 8 кастрычніка 1987 года ў пасёлку Новагарадзейскі Нясвіжскага раёна. Па адукацыі — настаўнік, журналіст. Гады студэнцтва згадвае як шчаслівы і бесклапотны час жыцця, час шчырага сяброўства, кахання і велізарных ружовых акуляраў. Для яго гэты час адметны яшчэ і знаёмствам з творамі беларускай літаратуры, якія натхнілі пачаць пісаць на роднай мове.**

# Мая вера, надзея і злосць

### Мяшок

Ўсё, што можна сказаць, — я сказаў,
Не пакінуўшы слоўніку слоў.
Каго мог забіваць — забіваў
Безумоўнаю яваю сноў!

Ўсё, што можна спазнаць, — я спазнаў,
Чорнай плямай разліўшы ў душы.
Калі хочаш, то я — увабраў
Міражы злой нябачнай мяжы.

Ўсё, што можна пачуць, – я пачуў,
Не вымаючы пробкі з вушэй.
Я навобмацак гукі адчуў,
Што за цішу бываюць цішэй.

Ўсё, што можна забыць, — я забыў,
Нават тое, што ведаць не мог.
Я ляжаў, я глядзеў. Я застыў
У нязведаных ведах, як мох.

Каго можна сустрэць — я сустрэў,
Палічыўшы пляўкі ўсе у твар.
Але холад мяне ўсё ж сагрэў
Цеплынёю намараных мар.

Што я мог падарыць — я аддаў —
Невядомы ў няведанне крок.
Ўсё, што можна сабраць, — я сабраў,
Склаўшы рэчы ў дзіравы мяшок.

## Млосць

Я йшоў дамоў, мая дарога
Мне малявала хібы. Млосць
шаптала: «Хутка перамога!
Ты — ёсць не той, кім быў,
хто ёсць».
Я засяродзіў думкі, роздум
і на шашы паўстаў
пустым.
Так, я бываў, канечне, розным.
Ды я не той,
хто стаў не тым!
Змяняў раптоўна накірунак;
стаяў,
ішоў, куды хацеў.
Мяняла карта свой малюнак —
калі б туды ні паглядзеў.
Ляцеў.
У прорву праваліўся.
Адчуў жывое раптам штось.
Быў тым, хто шчэ не нарадзіўся
і хто народзіцца вось-вось.
А жыў — жыцця нібыта мала
было сягоння,
заўтра — зноў.
Я мог быць тым, каго не стала, —
яго жыццё пражыць наноў.
Нябёсы слалі свае грукі.
Туман быў ціхі і густы,
лавіў мае
нямыя гукі:
«Не, я не той,
хто стаў не тым…»
Мяняў напрамкі кожнай сцежкі,
каб зблытаць тых,
хто вёў мяне,
Пераплятаў жыцця
прамежкі,
то праўдзе верыў, то мане.
Ці мог я быць не тым,
а іншым? —
Я не задумваўся,
ішоў.
Стаў блытаць сок саспелай вішні —
прымаў яго за плазму,
кроў.
Сасмяг.
Здранцвеў.
Краналі вусны
бутэлькі, поўныя вады.
Язык, цяжкі і заскарузлы,
парушыў гронкі нематы.
Я піў нагбом.
Праявы млосці
знікалі ў целе без умоў.
Чырвонае ў бакале штосьці:
Кампот вішнёвы мо
ці кроў?..
Я ачуняў.
Мае адказы
адкрылі мне, нібы на злосць:
«Ты той, кім быў тады,
адразу!
Ты той — кім быў,
ты той — хто ёсць!»

## Штучнасць

Бывае у кожнага колькі  хвілін,
калі разумееш, што нешта не так –
і музыка грае, а словы не ў такт…
Натоўп акружае, а ўсё ж — ты адзін.

Дый песня ліецца, вясёлы напеў,
як быццам — спакойна, але — валтузня.
Бы праўда гучыць, а здаецца — хлусня.
І не разабраць, дзе катрэн, дзе прыпеў.

Ад самых вытокаў спявае нам хор,
даўно не змяняе свой рэпертуар,
хоць шлях і здарожыўся ды тратуар,
хоць карта змяніла знаходжанне гор.

Цябе гэтаксама прымусяць спяваць.
Патрэбныя ноты заносяцца ў ліст.
Калі ты не з імі, ты — вольны  саліст.
На вольных салістаў жа — хору пляваць.

І сумная штучнасць  згаданых падзей
наводзіць на думку, што штучнае ўсё:
свабода, каханне, надзея, жыццё…
І штучныя песні для штучных людзей.

***

Іржавым цвіком забітыя думкі ў маю галаву.
Хацеў бы дастаць даўно гэты цвік, але ўжо не магу.
Жалезнаю кветкай чорныя думкі ірдзеюць, растуць,
каб капаць нектарам і расцякацца па целе, бы ртуць.
Развагі мае найгоршым з найлепшых растуць пухіром:
і, выйграўшы бой, губляеш так многа, што ставіў на кон!
Душэўныя страты верай надзеі гаю я ў сабе,
хоць думкі забітыя ржавым цвіком у маёй галаве.

***

Сёння прывіды ў спратах душы
нешта вынайшлі, нешта знайшлі.
Можа, добрае, можа, і не:
штосьці здарыцца, штосьці міне.
Я глядзеў, што прынеслі яны —
ў светлых мроях, праз дзіўныя сны.
Я не думаў, што ўсё гэта ёсць
мая вера, надзея і злосць.
Я пакіну найлепшае, што
мне давала заўсёды цяпло.
А найгоршае збуду, звяду,
лёс аспрэчу, прагнаўшы бяду.

## Дыялог

— Душа мая — разбітае акно:
ў пустую шыбу залятаюць жахі,
што разрываюць сэрца апранахі
на самае дзіравае радно.
Павер, што людзям будзе ўсё адно…

— Чакай, давай запоўнім твой прабел:
чым горш табе, тым больш для іх цікава,
такое правіла заўсёды існавала
і будзе існаваць, ты мне павер,
бо чалавек для чалавека — звер.

***

Я вярнуся у новым абліччы —
і ніхто не пазнае мяне.
Пазнікаюць знаёмыя лічбы,
мая мройнасць з вятрыскам міне.

Час спатоліцца вольнай хадою
І застыне ў бяздонні вачэй.
Захлынуцца цяжкою тугою
гэтым разам мне будзе лягчэй.

Я чырвоная кропля — не болей —
на бязмежным прасторы з крыві,
механізм незайздроснае долі,
алавяны салдацік Зямлі.

Я вярнуся ў новым абліччы,
можа, птушкай, а можа, дажджом,
да таго, хто сябрам палічыць
і хто дзверы адчыніць у дом.

***

Забыты дом на ўскрайку лесу.
Нібы малы, туды залезу,
каб паглядзець, як паміраე,
што для сям'і цяпло ствараე...
Быў тут і гоман, і вяселле,
застольны гул і мрой трызненне;
тут забыццё было і смутак,
жалоба, смерць і болю скрутак;
у ім жыла любоў, пяшчота,
цяпер — трава і адзінота.
Стаю разгублены, разбіты
ля студні. Пацукі сярдзіта
хаваюць пысы ў завуголлі,
з акна звісае дрэва голле.
На крыж забіты аканіцы,
рыпяць, галосячы, масніцы,
там зруб пахілы, дах у лаце
і дзверы б'е скавыш у хаце…

***Ад рэдактара***

*У гэтым нумары вас чакае працяг захапляльнай серыі яркіх і кранальных замалёвак з падарожжаў ад Ганны Чакур. Лёгкі, жывы, нязмушаны стыль, вострае, незамыленае вока, якое падхоплівае найдрабнейшыя дэталі, і — неймаверная сардэчнасць, цеплыня расповеду.*

*Дзённік падарожжаў, у які Ганна Чакур дазваляе нам зазірнуць, пакажа нам і залы музеяў, і помнікі вялікім паэтам, і драбочкі сакавітай гісторыі, якія злёгку аддаюць горыччу. Завітаем — разам з аўтарам — у Вену, Лейпцыг, Вільню. І, вярнуўшыся на Беларусь, уважліва прыгледзімся да Віцебска.*

Ганна Чакур

# Заўважынкі з падарожжаў

*(працяг, пачатак у №7, 2017)*

## Не пытайся, па кім б'юць званы

***Мір***

У Мірскага замка шчаслівы лёс — аднаўляць яго сталі першым у Беларусі. Да прыкладу, непараўнальна больш старажытны і лёсавызначальны для ўсяго Вялікага Княства Літоўскага Крэўскі замак і сёння ў руінах.

Мірскі замак — двулікі, як Янус. Калі ты едзеш да яго ўпершыню і вартавыя вежы раптам вырастаюць на тваім шляху — дух захоплівае ад велічнасці гэтай карціны. Манументалізм у апошняй ступені! Гісторыя, замураваная ў камень! Крэпасць, здольная стрымаць любое нашэсце!

А пад'язджаеш бліжэй, падыходзіш да сцен, прыглядаешся як след…

І табе ўжо не пазбавіцца пачуцця несапраўднасці. Так, таўшчэзныя цаглянакаменныя сцены. Дубовыя вароты і яшчэ адны патаемныя, якія ў патрэбны момант можна было скінуць зверху праз спецыяльную прарэху ў каменнай столі. Так, незлічоная колькасць байніц, скрозь якія можна адстрэльвацца або скідваць на галовы воргаў расплаўленую смалу і іншыя цяжкія рэчы. Усё каменнае, груvasткае, сапраўднае, і чаму пачуццё падробкі з кожным крокам па замку толькі ўзмацняецца?

— Таму што будаваўся замак не столькі для абароны, колькі для прэстыжу, — адказвае на маё пытанне Алесь Яўгенавіч Юркойць, які працуе па сумяшчальніцтве ў раённым цэнтры пазашкольнага выхавання, вядзе краязнаўчы гуртток. — Юры Ільініч, гаспадар Міра, меў грошы, але не меў тытулаў. А вельмі хацеў іх мець і меркаваў так: стану ўладальнікам замка — і тытул не прымусіць сябе чакаць.

Цікавым чалавекам, дарэчы, быў гэты Юры Ільініч — нейкім чынам умудрыўся стаць прыёмным сынам ажно трох багатых людзей, атрымаўшы ў спадчыну іх грошы. Дарэчы, дачка Юрыя была замужам за Янам Абрамовічам, бацькам варнянскага Яна Абрамовіча (як цесна пераплецена ўсё ў гэтым жыцці!). Ян нават пазычыў свайму цесцю 10 тысяч коп грошай (гэта была вялікая сума, за якую можна было набыць тады і Варняны, і Астравец, і яшчэ б засталося).

— Але пабудаваць ён змог толькі агароджу замка і пяць вежаў, — гаворыць жанчына-экскурсавод, разам з якой наша група (выхаванцы цэнтра пазашкольнага выхавання на чале з яго дырэктарам Наталляй Уладзіміраўнай Сянюць, выкладчыкамі цэнтра і інш.) то спускаецца ў турэмнае скляпенне, то выходзіць на балкон, каб палюбавацца ўнутраным дваром, то прыступка за прыступкай уздымаецца на самы верх цэнтральнай вежы. — Ільінічу не хапіла ці то часу, ці то грошай.

Неўзабаве яго род згас: у 1568 годзе памёр апошні прадстаўнік Ільінічаў. Замак перайшоў да Радзівілаў. І Мікалай Крыштоф Радзівіл, вядомы пад прозвішчам Сіротка, вырашыў выкарыстоўваць замак у якасці, так бы мовіць, загараднага дома і пабудаваў там палац.

Бутафорнасць Мірскага замка (чамусьці разуменне гэтага прыйшло, калі наша група разглядала ваколіцы праз байніцы самага верхняга паверха сярэдняй вежы) у яго размяшчэнні — хіба можа быць ён абароназдольным, стоячы на роўным месцы, — ні землянога вала, ні сур'ёзнай воднай перашкоды? Ды і будаваўся ён у XVI стагоддзі, калі таўшчыня сцен перастала быць гарантам недасягальнасці — артылерыя ўжо магла разбіць іх.

Таму, напэўна, замак у Міры заўсёды быў даволі лёгкай здабычай для заваёўнікаў.

Варта дадаць, што ў 1794 годзе яго спрабавалі абараніць паўстанцы Касцюшкі, але замак быў узяты царскімі войскамі.

Апошнім уладальнікам Міра стаў род князёў Святаполк-Мірскіх (1891—1939).

***Нясвіж***

Гэтаму гораду зайздросціць кожны, калі можна так сказаць, лакальны патрыёт (чалавек, якому хочацца ўславіць сваю маленькую радзіму) — сцены Нясвіжа прасякнуты гісторыяй наскрозь.

На працягу чатырох стагоддзяў тут жыў магутны, таленавіты, уладалюбівы і непрадказальны род Радзівілаў. Род канцлераў і кампазітараў, ваяроў і стваральнікаў, палітыкаў, епіскапаў і яшчэ раз палітыкаў. Род, што быў заклятым ворагам Гаштольдаў, якім належаў наш Астравец. Нападалі, палілі, забівалі. Вядома, не на Астравец — Гаштольды жылі ў мураваным палацы ў Геранёнах (заўважце: Радзівілы ў той час жылі ў драўляным палацы, а Гаштольды — ужо ў мураваным!). І ніякім каралям не было пад сілу спыніць гэтую вайну.

Пакуль за справу не ўзялася каралева Бона. Спалохаўшыся яе недвухсэнсоўных дзеянняў, Радзівілы і Гаштольды не проста памірыліся — аб'ядналіся праз шлюб Барбары Радзівіл і Станіслава Гаштольда. Таго самага Станіслава, які маленькім хлопчыкам ледзь жывым не згарэў падчас чарговага нападу Радзівілаў на замак яго бацькі і які ад перажытага ў маленстве стрэсу (як сведчыць летапіс) на ўсё жыццё застаўся хворым. На ўсё сваё кароткае жыццё, таму што памёр Станіслаў у трыццаць шэсць гадоў. Не дадавала здароўя яму і юная радзівілянка, яго жонка, якая, калі верыць тым жа летапісам, здраджвала Гаштольду на кожным кроку. А калі Станіслаў памёр, выйшла замуж за караля Польшчы (не без падтрымкі сваіх дзядзькаў — Мікалаяў Чорнага і Рудога). Праўда, у каралевах яна затрымалася ненадоўга (стараннямі атручвальніцы Боны), але на род Радзівілаў з тых часоў, як з рогу дастатку, пасыпаліся каралеўскія ласкі: дарагія падарункі, высокія пасады...

…Нясвіжскі касцёл Божага Цела дзейнічае як храм, а па сутнасці сваёй з'яўляецца магільным склепам Радзівілаў: восем дзясяткаў сыноў і дачок гэтага роду знайшлі тут вечны супакой. Зрэшты, супакой — адносны. Пэўна, не многія з нас узрадаваліся б, каб праз чатырыста гадоў пасля смерці іх тленныя рэшткі (няхай сабе і ў салідных саркафагах) за грошы пачалі б паказваць турыстам.

На гэтыя пакрытыя пылам труны глядзець цяжка — нібы прысутнічаеш на хаўтурах самой гісторыі. Гісторыі Вялікага некалі Княства Літоўскага. Хаця ёсць і сучасны ўклад у старадаўняе пахаванне: адзін з нашчадкаў Радзівілаў, які жыў у Англіі, адпісаў захаваць свой прах у фамільным склепе, і ў 1996 годзе урну з яго попелам устанавілі ў касцёльных скляпеннях.

А далей быў палац. Цяжка падабраць словы, каб расказаць, што адчуваеш, калі ідзеш па тых самых плітках падлогі, па якіх хадзілі Радзівілы. Калі наогул ідзеш па іх палацы. Тысячы турыстаў паспелі пабываць у радзівілаўскім гняздзе… Цікава, ці хоць адзін з нас, з гэтых дапытлівых тысяч, быў бы ўдастоены гонару пераступіць парог замка, калі б Нясвіж і сёння быў горадам магдэбургскага права, а Радзівілы — яго гаспадарамі?

Палац пакуль адноўлены не цалкам. І з адноўленых мяне найбольш уразіў архіўны пакой. Дакладней, вывешаны на сцяне ўрывак з тэстамента Сіроткі. «Каб старанна захоўвалі рукапісы, справы, неабходныя лісты, абы не блукалі па чужых руках. А ты, Яне, як старэйшы, давай доступу, згодна са сваім меркаваннем, і іншым. Чытайце, каб ведалі і з таго цешыліся…» Мудрым чалавекам быў Мікалай Радзівіл Сіротка.

Пабачыць нешта асаблівае ў нядаўна адноўленай гарадской ратушы мы не спадзяваліся. Як аказалася, дарэмна. На сценах галоўнай залы — копіі партрэтаў Радзівілаў: Чорнага, Сіроткі, Пане Каханку, Рыбанькі… За сталом у прыёмнай сядзіць сакратар, а ў кабінеце стаіць ля стала сам войт — іх фігуры зроблены з воску, але так таленавіта, што ад позірку чорных войтавых вачэй — мароз па скуры…

***Наваградак. Сляды Даўмонта.***

Ад яго замка засталося няшмат. Але ў тым, што ён сапраўдны, упэўніваць нікога не трэба. Замак-ваяр, абаронцы якога змагаліся не на страх. Сэрца Вялікага Княства, якое толькі нараджалася.

Дакранаюся да амаль зруйнаванай (шведскім порахам і часам) вежы, і чамусьці прыходзіць на памяць гісторыя 760-гадовай даўнасці…

Першы князь ВКЛ Міндоўг і Даўмонт, апошні князь Нальшанскіх зямель (Астравеччына, як мы ведаем, адносілася менавіта да Нальшанскага княства), ажаніліся з дзяўчатамі, якія паміж сабой былі роднымі сёстрамі. У 1262 годзе жонка Міндоўга памерла, і журботны князь прыслаў з пасыльным сумную вестку яе сястры, жонцы Даўмонта. «Сястра твая памерла, — пісаў Міндоўг, — прыязджай плакаць па ёй». Паехала. Каб не вярнуцца — Міндоўг прапанаваў швагерцы руку і сэрца, і тая, калі верыць летапісу, не адмовіла.

Даўмонт не напаў на Наваградак, таму што ведаў: сілы няроўныя і шансаў на перамогу няма. Але ведаў ён і тое, што знявагу такой глыбіні можна змыць толькі адным спосабам — крывёй. І стаў чакаць…

У 1263 годзе Міндоўг паслаў свае войска за Днепр. І Даўмонт напаў на аслаблены Наваградак, і захапіў яго, і зарэзаў князя Міндоўга разам з двума яго сынамі.

Трэці сын Міндоўга Войшалк быў манахам, але калі страшная вестка дайшла да яго вушэй, змяніў рызу на строй ваяра, сеў, як тады казалі, «на конь» і кінуўся па следу Даўмонта.

Толькі князь Нальшанскі апярэдзіў яго: разам з дружынай ён уцёк у Пскоў. Праз нейкі час прыняў імя Цімафей, ажаніўся з дачкой князя Дзмітрыя (унучкай Аляксандра Неўскага) і стаў княжыць у Пскове. Летапіс пра яго адклікаецца так: «*Был он милостив безмерно, священников любил, церкви украшал*». А яшчэ Даўмонт быў выдатным ваяром — падчас яго праўлення шчыт ворага ні разу не вісеў на браме Пскова.

Памёр Даўмонт падчас эпідэміі, быў пахаваны ў пскоўскім Троіцкім саборы. Яго мошчы знаходзяцца там і сёння. Больш таго, 20 мая (2 чэрвеня) адзначаецца дзень блаславёнага Цімафея, а стары горад у Пскове і сёння называецца Даўмонтаў Град.

А ў Наваградку князем быў абраны Войшалк, толькі княжыў сын Міндоўга мала: душа запрасілася назад, у кляштар.

Былі іншыя князі і іншыя войны. Усё праляцела, як дым.

І толькі груды камянёў на крапасным вале яшчэ памятаюць грукат мячоў і хрыпы паміраючых. Вечным сном спяць абаронцы Наваградскага, Крэўскага, Мірскага, Нясвіжскага замкаў. І толькі нядзельныя званы ў храмах яшчэ ўспамінаюць іх у сваім галашэнні.

Так праходзіць мірская слава…

***Парыж***

Быў час, калі на адной са сцен рэдакцыі мы калекцыяніравалі розныя крылатыя выразы, якія дарылі нам нашы сябры і госці.

Адным з маіх самых любімых быў: «Не прыкладай столькі намаганняў — усё лепшае прыходзіць у наша жыццё само». Ён узнік у маёй памяці, як толькі пасля размовы з сястрой я паклала на месца тэлефонную трубку. Люда задала мне толькі адно канкрэтнае пытанне: ці хачу я на ўікэнд з'ездзіць у Парыж?

…Цэлыя суткі напярэдадні вецер пляваўся мокрым снегам. Пад нагамі з'едліва чмякае непрыемная каша, ад судакранання з якой боты разбухаюць літаральна праз паўхвіліны, і няўтульнасць лютаўскай адлігі прабіраецца ў іх нутро без перашкод.

Бліжэй да ночы гэты прыродны дыскамфорт толькі ўзмацняецца. Можа, таму, што накладаецца на дыскамфорт душэўны: пералёт, невядомая краіна, як яшчэ ўспрымуць маю візу французскія пагранічнікі, ці дамо рады без ведання французскай мовы — ляцім жа самастойна, без гідаў і запланаваных экскурсій? Гэтыя і дзясяткі іншых пытанняў рояцца ў галаве надакучлівай машкарой, перашкаджаючы заснуць, і застаецца толькі вымушана ўглядацца ў начную цемру дарогі Вільнюс—Каўнас, па якой імчыць нас вёрткі бусік…

А пятай гадзіне раніцы не бывае ўтульных вакзалаў. Нават калі яны з прыстаўкай «аэра». Нават калі перад табой на століку стаіць філіжанка добра запаранай кавы, а побач сядзяць родныя людзі: сястра і дзве пляменніцы. Як у пінг-понг, перакідваемся стараннымі жартамі, але ранішнія дрыжыкі толькі ўзмацняюцца.

За дзве гадзіны да адлёту становімся ў чаргу. На электронныя вагі кожны павінен пакласці ўвесь свой багаж, уключаючы сумачку, фотаапарат і іншыя рэчы. Калі маёмасць пасажыра перавышае дапушчальныя 10 кілаграмаў хоць на 100 грамаў, супрацоўніца аэравакзала ветліва і безапеляцыйна (і як ёй удаецца так гарманічна спалучаць дзве гэтыя супрацьлеглыя якасці?) адпраўляе яго на «разгрузку». Віхрасты юнак, багаж якога «страціў ласку», тут жа раскрывае свой чамадан на калёсіках і апранае на сябе адразу некалькі швэдраў, а цёплую кашулю павязвае на таліі.

У чарзе перад намі два манахі: старэйшы, для якога падобнае падарожжа, відавочна, не першае, старанна падбадзёрвае маладога, нявопытнага. Мяркуючы па фартухах, яны — кармеліты. Сумкі ў братоў велізарныя і пустыя. Напэўна, у Парыж едуць па дапамогу ад якога-небудзь «Карытаса».

У мяне лёгкая сумка, але міс… Не, мадэмуазель, — ляцім жа ў Францыю. Мадэмуазель Цэрбер адпраўляе мяне ў супрацьлеглы бок — паставіць адзнаку ў пашпарце. Ставяць штамп, амаль не гледзячы. Яшчэ раз рэчы на вагі. Добра. Праходзьце. Чарговы прыпынак — асабісты агляд.

Тут працуюць мужчыны. А сама сістэма нагадвае касу супермаркета: на шырокую стужку канвеера кладзеш свае рэчы, і табе тут жа падаюць вялікі пластмасавы кошык — распранайся і складвай у яго верхнюю вопратку. Пінжак — таксама. І абутак, калі ласка, на стужку… «Madam, you have forgotten watch». Словы знаёмыя, але пакуль я спрабую іх асэнсаваць, даглядчык выразным жэстам паплясквае сябе па руцэ. Ах, гадзіннік! Канечне-канечне. Цяпер сюды — у брамку? Не звіню? Усё, можна абувацца.

Да адпраўлення яшчэ больш за гадзіну. І мы са Святланай, старэйшай пляменніцай, старанна рэвізуем «Duty free». У першую чаргу нас цікавяць французскія парфумы — трэба ж даведацца кошты, каб у Парыжы потым не лахануцца — не купіць даражэй. Ды і пырснуцца з пробніка якім-небудзь «Дольчэ Габана» не пашкодзіць.

Вяртаемся ў густым воблаку гучы-шанэле-габанаў. Сястра Люда адмахваецца ад нашых водараў. Г-м, відавочны перабор.

А за шкляной сцяной чакальнай залы ўжо вымалявалася сігара нашага самалёта. Перад ім — аўтапад'ёмнік, з якога работнікі спецыяльнымі дошкамі спрабуюць счысціць снег з крылаў «Боінга».

Нашы месцы ў салоне — якраз насупраць правага крыла. І праз круглае акенца добра бачна: убраць наледзь не атрымліваецца. Аўтапад'ёмнік кудысьці ад'язджае і вяртаецца крыху пераабсталяваным — са спецыяльнага шланга крылы самалёта па чарзе абдаюцца невядомым вадкім саставам. Жаўтаватая вадкасць сцякае і па нашым ілюмінатары, але слядоў на шкле не застаецца. Ды і крылы блішчаць — як новыя.

У праходзе паміж крэсламі сноўдаюць сцюардэсы — «надёжные, как весь гражданский флот». Ага, прышпіляем рамяні. Цікава, чым гэтыя рамяні могуць дапамагчы, калі наша пасудзіна раптам уздумае выкінуць фортэль?

І камандзір карабля, і сцюардэсы, якія, дарэчы, усю дарогу працавалі «карабейнікамі», спрабуючы рэалізаваць (за грошы) сандвічы, напоі, зноў жа французскія парфумы і нават латэрэйныя білеты, размаўляюць або па-французску, або па-англійску. Што ж здзіўляцца — самалёт англійскай фірмы. Як раптам сярод бясконцых «*Dear passengers! Your attention is offered...*» ва ўзмацняльніках на чысцейшай рускай мове без найменшага акцэнту гучыць: «Кто может разменять 50 евро?» Ага, нашы людзі.

А самалёт ужо на ўзлётнай паласе. Дарогу скрозь ноч яму вызначаюць два рады агнёў. Усё мацней націскае на газ нябачны пілот, усё натужней гудуць маторы. І паскарэнне літаральна ўбівае ў крэсла. Імгненне, яшчэ адно. Мяккі штуршок — і самалёт нарэшце адрываецца ад зямлі. Пасажыры дзякуюць пілотам апладысментамі.

А з вушамі робіцца нешта неверагоднае, так што нельга пачуць нават уласны голас. Трэск, шум, неверагодны ціск. Размаўляць не варта нават спрабаваць. Застаецца толькі «ўмясцюрыцца» ў не асабліва камфортным крэсле і заснуць. І ўжо там, на мяжы паміж явай і сном, усплывае ўспамін з сягоння амаль нерэальнага дзяцінства: мы з мамай позна вечарам вяртаемся аднекуль дамоў. І, убачыўшы ў начным небе агні далёкага самалёта, я, моцна трымаючыся за маміну руку, кажу: «Калі я вырасту вялікай, я таксама палячу на самалёце».

Мамка! Я вырасла, я — лячу!

…Разбудзіла святло. Пакуль пасажыры драмалі, нарадзілася раніца. Не простая, як кожны дзень, а — там, за воблакамі. Тоўсты слой цяжкіх ад вільготнага снегу хмар, калі глядзець на яго зверху, падаецца свежаўзараным — увесь у баразнах. І над гэтым узнятым нябесным зяблівам самалёт не ляціць, а нерухома вісіць ў паветры. І ў адчуванні гэтай нерухомасці адмоўнае адценне.

Тое, што мы пачалі апускацца, першымі адчулі вушы — зноў трэск, шум, незразумелыя разрывы. А потым вочы — самалёт увайшоў у зону хмар, скрозь якія неўзабаве выглянула зямля. З'арыентавацца, зрэшты, мы не паспяваем: рэзкае зніжэнне, гоп — усё, мы селі. І зноў апладысменты ўдзячных пасажыраў.

Выходзім з «Боінга» стомленыя бяссоннай ноччу і перажытымі трывогамі, прыдаўленыя бясконцай зімой. А ў Францыі… Божа! Ды тут жа сапраўдная вясна! Вецер салодкі-салодкі. І пупышкі на дрэвах набухлі — вось-вось праклюнуцца. І «завушнічкі» бяроз — усе ў пылку. І першацвет расцвіў. Няпрошаны салёны камяк падкатвае пад горла, і, каб прыхаваць нечаканыя слёзы, даводзіцца адвярнуцца...

Мытны кантроль? Пашпартна-візавая рэгістрацыя? Я думала таксама. Але ж Еўрасаюз — агульная дзяржава. Мы проста выходзім з самалёта — адразу ў Францыю. Дакладней — у аэрапорт «Бавэ». І становімся у чаргу, каб набыць білет на аўтобус да Парыжа. Перад намі — не менш за 200 чалавек. Які аўтобус можа ўмясціць такі натоўп?! Ды мы да вечара не дабяромся да гэтага Парыжа!...

На асобнай пляцоўцы нас чакае мо з шэсць аўтобусаў. Пасадкай кіруе спецыяльны чалавек. Запоўніўшы пасажырамі чарговы транспартны сродак, ён у пуцёўцы вадзіцеля адзначае час ад'езду і зычыць добрай дарогі. А потым пачынае «засяляць» наступны. Натоўп з нашага самалёта ён размёў за 15 хвілін. Кінулася ў вочы, што і вадзіцелі, і пасадачны кантралёр — у белых кашулях і пад гальштукамі. Але раздумваць над гэтым няма калі — за вокнамі аўтобуса ўжо мільгаціць Францыя.

Раўнінная краіна. Прынамсі, на адлегласці паміж аэрапортам Бавэ і Парыжам. Навокал палі, зялёныя ад праросլай азімай збажыны. Ага, тэхналагічная каляіна пакінута не на кожным участку. А вось у рапсе яна — паўсюдна.

Два разы праязджаем праз сістэму нейкіх шлагбаумаў. Вадзіцелі легкавушак падаюць у акенцы грошы, аўтобусы рухаюцца бясплатна. Можа, гэта прыватная дарога, праезд па якой платны?

Паўтарагадзінны шлях патанае ў рэпліках кшталту: «Глянь, што гэта за кусты ў іх расцвілі? І трава на прыгрэве вылезла… А там удалечыні шпіль касцёла бачыш? Падобны да кляштара, у якім Канстанцыя з «Трох мушкецёраў» хавалася….»

А потым з’явіўся Парыж. І адразу стаў — як пад дых. Нават не ведаю, чаму. Мне даводзілася бываць і ў Пецярбургу, і ў Маскве, і ў Кіеве, і ў Будапешце, і ў Варшаве, і ў Рызе — усюды прыгожа, цудоўна, свае непаўторныя моманты. А тут — як пад дых…

У абрысах невядомых дрэў (можа, платаны?), якімі абсаджаны ўскраінныя вуліцы Парыжа, чытаецца нейкі трагізм — настолькі рэзкія зломы ў іх галін, а крона за зіму так і не змагла пазбавіцца ад мінулагодняга сухога лісця. І скура (не кара, а менавіта скура) у гэтых дрэў незвычайна гладкая, хваравіта-плямістая — здаецца, дакранешся да яе — і дрэва заплача ад болю.

Дамы ўсе прыкладна аднолькавай вышыні — не вышэйшыя за пяць паверхаў і аднолькавага светла-шэрага колеру. Скрозь каваныя карункі балконных агароджаў выглядае буйства кветкавай зеляніны. У спецыяльных кадках растуць на балконах дрэвы: сосны, пальмы, яшчэ нейкія ліставыя, якія пакуль без лісця.

Субота. 11 гадзін дня. На вуліцах людзей няшмат — галоўным чынам сабачнікі, якія выгульваюць сваіх гадаванцаў.

У аўтобусаў, якія працуюць на маршруце Парыж — аэрапорт «Бавэ», свой канчатковы прыпынак: яны высаджваюць пасажыраў у пачатку горада. І «адз’ё, мадам!» У бліжэйшай крамцы набываем карту Парыжа. «Нам трэба вось сюды», — Паўліна, малодшая пляменніца, тыцкае алоўкам у нейкую кропку на карце. Яна ж з той простай прычыны, што вывучае французскую мову ў школе, уступае ў перамовы з прахожымі. Паколькі пераважная большасць — гэткія ж турысты, як і мы, справа амаль не зрушваецца з месца. Трэба спусціцца ў падземку — там агледзімся, вырашаем мы. І, як біблейскія вяшчуны на зорку, арыентуемся на надпіс «метро».

А ў французскім метро — 14 ліній. Паспрабуй разабрацца. Нарэшце мы вызначаемся. Застаецца набыць жэтоны. А дзе прывычныя касы? Замест іх — аўтаматы, у якія трэба кідаць металічныя еўра або разлічвацца пластыкавымі карткамі. Ні першага, ні другога ў нас няма. У разгубленасці мы доўга ідзём па бясконцых падземных калідорах і натыкаемся на турнікеты. Перад імі знаходзім касу. Кошт білета — 1 еўра. Ого!

З безбілетнікамі французы змагаюцца па-свойму. Кожны праход абсталяваны дзвярыма: можаш пралазіць пад турнікетам, усё роўна ўпрэшся ў дзверы і бясслаўна вернешся назад. Хаця прыстасоўваюцца — не дурнейшыя за нас. На нашых вачах дарослы чорны, прайшоўшы ў метро, прытрымлівае за сабой дзверы, і яго маленькі спадарожнік, праслізнуўшы пад металічнай агародкай, прабіраецца ўслед за ім без перашкод.

Мы ўваходзім на законнай аснове. І на першым жа павароце нас сустракае… песня. Восем мужчын у цёплых куртках і норкавых шапках граюць хто — на трубе, хто — на акардэоне, адзін — на барабанах. А саліст выводзіць: «Ехал на ярмарку ухарь-купец…» Ага, зноў нашы людзі.

З перасадкай мы дабіраемся да сваёй станцыі — «Барб’е—Нешта-там». Выходзім наверх і слупянеем. Вакол нас — жывая Афрыка. Твары чорныя, карычневыя, сінія… Крык. Блышыны рынак. Нехта спрабуе ўпіхнуць нам цыгарэты, іншы ледзь не сілай дае нейкія лісткі з надрукаваным тэкстам. Побач кампанія на павышаных танах высвятляе адносіны…

З цяжкасцю (і не без апаскі) праціскваемся праз чорны натоўп. «Вось так Еўропа разлічваецца за нежаданне самім чысціць свае туалеты», — кажа Люда.

Зарэзерваваны ў гатэлі нумар аказваецца хоць і невялічкім (шукалі ж танны варыянт), але ўтульным пакойчыкам на трэцім паверсе з усімі неабходнымі выгодамі. Кідаем рэчы, хутка перакусваем астравецка-швенчонска-віленскімі прысмакамі і ідзём у горад. Ідзём у Парыж.

***Парыж***

Ён бярэ цябе ў палон неяк адразу. З першага кроку. З першага ўдыху яго паветра. Звычайны еўрапейскі горад. Немагчымы, неверагодны, вар’яцкі горад. Напалову — сон, напалову — ява. З фантастычна-ажурнай архітэктурай. З усімі гэтымі атлантамі-амурамі-карыятыдамі. З трохкутнікамі дамоў, якімі пачынаецца кожнае скрыжаванне. З суцэльнай сеткай кавярняў і кавярнячак.

У адну з іх мы заходзім. Што будзем браць да кавы? Ну што тут думаць! Канечне ж, французскія круасаны. Г-м-м… Вось ён, аказваецца, які смак у сапраўдных! Не булачкі — песня. Хаця калі 80 еўрацэнтаў (кошт аднаго круасана) перамножыць па курсу абмену валюты на чатыры… Што ж, нашы гермесаўскія таксама някепскія.

Потым некалькі гадзін мы проста гуляем па горадзе. Любуемся архітэктурай. Тут я мушу прызнацца, што здаўна нашу ў сабе адну палымяную страсць: я люблю старыя дзверы. Знаходжу іх у кожным горадзе, дзе даводзіцца пабываць, і вітаюся, як з людзьмі, — за ручку. У Вільні іх у мяне — цэлае суквецце. А ў Парыжы, аказваецца, што ні дом, то не дзверы, а твор мастацтва. А калі паспрабаваць уявіць сабе, хто трымаўся за іх каваныя ручкі… Бальзак? Мапасан? Прынц Кандэ? А можа, мадам Пампадур ці хто-небудзь з Людовікаў? Гісторыя выглядвае ў Парыжы з кожнай загагулінкі яе неверагоднай архітэктуры.

Зрэшты, не будынкамі адзінымі… Парыжанкі. Жыхаркі сусветнага цэнтра моды. Як жа яны апранаюцца? Аказалася, вельмі па-рознаму. Найчасцей — вельмі звычайна. Гэтак жа, як мы з вамі. З той розніцай, што абыякава ставяцца да панчошна-шкарпэтачных вырабаў.

На свае вушы давялося чуць, як у адным з тэлеінтэрв'ю расійскі куцюр'е Зайцаў расказваў, што парыжанкі носяць панчохі нават летам. Летам — не буду казаць, не ведаю. А зімой гэтую дэталь туалета многія з іх чамусьці ігнаруюць. Ідзе па горадзе прыгажуня ў кароценькім натуральным футры і ў туфельках-лодачках. А ногі голыя, сіняватыя ад холаду. Большасць жанчын у штанах і абутыя таксама на босую нагу. Нават пажылыя.

Ну, і — шатландцы… Хлопцаў у кілтах (у кароткіх, вышэй за калена клятчастых спадніцах у складкі) суботнім надвячоркам мы спаткалі чамусьці нямала. На нагах — гамашы і гольфы, з-пад спадніц падчас хады выглядваюць голыя лыткі. Кажуць, сапраўдныя шатландцы пад кілтамі не прызнаюць нават ніжняй бялізны. Цікава, а калі ўздымецца вецер?

Калі Парыж пачынае запальваць агні, мы спускаемся ў метро і едзем у цэнтр. Мы даспелі да знаёмства са славутымі месцамі.

Ідзём наўздагад. Прыходзім да сабора святога Себасцьяна. Велічны храм. Класічная готыка. Люда ў захапленні ад вітражоў — ад іх дасканалага вымалёўвання. Мяне больш уражваюць фрэскі — цьмяныя, напалову сцертыя, вельмі старыя. Кідаем у скарбонку еўрык і запальваем свечку — сёння 40 дзён з дня трагічнай смерці нашай сяброўкі…

А вуліцы ўжо поўняцца народам — бліжэй да ночы парыжане пакідаюць свае дамы. Сядзяць у кавярнях, гуляюць па горадзе, катаюцца на баржах па асветленай Сене. Сена — рака нервовая. Уражанне: быццам яе плынь кідаецца ва ўсіх накірунках адразу. Можа, таму, што з абодвух бакоў наглуха закаваная ў бетон. А можа, ад захаплення прыгажосцю незлічоных мастоў, якія навіслі над ёй святочнымі гірляндамі.

Якраз на адным з іх нас даганяе СМС-ка ад сябра з Клюшчан: «Эй, вы там, у Парыжы! Плюньце ад мяне ў Сену».

Канечне, сімвалічна, але ўсё ж плюем — сяброў трэба паважаць.

Ідзём далей і прыходзім… Божа мой! Ды гэта ж сабор Парыжскай Божай Маці.

***Сабор Парыжскай Божай Маці***

Дакладней, яго мы спачатку чуем: пявучая пераклічка званоў нябачнага храма заклікае вернікаў на вячэрнюю літургію. Ідзём у накірунку яе мелодыі і выходзім да жытла Парыжскай Дзевы Марыі.

…Яго і будынкам назваць цяжка. Апагей архітэктурнай карункавасці. Уражанне не проста лёгкасці — палёту, да якога даўно паспелі прывыкнуць святыя з яго франтона. А вунь той балкон, па якім прабягалі лёгкія ножкі Эсмеральды, — яго цёмныя закуткі яшчэ памятаюць шаленства страсці няшчаснага званара Квазімоды...

Чамусьці мне ўяўлялася, што Сабор Парыжскай Божай Маці — музей. А насамрэч гэта каталіцкі касцёл, які працуе і дзе толькі што распачалася імша. Вядома, па-французску. Але ж ход літургіі нязменны — і ў Астраўцы, і ў Парыжы. Таму мы ціхенька прысаджваемся.

Людзей на службе шмат, але анфілада лавак моцна выцягнутага ў даўжыню храма занята прыкладна напалову — гэта тыя, хто прыйшоў памаліцца. А густы натоўп па перыметры сцен — турысты. Зачараваныя велічнасцю сабора і адначасова расчараваныя забаронай фатаграфаваць тут. Час ад часу то ў адным, то ў другім баку храма фотаўспышка ўсё ж бліскае, але ля нешчаслівага фатографа адразу ж, як з-пад зямлі, з'яўляецца касцельны служка…

Але што гэта я — прыйшла на імшу разглядаць?! Тым больш, перад алтаром ужо пачынаецца абрад «паднашэння». Што ў гэты час гаворыць наш ксёндз? «…Ламаў і раздаваў сваім вучням, кажучы: «Бярыце і ешце — гэта Цела Маё, якое будзе выдана дзеля адкуплення…» Але сярод вернікаў шмат чорнаскурых людзей! Асіміляваліся… Прынялі хрысціянства… Забыліся на свае паганства… Ці яны мусульмане?.. Ох, Божачка! Даруй мне пустыя думкі! Дапамажы засяродзіцца на святой імшы…

Божачка дапамагае, і мне нарэшце ўдаецца заглыбіцца ў дзейства. І калі надыходзіць час агульнага «Ойча наш», я разам з усімі падымаю рукі ўверх і ціхенька шапчу малітву па-беларуску. А праз некалькі хвілін гэтыя ж рукі — чорныя, белыя, жоўтыя — у жаданні перадаць знак супакою пацягнуцца да мяне. І мае далоні раскрываюцца ім насустрач.

Гэтыя поціскі рук абсалютна чужых людзей…

Не, людзей самых родных — землякоў па планеце! Яны нейкім чынам ачышчаюць, змываюць з мяне непатрэбнае, непрыгожае, злое… І са словамі «Айцец нябесны! Прабач мне мае правіны, як я прабачаю маім вінаватым» я ўліваюся ў адну з ручаінак, што цякуць у кірунку да святароў. Камунію ў Саборы Парыжскай Божай Маці святары кладуць табе ў далоні, і да ўласных вуснаў Божае Цела ты падносіш сам…

Імша закончылася. І пастары, развітаўшыся з Богам і паствай, сыходзяць. А эпіцэнтрам храма раптам становяцца хоры — магутнейшыя гукі аргана на аскепкі разбіваюць шматвяковую цішыню, настоеную на мільярдах людскіх «даруй» і «дапамажы». Гэта арганіст, якога больш не стрымліваюць строгія межы літургійнага дзейства, дзякуе Богу неверагоднай сілы акордамі незнаёмай мелодыі.

***«На чай» па-астравецку***

А на плошчы перад Палацам правасуддзя (ён фігуруе амаль у кожным французскім дэтэктыве) пеняцца фантаны. Круцяцца бліскучыя ад лаку конікі дзіцячай каруселі. І на адкрытым катку выпісваюць крохкія крэндзелі аматары штучнага лёду.

Вячэрні Парыж ззяе мірыядамі агнёў. На вуліцах цесна ад гуляючых — уліваемся ў іх натоўп і проста няспешна брыдзём — успрымаючы, удыхваючы, наталяючыся. Калі ўражанні і стома дасягаюць кульмінацыі, мы вырашаем перадыхнуць у кавярні. І не паспяваем прыпыніцца ля ўвахода ў першую ж стрэчную, як з яе дзвярэй выскоквае афіцыянт: «Сіль ву пле, мадам!»…

Забягаючы наперад… У якую б кавярню мы ні заходзілі пасля, там працавалі адны мужчыны — і афіцыянтамі, і паварамі, і барменамі. У адным толькі рэстаранчыку нас абслугоўвала сярэдніх гадоў жанчына — вельмі хутка высветлілася, што яна азербайджанка, якая выйшла замуж за француза…

У мяккія фатэлі кавярні мы літаральна правальваемся. Прыгажун гарсон прапаноўвае меню. Гартаем. Кітайская грамата. Мне — каву капучына. І мне. А мне — бакал піва.

Каву прыносяць у паўлітровай філіжанцы. Смачная, канечне, але не ў такіх жа аб'ёмах! Дапіваем з цяжкасцю. Рахунак, калі ласка. Ого! За кожнае капучына — па 8 еўра! А за бакал піва — нават 9,5! Ды за такія грошы ў астравецкай «Вясёлцы» цэлы вечар прасядзець можна — з двума «гарачымі».

Дробных еўрыкаў не хапае — кладу ў кніжачку з рахункам пяцідзесяціеўравую банкноту. Гарсон падае здачу ў сподачку. Старанна пералічваю непрывычныя паперкі — усё правільна. «Трэба даць «на чай», — шэптам падказвае мне Люда. А чаму, уласна гаворачы, шэптам? Мы ў такой сітуацыі, што можам дазволіць сабе ў поўны голас выказваць свае нават самыя парадаксальныя думкі, — парырую я і каралеўскім жэстам кладу на сподачак 50 цэнтаў. Ад маёй «шчодрасці» гарсон на імгненне слупянее, але прафесійная выпраўка сказваецца: «Мерсі… баку», — з яўна празмернай удзячнасцю афіцыянт забірае цэнты разам са сподачкам і рэціруецца.

Ужо на вуліцы чырвоная ад сораму сястра тлумачыць мне: правілы «добрага тону» прадпісваюць даваць «на чай» 10 працэнтаў ад кошту заказу. Значыць, я павінна была заплаціць яму ажно 3 еўра? Мала, што за кубак кавы прыйшлося аддаць 32 тысячы беларускіх рублікаў, дык яшчэ і на чай трэба было пакласці 12 тысяч?

Ну ўжо не! Не дачакаецеся, гарсоны! Я — з Астраўца.

У нас — свае тарыфы.

***Ля Лювр***

У Луўр мы пайшлі з самай раніцы ў нядзелю. Амаль насупраць нашага гатэля на сцяне аднаго з будынкаў вісяць указальнікі: у Луўр, да Бастыліі, на Манмартр… З пазначэннем на стрэлках прыкладнага часу, за які з гэтага месца можна дабрацца да ўказанага аб'екта. Да Луўра, калі верыць надпісу, 30 хвілін пехатой.

На 31-ай мы вырашаем удакладніць курс руху ў прыгожай мулаткі, якая якраз уладкоўвае на заднім сядзенні свайго шыкоўнага аўтамабіля калыску з немаўлём. Нейкі час яна моўчкі ўзіраецца ў Люду, неразумеючы яе цвёрдага «Луўр». Потым разумее: «Ах, Лю-ю-ювр?», сядае за руль машыны і ўключае навігатар. Механічная цётачка дыктуе ёй дарогу, а мулатачка паўтарае нам яе словы.

На Люду можна прадаваць білеты: яна не разумее ні слова па-французску, але ківае галавой у такт кожнаму слову цёмнаскурай прыгажуні і ўрэшце адыходзіць ад яе з відавочным замілаваннем.

— Чаго гэта ты так пранікласся? — пытаемся мы. — Ці ты хоць слова зразумела з яе тлумачэнняў?

— Цярпімей трэба быць, таварышы! — з прыўзнятым тонам адказвае сястра. — Генеральны накірунак руху мы зразумелі па ўзмаху яе рукі. Астатняе — справа добрага выхавання. «Беларуса турыста — вобліка марале». Імідж краіны за мяжой залежыць і ад нас.

Што ж, як сапраўдныя «беларуса турыста», мы крочым шляхам, абазначаным рукой мулаткі. Хвілін праз 15 сястра не вытрымлівае і звяртаецца да пухленькай негрыцяначкі, першай прадстаўніцы французскай паліцыі, якую нам удалося сустрэць у Парыжы. «Лю-ю-ювр?» — мякка цягнучы літары, перапытвае яна. І ўжо без навігатара паказвае нам дарогу.

Праз пяць хвілін хады мы натыкаемся на чарговы ўказальнік і разумеем, што да Луўра нам засталося 50 метраў. Што вунь там за паваротам казка стане рэчаіснасцю. Мара — явай. Прачытанае ў кнігах, падгледжанае ў шматлікіх альбомах увасобіцца ў жыццё. І… сіл ісці далей не стае.

…У кожнай жыццёвай сітуацыі для нас, чалавекаў разумных (і не асабліва!), самае галоўнае — дарога, па якой мы да яе падыходзім (або па якой яе абыходзім?). Дарога ёсць мэта, як кажуць немцы. Ісці, ведаючы накірунак, ужо само па сабе шчасце. У дарозе мы расцём, мяняем скуру і перакананні, сустракаем сяброў і ворагаў, пазнаём свет і саміх сябе, знаходзім грошы, мудрасць, каханне… І страчваем усё: на разрыў, па-жывому, з пякельна-невыносным болем або непрыкметна — крок за крокам. Страцім зусім і толькі тады заўважым.

Усімі фібрамі душы мы гадамі імкнёмся да канцавога пункта нашага шляху, каб перад самымі дзвярыма ў разгубленасці спыніцца. Таму што дараслі да разумення: вось яшчэ крок, і адной марай у нас стане менш. Здавалася б, ну і што?! Здзейсненага затое прыбавіцца!

Але — не! З узростам уменне марыць губляецца. Як уменне лятаць ў сне. Вось толькі нядаўна мы, з асалодай перакрэсліўшы закон сусветнага прыцягнення, адрываліся ад зямлі і ў абдымках ветру пераможна луналі над светам, і раптам ночы сталі бяскрылымі. І кожны крок соннай рэальнасці пачаў давацца праз сілу…

Літаральна на парозе Луўра мы паварочваем у супрацьлеглы бок. Любуемся велічнай архітэктурай Нацыянальнага банка і фігурай конніка — перад яго фасадам. Заходзім у касцёл, наўмысна старанна разглядаем яго дэкарацыі. Фатаграфуем нейкія загагуліны яго архітэктурнага вырашэння.

Пакуль нехта з нас не вытрымлівае: «Ну, усё. Хопіць. Пайшлі ў Луўр».

Луўр вырашае адпомсціць за прамаруджванне і паварочваецца да нас тыльным бокам. Сустракае з «чорнага ўвахода». Хаця, калі разабрацца, самыя блізкія людзі трапляюць да нас якраз не праз парадныя дзверы. У парадныя ўваходзяць пачэсныя госці. Пачэсныя, але цалкам чужыя. Свае без цырымоній ідуць праз «чорны ўваход».

Для тых, хто збіраецца ў Парыж, адкрыю сакрэт (вядома, Полішынеля): у кожную першую нядзелю месяца ўваход у Луўр бясплатны. Таму, напэўна, чарга ў шкляную піраміду ў сярэдзіне яго двара ў гэты дзень складаецца з 400-500 чалавек. Але рухаецца яна даволі хутка — ледзь паспяваем вітацца са знакамітасцямі, якія назіраюць за намі з карнізаў палаца. Дэкарт… Мішэль Мантэнь (Прывітанне! Твае думкі блізкія мне! Я часта перачытваю «Вопыты»…) О! Ваша светласць кардынал Рышэльe! Дробныя рысы, па-лісінаму завостраны твар. Колькі інтрыг сплёў за сваё жыццё гэты чалавек з абсалютна непрыкметнай знешнасцю!...

Не пазней як праз паўгадзіны мы трапляем у піраміду, а потым праз сістэму эскалатараў — ва ўваходную залу.

Луўр — гэта крэпасць, збудаваная ў XII стагоддзі. Гэта палац, у якім жыло не адно пакаленне французскіх каралёў. Апошнія два стагоддзі Луўр — гэта музей, у якім сабрана больш за 400 тысяч экспанатаў.

…На свеце існуе нямала вялікіх музеяў. Некаторыя з іх, як Траццякоўка і Эрмітаж, знаходзяцца, так бы мовіць, у зоне дасягнення — дабрацца да іх пры жаданні можна было б даўно. Чамусьці мне хацелася ў Луўр. Заўсёды. Калі дванаццаць гадоў таму ў мяне з'явіўся інтэрнэт, першым сайтам, які я наведала, быў сайт Луўра….

Пахадзіць бы па яго залах хаця б з тыдзень! Паназіраць за гульнёй фарбаў, перахапіць зацікаўлены позірк якой-небудзь вакханкі з сярэдневяковай карціны, угадаць настрой мастака, што пісаў свой партрэт… А ў нас толькі дзень. Я б — у Рэнесанс… Мае спадарожніцы хочуць пабачыць па максімуму.

Старажытны Усход. Цывілізацыя егіпецкіх фараонаў. Цікава, але чамусьці не кранае. А вось зала антычнай скульптуры з самага ў яе ўваходу бярэ за горла і не адпускае — да самага выхаду. І нават пазней.

Тры тысячы гадоў назад жылі на зямлі правобразы гэтых мармуровых людзей. І ў нейкай ступені працягваюць жыць і сёння. У Афіны выраз твару сварлівы — як у гандляркі на рынку. А Венера Мілоская глядзіць на натоўп стомленымі вачыма — няпроста дваццаць пяць стагоддзяў вытрымліваць на ўласным непрыкрытым целе чужыя цікаўныя позіркі. Асабліва калі ў цябе няма нават рук, каб імі хоць зрэдку прыкрыцца.

Ну, і пра мужчын… Як не пазласловіць?! У большасці гэтых апалонаў адсутнічае, хм-м, прадмет мужчынскага гонару — ад былой раскошы засталіся толькі дзіркі. Зразумела, што гэта з-за няўдалай транспарціроўкі і неадпаведных умоў захавання. Але ўражанне: дагнала-такі купідонаў помста пакрыўджаных імі жанчын…

І ўсё ж сэрца Луўра без сумнення б'ецца ў бясконцых залах яго жывапісу.

Не верце Грышкаўцу (спектакль «Одновременно»), калі ён расказвае, як доўга шукаў Мону Лізу. Луўр яўна піярыць гэтую работу да Вінчы: па ўсяму музею развешаны ўказальнікі яе месцазнаходжання, дастаткова толькі ісці ў накірунку стрэлак.

Піяр ён і ў Францыі піяр — да «Джаконды» не прабіцца. Адзіная карціна, у суседстве з якой не развешаны іншыя. Адзіная — за спецыяльным куленепрабівальным шклом. Здзівіў адносна невялікі памер знакамітасці.

Цяжка зразумець, чаму свет прысвоіў метку «нумар 1» менавіта Джакондзе. Бязбровай жанчыне з усмешкай швачкі, якая прывыкла трымаць у вуснах шматлікія шпількі. Ёсць у яе твары нешта змяінае — з дзяцінства я пабойвалася гэтай карціны. І Луўр не змяніў нашых з ёй адносін.

Кранах, Брэйгель, Рафаэль, Рэмбрант, Дэлакруа, Давід… Большасць карцін гэтых (і незлічоных іншых!) знакамітых мастакоў даўно вядомая табе па рэпрадукцыях. Толькі адна справа — зносіны праз кавалак паперы, і зусім іншая — вочы ў вочы. Ад абсалютна жывой энергетыкі гэтых работ круціцца галава.

Але галоўнае спатканне яшчэ наперадзе. Сёння я прыйшла на рандэву да Караваджы. Мікеланджэла да Караваджа. Эмацыйны да шаленства, напружаны да апошняй грані, рэалістычны да пылу ў аксамітнай сукні яго «Гадалкі». А «Смерць Марыі» — ці не самая цёмная і трагічная карціна Луўра… Нездарма кляштар кармелітанак у свой час адмовіўся ад уласнага заказу, убачыўшы, што атрымалася ў мастака… Ад яго палоцен мяне адцягваюць мае спадарожніцы.

Пра Луўр, нават калі ты пабыў у ім на працягу жальбы вартых шасці гадзін, можна расказваць бясконца. І як тут не пашкадаваць, што працуеш не ў мастацкім часопісе?!

Дазволю сабе яшчэ толькі адну рэмарку. Там, у Луўры, прыйшло ўсведамленне: напісаць карціну не тое што лепшую, а хаця б на адным узроўні з мастакамі Рэнесанса сучасным мастакам не пад сілу.

Таму і нараджаюцца ўсялякія «сюры», «рэдзімэйды», «дрыпінгі» і іншае.

***Русалачкі***

Вочы яшчэ б глядзелі. Але ногі… «Вось яно, аказваецца, як адчувала сябе Русалачка пасля таго, як у яе не стала хваста!» — кажа Света, укладаючы ў свой бот чарговую кардонку. Непадалёк ад Луўра мы знаходзім кардонную скрыначку, разрываем яе на палосы, распіхваем іх па сваім абутку, каб аблегчыць пакуты, і кульгаем далей.

Ну, не ляжаць жа ў фатэлях, калі побач — Парыж…

***Вена***

Чым вядомая Вена чалавеку, які не тое што ў ёй не бываў, але паленаваўся нават «загугліць» назву?

Музычнасцю: Моцарт, Бетховен, Гайдн, Штраўс, дырыжор фон Караян...

Дунаем. Ракой, воды якой знітоўваюць паміж сабой добры дзясятак еўрапейскіх краін: «Дунай, Дунай! А ну, узнай…»

Габсбургамі — адной з самых магутных еўрапейскіх імператарскіх дынастый.

Кавай. Якая — па-венску.

Што ўбачыў у Вене чалавек (я), які трапіў у яе ўсяго на восем гадзін? Калі ўвогуле, то няшмат. І… некалькі эпох адразу.

Знаёмства з горадам пачалося, вядома ж, з плошчы Марыі-Тэрэзіі. Вось яна, аўстрыйская эрцгерцагіня, правіцельніца Свяшчэннай Рымскай імперыі, ці, як яе называлі сучаснікі, маці Еўропы, увасобленая ў бронзе, позіркам уладаркі паглядае на нас, тых, хто ўнізе.

Чаму маці Еўропы? Таму, што нарадзіла шаснаццаць дзяцей, каб пазней выкарыстаць іх у міжнароднай палітычнай гульні. Нібы проціпажарныя сродкі: узнікае ў Еўропе напружанасць, запахне парахавым дымком — Марыя-Тэрэзія спешна арганізоўвае шлюб кагосьці са сваіх нашчадкаў, і мір у Еўропе працягваецца, няхай сабе і хісткі. Двое яе сыноў сталі імператарамі, дачка Марыя-Антуанета — каралевай Францыі.

Дарэчы, пра Марыю-Антуанету, перадапошнюю, пятнаццатую дачку Марыі-Тэрэзіі: у 38-гадовым узросце яе жыццё скончылася на гільяціне.

…Раніцай перад смерцю палонная каралева апранула белую сукенку. У камеру прыйшоў кат і абстрыг яе раскошныя валасы: гэта быў яго трафей. Каралеву пасадзілі на брудны воз і павезлі па вуліцах Парыжа. Натоўп абразліва ўлюлюкаў ёй услед. Калі Марыю-Антуанету падвялі да плахі, яна неасцярожна наступіла на нагу ка́ту.

— Прабачце мне, пане, я незнарок.

Гэта былі апошнія словы французскай каралевы.

Ці даляцелі яны да неба? Ці пачула іх яе ўладалюбівая маці, якой у той час ўжо даўно не было на свеце?..

Але на доўгі роздум часу няма: гід трымае нашу групу ў тонусе.

Вось касцёл святога Стэфана. Уражанне: зроблены з карункаў. У ім браў шлюб Моцарт. І адпявалі яго таксама ў гэтым касцёле. Каб аднаго з самых геніяльных музыкантаў усіх часоў і народаў пахаваць потым у агульнай безыменнай магіле…

…Хофбург. Пакоі імператрыцы Елізаветы. Жанчыны, якую лічылі першай прыгажуняй Еўропы. Уласна кажучы, імператрыцай павінна была стаць яе сястра Хелена, якую многія гады рыхтавалі да гэтай місіі. Пятнаццацігадовую Сісі (так яе звалі ў сям'і) узялі ў вясельны абоз у якасці суправаджальніцы.

А далей пачалася казка: 23-гадовы імператар Франц Іосіф І убачыў юную прыгажуню і закахаўся. І аб'явіў: ажанюся з Сісі ці не ажанюся зусім!

Ах, як шчасліва білася сэрцайка прыгажуні! Ах, якімі горкімі былі слёзы расчаравання яе сястры Хелены!

Усведамленне, што яна трапіла ў залатую клетку, прыйшло вельмі хутка. Жыццё з імператарам не склалася. Ён яе кахаў, а яна, падобна, яго не выносіла. І імкнулася жыць у падарожжах — чым далей ад'язджала ад Вены, тым больш цёплымі былі яе лісты да мужа.

Загінула Сісі трагічна. На беразе Жэнеўскага возера ўдарам завостранага напільніка ў сэрца яе забіў італьянскі анархіст. Яшчэ пры яе жыцці самазабойствам скончыў сваё жыццё яе адзіны сын Рудольф. З-за адсутнасці прамых наследнікаў Франц Іосіф І сваім пераемнікам прызначыў старэйшага пляменніка Фердынанда. Зыходнай кропкай Першай сусветнай вайны стала забойства новага эрцгерцага і яго жонкі ў Сараеве.

І яшчэ… Хелена таксама выйшла замуж. Не за імператара, канечне. І была ў шлюбе шчаслівая. Настолькі, што неаднойчы дзякавала малодшай сястры за тое, што тая адвяла ад яе «залатую чашу»…

Уся мудрасць казак у тым, што яны заканчваюцца своечасова — вяселлем. Калі б у «Папялушкі» быў працяг — казка перарасла б у драму…

…У 1918 годзе ў Аўстрыі адбылася буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя, у выніку якой тагачасны імператар Карл І быў вымушаны падпісаць адпаведны ўказ аб адрачэнні ад трона. У якасці месца выгнання рэвалюцыянеры прапанавалі Габсбургам востраў Мадэйра, дзе Карл І неўзабаве памёр. Яго старэйшы сын Ота фон Габсбург, які доўгія дзесяцігоддзі лічыўся наследнікам імператарскага дома, памёр у 2011 годзе, крыху не дажыўшы да свайго стагоддзя. Перш чым

у 1988 годзе дазволіць яму ўпершыню наведаць Аўстрыю (і Венскі палац), тагачасны ўрад прымусіў Ота падпісаць паўторнае, ужо ад свайго імя, адрачэнне ад трона. Сёння наследнікам дома Габсбургаў з'яўляецца яго сын Карл. Ён жыве ў Венгрыі і працуе старшынёй венгерскага Чырвонага Крыжа.

Экскурсія закончылася. Кожнаму з групы далі мапу горада і прызначылі час ад'езду. Мае спадарожнікі дружна рынуліся ў кавярню — каштаваць славутую каву па-венску. Можна было б, канечне, але ў Музеі гісторыі мастацтва (я ўжо высветліла) ёсць карціны Караваджы…

Ну пра якую каву можа ісці размова?!

Так, куды кіравацца? Хвіліну-другую спрабую разабрацца ў хітрасплячэннях карты — дарэмныя высілкі! Кладу брашурку на бетонны выступ агароджы і іду наўздагад — у незнаёмым горадзе не заблукаеш!

Аўстрыйцы — гасцінныя людзі: у адказ на мае кодавыя словы «пляц Марыі-Тэрэзіі» яны ўзмахам рукі малююць траекторыю шляху. Вось так «ад вянка да вянка» пад дажджом, які прыпускае ўсё мацней, дабягаю да меднай імператрыцы. Стоп! Тут, здаецца, направа… Ага, чарга да касы. Станаўлюся. 14 еўра. Квіток заціскаю ў вуснах, на хаду здымаючы куртку, заходжу у галерэю…

Першымі мяне сустракаюць Габсбургі. О, гэтая «фірменная» цяжкая сківіца, прыкметна высунутая наперад! Пыхліва-велічны позірк. Па праўдзе кажучы, яны мяне не асабліва цікавяць, але з павагі да самай магутнай у Еўропе (хоць і былой) імператарскай дынастыі прыпыняюся. Зрэшты, ненадоўга…

А далей пачынаецца ўласна баль. Неверагодны калейдаскоп майстроў і іх работ.

Божа мой! Мне б хоць крыху адукацыі. Каб не ўспрымаць усё гэта сэрцам. Каб разглядаць з халоднай уважлівасцю знаўцы: тут вось мастак напартачыў з ценем, а тут не хапіла школы… Мне б хоць азы мастацкай адукацыі, каб я ведала, што Венскі музей па багацці калекцыі лічыцца чацвёртым у свеце.

Для мяне ён стаў першым. Уразіў мацней, чым Эрмітаж. Глыбей, чым Луўр. Не кажу ўжо пра Дрэздэн.

Немагчымае суквецце? Кранах, Ван Дэйк, Тынтарэта, Фецці, Тыцыян, Рэмбрант, Веранезе… І ў кожнага не па адной карціне — цэлыя залы. Вось Веласкес і яго інфанта — пяць работ, на якіх дзяўчынка паступова расце. Аднекуль выплывае: Веласкес быў прыдворным мастаком іспанскага караля; кароль (а значыць, аўтаматычна — і яго світа!) ставіўся да яго паблажліва; вакол інфанты шмат паслужлівай чэлядзі, але ў Іх вялікасці бацькоў няшмат часу знаходзіцца для дачушкі; у нейкай ступені Веласкес, якому дзяўчынка пастаянна пазіруе, замяняе ёй бацьку; мастак любіць інфанту, як роднае дзіця… Здаецца, яна памерла, так і не стаўшы дарослай. Ці я нешта блытаю?..

А гэта Рубенс. Некалькі залаў Рубенса, больш за трыццаць яго работ. Самая знакамітая для мяне — «Партрэт Алены Фоўрмент» (той самы, у футры на голае цела). У Дрэздэнскай галерэі таксама шмат Рубенса, але ў Вене ён іншы — куды больш далікатны і тонкі. Тут не ўбачыш вакханаліі сцёгнаў: на першы план выходзіць драматызм, як у «Аплакванні Хрыста» і «Цудзе св. Францыска». Або лёгкі гумар, як у «Свяце Венеры», дзе сярод мноства персанажаў зусім няцяжка пазнаць Алену Фоўрмент, жонку мастака, якую спрабуе спакусіць нейкі фаўн, а яна весела адбіваецца ад рагатага спакусніка…

Караваджа… Ды ведаю я, ведаю: ён быў беспрынцыповы. Забіў не аднаго чалавека. Неабавязкова на дуэлі. Зафіксаваны выпадак, калі Мікеланджэла Караваджа нанёс смяротны ўдар чалавеку ззаду — са спіны. Ён лёгка мог скрасці грошы…

Ну і што?! Караваджа памёр у 1610 годзе. І суддзя яго дзеянням — Бог. А вось суддзі пакінутым ім работам — мы. Хоць, калі па праўдзе, і не суддзі зусім — прыхільнікі і знатакі. Тое, што Караваджа робіць са святлом, неверагодна. І кожная постаць яго работ дыхае, думае, кахае або

ненавідзіць… У музеі пяць работ Мікеланджэлы Караваджы, і кожная не адпускае. Пакідаю залу, каб праз нейкі час вярнуцца. І яшчэ раз. І яшчэ. Раблю здымкі (тут гэта не забараняецца). На карціне чатыры добра выпісаныя (хіба ў Караваджы можа быць інакш?) твары, але мой фотаапарат пазнае, як жывога, бярэ ў рамку толькі адзін твар — Хрыста. Вось хто растлумачыць, чаму?..

«Сусана і старцы» Тынтарэты. Цела Сусаны выпісана так, што праменіць святлом, з якога ракурсу ні глядзі на карціну. Нібы недзе ўнутры пышнай спакуслівай фігуры прыхавана падсветка…

Ад шматлікіх партрэтных работ галава кружыцца: твары людзей, якія жылі ў сямнаццатым стагоддзі, настолькі сучасныя і такія жывыя, што становіцца нядобра…

Нарэшце — апошняя зала. Стоп! Вось тут, у бакавой, я яшчэ не была. Ух ты! Джузепе Арчымбальда (1527—1593). А сюррэалізм такога ўзроўню, што сучасныя майстры нервова паляць у кутку…

Нарэшце выходжу. Стомленая да галавакружэння. Ёсць яшчэ кунсткамера. І скульптурны аддзел. Не, не маю сілы. Зазірну яшчэ хіба што на выставу работ Фабержэ.

Фатаграфаваць забаронена — жэстам папярэджвае мяне наглядальнік. Я і не збіраюся. Усе гэтыя сапфіры, дыяменты, ізумруды асляпляюць сваімі бляскам і прыгажосцю, але сэрца маё засталося ў карціннай галерэі…

А куды вядзе пераход з гэтай залы? Божа! Ды свяціцца імя тваё! Я магла яе прапусціць… Зала Брэйгеляў — Яна і абодвух Пітэраў. Аказваецца, знакамітыя «Зімовае паляванне» і «Зімовы пейзаж» захоўваюцца ў Вене. І «Вавілонская вежа». І…

Выходжу з галерэі за дзесяць хвілін да адпраўлення аўтобуса. Балазе, стаянка побач. Іду амаль на аўтапілоце, не ў стане ідэнтыфікаваць, дзе рэчаіснасць, а дзе працяг убачанага. Моцна круціцца галава. Эмоцыі распіраюць настолькі, што я баюся сарвацца на істэрыку…

Потым яшчэ будзе Прага. Не горад — сімфонія ў камені. Падарожжа па Влтаве на цеплаходзіку, на якім не так даўно прагульвалася місіс Клінтан. І феерычныя «Спяваючыя фантаны». І сапраўднае жывое піва на піўзаводзе. І вар'яцкі пах квітнеючых азалій і рададэндрана ў Карлавых Варах. І мінеральныя воды… І шмат чаго іншага.

Усё неймаверна цікавае і прыгожае, але нейкае, не ведаю, — другаснае, ці што.

Прынамсі, тарнада эмоцый, перажытых у Венскім музеі, выклікаць яно не змагло…

***Лейпцыг***

У Лейпцыгу на Рыначнай плошчы (ці непадалёк ад яе?) ёсць помнік Іагану Вольфгангу Гётэ. Помнік як помнік — бронзавы паэт з крыху незадаволеным выразам твару назірае за мітуснёй сучаснага горада з вышыні прамавугольнага пастамента.

А вось сам пастамент не зусім звычайны: з абодвух бакоў яго ўпрыгожваюць два барэльефы. На іх — дзве жанчыны. У той, якая справа, затуманены позірк: паглыбленая ўнутр сябе, яна хоць і глядзіць на свет, але свету не бачыць. Яе твар падкрэслена статычны, застылы. А ў той, што злева, вочкі жывыя, тварык, канечне, прасцейшы, чым у яе візаві, затое без прэтэнзій — яна валодае талентам прымаць свет такім, які ён ёсць, — без паправак…

— Гётэ вучыўся ў Лейпцыгскім універсітэце, — тлумачыць гід. — На юрыдычным факультэце. І, паводле шматлікіх сведчанняў яго сучаснікаў, у пачуццях быў празмерным чалавекам. Запальваўся — літаральна з першага позірку на чарговы «прадмет» і тут жа кідаўся ў атаку.

Тонкае адчуванне жаночай душы (паэт жа!), неверагодны напор… Прадстаўніцы цудоўнай паловы чалавецтва капітуліравалі вельмі хутка. Першай у «лейпцыгскім спіску» была якраз гэтая дзяўчына справа. Дачка з багатай і радавітай сям'і, яна не магла сабе нават уявіць, што высокімі пачуццямі можна манкіраваць, — паверыла і адкрыта адказала ўзаемнасцю. І калі неўзабаве Гётэ «згас», засталася не проста з разбітым сэрцам, але і з безнадзейна сапсаванай рэпутацыяй. Выйсці замуж яна так і не змагла…

— Гётэ — сусветна вядомы паэт. Класік, — крыху памаўчаўшы, дадае экскурсавод. — Яго творчасць шырока вывучаецца. Асабліва ў нас, у Германіі. Падчас вучобы ў каледжы настаўніца папрасіла нас напісаць сачыненне па творчасці Гётэ. І калі раздавала ўжо правераныя сшыткі, раптам сказала: «Гётэ — геніяльны паэт, але чалавек ён быў — свалачны. Ён зруйнаваў столькі дзявочых лёсаў, што ніякімі вершамі гэта не выправіш».

Наша экскурсія ўжо пераходзіла да наступнага «аб'екта агляду», але я не вытрымала:

— А гэтая дзяўчына злева… Хто яна такая? Яшчэ адна ахвяра?

— Гэта апошняе лейпцыгскае каханне паэта. Дачка гаспадара невялічкага шынка разумела, што з высакародным паэтам у яе не можа быць нічога сур'ёзнага, таму і не прыняла заляцанні. Усе яго спробы спакусіць прыгажуню натыкаліся на яе ветліва-раўнадушную ўсмешку. Гётэ, упершыню сустрэўшы адмову, ледзь не з'ехаў з глузду ад такой абразы. Праклінаючы каменныя сэрцы гараджан, паэт у паніцы пакінуў Лейпцыг…

***Вільня***

На ўскрайку Лукішскага скверыка бамжаватага выгляду мужчына корпаецца ў кантэйнерах са смеццем. Не знайшоўшы нічога вартага, разварочваецца і шпаркім крокам занятага важнай справай чалавека ідзе ў накірунку, хутчэй за ўсё, іншай сметніцы.

А ў цэнтры сквера — дамок з капітальным дахам і сценамі з жалезнай сеткі. Гэта кармушка для птушак: скрозь яе буйныя «соты» яны залятаюць унутр дамка і набіваюць свае валлячкі шчодра насыпанымі там крупамі. Звонку, з двух бакоў кармушкі падвешаны два велькія (мо па паўкіло кожны!) кавалкі сала. Ружовага, марозістага. Працягні руку — і два дні сыты…

Бамжаватага выгляду мужчына, слізгануўшы вокам па апетытнай скварцы, не затрымліваецца, ідзе далей. Салідарнасць бяздомных?

…Чамусьці нам, «домным», непараўнальна больш прыемна падкармліваць птушак. Маўляў, у сваіх бедах бамжы вінаватыя самі…

***Віцебск***

Віцебск — горад Шагала. Над макаўкамі яго сабораў вочы міжволі спрабуюць намацаць палёт каляровых закаханых. Або хоць старога габрэя. Але ад крывых вулак і несамавітых дамоў, якія мастак зрабіў бессмяротнымі, засталося няшмат — Віцебск патанае ў сучаснасці. І назвы сваім крамам і кінатэатрам горад выбірае не без прэтэнзій: «Галівуд», «Еўропа»…

Амаль пасярэдзіне яго раздзяляе (а можа, знітоўвае?) на дзве паловы Дзвіна — рака, характар якой адчуць не атрымоўваецца. Ні шалёнай хуткаплыннасці нашага Нёмана, ні кідання ва ўсе бакі адначасова закаванай у бетон Сены… Дзвіна свой нораў хавае. Магчыма, толькі ад чужынцаў. Яе крутыя берагі пакрыты анфіладамі лесвіц — новых, з іголачкі, вельмі прыгожых.

На плошчы (ну як жа без талісмана?!) чакае жадаючых ажыццявіць свае мары прастадушны дзядок — трэба ўхапіцца за яго бронзавы нос, адшліфаваны да бляску тысячамі рук, і загадаць тры жаданні.

Здавалася б, усё так проста — жаданняў жа процьма! Але якія з іх самыя-самыя? Не паўтарыць бы лёс вядомай здабытчыцы чароўнай «кветкі-сямікветкі»… І потым… Пры ўсім багацці нашага ўяўлення, якое прадукуе мары з зайздросна вартым пастаянствам, колькім з іх мы сапраўды гатовы падарыць «уцелаўленне»?

Якой цяжкай часам (і часта) бывае дарога да мары, і колькі ўнутранага спусташэння прыносіць яе ажыццяўленне… Крутую іншамарку? Ну, купіў, месяц парадаваўся, а далей што? Усё, як звычай-

на: пачынай рамантаваць… Прынца на белым кані? Калі ласка! Усё пры ім: і конь, і каралеўскі камзол. А ў галаве пуста, і выпіць — не дурань…

За нос дзядка я ўсё ж хапаюся і абагульнена прашу шчасця. Маўляў, стары сам разбярэцца, што мне патрэбна. Калі ўжо я сама не наважваюся.

Хаця з іншага боку… Не атрымалася б, як у Стругацкіх. Рызыкуючы, чалавек прабіраецца ў сэрца «зоны», каб папрасіць здароўя смяротна хвораму брату (здаецца — магу памыляцца, даўно не перачытвала), вяртаецца дадому, а там на яго звальваюцца… грошы. «Зона» счытала з падкоркі тое, у чым чалавек не рашаўся сабе прызнацца…

Пакуль грошы на мяне не пасыпаліся… Затое сёння інтэрнэт нечакана падкінуў цікавую інфармацыю, пасля асэнсавання якой вось майго светаадчування крыху зрушылася…

***

У парку мы знаёмімся з дзецьмі. Брат і сястрычка. Са Смаленска. Разам з бацькамі яны часта прыязджаюць у Віцебск.

— У вас тут усё такое таннае! — з захапленнем гавораць дзеці. — Мы купляем усё патрэбнае. А яшчэ ходзім у кіно. На 5D. У вас яно каштуе так мала!

Што такое 5D, сяброўка ведае, а я — не. Дзеці з гатоўнасцю дзеляцца ўражаннямі і нават прапануюць нам лепшыя, на іх погляд, фільмы.

— Хадзем, — безапеляцыйна гаворыць Таня, і мы крочым у вядомым ёй накірунку.

Уладальнікі ацэньваюць сваё шоу ў 15 тысяч. Нас праводзяць у залу, усаджваюць у спецыяльныя крэслы і выдаюць акуляры. На развітанне служачая раіць нам у асабліва страшных месцах заплюшчваць вочы.

Гасне святло. Паехалі. Прычым у літаральным сэнсе, таму што крэсла задрыжэла, як наравісты рысак. Мой першы ж позірк на экран стаў апошнім у гэтым кінапаходзе. Эфект «усмоктвання» ў дзеянне аказаўся такім гвалтоўна моцным, што на другой секундзе фільма я заплюшчваю вочы і, моцна ўхапіўшыся за падлакотнікі крэсла, якое разбушавалася, адлічваю пра сябе час. Вецер б'е па каленях, варушыць валасы…

— Ну, як табе 5D? — пытаецца Таня ўжо на вуліцы. Я чэсна прызнаюся: не бачыла. Таня смяецца, бо на працягу трохxвілiннага сюжэта яна заплюшчыла вочы толькі двойчы…

***

Разам з намі па вуліцах горада ходзіць Рэпер Лі — Танін сабака мудрагелістай пароды «кітайская хахлатая». Выгляд у яго незвычайны. Рэпер Лі хутчэй падобны да мульцяшнага Канька-гарбунка, чым да сабакі. Наша падарожжа суправаджае шэпт усеагульнага замілавання: паглядзіце, які прыгожы сабачка! Інтэлігенты, хатнія гаспадыні, нават бамжаватага выгляду мужчыны ў захапленні ад Рэпера. Наглядчыца выстаўкі жывапісу ўслед за намі пераходзіць з залы ў залу — любуецца «необычно милым песиком»…

— Заўтра ты застанешся дома, — кажа Таня сабаку. — Ты зацямніў нас канчаткова.

***

Віцебск — горад паветра. Пагоркі, на якіх ён ляжыць, рассоўваюць перспектыву, падкрэсліваюць прысутнасць неба ў нашым жыцці. Сцены горада не пераважаюць над чалавекам — хутчэй падтрымліваюць, дапамагаюць.

***

На паліцах шматлікіх віцебскіх крамаў мяса няма. Яго месца ў вітрынах займаюць вялізныя скруткі свіной скуры. І косткі, мяса з якіх акуратна абрэзана. Адсутнічаюць вэнджаныя і вяленыя каўбасы — ёсць толькі вараныя. Усё лепшае ледзь не оптам скупляецца грамадзянамі прыгранічных раёнаў Расіі, якім сённяшняя наша сітуацыя — на карысць. Расіян вельмі лёгка вылічыць у натоўпе — па звязках кардонных скрынак з надпісамі «Марко» і «Белвест», па вялізных торбах з прадуктамі…

***

Кватэра Тані на сёмым паверсе.

Сёмае неба… І з балкона горад — як на далоні. Ноччу ён зіхаціць безліччу агнёў. Пасля нашай эканоміі электрычнасці ўражанне: трапіў у рай.

***

Ноч выдалася ўтульнай. З тых асаблівых, калі і дыхаецца, і думаецца лёгка. Калі цемра не трывожыць, а абдымае. Каб расцягнуць прагулку, ужо непадалёку ад дома мы прыселі на лавачку.

На суседняй сядзелі трое: дзве маладыя, мяркуючы па галасах, жанчыны і мужчына. Размова ў іх была з разраду не зусім нарматыўных. Прысутнічала і бутэлька віна, да рыльца якой яны па чарзе прыкладаліся, строга назіраючы за тым, каб візаві не зрабіў лішніх «глыкаў».

Падобнае суседства цяжка ўжываецца з рамантычным настроем. Расчараваныя, мы ўзяліся за свае сумачкі, але падняцца не паспелі: мужчынскі голас за нашымі спінамі папрасіў цыгарэту.

— Прабачце, — (у цемры лепш быць ветлівымі) кажам мы, — але ў нас няма.

— Няма — і не трэба, — тэмбр голасу мужчыны чамусьці мякчэе. — Тады я вас сам пачастую. Семачкамі. Прывёз сёння з дачы — тут белыя, гарбузныя, і чорныя, сланечнікавыя. Падстаўляйце далоні.

Адмаўляемся, але наш начны госць настойлівы. І мы вымушаны працягнуць далоні.

— А вы ведаеце, для чаго на свеце жывём мы — мужчыны? — пытаецца раптам ён.

Мы з Таняй, як па камандзе, дружна паціскаем плячыма.

— Не ведаеце? Толькі для таго, каб вы былі здаровыя, шчаслівыя і любімыя.

Словы, а галоўнае, ласка, з якой наш нябачны (мы так і не адважваемся адвярнуцца) суразмоўца іх вымаўляе, амаль што паралізуюць нас. А мужчына, пяшчотна пацалаваўшы кожную з нас у валасы, адыходзіць — знікае ў цемры. Нібы і не існаваў ніколі.

— Хто гэта быў, Таня? — пытаюся ў сяброўкі.

— Можа, анёл… — адказвае яна.



Кася Глухоўская

**нарадзілася 2 чэрвеня 1995 года ў Мінску, адвучылася з чырвоным дыпломам на медыцынскага псіхолага ў БДУ, працуе псіхолагам у рэспубліканскай дзіцячай бальніцы медыцынскай рэабілітацыі. Аўтар паэтычный кнігі «Калі дрэвы растуць з галавы» (2013). Марыць прадоўжыць навучанне ў магістратуры па спецыяльнасці «Арт-тэрапія» у замежжы, бо ў нас такіх спецыялістаў не рыхтуюць.**



## Саламяныя знічкі сноў

### Пан і сон

Засынае дзяўчынка пад лапікавай самотай:
Ні малітвы на сон, ані покуці ў тым пакоі,
Дзе цвіце яе сэрца і роснай зіхціць крывёю,
Нічые імёны нагруквае небу ўпотай.

Толькі ўскосна сказаць пра каханне мажліва, коснай
Стала мова, прамова, дамова, надзея, вера.
Сніцца морак пра мора, пра Звера і ціхі бераг.
Побач з дзеўчынай Пан — заплятае ёй жахі ў косы.

Ён сядзіць вельмі ціха, каб бачыць, спусці павеі —
Промні дзённых агнёў тады лягуць, нібы праз лісце.
Ты пазнаеш яго, вы сябрамі былі калісьці,
Разумелі абодва, што нехта не так сталее.

Разумнейшы не той, хто расце, як трава ці горы, —
Пальцы Панавы здолелі б пераплесці ўсе травы,
Да пяскоў валуны перацерці, бо мае права,
Толькі правым ад гэтага зноў падаецца морак.

Толькі правым ад гэтага зноў падаецца вораг,
Звер прадоння, што вые пра вечнасць глыбінь адчаю.
Пан спакойна ўсе страты твае і свае страчае,
Гладзіць па галаве і цябе, і таго, хто ў моры.

***

Тут няма ні рэлігій, ні казак. Адны сусветы:
Ад касмічнай прасторы да сноў саламяных знічак,
Ад карціны Ван Гога да нашых святочных звычак,
Ад кахання ўсім сэрцам да «можа, наступным летам».

І не ведаю, гэта пакута ці гэта праўда.
І не ведаю, гэта старанне ці гэта старасць.
Дай, Пан, дурню руку, адвядзі мяне ў сон ці ў зарасць,
Дай, Пан, човен і ветразь дзяўчыне, нібы параду.

## Сон

Закрываючы вочы, я стануся белым аленем:
Прарастуць мае рогі праз неба, а ногі — праз мох.
Чараўнічы куродым ад дэманаў, водар палення,
Чабаровы, ядлоўцавы, мятны над топямі смог.

Там, дзе шаты хавае туман, духі ходзяць па водах.
Чуеш пляскат ці не, чуеш лязгат даўгіх кіпцюроў?
Апроч кветак і дыму не будзе ніякае зводы,
Абароны ніякай не будзе ў краіне бароў.

Толькі белым аленям нішто не пагроза між зданяў,
Бо жыве не жыве, а свабодна лунае ўва сне
Статак постацяў белых. У песнях, калі нас не стане,
Застануцца паданні. І ў топі — аленевы след.

## Медузы і музы

Музыка, музыка, музыка, за якой
З неба спускаецца вышні яго спакой,
З мора празрыстай медузы плыве ліхтар,
З вуснаў сплываюць словы, нібы з ліста.
Сэрца — каралавы рыф, дзе прыліў, адліў
Мора Чырвонага, рыбы і караблі,
І каралі, чые скарбы не там, на дне,
А сярод музыкі праўды ў людской мане.

*

Музыка, музыка. Зала, гірлянд святло.
Белы карыбскі пясок пад нагу змяло,
Лёгкі цытрынавы прысмак між нот і рук,
Позірк Медузы, які прыпыняе рух:
Ты Turritopsis Nutricula, дух вады
То скамянелы, то ў вечнасці малады,
Ты не святло, і не боль, і не сон, не спеў,
Толькі пакінуць свой след унутры паспеў.
Музыка, музыка, неба, вада, пяскі —
Сэрца з каралаў мне робіць апёк людскім.

***

Родны анёлак, не плач да крыві з носу
і не глядзі зарніцай вачэй раскосай,
каб не прабіў, як сцізорык, да сэрца грудзі —
позірк шалёна-ўтрапёны
трапляў наскрозь.
Мы не знікаем, а зведваем новы космас —
сэрца маё прывязуць табе ноччу Возы,
так мы заўсёды, заўсёды з табою будзем.
Гэткім законам
дагэтуль, напэўна, ёсць.

***

На досвітку, пакуль яшчэ блакіт
Не заахвоціў вочы ў пазалоце,
За Сонцам пакаціцца маладым
Да вечных вод бясконцае ракі
Купацца ў слёзнай цноце ўсёй галоце.
І пагалоўна ў пару альбо дым,
Смугу аблокі абярнуцца потым,
Ці кропляй лавы — каралеўскім потам
Самога Сонца — на імгненне быць...
На досвітку спакоем ахініся.
Пабачыш ззянне стомленых мятлушак
У чорных гнёздах ліпы і вярбы.
Пялёсткам міндаля скрозь сон гаіся,
Нябесны сок пускай, дзе гай і пушча,
Святло ў іх лёгкіх, звон у валасах,
І лес, і сад адна свяціць раса.

## Развага пра

Самота цудаў — гэта небыццё.
І нават сэрца ціхае біццё
Не вызначае больш за шум падзення
З гары — каменных лапікаў адзення,
З лядашыка на вокны — капяжа,
Сняжынкі на сумёт. А дзе мяжа
Змыкаецца мастом ад чалавека
Да іншага — разбураным — там лекам
Атруты боль стаецца ці здаецца.
«Нішто наўпрост на свеце не даецца», —
Так кеміць той, хто раіць рою пчол,
Гатункам кветак — райскае плячо,
Атрамантам расшытае прыволле —
Вясновых макаў поле. І не болей.
Далей — боль абаіх і смерць. А мёду
Няма. Дарадца дорыць шлях і згоду,
А зводу знойдзе той, хто пойдзе сам, —
Нагоду быць пакутнікам знікнення —
«Жыццё як цуд» — то план ці то памкненне?
Ці могуць цуды мець які расклад?
Ці іншай з'ява гэткая б была?
Час метэораў для чароўнай знічкі
Такі ж трывалы, як благія звычкі,
Ці файныя, занесеныя ў лік
Чарговых добрых справаў на Зямлі,
Улік таго, што можна быць шчаслівым.
Што зарабіў, што белага наліву
Сарваць тады мажліва спелы плод,
Калі ты сам дагледжваў сад штогод.
І дрэва гадаванае табою.
Ці цуд світанак, што не мае збою
І быў без нас, і будзе пасля нас,
І мае свой амаль нязменны час?
Не мне рашаць, ці правіла сістэмы
Ёсць цуд, ці гэта выключэнне. З тэмы
Агульнае: самота, росквіт, твар,
Які амаль памёр без хараства, —
Нечалавечы, чалавечы, розны.
І зноў сусвет: світанак, знічкі, росквіт.

## Асэнсаванне

Ты бясконца побач будзь, паі
Плазмай сонца сонныя завеі.
Ледзь заўважна сарамлівасць цмее
І смыліць, як драпіна ў баі,
Між дзіцячым жахам і запалам.
Прыгадаць не мушу мілых рук,
Прыглядзець прыгоды і ўгару
Бегчы так, каб неба згаладала
Па блакіце ў цемрашал да зор,
Абгладана-белых і кашчастых.
Ты бясконца будзь і часта-часта,
Калі ў свеце пошасць або мор,
Калі ў свеце новая навала,
Хвалі вал і навальніцы сполых.
Полы да пустэчы і бясполы,
Будзь любы, цябе заўсёды мала,
Любы будзь. Забудуцца далоні,
Голас, вочы, словы, твар і стан —
Новы зноў на капішчы паўстань
Палымянай воляй у палоне.
І штодзённа між чужых вачэй,
Позіркаў, дзе холад затаіцца,
Я сумую па тваіх зарніцах —
Да чужых туліцца не лягчэй.

***

Трымай мой цень —
Трымценне.

## Фёдар Гурыновіч



**нарадзіўся 14 верасня 1950 года ў вёсцы Крывічы на Салігоршчыне, цяпер жыве ў Салігорску. Каля 30 гадоў працаваў у газеце «Калійшчык Салігорска». Аўтар больш як дваццаці кніг паэзіі і прозы для дарослых і дзяцей. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра. Марыць хаця б на дзянёк вярнуцца ў маладосць, прыехаць на сесію ў сталіцу, абавязкова трапіць у тэатр. А назаўтра, працягнуўшы выкладчыку залікоўку, з заміраннем сэрца, спадзеючыся на ласку прафесара, чакаць выдатнай адзнакі.**

# Зарапад адкрыццяў і прызнанняў

### Паехалі дзеці вучыцца

*Сыну Дзянісу*

Паехалі дзеці вучыцца.
Вядома ж, я іх адабраю.
Ды плача душа, як ваўчыца,
Шчанят у якой адабралі.

Клапоціцца, ці то баіцца:
Ці ўсё ж хоць у шлях ім сабралі?
І як там сустрэла сталіца?
Ці абзавяліся сябрамі?

Самотна ў кватэры ўначэлай.
І думкі трывожаць бяссонне:
Што елі-пілі на вячэру?
У што апраналіся сёння?

Далася за месяц мне ў знакі
Назольных сумненняў завеса:
Ці добрыя, скажам, адзнакі
Ім выставіць строгі прафесар?

Ці ўтульна ім у інтэрнатах?
З суседзямі як там — ці ў згодзе?
Хутчэй атрымаць бы зарплату —
Мо грошы ў дзяцей на зыходзе?

…Плывуць аблачынкі, як кужаль,
Шматае іх вецер-гуляка.
Заходзіцца сэрца: спакус жа
Хапае ў сталіцы ўсялякіх.

Я думкі аб гэтым мінаю.
І цешыць надзея, вядома ж,
Што часта яны ўспамінаюць
Бацькоў і сумуюць па дому.

## Цішыня

Незаседжаную мухамі,
Незакураную скверам,
Цішыню хоць раз вы слухалі?
Нешта цяжка ўзяць на веру.

Неабражаную чэравам,
Непранізаную токам,
Цішыню зары вячэрняе
Над Бярэзінскай пратокай?

Тую цішу, што ўспрымаецца
Больш душою, чым вушамі?..
Хваля поўню, быццам маятнік,
Пакалыхвае з пашанай.

Звод высокі вольхаў арачных
Хмелем схоплены, як сцяжкай.
Чутна, як на бок байдарачны
Узбіраецца мурашка.

Як пахілы кусцік мяты
Распрамляецца пад спальнікам,
Ці то мной знячэўку змяты,
Ці то ў поўдзень сонцам спалены.

Як, пафыркваючы пысамі,
Табуны туманаў белых
На бягу расою пырскаюць,
І пагойдваецца бераг.

## Успамін

Воблакі — як ватоўкі,
Набраклыя ад дажджу.
Вяртаюся да вытокаў,
Памяць сваю буджу.

На яблыні галкі селі.
Горбіцца сад стары.
Тут жнівень гуляў вяселле,
Выносіў у сад сталы.

І гэтак музыкі гралі
І тэпалі грамадой,
Што дзве белякоўкі ўпалі
За пазуху маладой.

А зараз лісцё пажоўкла
І сыплецца на платы.
І мы ўжо не тыя з жонкай —
Бы птушкі, ляцяць гады.

Нам сад працягнуў галіны.
Ён нас не забыў такі
І яблыкаў пару кінуў.
Цяпер…за кофту дачкі.

## Зарапад

За акном зара крылом махае.
Летняй ночы гэткая крыха!
Любая, я так цябе кахаю,
Як ніхто на свеце не кахаў.

Зарапад адкрыццяў і прызнанняў!
Гэтай ночы не хапае мне.
Ад твайго гаючага дыхання
Зацвітаюць кветкі на акне.

Хай шалее на балконе лета,
Ты яшчэ, жаданая, паспі.
Я табе прыдумаю санеты.
Ці ж кахаць умеў адзін Шэкспір?

Дагараюць зоркі, як петарды,
А пачуццяў шырыцца рака.
Так было, напэўна, і ў Петраркі,
Калі ён Лауру сустракаў.

Можа быць, не ведаў бы, не знаў бы,
Ад чаго ў яго санетах боль…
Хваля ў сэрцы светлая, скразная.
І пяшчота, і нічога больш.

### Ясень

Нібы ў бядзе,
Ясень у полі.
Хто ні ідзе —
Позіркам коле.

Ці то ў імжы
Ён, ці то ў дыме?
Ліс прабяжыць —
Лапу падыме.

Болей таго:
Чорны, як сажа,
Воран яго
Можа зняважыць.

Вецер-біцюг
Гне яго вецце;
Беднаму дух
Не перавесці.

Лыжы зніму —
Снегу нямнога.
Можа, яму
Трэ дапамога?

Лютай зімой
Голле палашчу.
Божа ты мой,
Ясень прапашчы!

Што ж ты, бядак,
Вырас у полі?
Медны пятак —
Кошт тваёй волі.

### Балада пра сасну

У пушчу пусцілі пілу, як чуму;
Вішчыць яна вусцішна-нема.
І лес карані не трымаюць, таму
Чапляюцца дрэвы за неба.

Яны вершалінамі хмары змялі
І ўпалі ў сумёты на золку.
І ў голлі памятым блішчаць на зямлі
Нявечныя снежныя зоркі.

І толькі чамусьці старую адну —
Амаль што ля самай дарогі —
Піла абышла стараною сасну
На ўскрайку балотца сырога.

На макаўцы й я не заўважыў спярша
Гняздо, змайстраванае лоўка.
Заныла і ў пільшчыка, мусіць, душа,
Калі ён убачыў буслоўку.

Галіны гараць на траскучым агні,
Грукоча гравійка прамая.
А хвою скрыпучую, быццам магніт,
Гняздо за чупрыну трымае.

На сцюжах стаіць яна і на вятрах,
Ігліца на ёй парыжэла;
Маўчыць, як ваеннай пары медсястра,
Што выйшла адна з акружэння.

Пазбегнуўшы бензапілы, як бяды,
Стаіць яна — тая й не тая…
І ўсё-ткі бусліная пара сюды,
Баюся, што не завітае.

## Грыбнік

З вядром пластмасавым кругамі
Грыбнік блукае ў спратах росных.
У змрочным лесе, як арганы,
Гудуць пашчэрбленыя сосны.

Так лёгка тут са шляху збіцца —
Тады не выдрацца да ночы.
А зверху сыплецца ігліца,
Нібы заколкі з кос жаночых.

І лёт аблокаў алавяных
Няўклюдны, стомлены і нізкі;
І рэдкі ўжо сярод ваўнянак
Масляк задрыпаны і слізкі.

І поўны вільгаці цягучай
Падыспад шляпкі з паралону.
І пападае немінуча
Грыбнік у пасткі з буралому.

Амаль няма грыбоў; не варта
Тут спадзявацца больш на ўдачу.
Але брыдзе грыбнік упарта
Далей паходкаю жабрачай.

Нібы ўсяго і засталося
Яму ў жыцці — таптаць імшару…
І быццам крык аб дапамозе —
Яго аранжавая тара.

## Навальнічны экспромт

Калматая аўчына аблачыны.
І хвосткаю маланкай, як ляйчынай,
Палясквають нябёсы, як вазніца.
І рэха аддаецца, бы ў званіцы.

А потым і на шыбіны, і ў лужы
Пялёсткі сонца сыпле, нібы з ружаў.
Плыве ад дрэў непераможны водар,
Нібы на клёпкі ліпу кроіць бондар.

І, заблудзіўшы, драч шчапае лыка.
І белы сквар дзявочых мокрых лытак
Ільсніцца, быццам карпы люстраныя.
І нейк шчымліва-страсна сэрца ные.

І паўтарае рух і выгін кожны,
І кідкі танец сцёгнаў асцярожных,
І два грудкі з бутонамі на целе,
Насычанае вільгаццю адзенне.

Жывот аблегла мокрая сукенка.
І ўся яна, як цацка, як цукерка.
Але прасіць дарэмна аднагодку,
Каб зняць з яе намоклую абгортку.

Яна па вёсцы йдзе, багіня нібы.
Над ёй клубіцца пара цёплым німбам.
Раўную я яе да спелых промняў,
Што ёй цалуюць вусны, грудзі, скроні.

Як пахне падсыхаючае сена!
Дазволь і мне, хоць на правах суседа,
Цябе пацалаваць за іншых першым
І ў кофту сыпануць суквецце вершаў.



**Святлана Курганава**

# Як доўга жыве дно?




У Мінску другі раз быў паказаны спектакль Магілёўскага тэатра лялек, створаны Ігарам Казаковым, «На дне». У мінулым сезоне гэты рэжысёр прывозіў пастаноўку «Гамлет». Калі тады быў «трагіфарш», то гэтым разам — «экзістэнцыйная драма ў 2-х актах адчаю». Можна сказаць, што арыгінальная характарыстыка жанру — гэта почырк аўтара, які стварае інтэлектуальны трэш.

«На дне» — гэта тэкст, які з'яўляецца адным з ключавых для таго часу, калі ён ствараўся. Яшчэ тады яго не прамінулі крытыкі і шырокая грамадскасць, тэкст абмеркавалі і разглядзелі, ды так грунтоўна, што ўсе магчымыя яго трактоўкі ўжо знойдзены і зрабіліся дыдактычнымі. Як знайсці новы сэнс, калі ўсё прагаворана і іншы пункт гледжання, здаецца, немагчымы? Аказалася, што ўсё можа быць.

П'еса дэманструе тое, што з'яўляецца «дном жыцця». Рабаўнікі, злодзеі, прастытуткі, бамжы, сквапныя асобы, алкаголікі. І ўсё, што адбываецца на сцэне, — гэта дробныя праблемы дробязных людзей.

Першае, што мы бачым, — нахіленая (у падзенні) цёмная разваліна. Потым — гукі: рэзкія і гучныя ўдары люкаў на ёй. Бліжэй за ўсё да гледача пакуль што ляжыць вялізная лялька — старая, ссохлая, выцягнутая. Спачатку ўсе астатнія лялькі ўзнікаюць на сцэне, як чарвякі, — гэта першая і, бадай, адзіна правільная асацыяцыя. Доўгія, абсалютна непрапарцыянальныя зморшчаныя шыі і маленькія галовы, агідна выгінаючыся, выпаўзаюць з расчыненых люкаў. Пакуль не з'явіцца тулава лялькі, не скажаш, што гэта чалавек. У большасці сцэн гэтыя істоты нагадваюць людзей — тых, каго мы прывыклі называць людзьмі, — вельмі аддалена.

Вобразы атрымаліся жывымі, характарнымі. Кожны мае рысы, якія ствараюць героя (акрамя бутэлек — бутэлька тут ледзь не абавязковы атрыбут). Гэта крылы Вандроўніка, якія пачварна ліняюць, збітыя калені Наташы, якая ўвесь час нацягвае на іх сукенку, белая кашуля Ваські Попела, спушчаная бялізна раскудлачанай Насты.

Лялькі надзеты на акцёраў, акцёр — гэта лялька. Пры гэтым лялька — гэта бруд. У моманты прасвятлення — жадання выбрацца з дна — мы бачым самога акцёра. І тут з'яўляецца гэтая дваякасць, калі асобна існуе брудная абалонка і чысты чалавек. Але ці абалонка гэта? А мо яна і ёсць сутнасць?

Захапляе натуралістычнасць. Калі ўжо шпурляць манеты, дык няхай яны будуць не бутафорскія пластыкавыя, а сапраўдныя, каб было чуваць, як яны грукочуць па драўніне падлогі і адскокваюць ад яе. Увогуле, гукі — гэта тое, што мае найбольшую значнасць для ўспрыняцця спектакля. Найперш гэта пастаяннае ляпанне, якое выбудоўвае гукавы фон. У спектаклі можна вылучыць дзве асноўныя музычныя тэмы. Музыка дакладна паведамляе пра тое, што робяць героі. Адна мелодыя — яны працягваюць цялёпкацца на дне, іншая — імкнуцца адарвацца ад дна.

Пастаноўка выклікае рэлігійныя асацыяцыі. Нездарма Лука з'яўляецца з трубы менавіта з анёльскімі крыламі і з боскім святлом. Ён калі не павадыр, дык той, хто падштурхне да вызвалення: калі не дапаможа знайсці выйсце, дык скажа, што дзверы з такім надпісам існуюць. Размовы персанажаў, якія страцілі надзею, з вандроўнікам нагадваюць споведзі. Але гэтыя людзі не разумеюць, што час іх абмежаваны, што нельга поўзаць на дне вечна. Лука — гэта толькі той, хто падштурхне, дасць шанец, але нічога не зробіць за вас. Бо ваша жыццё — у вашых руках, а не ў чужых. У «людзей» быў шанец стаць людзьмі. Яны яго не выкарысталі. А свет сам вычышчае з сябе прапашчыя душы, як хваробу.

Захапляе натуралістычнасць. Калі ўжо шпурляць манеты, дык няхай яны будуць не бутафорскія пластыкавыя, а сапраўдныя, каб было чуваць, як яны грукочуць па драўніне падлогі і адскокваюць ад яе

Здаецца, што гэта тое самае дно, што і ў Горкага. Тыя ж праблемы, тыя ж людзі, якія ўсё яшчэ могуць імкнуцца да святла. Але дзе там… Фінальная сцэна літаральна пераварочвае разуменне п’есы з ног на галаву

Усё гэта рэаліі часу Максіма Горкага, якія набываюць хваравітую актуальнасць і ў наш час. Здавалася б, мінула сто гадоў, а нічога не змянілася. Людзі па-ранейшаму крадуць, распуснічаюць і заліваюць сваё бяздзеянне нечым моцным. Героі прадаюцца дзеля мімалётнага (сумніўнага) задавальнення, глядзяць не на сябе, а толькі на іншых, калі мяркуюць, што чужое жыццё лепшае, і заўважаюць толькі сябе, калі трэба падумаць пра іншых. Тут можна згадаць Ганну, якая памірае. Адзіны, хто паставіўся да яе па-чалавечы (у трактоўцы аўтара — па-хрысціянску, але я б не спынялася адно на рэлігійным падыходзе да таго, што адбываецца), — гэта Вандроўнік, які завітаў у іх дом. Унутраны пратэст выклікаюць страшныя крыкі побач з паміраючай, высвятленне адносін над яе ложкам.

Вось тут здаецца, што так, гэта тое самае дно, што і ў Горкага. Тыя ж праблемы, тыя ж людзі, якія ўсё яшчэ могуць імкнуцца да святла. Але дзе там… Фінальная сцэна літаральна пераварочвае разуменне п’есы з ног на галаву. Дно павінна быць знішчана. Чаму? Гэтыя людзі мелі магчымасць адсюль сысці. Мелі, але адкладвалі яе, рабілі што заўгодна, але з дна не выпаўзалі. Таму дно проста аказалася ачышчаным.

Сэнс у тым, што дно існаваць не павінна. Дно не мае права на існаванне. Даруйце, спадар Максім Горкі, але рэаліі ўжо трошкі іншыя.



# П’еса на слых

**Яшчэ ў часы Арыстоцеля музыка стала часткай тэатральнага відовішча. Стагоддзі скінулі акцёрскія маскі, спынілі выраб катурнаў, разбурылі скены. Аднак без меладычнага суправаджэння сучасны спектакль уявіць немагчыма — пастановачна-музычная сувязь толькі ўзмацнілася. Людзі сённяшняга тэатра падзяліліся з Марыяй Страх гукавымі думкамі і вырашэннямі.**



**Аляксандр Гарцуеў, мастацкі кіраўнік Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі (фота з архіва тэатра):**

— Характар музыкі вызначаецца з самага пачатку, яшчэ пры задуме спектакля. Яна можа быць невыразна вызначана ў тым сэнсе, які аўтар яе напіша. Аднак ужо ў самым пачатку вырашаецца, якія будуць дэкарацыі і хто з кампазітараў мог бы напісаць музыку. Тут ледзь не ўсё залежыць ад густу рэжысёра і яго музычнай эрудыцыі. Калі табе падабаецца папса, то і будзе ў спектаклі папса. Калі табе падабаецца сур’ёзная класічная або сур’ёзная сучасная музыка, то будзе ў цябе гучаць такая музыка. Я не магу ўзяць для сваёй пастаноўкі твор, напісаны для іншага тэатра. Гэта проста немагчыма. Аўтар, які піша музыку для тэатра, падпісвае дамову, дзе абавязваецца эксклюзіўна прадставіць менавіта гэтую музыку менавіта ў гэтым спектаклі. Перайманні — не прывячаюцца. Я не ведаю, хто гэтым займаецца.

Бывае так, што аўтары п’ес вызначаюць, якая музыка павінна быць у спектаклях, паводле іх пастаўленых. Гэта сустракаецца даволі часта: «Тут гучыць такое, а тут — такое». Найперш кажу, што гэта няправільна. Аўтар павінен пісаць тэксты, а не расказваць рэжысёру, як што зрабіць. За ўсё жыццё я толькі аднойчы прыняў прапанову аўтара. Было вельмі смешна і вельмі ўдала. А так — я абсалютна вольны ад прапаноў драматургаў.

Здараюцца нечаканыя музычныя вырашэнні. Калі я рабіў спектакль «Людзі на балоце», мне патрабавалася ўсяго некалькі народных песень. Працаваў кампазітар, музыка пісалася спецыяльна. Але для некалькіх сцэн неабходныя былі песні, якія б праспявалі акцёры. Я не вялікі знаток народнай музыкі — у мяне банальны набор. І я звярнуўся да акцёра з Купалаўскага, які, мне падалося, ведаў гэтыя песні. Каб не займаць яго час, я папрасіў праспяваць іх на дыктафон. Каб пасля перапісаць і «развучыць». Ён праспяваў мне тры песні, адну з якіх я ўключыў у спектакль такой, як ён праспяваў яе. Абсалютна нечаканы вынік. У яго быў тады сіплаваты голас, ён быў трошкі хворы. Калі б я сказаў яму, што гэта пойдзе наўпрост у спектакль, ён бы так песню не выканаў, не. Пачаў бы хвалявацца. Вось гэта нечаканая для мяне тэма.

**Леанід Паўлёнак, тэатральны кампазітар (фота П. Церашкоўца):**

— Пасля таго як рэжысёр прапаноўвае папрацаваць над якой-небудзь п’есай, пачынаю чытаць тэкст. Паралельна ў мяне ўзнікаюць гукавыя думкі. Яны могуць скласціся ў агульную карціну за адну гадзіну, а могуць і за адзін месяц. А бывае так: на першай сустрэчы рэжысёр адразу кажа, якое музычные афармленне хацеў бы пачуць. Даецца такая прыблізная наводка. Я абмежаваны толькі таймінгам. І гэта нармальна. У спектаклі дастаткова месцаў, якія трэба агучваць з пэўнай працягласцю.

Тое нестандартнае, што прапаноўвае рэжысёр, і мая нестандартная музычная стылістыка разам даюць цікавы, нетрывіяльны вынік. Напрыклад, у спектаклі «Тарцюф» па Мальеру (Беларускі дзяржаўны тэатр лялек) гучыць панк, драм-н-бейс з акадэмічнай музыкай і кубінскае танга. Галоўнае, каб усё выглядала адзіна, працавала, як адзіная падача.

Для мяне не бывае нецікавых п’ес.





**Павел Яскевіч, артыст Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы (фота з архіва тэатра):**

— На мой погляд, музыка, як у тэатры, так і ў кіно,— гэта не проста афармленне спектакля ці фільма. Музыка — паўнапраўны ўдзельнік працэсу. Такі ж, як акцёры, рэжысёр, мастак і іншыя людзі, якія гарбелі над ажыццяўленнем сваіх ідэй. Таму, калі спектакль мае слабое звяно, то гэта звяно нішто не кампенсуе. Разумны глядач усё роўна ўбачыць і ўсё зразумее. Немагчыма, каб адзін акцёр кампенсаваў кепскую ігру другога. Кепская рэжысура не можа быць выратавана за кошт добрай акцёрскай ігры. Так і з музыкай. Яна, як і чалавек, можа быць розная: сумная ці вясёлая, геніяльная ці бяздарная, патрэбная ці непатрэбная. Часам наадварот, празмерная колькасць музыкі можа засланіць акцёра, нават адвесці гледача ў бок ад галоўнай ідэі спектакля. І глядач, выходзячы з тэатра ці кіно, кажа, што так і не зразумеў, пра што хацеў сказаць рэжысёр, але было гучна і музыка была добрая. Таму, мне здаецца, робячы спектакль, не трэба імкнуцца схаваць штосьці дрэннае за чымсьці добрым. У мастацтве кампенсацыі не патрэбны. Адно павінна гарманічна дапаўняць іншае. Музыка можа дапамагчы акцёру выйсці на патрэбны эмацыянальны ўзровень. Але паўтаруся: дапамагчы, а не сыграць за яго.

**Святлана Курганава**

# Станіслаў Лем: камітэт, а не чалавек



Калі ёсць жаданне пазнаёміцца з гэтым аўтарам так, каб ажно сэрца замірала, то Google тут не вельмі дапаможа. Усюды можна прачытаць толькі агульныя факты біяграфіі, якія вандруюць з рэсурса на рэсурс. Але менавіта яны могуць прымусіць вас за нешта зачапіцца. Сумняваюся, што нецікавых людзей прымаюць у Амерыканскую Супольнасць Навуковых фантастаў (Science Fiction Writers of America). І вельмі наўрад ці нецікавых людзей адтуль выключаюць. І вельмі наўрад ці з-за нецікавых людзей бунтуюць і патрабуюць сваёй адстаўкі Майкл Муркок і Урсула Ле Гуін.

І на нецікавага чалавека наўрад ці будуць пісаць даносы са словамі: *«Лем, верагодна, з'яўляецца цэлым камітэтам, а не адным чалавекам (паколькі піша ў розных стылях і часам дэманструе веданне замежных моў, а часам — не), створаным Партыяй за Жалезнай заслонай для захопу адзінаасобнай пазіцыі з мэтай маніпуляцыі грамадскай думкай пры дапамозе крытычных і педагагічных публікацый, што з'яўляецца пагрозай для ўсёй сферы нашай навуковай фантастыкі і свабоднага абмену думкамі і ідэямі ў ёй».*

Часцей за ўсё такія даносы пішуць на самых таленавітых прадстаўнікоў літаратуры. На жаль.

Так што калі вы любіце (ці гатовы палюбіць) (сама)іранічных, саркастычных, інтэлектуальных палякаў, то спецыяльна для вас — яго аўтабіяграфічныя творы «Маё жыццё», «Высокі замак» і серыя інтэрв'ю «Так казаў... Лем».

А калі казаць пра мастацкія творы гэтага аўтара, то мала хто не чуў пра «Салярыс». Гэты твор быў экранізаваны Таркоўскім. Калі не ведаеце, хто такі Лем, то, верагодна, ведаеце, хто такі Таркоўскі. Але годзе тут пра культавы і складаны «Салярыс», пачынаем размову пра не менш складаныя і прамапрапарцыянальна забаўныя «Дзённікі Йона Ціхага».

Пачнём з таго, што гэта — дзённікі Йона Ціхага, знакамітага зоркапраходца, капітана далёкага галактычнага плавання, паляўнічага за метэорамі і каметамі, нястомнага даследчыка, які адкрыў восемдзесят тысяч і тры светы, ганаровага доктара універсітэтаў абедзвюх Мядзведзіц, члена Таварыства па апецы над малымі планетамі і многіх іншых таварыстваў, кавалера Малочных і Туманнасцевых ордэнаў.

Уф. Адчуваеце вагу?

А запісы пра Йонавы прыгоды сабраў і апрацаваў прафесар Тарантога, які часцяком мільгае ў нататках Й. Ціхага.

*У падрыхтоўцы «Дзённікаў» да друку мне не дапамагаў ніхто; тых, хто мне перашкаджаў, я не пералічваю, бо гэта заняло б занадта шмат месца.*

Прафесар напісаў і тры прадмовы да «Дзённіка», вартыя вашай увагі. Гэта проста цудоўны ўзор постмадэрновай літаратуры — іранічная, яркая, разумная гульня з чытачом, падчас якой аўтар рассыпае алюзіі і адсылкі па старонках. І гэта той самы ўзор літаратуры, дзе аўтар, як завяшчаў Ралан Барт, памёр.

І Лем не быў бы Лемам, каб не пажартаваў на гэты конт:

«Дзённікі» — гэта сатыра на сучаснасць: жыццё, палітыку, адносіны. Калі ведаеш гісторыю (ці заспееў пабачыць гэтую гісторыю), то добра улоўліваецца, наколькі яны былі вострыя, злабадзённыя. І самае забаўнае: той час сышоў, а надзённасць засталася

*У апошні час сталі чутнымі галасы, якія ставяць пад сумнеў аўтарства Ціхага ў дачыненні да яго «Дзённікаў». Друк паведамляў, што Ціхі быццам бы карыстаўся нечай дапамогай, а то і зусім не існаваў, а яго сачыненні ствараліся нейкай прыладай, так званым «Лемам». Згодна з найбольш радыкальнымі версіямі «Лем» нават быў чалавекам. Між тым кожны, хоць крыху знаёмы з гісторыяй касмаплавання, ведае, што LEM — гэта скарачэнне, утворанае ад слоў LUNAR EXCURSION MODULE, то бок, месяцовы даследчы модуль, пабудаваны ў ЗША ў рамках праграмы «Апола» (першая высадка на Месяц). Йон Ціхі не мае патрэбы ў абароне ні як аўтар, ні як вандроўнік. Тым не менш карыстаюся выпадкам, каб абвергнуць недарэчныя чуткі. Удакладню, што LEM сапраўды быў забяспечаны невялікім мозгам (электронным), але гэтая прылада выкарыстоўвалася для вельмі абмежаваных навігацыйных мэт і не змагла б напісаць ніводнай асэнсаванай фразы.*

Тарантога мільгае то тут, то там, і ў нас не ўзнікае пытанняў пра тое, чаму менавіта гэты доблесны навуковец пачаў займацца запісамі Ціхага. Ёсць выданні, дзе сабраны (усе) яго прыгоды, у якіх нумарацыя не можа ісці паслядоўна праз жарты петляў часу, якія часта прымушаюць ваш мозг выбухаць. І некаторыя прыгоды адбываліся ў сне. Так што чытайце ўсе прадмовы, каб разабрацца ў перапляценнях Ціхалогіі.

*Пастскрыптум. У цяперашняе выданне не ўвайшлі таксама падарожжы дванаццатае і дваццаць чацвёртае Йона Ціхага, паколькі падчас перапынку на сняданак гатовы ўжо набор быў разбіты нікелева-марганцавым метэарытам з патоку Леанід; выбачаемся перад Чытачамі за гэта ўмяшанне вышэйшай сілы.*

Апавяданні маюць форму дзённікавых запісаў або успамінаў. І гэта тая фантастыка, у якой прыгоды ў асноўным не адбываюцца, а апісваюцца. Калі вам патрэбны сучасны экшн, то вам не сюды. Так, тут могуць лётаць абломкі зоркалётаў і будынкаў, але лётаюць яны быццам у запаволенай здымцы — запаволеныя развагамі Ціхага.

Лем — той аўтар, які праз фантастыку кажа нешта важнае для свайго часу. «Дзённікі» — гэта сатыра на сучаснасць: жыццё, палітыку, адносіны. Калі ведаеш гісторыю (ці заспееў пабачыць гэтую гісторыю), то добра улоўліваецца, наколькі яны былі вострыя, злабадзённыя. І самае забаўнае: той час сышоў, а надзённасць засталася. Забаўна, што чалавецтва ўвогуле не мяняецца. На працоўных месцах па-ранейшаму сядзяць людзі, што толькі імітуюць бурлівую дзейнасць, па-ранейшаму добрыя мэты атрымліваюць радыкальна-маніякальны працяг, і пытанні рэлігіі па-ранейшаму не губляюць актуальнасці.

Лем у сваёй творчасці вельмі шмат казаў пра тое, што чалавецтва не гатова да сутыкнення з іншай, незямной цывілізацыяй. Мы шукаем такіх жа людзей, як мы, толькі з іншай планеты. Жэлепадобныя істоты з іншай галактыкі застануцца для нас монстрамі, якія не адпавядаюць нашаму разуменню прыгожага, добрага, вечнага. Мы іх не зразумеем, таму палічым страшнымі, выродлівымі... і спужаемся. Спужаемся да звар'яцення.

А калі чалавек баіцца, то ён становіцца агрэсіўным. Чалавек не хоча прызнаваць сябе не вянцом тварэння, прызнаваць, што акрамя яго ёсць яшчэ некалькі мільёнаў такіх вянцоў. Гэтая тэма гучыць у «Дзённіках» хай і мімаходзь, але досыць ярка.

І наш любімы постмадэрнізм дае нам шмат адсылак і алюзій — у Ціхім беспамылкова адгадваецца барон Мюнхаўзен. І паралелі з «Падарожжам Гулівера» Джонатана Свіфта вы таксама можаце знайсці.

«Дзённікі Йона Ціхага» Лема — гэта кніга, пад якую можна думаць. Можна і не думаць, а проста смяяцца.

Самае тое, калі вы пакуль не гатовы да літаратурных звышнавінак і проста хочаце добрай старой фантастыкі.

**Кірыл Мяцеліца**

# Правая рука Хмяльніцкага
## Нарыс жыцця Міхаіла Крычэўскага

**Гэты артыкул у студэнцкі нумар «М» напісаны хоць не студэнтам, але магістрантам кафедры айчыннай гісторыі ВДУ імя П.М. Машэрава падчас працы над дысертацыйным даследаваннем «Падзеі казацка-сялянскай вайны 1648-1651 гг. на Беларусі».**

Міхаіл (Станіслаў) Крычэўскі паходзіў з Берасцейскага ваяводства. Продкі яго былі праваслаўнымі шляхціцамі, аднак на мяжы XVI—XVII стагоддзяў Крычэўскія перайшлі ў каталіцтва [20, с. 553]. На жаль, дата і месца нараджэння будучага наказнога гетмана невядомыя. Грунтуючыся на некаторых ускосных фактах, можна сказаць, што ён нарадзіўся не пазней за 1615 год. Пра ранняе жыццё Крычэўскага таксама няма звестак. З лёгкай рукі В. Ліпінскага ў гістарычнай літаратуры замацавалася меркаванне, быццам малады Станіслаў Крычэўскі падчас вайны са Швецыяй (1627—1629) кіраваў гусарскай харугвай [19, с. 186]. Аднак сёння дакладна вядома, што тое быў іншы Крычэўскі [20, с. 553].

З вялікай упэўненасцю можна сцвярджаць, што Крычэўскі прысутнічаў на элекцыйным сейме 1632 года, дзе ўдзельнічаў у выбранні караля Уладзіслава IV Вазы [20, с. 553]. Наступны раз мы сустракаем яго ўжо на службе ў казацкіх частках. У той час казакі Рэчы Паспалітай падзяляліся на запарожскую (ці нізавую) вольніцу, якая жыла ў нізоўях Дняпра і існавала па сваіх законах, і рэестравых — тых, якія былі ўнесены ў рэестр і атрымлівалі за сваю службу грошы з дзяржаўнай казны. У адным з рэестравых палкоў служыў і Крычэўскі, што разам са сваімі новымі таварышамі ўдзельнічаў у падаўленні паўстання Паўлюка, якое ўспыхнула ў 1637 годзе. Гэты мяцеж «выпісаных з рэестра» казакоў пачынаўся як барацьба супраць усталявання над імі дзяржаўнага кантролю, але крывавыя бясчынствы чэрні і кантакты Паўлюка з Маскоўскай дзяржавай перавялі паўстанне на зусім іншы ўзровень. У некаторым сэнсе гэта была маленькая рэпетыцыя будучай «хмяльніччыны». Коштам вялікіх высілкаў у польнага кароннага гетмана М. Патоцкага атрымалася патушыць гэты пажар. Паўлюка ўзялі ў палон і адвезлі ў Варшаву, дзе пакаралі смерцю [9, с. 113]. Што датычыцца астатніх бунтаўшчыкоў, то да іх пераможцы таксама не ведалі ніякай літасці: некалькі тысяч чалавек былі пасаджаны на палю [9, с. 112]. Хутчэй за ўсё, у гэтых экзекуцыях прымаў удзел і Крычэўскі, які наўрад ці ўяўляў сабе, што некалі і сам будзе ў шэрагах мяцежнікаў.

Трэба сказаць некалькі слоў пра тое, як беларускі шляхціц увогуле апынуўся ў шэрагах казакоў. Насамрэч у тыя часы гэта была даволі звычайная справа. Прадстаўнікоў вышэйшага саслоў'я, якія «ішлі на Сеч», можна было падзяліць на тры асноўныя групы: 1) авантурысты і шукальнікі прыгод; 2) шляхціцы, чые эканамічны стан, веравызнанне і іншае амаль не дазвалялі ім зрабіць кар'еру на Радзіме; 3) пазбаўленыя ў выніку якога-небудзь злачынства ўсіх правоў баніты (тыя, каго прыгаварылі да баніцыі), якім ужо не было чаго губляць. Выхадзец з беднага шляхецкага роду, Крычэўскі хутчэй за ўсё належаў да другой катэгорыі.

У 1643 годзе Крычэўскі стаў палкоўнікам Чыгірынскага казацкага палка. Гэтую пасаду ён заняў пасля таго, як ад камандавання палком адхілілі папярэдняга камандзіра Я. Закжэўскага, на якога казакі напісалі скаргу «за вялікія крыўды» [19, с. 189]. Праз год новы чыгірынскі палкоўнік ужо ўдзельнічаў у знакамітай бітве з татарамі ля Ахматава (30 студзеня 1644 года), дзе сваёй храбрасцю ўразіў гетмана С. Каняцпольскага, што неўзабаве наблізіў яго да сябе. Але па-сапраўднаму лёсавырашальным для беларускага шляхціца стала знаёмства з сотнікам Багданам Хмяльніцкім, які служыў у яго палку, — з ім у палкоўніка склаліся блізкія адносіны. Крычэўскі нават стаў кумам будучага правадыра Войска Запарожскага, калі пахрысціў аднаго з яго дзяцей.

Асабістая драма Хмяльніцкага, якая прымусіла яго шукаць помсты, добра вядомая і шмат разоў была апісана ў гістарычнай літаратуры. У лістападзе 1647 года ён быў арыштаваны і адпраўлены ў турму. Каронны харунжы А.Каняцпольскі загадаў Крычэўскаму, які асабіста сцярог вязня, «адсячы галаву» бунтаўшчыку [7, с. 24]. Вядома, што шляхціц як мог імкнуўся адцягнуць пакаранне, тым больш што для гэтага




Багдан Хмяльніцкі.

трэба было спачатку атрымаць дазвол гетмана Патоцкага. Прыкладна ў сярэдзіне снежня да палкоўніка прыйшлі сотнікі Вяшняк, Бурляй і Такайчук. Яны сталі пераконваць яго ў тым, што Хмяльніцкі не мае за сабой ніякай віны і яго трэба адпусціць на парукі. Крычэўскі пагадзіўся і, як адзначыў у адным са сваіх лістоў падольскі суддзя Л. Мяскоўскі, «праз кумаўство адпусціў на парукі Хмяльніцкага» [14, с. 83]. Некалькі дзён былы вязень жыў у доме свайго збавіцеля, але каб не спакушаць лёс, у хуткім часе разам з сынам і некалькімі дзясяткамі верных яму людзей уцёк на Сеч, дзе і ўзняў паўстанне (студзень 1648 года).

Сам чыгірынскі палкоўнік, які тады быў вельмі лаяльна настроены ў адносінах да ўладаў Рэчы Паспалітай, да паўстанцаў не далучыўся і нават праінфарміраваў А. Канцпольскага аб знікненні Хмяльніцкага (хаця гэта і адбылося, калі апошні ўжо знаходзіўся ў бяспецы). Лаяліст Крычэўскі ўдзельнічаў у разведвальных місіях на Сечы, дзе збіраў інфармацыю і вёў ад імя М. Патоцкага безвыніковыя перамовы з мяцежнымі казакамі [15, с. 83]. Больш за тое, менавіта ён узяў «языкоў», ад якіх у Рэчы Паспалітай даведаліся пра першыя ваенныя планы Хмяльніцкага [5, с. 167]. Увогуле, у самым пачатку паўстання Крычэўскі быў адным з галоўных праціўнікаў мяцежнага гетмана. Ужо 9 лютага 1648 года іх атрады сышліся ў баі, што скончыўся паразай беларускага шляхціца [15, с. 82]. У сакавіку таго ж года казакі нават скардзіліся М. Патоцкаму на чыгірынскага і чаркаскага палкоўнікаў (маюцца на ўвазе С. Крычэўскі і С. Вадоўскі), якія «замест таго, як варта было б нашым старшынам, пашкадаваць нас у такой бядзе, на жыцці нашы пачалі замахвацца» [7, с. 28].

І сёння дакладна невядома, пры якіх акалічнасцях Крычэўскі перайшоў на бок свайго кума. Згодна з адной версіяй, у красавіку 1648 года ён разам з лідарам рэестравых казакоў Барабашам трапіў у палон да нечакана паўстаўлых «рэестраўцаў» [14, с. 99]. Барабаша пасля катаванняў забілі, а Крычэўскага прадалі татарам. Аб нечым падобным у лісце да сандамірскага ваяводы пісаў і палкоўнік Карэцкі, які, праўда, памылкова лічыў, што Крычэўскага таксама забілі [8, с. 28—29]. З палону ж шляхціца выратаваў сам Хмяльніцкі: ён нібыта выкупіў таго за 4 000 талераў. Па другой версіі, Крычэўскі трапіў у татарскі палон пасля бітвы на Жоўтых водах (29 красавіка — 16 траўня 1648 года), дзе ваяваў на баку Рэчы Паспалітай [12, с. 156]. Але і ў гэтым выпадку гавораць пра выкуп, што заплаціў запарожскі гетман.

Як бы там ні было насамрэч, але вясной 1648 года Станіслаў Крычэўскі прапанаваў сваю шаблю Хмяльніцкаму і, прыняўшы новае імя Міхаіл, перайшоў з каталіцызму ў праваслаўе. Між тым ён быў не адзіным прадстаўніком роду Крычэўскіх, які ў той час звязаў свой лёс з паўстанцамі. Некаторы час гетман Запарожскага Войска (які, дарэчы, стаў новым хросным бацькам Міхаіла) трымаў яго пры сабе ў якасці дарадцы [3, с. 128]. Трэба адзначыць, што як толькі Крычэўскі апынуўся на баку казакоў, ён ператварыўся ледзь не ў галоўнага праціўніка замірэння з Каронай. Гэта дае падставу яшчэ раз падняць пытанне аб матывах яго пераходу да Хмяльніцкага, тым больш па некаторых звестках у чыгірынскага палкоўніка адбылася вялікая сварка з кімсьці з вышэйшых польскіх афіцэраў, у выніку якой Крычэўскі быў збіты слугамі апошняга. Цалкам магчыма, што прычынай яго пераходу да паўстанцаў стала нанесеная яму абраза. У любым выпадку шляхціц, прызначаны кіеўскім палкоўнікам, адразу стаў правай

рукой запарожскага гетмана і ў гэтай якасці прымаў удзел у бітвах пад Канстанцінавам (26—28 ліпеня 1648 года) і Піляўцамі (21—23 верасня 1648 года), паходзе ў Галіччыну, аблозе Замосця (6—21 лістапада 1648 года) і ў мностве іншых лакальных баёў. Дарэчы, пад Піляўцамі на герцы быў зарублены Я.Закжэўскі, што ваяваў у складзе каронных войскаў. Гэта быў той самы шляхціц, дзякуючы адхіленню якога Крычэўскі некалі ўзначаліў Чыгірынскі полк.

Ледзь не з першых жа месяцаў пасля пачатку паўстання у арбіту падзей «казацкай вайны» сталі ўцягвацца ўсё новыя і новыя ўдзельнікі. Першыя перамогі Хмяльніцкага сталі штуршком да сацыяльнага выбуху не толькі на ўкраінскіх землях, але і на тэрыторыі ВКЛ. У першую чаргу гэта датычылася геаграфічна набліжанага да ўкраінскіх паветаў Кароны беларусскага Палесся, жыхары якога з прычыны сваёй культурнай і этнаканфесійнай блізкасці да паўстанцаў былі вельмі ўспрымальнымі да казацкіх ідэй [17, с. 395]. Першыя казацкія аддзелы з'явіліся на землях Вялікага Княства ў ліпені 1648 года, а ўжо восенню амаль што ўвесь поўдзень ВКЛ быў ахоплены вайной, якая, па словах беларускага даследчыка С.Чаропкі, стала «вынікам зліцця сацыяльных, нацыянальных, рэлігійных, культурных супярэчнасцей у адзіным комплексе» [16, с. 15].

Разам з паўсталымі сялянамі і гарадской чэрню казакі забівалі шляхту і яўрэяў, палілі маёнткі і рабавалі гарады. У першай палове 1649 года ў польнага літоўскага гетмана князя Я. Радзівіла, які «агнём і мячом» прайшоў па паўсталых паветах, атрымалася ўзяць пад кантроль мяцежны поўдзень Вялікага Княства і навесці там адносны парадак [4, с. 134]. Занепакоены гэтай сітуацыяй Хмяльніцкі



Лоеўская бітва.



Узяцце ў палон Міхала Крычэўскага ў бітве пад Лоевам. Габелен з Нясвіжскай мануфактуры Радзівілаў (Крычэўскі ў ніжнім правым кутку).



Януш Радзівіл.

выслаў насустрач Радзівілу казацкі аддзел на чале з І. Галотам, што ў хуткім часе быў амаль поўнасцю знішчаны. На той момант апошняй перашкодай на шляху радзівілаўскіх харугваў заставаўся невялікі атрад палкоўніка С. Падабайлы, які наўрад ці змог бы іх затрымаць. Радзівіл ужо планаваў паход на Хмяльніцкага і нават сканцэнтраваў сваё войска для пераправы пад Лоевам, калі даведаўся, што на яго ідзе мнагатысячны казацкі гурт, да якога далучыліся «некалькі тысяч рознага роду мужыкоў» [4, с. 135]. Узначальваў іх Крычэўскі — Хмяльніцкі папярэдне прызначыў яго наказным гетманам над васьмю палкамі [10, с. 73].

У свой апошні вайсковы паход Крычэўскі адправіўся 1 ліпеня 1649 года. Цікава, што шляхціц згадзіўся на гэтую авантуру толькі пад націскам Хмяльніцкага і ўлічваючы небяспеку з боку Вялікага Княства. Пасля пераправы цераз Прыпяць і перамогі над невялікім атрадам ротмістра Лажэцкага да казакоў сталі збягацца навакольныя сяляне, у выніку чаго колькасць войскаў, якія рухаліся ўглыб ВКЛ, значна павялічылася. Сам наказны гетман не хацеў прымаць «мужыкоў», паколькі імкнуўся, каб у яго войску былі толькі дысцыплінаваныя і дасведчаныя воіны [3, с. 132]. Цяжка сказаць, колькі насамрэч людзей было ў Крычэўскага. У гістарычнай літаратуры сустракаюцца розныя лічбы: ад 10 да 40 тысяч. У дадзеным выпадку трэба звярнуць увагу на праведзены С. Плохім аналіз асноўных крыніц па гэтаму пытанню (такіх, як «Rerum in Magno Ducatu Lithvanie per tempus rebellionie Russicae gestarum Commentarius» і так званыя «паказанні Я.Неўмерыцкага», у склад якіх, акрамя паказанняў самога Неўмерыцкага, уваходзяць вынікі допытаў соценнага пісара М. Бруцяцкага і іншыя дакументы). Ананімны аўтар першага твора пісаў, што першапачаткова ў Крычэўскага было 15 000 чалавек, да якіх потым далучыліся чарнобыльцы (2 000), Оўруцкі полк (6 000) і атрад Г. Галоты (5 000) [13, с. 41]. У сваю чаргу непасрэдны ўдзельнік падзей Я.Неўмерыцкі гаварыў на допыце пра 10 000 казакоў кіеўскага палка, да якіх далучыліся тры атрады агульнай колькасцю 7 500 чалавек. Гэтыя лічбы пацвердзіў і М. Бруцяцкі. Між тым сам Крычэўскі гаварыў пра 15 000 [13, с. 41]. Найбольш фантастычнымі падаюцца звесткі маскоўскга дзяка Кунакова, які дакладваў свайму цару, што ў наказнога гетмана было 40 000 чалавек [2, с. 46].

Тым часам ад палонных жаўнераў Крычэўскі даведаўся: жыхары Рэчыцы гатовы прыняць казацкія аддзелы. Ён пусціў чуткі, што пойдзе на гэты горад, а сам накіраваўся да Радзівіла, у якога было прыблізна 7 000 жаўнераў. У казакоў атрымалася незаўважна падысці да вайсковага стана літвінаў і заняць выгадныя пазіцыі. Наказны гетман ужо рваўся ў бой, але нечакана сутыкнуўся з процідзеяннем казацкіх старшын, якія не жадалі рызыкаваць, пакуль да асноўнай масы войскаў не падцягнецца пяхота, артылерыя і абозы [19, 302]. Крычэўскі так і не здолеў канчаткова пераканаць сваіх камандзіраў у мэтазгоднасці хуткага нападу на Радзівіла, але на той момант ён ужо прыняў фатальнае для сябе і сваіх таварышаў рашэнне [3, с. 148].

Найбуйнейшая бітва так званай казацка-сялянскай вайны пачалася пад Лоевам 31 ліпеня 1649 года ў 9 гадзін раніцы з атакі казацкай конніцы [1, с. 216]. Пры гэтым, каб у жаўнераў Вялікага Княства склалася ўражанне, быццам на іх напалі татары, коннікі імчаліся з крыкамі «Алах!» [11, с. 38]. Радзівіл, у якога на той час пад рукой было не больш за 3 500 чалавек, як мог трымаў абарону. Становішча змянілася, калі па Крычэўскаму ўдарылі гусарскія харугвы С. Камароўскага і А. Паўловіча, што ў гэты час вярталіся

з раз’езду і выпадкова апынуліся на полі бою. У выніку гэтага рэйду гусараў казацкае войска было рассечана папалам, і частка яго на чале з Крычэўскім спусцілася бліжэй да Дняпра, дзе і замацавалася.

Цяпер наказны гетман мог разлічваць толькі на Падабайлу, які ў гэты час з 10 000 казакоў знаходзіўся на супрацьлеглым беразе Дняпра. Крычэўскі чакаў, што Падабайла ўдарыць па тылах літоўскага войска [11, с. 39]. Той аднак адправіў на дапамогу толькі трохтысячны атрад, які ледзь не цалкам быў перабіты ўжо падчас пераправы. Пасля гэтай перамогі Радзівіл разбіў казацкую пяхоту. Што датычыцца Падабайлы, то ён з асноўнай часткай свайго войска так і не рушыў з месца. Калі стала вядома, што Крычэўскаму ўжо няма каму дапамагчы, Радзівіл аддаў загад атакаваць казацкія ўмацаванні. Войска ВКЛ тройчы ішло на штурм, але кожны раз адступала з вялікімі стратамі [1, с. 216]. Каб не рызыкаваць у цемры, літоўскі гетман адклаў чарговую атаку да наступнага дня. Ноччу, скарыстаўшыся адыходам радзівілаўскіх жаўнераў, казакі, зняўшыся з месцаў, адступілі на Кіеў і Чарнігаў [1, с. 216].

Калі раніцай пасланы Радзівілам у разведку ротмістр Смольскі падышоў да казацкіх умацаванняў, ён не ўбачыў там нікога, акрамя некалькіх параненых. Недзе недалёка знайшлі і Крычэўскага, які ляжаў на насілках [18, с. 280]. Ён атрымаў два агністрэльныя раненні: адна куля трапіла яму ў бок, а другая — пад вока. В. Ліпінскі лічыў, быццам наказны гетман, які быў у адчаі ад паразы, сам загадаў казакам пакінуць яго паміраць [19, с. 313]. Больш верагодна, ён быў у такім стане, што казакі палічылі немагчым несці яго з сабой [18, с. 280]. Пры гэтым нельга не адзначыць думку Ю. Мыцыка наконт таго, што казацкія старшыны наўпрост не маглі даравяць Крычэўскаму гэтай паразы [11, с. 40]. У кантэксце канфлікту паміж казацкімі старшынамі і наказным гетманам напярэдадні Лоеўскай бітвы гэтая версія мае сваё права на жыццё. Тым больш, па некаторых сведчаннях у ноч адыходу казакоў з боку іх лагера даносілася лаянка, якая нібыта датычылася Крычэўскага [6, с. 559].

Радзівіл паслаў да Крычэўскага свайго лекара. У дадзеным выпадку наўрад ці можна гаварыць аб нейкім прыгожым жэсце ці знаку павагі да наказнога гетмана. Князь наўпрост хацеў даведацца ад яго пра планы Хмяльніцкага [6, с. 304]. Нягледзячы на дапамогу лекара, 3 жніўня берасцейскі шляхціц аддаў Богу душу. Калі перад смерцю ў яго запыталіся, ці не хоча ён паклікаць святара, Крычэўскі быццам адказаў, што на яго душу не хопіць і сарака святароў. Паміраючы, гетман папрасіў толькі вядро ледзяной вады [6, с. 304].



Пасмяротны партрэт Крычэўскага.

Існуе легенда, згодна з якой Радзівіл загадаў пахаваць Крычэўскага ў асобнай труне і паставіць над ёй крыж з надпісам «Kriczewius Cosacorum rebellium Dux» («Крычэўскі, правадыр збунтаваных казакоў») [3, с. 173]. Але наўрад ці падобнае было магчыма, калі ўлічваць, што сам Радзівіл называў свайго саперніка не інакш як «здраднікам» [6, с. 304]. Хутчэй за ўсё, прыгожая гісторыя пра крыж з’яўляецца літаратурнай легендай. У свой час яе вельмі актыўна рэтранслявалі ўкраінскія пісьменнікі-эмігранты А.Чайкоўскі (аповесць «Полковник Кричевський») і П.Фядэнка (гл., напрыклад, варыяцыю на тую ж тэму ў яго аповесці «Amor Patriae»), аўтары шматлікіх тэндэцыйных небыліц пра казацкіх правадыроў.

Крычэўскі, якому некалі не знайшлося месца ў Вялікім Княстве Літоўскім, вярнуўся на Радзіму з мячом. З сабой ён нёс толькі вайну, разбурэнні і кроў. Мабыць, і ёсць нешта сімвалічнае ў тым, што менавіта на роднай для сябе зямлі ён у выніку і скончыў свой жыццёвы шлях. Між тым для справы

Калі раніцай пасланы Радзівілам у разведку ротмістр Смольскі падышоў да казацкіх умацаванняў, ён не ўбачыў там нікога акрамя некалькіх параненых. Недзе недалёка знайшлі і Крычэўскага, які ляжаў на насілках

казацкага паўстання смерць Крычэўскага не была дарэмнай. Паводле выразу М. Грушэўскага, коштам жыцця наказнога гетмана «літоўская дыверсія была затрымана з самага пачатку» [19, с. 321]. В. Смолій і В. Сцепанкоў таксама лічаць, што, нягледзячы на страшную паразу, у Крычэўскага атрымалася выканаць стратэгічны план Хмяльніцкага — не дапусціць літоўскае войска ва ўкраінскія землі [15, с.113]. Аднак гэта была толькі часовая перашкода на шляху войскаў Радзівіла — у 1651 годзе ён усё ж увёў свае харугвы ў Кіеў.


1. Анісавец, М. Лоеўская бітва 1649 г. / Вялікае Княства Літоўскае: энцыклапедыя: у 3 т. Т. 2: Кадэцкі корпус — Яцкевіч / рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал. рэд.) [і інш.]. — Мінск.: Беларуская энцыклапедыя, 2007. — С. 215—216.
2. Белоруссия в эпоху феодализма: сб. документов: в 3 т. — Т. 2: С середины XVII до конца XVIII века до воссоединения с Россией. / Сост. А. И. Азаров и др. — Минск: Изд-во АН БССР, 1960. — 560 с.
3. Бярнацкі, В. Паўстаньне Хмяльніцкага: ваенныя дзеяньні ў Літве ў 1648—1649 гг. / В. Бярнацкі. — Смаленск: Інбелкульт, 2015. — 183 с.
4. Гісторыя сялянства Беларусі ад старажытнасці да 1996 г.: у 3 т. — Т. 1: Ад старажытнасці да 1861 г. / рэдкал.: Я.К. Анішчанка, Г.Я. Галенчанка, В. Ф. Голубеў. — Мінск: Беларуская навука, 1997. — 431 с.
5. Грушевський, М.С. Історія України—Руси. — Т. 8: Фотопередрук з 2-го видання 1922 року. — Нью-Йорк: ВТ «Книгоспілка», 1956. — 864 с.
6. Джерела з історії Національно-визвольної війни українського народу 1648—1658 рр.: в 4 т. — Т. 1: 1648—1649 рр. / Упор.: Ю. Мицик. — Київ: Інститут української археографії та джерелознавства ім. М.С. Грушевського, 2012. — 680 с.
7. Документи Богдана Хмельницького / Упор.: І. Бутич, І. Крип'якевич. — Київ: Вид. Академії наук УРСР, 1961. — 740 с.
8. Документы об освободительной войне украинского народа 1648—1654 гг. / Сост.: А. З. Барабой, И. Л. Бутич, А. Н. Катренко, Е. С. Компан. — Киев: Наукова думка, 1965. — 828 с.
9. Костомаров, Н. И. Богдан Хмельницкий / Н. И. Костомаров — М.: Чарли, 1994. — 768 с.
10. Кривошея, В. Козацька еліта Гетьманщини / В. Кривошея. — Київ: ІПіЕНД ім. Ф.Ф. Кураса, 2008. — 451 с.
11. Мицик, Ю. Битва під Лоєвим 1649 р. / Ю. Мицик // Гісторыя Лоеўскай зямлі. Факты, Каментарыі: Матэрыялы міжнар. нав.-практ. канф., прысвечанай 500-годдзю утварэння г.п. Лоеў; Лоеў, 20 кастр. 2005 г.) / Рэд. кал. С. А. Чаропка (адк. рэд.) і інш. — Гомель, 2006. — С. 34—43.
12. Мялешка, В. Крычэўскі Міхайла / В. Мялешка / Вялікае Княства Літоўскае: энцыклапедыя: у 3 т. — Т. 2: Кадэцкі корпус — Яцкевіч / рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал. рэд.) і інш. — Мінск: Беларуская энцыклапедыя, 2007. — С. 156.
13. Плохий, С.Н. Освободительная война украинского народа 1648—1654 гг. в латиноязычной историографии середины XVII в. / С. Н. Плохий. — Днепропетровск: Ред. изд. отдел ДГУ, 1983. — 65 с.
14. Смолій, В. А., Степанков В. С. Богдан Хмельницький: соціально-політичний портрет / В. А. Смолий, В. С. Степанков. — 2-е вид., доп., перероб. — Київ: Либідь, 1995. — 624 с.
15. Смолій, В.А., Степанков В. С. Українська національна революція XVII ст. (1648—1676 рр.) / В.А. Смолий, В. С. Степанков. — Київ: Вид. дім «Києво-Могилянська академія», 2009. — 447 с.
16. Чаропка, С. Палескі паход Януша Радзівіла 1649 г. С Чаропка // Беларускі гістарычны часопіс. — 2011. — №1. — С. 15—22.
17. Чаропка, С. Палессе ў ліхалецці сярэдзіны XVII ст. // Вялікае Княства Літоўскае: палітыка, эканоміка, культура: зб. навук. арт.: у 2 ч. — Ч. 1 / уклад.: А. А. Скеп'ян. — Мінск: Беларуская навука, 2017. — С. 395—408.
18. Kotłubaj, E. Życie Janusza Radziwiłła / E. Kotłubaj. — Oświęcim: Napoleon V, 2016. — 350 c.
19. Lipiński, W. Stanisław Michał Krzyczewski. Z dziejów walki szlachty ukraińskiej w szeregach powstańczych pod wodzą Bohdana Chmielnickiego / W. Lipiński. — Kraków: Drukarnia A. Rippera, 1912. — 376 c.
20. Majewski, W. Krzyczewski (Kr-zeczowski) Stanisław (Michał) // Polski Słownik Biograficzny. — Tom XV: Kozłowska Zofia - Kubacki Stanisław. — Wrocław — Warszawa — Kraków: Zakład Narodowy Imienia Ossolińskich, Wydawnictwo Polskiej Akademii Nauk, 1970. — С. 553—554.


**У наступным нумары «М» чытайце артыкул Мікалая Анісаўца «Лоеўскі прарыў 6 ліпеня 1651 года».**

# Усёпранікальны свет гандлю



**Гандаль вакол нас. Купля-продаж паўсюль. На працягу тысяч гадоў. Гандаль — які ён цяпер? Які́м павінен быць работнік гандлю? Ці ёсць штосьці за межамі гандлю? І якое ў нас заўтра? На гэтыя і іншыя пытанні дырэктар філіяла БДЭУ «Мінскі гандлёвы каледж» Георгій Космач адказаў Дзмітрыю Шулюку.**

**— Што новага ўзнікла сёння ў сферы такой дзейнасці, як гандаль? І як гэта ўплывае на вучэбныя працэсы і лёсы вашых выпускнікоў?**

— Займаючыся падрыхтоўкай спецыялістаў у сферы гандлю, мы заўсёды ўлічваем перспектывы нашай галіны. А наогул, змены відавочныя для ўсіх. Калі раней існавалі толькі гастраномы, універсамы і прадпрыемствы грамадскага харчавання, то цяпер пералік гандлёвых аб'ектаў стаў вельмі разнастайным. Замежныя прадпрыемствы. Мноства індывідуальных прадпрыемстваў. Вялікія гіпермаркеты маюць вялікія гандлёвыя сеткі. У іх ёсць аб'екты ва ўсіх мікрараёнах. І ў кожнага з гэтых прадпрыемстваў — свая арганізацыя гандлю.

Гіпермаркет — гэта вялікая плошча і амаль адсутнасць прадаўцоў. У гастраномах і ўніверсамах прадавец ёсць абавязкова. З улікам гэтых асаблівасцей будуюцца і патрабаванні да нашых выпускнікоў. Тое ж можна сказаць і пра сферу грамадскага харчавання. Ёсць аб'екты (напрыклад, рэстараны), якія знаходзяцца пры гасцініцы. Там і сняданак, і абед, і ланч. Там і канферэнцыі, і семінары, і сходы. Ёсць маленькія кафэ на 15—20 чалавек. Ёсць кафэ вялікія. Ёсць загарадныя. Ёсць аграсядзібы. Усё вельмі па-рознаму зладжана і дыктуе адрозныя патрабаванні. Гандаль ніколі не стаіць на месцы. Гандаль заўсёды ўлічвае наяўнасць і разнастайнасць тавараў і паслуг. Ён улічвае і нас — пакупнікоў і спажыўцоў. І ў залежнасці ад гэтага, як я ўжо казаў, фарміруюцца патрабаванні да нашых выпускнікоў.

Асобна трэба адзначыць вялікія аддзелы кулінарыі ў гандлёвых цэнтрах. Яны не толькі прадаюць, яны і вырабляюць сваю прадукцыю. Гэта важная асаблівасць і дадатковыя магчымасці для нашых выпускнікоў атрымаць месца працы. А паглядзіце, як развіваецца гандаль на аўтазаправачных станцыях! Раней гэта былі проста аўтазапраўкі. А цяпер, акрамя адпаведнай гандлёвай дзейнасці накшталт  продажу запчастак, там ёсць кафэ, гастранамія і іншыя віды паслуг. Гэта ўжо асобны від гандлю, які прапануе паслугі кругласутачна. Прадавец АЗС павінен быць не проста прадаўцом. Ён павінен і маторнае масла прадаць, і растлумачыць пакупніку розныя абавязковыя падрабязнасці. Ён павінен прадаць кефір-вадзічку-каўбасу і зрабіць бутэрброды, хот-догі ці яшчэ што-небудзь.

Насамрэч нават для ГУМа і ЦУМа сёння характэрны нашмат больш шырокі ў параўнанні з ранейшым спектр тавараў і паслуг. І, зразумела, гэта цікава не толькі нашым выпускнікам, але і нам як спажыўцам.

**— У сувязі з такімі зменамі ўзнікае пытанне. Раней, каб працаваць у сферы гандлю, трэба было ўмець добра камунікаваць. А зараз? Якія навыкі неабходны вашым выпускнікам у першую чаргу?**

— Ведаеце, пра гэта можна гаварыць шмат і рознае. Але і сёння ў першую чаргу работнік гандлю павінен умець размаўляць. Умець расказаць пра якасць таго, што ён прадае. Пра асаблівасці тавару, пра тое, чым ён лепшы, чаму ён па-

трэбны пакупніку. Мы і самі можам паглядзець на кошт, самі можам выбраць што-небудзь, але калі ўзнікае пытанне, мы ідзём да прадаўца. Ёсць нават такая прафесія — прадавец-кансультант. З вялікай колькасці тавараў мы жадаем купіць лепшае. Калі ідзём купляць штосьці сур'ёзнае, бяром з сабой членаў сям'і або сябра, каб мець магчымасць абмеркаваць пакупку: ці тое гэта, што трэба? Але прадавец дапаможа больш. І для гэтага ён павінен умець размаўляць прафесійна, пісьменна і пераканальна. Таму ў нас ёсць дысцыпліна «Этыка дзелавых зносін». Вывучаецца ў нас і замежная мова, бо некаторыя тэрміны, паняцці можна не заўсёды правільна перакласці на нашу мову літаральна. Трэба разумець сутнасць глыбей, чым на размоўным узроўні. Павінна быць гатоўнасць працаваць з пакупніком. А пакупнікі ўсе розныя. Кожны — са сваім характарам, са сваімі асаблівасцямі, патрабаваннямі, што адбіваецца на ўсіх з'явах іх жыцця, нават на пакупках.

**— Вернемся крыху назад. Вы сказалі, што адгалінаванняў у сферы гандлю становіцца ўсё больш. А ў якія з іх з большым запалам імкнуцца вашы навучэнцы?**

— Часцей за ўсё канкрэтнае жаданне з'яўляецца ўжо падчас выбару прафесіі. Нехта выбірае «Вытворчасць прадукцыі і арганізацыя грамадскага харчавання», і гэтая спецыяльнасць прыводзіць яго толькі ў сферу грамадскага харчавання. Нехта выбірае «Таваразнаўства прадуктовых тавараў», нехта — «Таваразнаўства непрадуктовых тавараў». Нехта — «Эканоміку гандлю». Калі абітурыенты ажыццяўляюць выбар, яны такім чынам заяўляюць пра тое, што ім больш падабаецца. Ну, а калі канкрэтызаваць адказ, то самы вялікі конкурс у нас на спецыяльнасці «Грамадскае харчаванне». За ім ідуць «Непрадуктовыя тавары». І пасля ўжо «Прадуктовыя тавары». Але цяпер паўсюль прадаецца ўсё — і непрадуктовыя тавары, і прадуктовыя. Возьмем гіпермаркеты. Мы ж бачым, які там выбар: і тэхніка, і бытавая хімія, і вопратка, і кветкі, і прадукты. Улічваючы гэта, у нас і на тых, і на іншых спецыяльнасцях, што датычацца гандлю, вывучаюць і таваразнаўства прадуктовых тавараў, і таваразнаўства непрадуктовых тавараў. Зразумела, у розных аб'ёмах. Тут усё ўлічваецца. Але ўсё адно большай папулярнасцю карыстаецца менавіта «Грамадскае харчаванне».

**— Раптам стала цікава, як вы самі сюды трапілі.**

— Яшчэ ў школе я планаваў звязаць сваё жыццё з адукацыяй. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут (цяпер Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт), інжынерна-педагагічны факультэт. Спецыяльнасць у мяне — будаўнік, кваліфікацыя — інжынер-выкладчык. Я свядома ішоў на гэты факультэт. Як гэта звязана з гандлем? На гэтым факультэце, акрамя іншага, вывучалі ўсё, звязанае з педагагічнай дзейнасцю. І педагогіку, і псіхалогію. Мы вывучалі методыку навучання, культуру маўлення, ТСН (тэхнічныя сродкі навучання). Мы праходзілі ўсё — ад распрацоўкі вучэбных праграм да складання каляндарна-тэматычных планаў. То бок, арганізацыю вучэбнага працэсу ў любой навучальнай установе. Так, я не праводжу заняткі з тэхнолагамі па тэхналогіі гатавання ежы і з таваразнаўцамі таксама заняткі не праводжу. Але ўсё, што датычыцца арганізацыі вучэбнага працэсу і методыкі навучання, — гэта мая праца. Я магу выкладаць ахову працы, асновы экалогіі, менеджмент. Мая адукацыя дазваляе мне працаваць у навучальнай установе, якая дае сярэднюю спецыяльную адукацыю любога напрамку: гандаль, будаўніцтва, машынабудаванне і г. д.

**— Скарыстаюся момантам. Я — чалавек, блізкі да мастацтва. І мне крыху сумна ад таго, што мастацтва часам камерцыйнае. А вось з вашага боку, напэўна, гэта выглядае інакш. Як вы глядзіце на тое, што карціны і кнігі ствараюцца адразу на продаж, робяцца прадуктамі гандлю?**

— Гэта вельмі актуальнае пытанне. Мы ўжо гаварылі, што ўменне размаўляць для прадаўцоў з'яўляецца вельмі важным. Але сапраўды сум выклікае тое, што яны мала чытаюць. Раней, вы ж ведаеце, літаратура ў нашай краіне і ва ўсім Савецкім Саюзе карысталася вялікім попытам. Прычым і як мастацтва, і як аб'ект продажу. Я памятаю часы, калі мы здавалі макулатуру, каб атрымаць талоны, а за талоны купіць кнігі і чытаць іх.

Але нельга, каб тое, што выдаецца, было толькі прадуктам мастацтва — яно яшчэ і аб'ект продажу, без гэтага ніяк. Таму і зараз літаратуру



Конкурс талентаў «Хвіліна славы».

купляюць: і кожны для сябе як спажывец, і каледжы — для сваіх бібліятэк, у якія навучэнцы ходзяць па кнігі для заняткаў — і па спецыяльных дысцыплінах, і па агульнаадукацыйных. Мы штогод купляем дастаткова самай рознай літаратуры для бібліятэкі. Кожны чалавек павінен быць развіты ўсебакова. Літаратура, мастацтва, культура — гэта важна не толькі для вас, а і для нас. Для ўсіх.

**— Каб падвесці вынікі нашай размовы, як дырэктар навучальнай установы скажыце, якім вы бачыце наша заўтра?**

— Наша заўтра? Вы маеце на ўвазе нашых дзяцей? Разумееце, трэба гэта «заўтра» выхаваць, падрыхтаваць. Усё пачынаецца ў сям'і, школе. А затым працягваецца ў нас. Тут абавязкова трэба ўлічваць, што «заўтра» расце ў іншым асяроддзі — сацыяльным, эканамічным, інфармацыйным — у параўнанні са сваімі бацькамі і з намі як выхавацелямі. Гэтую праблему можна назваць вечнай. Яшчэ Тургенеў яе ўздымаў, а часу з той пары прайшло шмат. Праблема ўсё ж засталася. Я камсамольцам быў, акцябронкам. А зараз іншае пакаленне. Пакаленне мяняецца за пакаленнем. Для гэтага дастаткова 20—25 гадоў. Заўсёды атрымліваецца так, што бацькі і дзеці, выкладчыкі і студэнты — прадстаўнікі розных сістэм выхавання, рознага асяроддзя. І таму, выхоўваючы, неабходна помніць, што менавіта вучань-навучэнец-студэнт бліжэй да сучаснасці. Мы не маем права гаварыць, што моладзь «не такая». Гэта мы збольшага «не такія»: няправільна ўспрымаем рэчаіснасць і параўноўваем яе  са сваёй маладосцю. А павінны разумець іх. Вось гэта наша задача. Вельмі часта бацькі не разумеюць дзяцей, бо не могуць самі прыстасавацца да сучаснасці і жадаюць, каб дзеці прыстасаваліся да іх мінулага. Да таго, што за спіной. І толькі прыняўшы «сёння», мы маем права рыхтаваць «заўтра». Рыхтаваць у выглядзе пісьменных добразычлівых людзей, якія могуць прымаць самастойныя рашэнні. Выхоўваць добрасумленных людзей, якія стануць нашым заўтрашнім днём.

**Святлана Воцінава**

# Майстэрства і мастацтва жыцця

**Гэты артыкул падрыхтаваны спецыяльна ў «студэнцкі» нумар «М» з нагоды юбілею Мінскага гандлёвага каледжа. Віншуючы ўстанову са святам, з прыемнасцю распавядаем пра яе супрацоўнікаў, навучэнцаў і справы — вучэбныя і астатнія. Праз лёсы асобных выкладчыкаў — ветэранаў каледжа — малююцца тут партрэты людзей, шчаслівых у сваёй прафесіі і магчымасці перадаваць яе ў спадчыну з дапамогай мудрых і светлых запаветаў-ўрокаў майстэрства і мастацтва жыцця.**

## Пачынаючы з Мінскага тэхнікума савецкага гандлю

Ларыса Макараўна Ермаліцкая выкладае фізічную і калоідную хімію, мікрабіялогію і фізіялогію харчавання. Гэтыя прадметы патрэбны не ўсім навучэнцам установы, дзе вывучаюцца адметнасці гандлю, а толькі заўтрашнім тэхнікам-тэхнолагам, якія будуць працаваць у сферы грамадскага харчавання спачатку ў якасці повараў, а потым, калі захочуць і пастараюцца, то і загадчыкамі вытворчасці. Выпускнікоў Мінскага гандлёвага каледжа можна наогул сустрэць і на вельмі прэстыжных пасадах — скажам, дырэктара рэстарана ці супрацоўніка Міністэрства гандлю. Таму што, атрымаўшы тут дыплом, яны маюць магчымасць працягнуць адукацыю ў абраным прафесійным накірунку: па-першае, у Магілёўскім дзяржаўным універсітэце харчавання, дзе тэхнікі-тэхнолагі ператвараюцца ў інжынераў-тэхнолагаў, а па-другое, у Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце, філіялам якога і з’яўляецца каледж, дзе ўжо сорак пяць гадоў працуе Ларыса Макараўна.

Я так мудрагеліста пачынаю аповед пра ветэранаў каледжа. Прызнаюся, што слова «ветэранаў» хацела ўзяць у двукоссе: такімі маладымі, бадзёрымі і аптымістычнымі выглядаюць мае суразмоўцы. Прагаварыўшы з імі амаль дзве гадзіны, мне б стаміцца, а я наадварот — «падзарадзілася»! Нават дыктафон, які меў крытычную адну палоску ў акенцы зарадкі батарэі і для якога куплена ўжо было новае сілкаванне, перабіць нашу размову на перастаноўку батарэек не наважыўся: відаць, і яму было вельмі цікава, і ён энергію не растрачваў, а наадварот — акумуляваў. Ларыса Макараўна была першай, чый голас ён выдаваў мне пасля, ужо ў рэдакцыі. З яе гісторыі і вырашана было пачаць гэты расповед. Мінскі гандлёвы каледж — яе першае і адзінае ў жыцці месца працы. Безумоўна, сорак пяць гадоў таму, калі яна толькі пачала выкладаць, ён называўся інакш, а дакладна — тэхнікум савецкага гандлю. І знаходзіўся па іншым адрасе. Але яна лепш сама ўсё раскажа, пачынаючы свой аповед нават раней, чым з першага працоўнага дня. Па маёй асабістай просьбе.

Даведаўшыся, што Ларыса Макараўна скончыла біялагічны факультэт БДУ, я не магла не распытаць у яе — калегі па адукацыі — пра тое, чым быў наш з ёй агульны факультэт у тыя шчырыя, чыстыя, рамантычныя 1960-я, пажыць у якія — нязбытная мара.

Скарысталася службовым становішчам, так бы мовіць. І, дарэчы, неаднойчы ў гэтым тэксце. Але няхай чытач мне даруе такую вольнасць. Бо ёсць рэчы, вартыя згадкі, ды не на кожную з іх знаходзіцца аўтар і тэкст.

Дык вось, у 1971 годзе Ларыса Макараўна Ермаліцкая скончыла біялагічны факультэт БДУ, навучаючыся ў якім...

— ...заспела залаты фонд выкладчыкаў вялікай краіны. Дацэнты ў нас амаль не выкладалі, часцей прафесары і акадэмікі — яшчэ тыя, хто стаяў ля вытокаў БДУ, і іх першыя вучні. Хімію чытала вучаніца Хомчанкі (*знакамітага аўтара падручніка, па якім не адно пакаленне рыхтавалася да ўступных экзаменаў*). Генетыку — акадэмік Мікалай Васільевіч Турбін (*бацька паэтэсы Любові Турбіной, між іншым*). Матэматыку — дэкан механіка-матэматычнага факультэта Аляксей Адамавіч Гусак (*таксама прозвішча з кніжнай вокладкі, памятаеце?*). Прафесар Ігар Канстанцінавіч Лапацін узначаліў кафедру заалогіі пазваночных, калі мы вучыліся на трэцім курсе. А заалогію беспазваночных чытаў Георгій



Спартыўныя дасягненні.

Георгіевіч Вінберг, якому пасля прапанавалі загадваць лабараторыяй у Заалагічным інстытуце Акадэміі навук СССР у Ленінградзе. Адтуль ён прыязджаў чытаць лекцыі для навуковых супрацоўнікаў, і некаторым студэнтам дазвалялася на іх прысутнічаць. Такія былі нашы выкладчыкі, яны шліфавалі і нас…

Безумоўна, усе, хто вучыўся на біяфаку ў такім асяродку, марылі, што будуць займацца навукай. Марыла пра гэта і мая суразмоўца. Ды той, хто распараджаецца лёсамі, меў іншыя планы на яе конт: некаму ж трэба вучыць будучых тэхнікаў-тэхнолагаў у тэхнікуме савецкага гандлю — дык няхай гэта будзе яна. І падкінуў спачатку аб’яву ў «Вячорцы» пра тое, што тэатральнаму інстытуту патрабуецца выкладчык анатоміі, а потым, ужо ў інстытуце, — тых, хто падказаў, што побач, на Хмяльніцкага, 5 ёсць тэхнікум, куды таксама патрабуецца біёлаг. Яна пайшла туды — і засталася. І выпусціла з таго дня дзесяць груп як куратар.

Адразу пасля ўніверсітэта — у выкладчыкі спецыяльных прадметаў. Трэба думаць, што гэта няпроста. Як набыць хаця б першы, стартавы вопыт? Дзякуючы той акалічнасці, што большасць калег працуе з часу заснавання, з 1957-га!

— БДУ дае шмат ведаў, але трэба было звязаць іх з грамадскім харчаваннем. Таму звярталася па дапамогу да вопытных выкладчыкаў хіміі, тэхналогіі гатавання ежы і таваразнаўства — Любові Васільеўны Дайнека, Раісы Арцёмаўны Пахомавай, Галіны Ігнатаўны Герасімовіч, Нілы Іванаўны Тарашкевіч, Тамары Паўлаўны Сініцы, Ніны Сяргееўны Сімунць.

На пытанне пра традыцыі, якія склаліся і якіх з павагай адно да аднаго прытрымліваюцца выпускнікі і іх былыя куратары, Ларыса Макараўна прыводзіць прыклад стасункаў, наладжаных у яе з 227-й групай. На сустрэчах выпускнікоў кожнаму прадастаўляецца слова, і кожны расказвае пра сябе… літаральна ўсё.



Работа аб'яднання па інтарэсах. Карвінг.

— Як на споведзі: і добрае, і нядобрае — усё на суд групы. І калі на душы цяжка, я шукаю сустрэч з гэтай групай. Бо яны зразумеюць мо нават лепш, чым самыя родныя людзі. Мо і дзецям сваім таго не даверыш, што скажаш ім.

Гэта быў выпуск 1981 года. Шмат хто з іх меў узрост, які набліжаўся да ўзросту самой Ларысы Макараўны.

— Нехта прыйшоў вучыцца пасля арміі, нехта ўжо і папрацаваў — яны былі мне амаль што равеснікі. Я толькі не адразу зразумела, што розніца паміж намі ва ўзросце — гады два ці тры.

Тады, у 1970-я, тут вучыліся ў асноўным вясковыя дзяўчаты і хлопцы — «паводзінамі спакойныя, культурна выхаваныя, з добрым стаўленнем да заняткаў і больш прывучаныя да працы». У вёсцы выхоўвае асяроддзе. Многія з тых першых вучняў якраз і займаюць цяпер высокія пасады.

Жадаючы пачуць меркаванне пра сучасную моладзь, атрымліваю расповед пра тое, як цікава ёй, гэтай моладзі, у гэтых сценах. Кожную сераду, напрыклад, тут праводзяцца так званыя гадзіны куратараў, якім вельмі дапамагае выхаваўчы аддзел, — запрашае вядомых людзей, ладзіць розныя карысныя размовы. У гэтыя сцены, трэба адзначыць, завітвала і рэдакцыя «Маладосці». І неабходна яшчэ сказаць, што моладзь тут не з'яўляецца адно «спажыўцом цікавостак» — сама актыўнічае. Ларыса Макараўна з захапленнем расказвае пра тое, як ажыўлена праходзіць традыцыйны восеньскі сельскагаспадарчы кірмаш на плошчы Бангалор, як ахвотна падчас яго «валанцёрствуюць» навучэнцы каледжа — дапамагаюць пенсіянерам купляць прадукцыю, дастаўляюць яе ім дадому…

— І вокны памыюць, і, напёкшы пірагоў, запросяць у каледж на канцэрт.

Безумоўна, і канцэрт будзе зладжаны сіламі навучэнцаў.

## Ёсць такая пазіцыя: таваразнаўца

Тамара Мікалаеўна Каліта — майстар вытворчага навучання. У Мінскім гандлёвым каледжы працуе з 1980 года. У гандаль, як яна кажа, трапіла

абсалютна выпадкова. У школе была актывісткай, спартсменкай, і класны кіраўнік, выкладчык фізкультуры, прарочыў ёй вучобу ў Гродзенскім фізкультурным тэхнікуме.

— А сястра, паступаючы ў тэхнікум савецкага гандлю, атрымала на экзамене «двойку», і калі прыйшла, плачучы, я паўшчувала яе: «Гэта ж кім трэба быць, каб здаць экзамен на “двойку”?». Яна мне: «Ты б паспрабавала». Ну, я і паспрабавала.

Паспрабавала — і паступіла. Конкурс адзінаццаць чалавек на месца — а я ўмудрылася. Сказала маме, а тая ўзрадавалася: «Вучыся, дачушка».

Вучылася добра, хоць спачатку і свідравала думка, якая мае звычку назойліва прыходзіць да людзей, чый выбар прафесіі адбыўся раптоўна і таму ўспрымаецца як выпадковы: гэта, маўляў, не маё.

А вучоба бегла сваім парадкам. У 1978 годзе быў атрыманы дыплом з адзнакай па спецыяльнасці «Таваразнаўца» з размеркаваннем «у трэці прамгандаль, пятую краму».

Ад старшага прадаўца да загадчыка секцыі шлях у каго які, а ў Тамары Мікалаеўны атрымаўся кароткі — яна «расла» хутка: праз паўгода — намеснік загадчыка секцыі, яшчэ праз паўгода — загадчык.

— А ў тэхнікуме тым часам склаліся так абставіны, што не было каму вадзіць навучэнцаў на практыку: адзін майстар вытворчага навучання сыходзіў у дэкрэт, другі — на групу па інваліднасці. Я ж падтрымлівала з тэхнікумам сувязь. Мне і прапанавалі перайсці сюды працаваць. Перайшла. Так з таго часу і працую.

Тут дэманструецца ў поўным аб’ёме той самы што ні ёсць добры прыклад, калі чалавек не баіцца рызыкаваць усталяваным дасягнутым дзеля новага невядомага, і злоўленая, але спакойна адпушчаная сініца ператвараецца для яго ў жорава, але не ў небе, як у прыказцы, а прыручанага, адданага, кожным пёркам свайго.

— Хачу расказаць пра стары калектыў, — працягвае Тамара Мікалаеўна прыемныя для сябе ўспаміны, не здагадваючыся пра думку, што прамільгнула ў маёй галаве. — Каледж наш і ў часы, калі называўся тэхнікумам, быў вельмі прэстыжны, меў высокі ўзровень выкладання, і калектыў супрацоўнікаў вельмі «хварэў» за гэты аўтарытэт. Таму моладзь, якая прыходзіла на працу, у прыватнасці, мяне, выхоўвалі, як сына палка. Я ж лічыла, што прыйшла сюды ўжо як сфарміраваны спецыяліст, тым больш што мая справа тут — не тэорыя, а практыка. Але не, да мяне падыходзілі з мноствам парад, мяне накіроўвалі, кантралявалі, запрашалі на ўрокі — узрошчвалі! Калі тое пакаленне пачынальнікаў, па сутнасці, заснавальнікаў, сышло на пенсію, утварыўся новы і таксама даволі перспектыўны варыянт калектыву: маладое пакаленне майстроў і выкладчыкаў спалучаецца з той асновай больш сталых супрацоўнікаў, якая была сфарміравана пачынальнікамі. З сучаснай моладзю, шчыра кажучы, працаваць цяжка. Гандаль — гэта адно, адукацыя ў сферы гандлю — іншае. Зарплаты ў прадстаўнікоў першага і другога заўсёды адрозніваліся. І ў савецкі час, калі прадавец меў магчымасць набыць сабе дэфіцытны тавар, на выкладчыка тэхнікума гандлю гэта не распаўсюджвалася. З-за малога заробку многія сыходзілі працаваць спецыялістамі ў гандлёвыя прадпрыемствы. А заставаліся толькі захопленыя. Тыя, каму гэта цікава, хто сябе гэтаму прысвяціў.

Тым больш прыемна пра іх пісаць. Бо прафесія ж з самага пачатку павінна быць актам любові, а не шлюбам па разліку. Так сказаў Харукі Муракамі. Што прыцягвае саму Тамару Мікалаеўну ў працы майстра навучання таваразнаўству? Ёй цікава працаваць з маладымі (я ўпэўнена, што кожны яе вучань сказаў бы тое самае пра яе). Расповед Тамары Мікалаеўны пра тое, як яна набывала свой вопыт у прафесіі, варты асаблівай увагі. Прызнанне, якое, паводле аднаго вобразнага выразу, ёсць цячэнне, якраз і трэба выпрабоўваць перашкодамі ў самым яго пачатку: каб зразумець — рака яно паўнаводная ці кволы раўчук.

— Спачатку і яны мяне вучылі. Памятаю, як прыйшла ў першы свой працоўны дзень да іх на заняткі — мала што пятнаццаць груп тавараў, дык яшчэ і пытанні закавырыстыя, спецыяльна для мяне, як пасля зразумела, вышуканыя. «Тамара Мікалаеўна, а скажыце, калі ласка…» І так кожны раз. І я, каб было што адказваць, да паўночы штудзіравала літаратуру, запісаўшыся ва ўсе магчымыя бібліятэкі. Шукала адказы. А пытанні запісвала ў нататнік са словамі: «Я ваша пытанне зафіксавала, заўтра дам адказ». Назаўтра



Работа аб'яднання па інтарэсах. Карвінг.

заўсёды чула: «Ну што, знайшлі вы адказ?» І разумела, што са мной жартуюць. Але было цікава. Мы не зацыкліваліся толькі на адукацыі, гандлёвыя калектывы прымалі нас як сваіх, а гэта дадае прафесійнай упэўненасці.

Я б сказала, што не толькі прафесійнай ўпэўненасці, але і агульначалавечага досведу, і таго, што пасля дазваляе лічыць сябе сведкам падзей, якія сёння здаюцца звычайнымі, а заўтра пераходзяць у катэгорыю калі не сімвалаў, дык адметнасцей часу. Перыяд навучання прафесіі заўсёды з гэтым звязаны — мо таму, што яшчэ малады, але ўжо свядомы. Рэканструкцыя ЦУМа 1985-1990 гадоў прайшла на вачах Тамары Мікалаеўны і яе выхаванцаў, з іх удзелам. А з 1990-га яна вядзе практыку на базе ўнівермага «Беларусь». Жыццё калектыву зноў навідавоку і перасякаецца з жыццём практыкантаў — мерапрыемствамі, на якія першыя запрашаюць апошніх, а таксама важнымі справамі, у якіх апошнія дапамагаюць першым.

— Яны нас увесь час заахвочваюць: просяць дапамогі навучэнцаў — у правядзенні анкетавання і афармленні гандлёвай залы да святочных дат і нашай дапамогі — для абагульнення вопыту. Атрымліваецца, што падчас практыкі навучэнцы ўцягваюцца ў працу і жыццё калектыву. Многія застаюцца працаваць па размеркаванні ў базавых прадпрыемствах.

У адзіным тарыфна-кваліфікацыйным даведніку работ і прафесій не існуюць асобныя пазіцыі прадаўцоў прамысловых і прадаўцоў харчовых тавараў. Ёсць адна пазіцыя: прадавец. І ў каледжы вучаць прадаваць як харчовыя, так і нехарчовыя тавары.

— Такім чынам, вам трэба данесці да навучэнцаў веды пра тое, як прадаваць, умоўна кажучы, і радыётавары, і шкарпэткі?..

— У старыя савецкія часы ў нас было шмат розных нарматыўных дакументаў. Я іх усе захавала. Як і падручнік «Асноўныя правілы гандлю» памерам у старонак шэсцьсот, што ўтрымлівае правілы продажу ўсіх-усіх груп тавараў. Старыя падручнікі, увогуле, вельмі цікавыя. Я вельмі люблю чытаць падручнік па тавараназнаўстве 1956 года, дзе шмат карцінак і зусім няма «і т.д. і т. п.». У сучасных жа падручніках шмат агульнага і таго, што можна аб'яднаць пад тэрмінам «дадумай сам».

Я паказваю сваім вучням гэты падручнік, яны ім вельмі ўражваюцца, але чамусьці з іншага боку: «Ён старэйшы за маю маму!» Некалькі гадоў пасля ператварэння Беларусі ў самастойную краіну, беларускія нарматыўныя акты не існавалі зусім. Прынамсі, у сферы гандлю яны доўга не з'яўляліся. А цяпер правілы продажу асобных тавараў тэхнічна вельмі складаныя, і пішацца ў іх толькі «асноўнае». Што ні новыя правілы продажу — то, скажам так, усё больш яны «абцякальныя». Інфармацыю пра тое, як прадаваць асобныя групы тавараў, мы збіраем самі: з усіх існуючых падручнікаў, з уласнага досведу, са стандартаў, з тэхнічных умоў… Каб толькі данесці вучням дакладную, сапраўды патрэбную інфармацыю, акалічнасці продажу.

А што, уласна кажучы, уваходзіць у практычныя заняткі? Ці выкладаецца на практыцы псіхалогія продажу, кантакту з пакупнікам?

— Я сваім вучням заўсёды кажу, што падручнік па практыцы не існуе. Практыка як такая пачынаецца з пытанняў аховы працы і абсталявання, далей ідзе і этыка, і псіхалогія, і арганізацыя гандлю, і таваразнаўства — усё. Перш чым адпусціць навучэнцаў у першы дзень іх практыкі ў гандлёвы зал, праводзіцца арганізацыйны сход. Трэба рыхтаваць іх загадзя да гэтага першага кантакту, бо ідуць яны ў гандлёвую секцыю з чаканнем нечага вялікага і цудоўнага, а мары іх не заўсёды здзяйсняюцца… Пакупнікі ж не заўсёды добразычлівыя, часам яны ідуць у краму толькі для таго, каб зірнуць на кошты, зірнуўшы на іх, — сапсаваць настрой сабе, а сапсаваўшы сабе — сапсаваць і таму, хто побач, — у дадзеным выпадку прадаўцу. А калі гэты прадавец — навучэнец каледжа ў першы дзень сваёй доўга і радасна чаканай практыкі?..

У секцыях, кажа Тамара Мікалаеўна, да будучых калег ставяцца вельмі прыязна. На базавых прадпрыемствах напрацаваны вопыт настаўніцтва, якое ўвогуле вельмі развіта ў старых універмагах. Да таго ж, у кожнага прадаўца ёсць сваё дзіця, і кожны добра памятае, як сам прыходзіў на вучэбную практыку.

— Існуюць і правілы паводзін, і стандарты абслугоўвання, і ўсё гэта мы на занятках разбіраем літаральна па пунктах, а з часам у навучэнцаў збіраюцца і свае практычныя прыклады, сітуацыі і рашэнні. Практыка штодзень пачынаецца з інструктажу, уводнага занятку, які доўжыцца да 50 хвілін. Кожны раз ёсць пэўная тэма, датычная пэўнай групы тавараў. Потым юныя прадаўцы накіроўваюцца на працоўныя месцы, дзе гэтую тэму «праламляюць» праз тое, што назіраюць у секцыі. Заканчваецца кожны дзень практыкі зноў інструктажам, ужо заключным: навучэнцы вяртаюцца ў вучэбныя класы і расказваюць, што бачылі, назіралі, рабілі, у каго якія стасункі скламіся з пакупнікамі і супрацоўнікамі ўнівермага. Нехта плача наўзрыд, бо пакрыўдзілі і ўсё было кепска, а нехта прыходзіць з шырока адкрытымі вачыма: «Мне сёння падзяку напісалі!» Пра некага сказалі: «Паўсюль былі б такія прадаўцы!»…

Гэта пра тое, якія праблемы могуць чакаць навучэнцаў на практыцы. А ці сустракаюцца з праблемамі майстры працоўнага навучання і калі так, то хто ім іх можа ствараць?

Калі яны сапраўдныя педагогі, яны праблемы ліквідуюць віртуозна, на раз-два-тры — так, што тыя, хто іх умудраецца ствараць, нават не разумеюць, як гэта атрымліваецца. Тамара Мікалаеўна прывяла вельмі паказальны ў гэтым сэнсе прыклад. Усім вядома, як цяжка прымусіць моладзь насіць уніформу, калі гэтая моладзь — прыгажуны і моднікі, а вакол існуе так шмат «некласічнай» вопраткі. А на вучэбнай практыцы, між іншым, прыняты дзелавы стыль…

— І чуеш: «Я ніколі гэта не насіла», «Я так ніколі не апранаўся». Хлопец у дні практыкі павінен быць апрануты ў класічныя штаны, а не джынсы. Адзін хлопец кажа: «А што вы хочаце? Мама сказала, што гэта штаны». Я прашу яго затрымацца пасля заняткаў, раскрываю перад ім даведнік таваразнаўца, дзе чорным па белым паказана, што такое штаны. «Так, і джынсы — гэта, як бачыш, штаны, але штаны спартыўнага стылю, а нам патрэбны дзелавы». Калі я дала яму прачытаць усё, што ў даведніку таваразнаўцы напісана пра штаны, ён змяніў сваё перакананне.

Тамара Мікалаеўна адзначае, што у апошні час у каледж прыходзіць усё больш хлопцаў. Гэта заўважана і намі, пакупнікамі, па секцыях у буйных крамах: прыгожыя, маладыя, талковыя, з выпраўкай, інтэлігентнымі ўсмешкамі, ветлівай гаворкай… Вось, аказваецца, адкуль яны.

— Але такіх хлопцаў — талковых і з выпраўкай — вельмі хутка пераманьваюць да сябе вытворчыя прадпрыемствы, асабліва з секцый электратавараў, — кажа Тамара Мікалаеўна. Я ж адзначаю — і пра сябе, і ўголас, — што гэта нядзіўна і нават някепска.

Нам застаецца пагаварыць пра тое, як здаецца экзамен па спецыяльнасці. Гэта ж цікава?

— Экзамен складаецца з практычнай і тэарэтычнай частак. Выцягваецца білет, даюцца адказы на пытанні — па правілах продажу, на веданне груп тавараў. А пасля выконваецца практычнае заданне: абслужыць пакупніка ў секцыі і прапанаваць шляхі вырашэння канфліктнай сітуацыі.

Экзаменацыйная камісія складаецца з супрацоўнікаў універмага. І часам заданне выконваецца яшчэ да яго атрымання — калі на вачах камісіі адбываецца «не экзаменацыйнае» абслугоўванне пакупніка, бо…

— Экзамен жа на працоўным месцы здаецца. Прыходзім — а ў вучня чарга стаіць, і пакуль чакаем — назіраем, як ён працуе. Канфліктную сітуацыю часцей ствараем штучна.

І прысвойваецца навучэнцу спецыяльнасць «Прадавец 4-й катэгорыі». Гэта пасля вучэбнай практыкі. А пасля тэхналагічнай і пераддыпломнай можна павысіць разрад да 5-га або 6-га.

## У сваёй талерцы

«У яе рукі залатыя», — кажа папярэдняя суразмоўца пра наступную, таксама «ветэранку», Чаславу Казіміраўну Гмыль.

— Я працую на аддзяленні тэхналогіі гатавання ежы, — сціпла папраўляе Часлава Казіміраўна. І дадае: — Самым смачным. Майстрам вытворчага навучання. Прыйшла сюды працаваць у 1996 годзе. Маёй настаўніцай тут была Валянціна Савельеўна Ільіна.

Прыкмячаю агульную рысу ўсіх тутэйшых супрацоўнікаў: памяць пра сваіх настаўнікаў і глыбокая ўдзячнасць ім. Не тая літаральна глыбокая ўдзячнасць, схаваная недзе ў душы або сэрцы (і не дастаць яе, і словамі не вымавіць), а тая, што ўвесь час на паверхні, на языку. Мне здаецца, што якраз яна сапраўдная, не ў прыклад першай, бо той хіба з сэрцам не пашанцавала — занадта глыбокае. Маім суразмоўцам, якіх дэлегіравалі «выступіць для часопіса», няёмка было гаварыць пра сябе. З вялікай ахвотай яны распавядалі пра тое, што вучэбную практыку ў каледжы вядуць дзевяць майстроў вытворчага навучання, і ўсе маюць досыць вялікі стаж: Святлана Міхайлаўна Кліменка — 30 гадоў, Таццяна Іванаўна Солтан — 27 гадоў, Лілія Канстанцінаўна Лучанок — больш за 30 гадоў, Кацярына Васільеўна Лютарэвіч — 18, Вольга Мікалаеўна Жур — 15, Ірына Уладзіміраўна Германовіч — каля 20, Алена Віктараўна Якубчык — 17. «Карвінгам займаецца, — з захапленнем прамаўляе Часлава Казіміраўна пра апошнюю і дадае словы, сказаныя трошкі раней пра яе: — Залатыя рукі!» Тут жа ідзе і выснова-аналіз: «Калі таваразнаўцам больш патрэбна веданне псіхалогіі, абаяльнасць, уменне пераканаўча гаварыць і выклікаць сімпатыю, то ў тэхналогіі гатавання ежы на першым месцы — рукі і творчасць».

Часлава Казіміраўна выбрала спачатку не самую творчую спецыяльнасць: закончыла Маладзечненскі радыётэхнічны каледж.

— А тут, у гандлёвым каледжы, на завочным аддзяленні вучылася мая суседка. І неяк сказала, што ў лабараторыю гатавання ежы неабходны супрацоўнік. «Ідзі туды. Грошы там невялікія, але ты ж так любіш гатаваць». Угаварыла! У кастрычніку я прыйшла працаваць, а праз год у верасні сама пачала тут вучыцца, таксама завочна. Адначасова вучыцца і працаваць.

Галоўнае, да чаго імкнецца Часлава Казіміраўна кожны свой працоўны дзень, — каб найбольш моцныя навучэнцы замацоўваліся за слабейшымі, бо тады ўсе будуць умець і ведаць. А яшчэ — прывіць усім любоў да прафесіі.

— Стаяць ля пліты ўвесь дзень — цяжка і горача. Шмат хто расчароўваецца, калі няма да гэтай справы асаблівага пачуцця. А прафесія наша вельмі патрэбная. І галоўнае ў ёй — дабрыня. Я ў кожнай групе чытаю верш Роберта Раждзественскага:

Земля еще и потому щедра,
Что в мире существуют повара!…
Благословенны их простые судьбы,
А руки, будто помыслы, чисты.
Профессия у них добра по сути:
Злой человек не встанет у плиты.



Лабараторыя гатавання ежы.

Вось так тут выкладаецца справа тэхніка-тэхнолага — праз высокую літаратуру, паэзію, з якой, безумоўна, лягчэй і цікавей успрымаюцца і рэчы, абавязковыя ў праграме практыкі: апрацоўка гародніны, гатаванне паўфабрыкатаў з мяса, рыбы, птушкі, гатаванне страў — з гародніны, мяса, птушкі, рыбы, цеста, выпечка...

— Кожны дзень — новая тэма. Сёння, напрыклад, стравы з катлетнай масы: катлеты, біточкі, тэфтэлі, наступным днём — рыбныя стравы: катлеты, галкі, зразы, пасля — стравы з птушкі: катлета па-кіеўску, шніцэль рублены натуральны… Навучэнцы вельмі стараюцца: каб было і па форме роўна, і прыгожа, і смачна. У кожнага свой густ, кожны адчувае страву на смак па-свойму. Але паводле зборніка рэцэптур солі і перцу патрабуецца дакладная колькасць.

— А як здаюцца экзамены?

— Цягнецца білет з двума тэарэтычнымі пытаннямі і адным практычным — гатаванне пэўнай стравы. У прысутнасці камісіі, у склад якой уваходзяць пяць чалавек, адбіраюцца патрэбныя прадукты, і ідзе працэс гатавання. Страва ацэньваецца не толькі на смак, але і з пункту гледжання правіл падачы: як зроблена нарэзка, як падабраны посуд… Усе паказальнікі якасці павінны быць вытрыманы.

А вось цікава: як шматгадовае штодзённае выкладанне тэхналогіі гатавання ежы адбіваецца на дамашняй кулінарыі?

— Раней я была самавучкай, а цяпер прафесіянал, ведаю, як трэба насамрэч, і часам гэта зусім іначай. Салат такі-та — гэта салат менавіта з тых інгрэдыентаў і ў тых прапорцыях, як прапісана ў рэцэпце, а не з таго, што пад рукой апынулася і што ў адвольнай колькасці паміж сабой змяшалі. Дачка, каштуючы, пытае: «Мама, усё па зборніку рэцэптур?» Так, усё па зборніку рэцэптур. Біфштэкс, да прыкладу, па зборніку не паніруецца.

Як знайсці раўнавагу і кампраміс паміж гатаваннем па правілах і кулінарнымі фантазіямі? У іх, так бы мовіць, палёце, часам праз нават вельмі відавочныя парушэнні тэхналогіі нараджаецца тое, што становіцца любімай і нават фірмовай стравай сям'і. І перадаецца з пакалення ў пакаленне. Часлава Казіміраўна на гэтую маю вольную думку адказвае так:

— Часам можна парушыць тэхналогію дзеля «разыначкі». Гэта ў нас на конкурсах практыкуецца.

З якімі групамі прадуктаў больш падабаецца працаваць такой жанчыне? Канечне, з цестам. Канечне, з дражджавым.

— Яно жывое. З ім можна і трэба размаўляць.

Пасля гэтага візіту ў гандлёвы каледж, пасля гэтых размоў з майстрамі і выкладчыкамі, ад шчырасці і спагадлівасці гэтых жанчын, іх жыццёвай і педагагічнай мудрасці хочацца зварочваць горы, абдымаць увесь свет, здзяйсняць высакародныя ўчынкі і… асвойваць новыя рэцэпты.

— Я падумала, што павінна спытаць у вас які-небудзь рэцэпт, — каб вы падзяліліся ім з чытачом. Але чаму б не скарыстацца службовым становішчам і не спытаць у вас рэцэпт стравы, якая асабіста мне не даецца і якую я вельмі люблю ў «выкананні» ўстаноў грамадскага харчавання? Я прашу вас расказаць, як гатуецца звычайная тварожная запяканка.

## Як гатуюцца звычайная тварожная запяканка (работа над памылкамі) і правільныя цэпеліны

— Тварог павінен мець тлустасць 11—18 % (мая памылка № 1: я брала 9 %-ны). І абавязкова яго трэба працерці праз сіта (не працірала!). Жаўткі мы расціраем з цукрам, а бялкі ўзбіваем асобна ў пышную пену (вось яно што — я і не раздзяляла, і не ўзбівала, мая маса для запяканкі гатавалася, хутчэй за ўсё, як сырнікавая). У канцы, калі ўсё змешана, уводзяцца бялкі пры павольным памешванні рукою — як граблямі пераварочваючы. Маса павінна атрымацца не вадзяністай. Ванілін лепш дадаць. Процівень змазваем алеем, шчыльна па борціку выкладваем масу і наносім узор — вілкай ці лыжкай.

Часлава Казіміраўна змочвае вадой лыжку. Духоўку награвае да 180ºС. Выпякае 20 хвілін. Цяпер усё зразумела. Напрыканцы размовы яна дае яшчэ рэцэпт цэпелінаў. Сапраўдны, як у зборніку рэцэптур. Запішаце?

— Значыцца, цэпеліны. Бульбу нацерці на тарцы, адціснуць сок, узяць свініну (лапатачную частку), нарэзаць нажом на кубікі, дадаць цыбульку, соль, чорны перац, для сакавітасці трошкі вады, перамяшаць. Пасля — сушаныя грыбы, перамеленыя на кавамолцы. Рукамі зляпіць галушачкі з цёртай бульбы, начыніць іх мясной масай, варыць 45 хвілін. Тым часам спасіраваць цыбулю, выкласці яе разам з варанымі галушкамі ў сатэйнік і патушыць.

Памер цэпелінаў — як у вялікага (жоўтага ці зялёнага варсістага, а не белага гладкага) мячыка для пінг-понга.

## Асоба, светапогляд і валявыя якасці

Тут, пэўна, добра ведаюць, што для шчасця чалавеку нашмат важней тое, што ёсць *у ім*, чым тое, што ёсць *у яго*. І што адукацыя і выхаванне — справы непадзельныя, узаемадатычныя і ўзаемаадказныя. І яшчэ тое, што ў выхаванні ўсё залежыць ад выхавальніка.

Памятаеце, як Ларыса Макараўна Ермаліцкая распавядала пра цікавасць грамадскага жыцця ў каледжы для моладзі? Тамара Мікалаеўна Каліта канстатавала тое ж самае, расказаўшы пра тыдні спецыялістаў, якія ладзяцца па ўсіх чатырох прафесійных накірунках каледжа: тыдзень спецыяліста камерцыйнай дзейнасці, тыдзень тэхнолага, тыдзень бухгалтара, тыдзень юрыста. Гэтыя профільныя тыдні рыхтуюцца загадзя і вельмі адказна. Старшыні цыклавых камісій складаюць планы мерапрыемстваў, у якія ўваходзяць самыя розныя акцыі. Для першакурснікаў гэта напісанне сачынення «Чаму я абраў такую прафесію?» або выпуск сценгазеты пад назвай кшталту «Гандаль будучыні», другі і трэці курсы задзейнічаны ў інтэлектуальнай гульні «Што? Дзе? Калі?» і разнастайных творчых конкурсах. Кажуць, на таваразнаўчым аддзяленні сапраўдны рухавік — Наталля Васільеўна Карлоўская. «У яе столькі ідэй! — успамінаюцца мне словы яе калег. — І ўсходні кірмаш, і «Лепшы па прафесіі», і рэклама беларускага тавара, і вытворчасць шкла...»

Людміла Віктараўна Святоха, педагог-псіхолаг, з захапленнем і ў падрабязнасцях расказвае пра тое, як «пастаўлена» ў каледжы выхаваўчая справа. Адзін з накірункаў грамадскай дзейнасці навучэнцаў — валанцёрскі рух: для дапамогі людзям, якія ў гэтай дапамозе маюць патрэбу, і для фарміравання актыўнай пазіцыі саміх навучэнцаў, іх светапогляду і валявых якасцей. Атрад валанцёраў «Добрае сэрца», створаны тут яшчэ ў 2006 годзе, ужо даволі шматлікі — каля сотні

чалавек. А ў 2014 годзе за актыўную працу яму было прысвоена імя ветэрана Вялікай Айчыннай вайны Веры Іосіфаўны Вітушкі.

Адна з асноўных задач валанцёрскіх праектаў — фарміраванне сярод навучэнцаў здаровага ладу жыцця: каб зноў, як у 1970-я — з усёй групы калі хто і курыць, дык гэта «белая варона». Задачы нумар два-тры-чатыры — дапамога дзецям-сіротам, клопат пра інвалідаў і ветэранаў вайны і працы. Сем асноўных прынцыпаў валанцёрства — дабравольнасць, адзінства, універсальнасць, гуманнасць, нейтральнасць, бесстароннасць і незалежнасць — выконваюцца тут безагаворачна.

Кожную хвіліну даведваюся пра нейкі новы праект або цікавую ініцыятыву. Усяго не пералічыць. Алена Віктараўна Сямёнава, намеснік дырэктара па вучэбна-метадычнай працы, вымаўляе назвы: «Спадчына» – праект, прысвечаны любові да Радзімы; «Пазнай сябе» — праект па сацыяльнай адаптацыі, які вядзе сацыяльны педагог; «Мастацкае слова» — дзейнасць па падрыхтоўцы «Вестника МТК», які выходзіць штомесяц у розных варыяцыях — інфармацыйны, ідэалагічны, прафілактычны і раз у тры месяцы — квартальны. Размяшчаецца на стэндзе, выпускаецца і як часопіс — для груп і аддзяленняў. Пералік мерапрыемстваў, праведзеных за апошні час, нават дробным шрыфтам заняў паўтузіна аркушаў і не прыводзіцца тут толькі таму, што так шмат іх — спраў важных, патрэбных людзям.

Марына Германаўна Гундзіловіч, намеснік дырэктара па выхаваўчай працы, робіць акцэнт на вучэбна-даследчыцкай дзейнасці навучэнцаў.



Лабараторыя гатавання ежы.

Такая дзейнасць разглядаецца сёння як магутная інавацыйная тэхналогія. Яна служыць сродкам комплекснага рашэння задач выхавання, адукацыі і развіцця. Гэта не я напісала — гэта пазначана ў прадмове да пераліку канферэнцый, конкурсаў, семінараў і выстаў-прэзентацый, у якіх прынялі ўдзел навучэнцы каледжа за апошні час. Прысвечаныя бізнес-праектам і прадпрымальніцтву ў Беларусі, ролі асобы ў гісторыі і пошуку ідэй і рашэнняў, малому і сярэдняму бізнесу як драйверу эканамічнага росту і перспектывам развіцця айчыннай эканомікі, сакрэтам дзелавога поспеху і прававому рэгуляванню сацыяльнага партнёрства ў нашай краіне і за мяжой, — тэмы такія розныя і спрэс патрэбныя, актуальныя. Хочацца толькі да ўсіх віншаванняў, якія Мінскі гандлёвы каледж атрымае ў свой 60-ы дзень нараджэння, далучыць пажаданні і надалей ТРЫМАЦЬ МАРКУ!

Личный листок студента

Высший Литературно-Художественный Институт
Наименование ВУЗ'а

1. Фамилия Дубовка
2. Имя Владимир
3. Отчество Николаевич
4. Пол мужской
5. Национальность белорус
6. Постоянное местожительство Москва
7. а) В каком учебном заведении обучался до поступления в ВУЗ окончил полный курс Ново-Вилейской учительской семинарии в 1918 г. г. Невель Витебской губ.
б) Местонахождение учебного заведения, в котором обучался до поступления в ВУЗ
в) Окончил-ли в нем курс: да, нет — подчеркнуть.
8. а) Год первоначального поступления в ВУЗ вообще 1921 г.
б) Год первоначального поступления в данный ВУЗ 1921 г.
г) Кем делегирован в ВУЗ
9. Профессия до поступления в ВУЗ сельский учитель

| | | |
|---|---|---|
| 10. Профессия родителей | Хлебопашество, Рабочий, Ремесленник, Служащий—сов. и др., Школьный работник, Красноармеец, Торговля, Свободная профессия, Прочие | |
| 11. Семейное положение | Холост, девица, Женат, замужем, Вдов, разведен | Холост |
| 12. Партийность | Член РКП, Член РКСМ, Член партии (какой), Беспартийный | член РКСМ |
| 13. Отношение к воинской повинности | Служба в Ст. Армии, Служба в Кр. Армии, Не служил, то почему | |

14. а) В каком профсоюзе состоит членом
б) С какого времени
в) № членского билета 104048
15. Перемены во время прохождения курса

| На каком числится | В 1921—1922 ак. г. | В 1922—1923 ак. г. | В 1923—1924 ак. г. | В 192 — 192 ак. г. | В 192 — 192 ак. г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Факультете | | | | | |
| Отделении | творческое | творческое | творческое | | |
| Секции | класс стиха | класс стиха | класс стиха | | |
| Цикле | | | | | |
| Курсе | 1 | 2 | 3 | | |

16. а) Получает-ли стипендию: да, нет — подчеркнуть.
б) От какого учреждения. нет
в) Размер стипендии в 192 —192 ак. г.
в 192 —192 ак. г.
в 192 —192 ак. г.
в 192 —192 ак. г.
17. а) Если не получает стипендии, на какие средства живет — служба
б) Указать размер их
18. Настоящее место жительства

8 декабря дня 1923 г.

Подпись

# Студэнцкая справа Уладзіміра Дубоўкі

Улетку 2014 года супрацоўніцай Расійскага Дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва Ганнай Рамановіч (якой я вельмі ўдзячны) былі мне дасланы дакументы з фонду Вышэйшага літаратурна-мастацкага інстытута імя В.Я. Брусава (ф. 596, воп. 1, адз. зах. 314). Яны раскрываюць некаторыя факты біяграфіі студэнта Уладзіміра Дубоўкі. У прыватнасці, праз асабістую справу паэта выдатна праглядаецца тое, з якім натхненнем ён вучыўся ў згаданым інстытуце.

Гісторыя ўстановы цесна сплецена з асобай самога Валерыя Брусава, які быў старшынёй прэзідыума Усерасійскага саюза паэтаў і ладзіў паэтычныя вечарыны, працаваў у дзяржвыдавецтве і загадваў літаратурным пададдзелам у Аддзеле мастацкай асветы пры Наркамасветы РСФСР. Ён і арганізаваў вясной 1921 года Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут. З гэтага часу ў Маскве на Паварской вуліцы (д. 52/55) рыхтавалі паэтаў, празаікаў, драматургаў і літаратурных крытыкаў. Выкладчыкі былі спрэс людзі вядомыя, на чые працы тагачасныя

В ПОЛНОМОЧНОЕ ПРЕДСТАВИТЕЛЬСТВО БЕЛОРУССКОЙ С.С.Р. в Москве.

Правление Высшего Литературно-Художественного Института сообщает, что тов. ДУБОВКА В.Н. состоит ассистентом проф. ГРИГОРЬЕВА М.С. по кафедре психологии языка и творчества.-

ЗАМ. РЕКТОРА /ГРИГОРЬЕВ/.

УПРАВДЕЛАМИ /СИНЦОВ/.

---

11/VIII-925.
№ 1151

Дано студенту Высшего Литературно-Художественного Института Владимиру Николаевичу Д у б о в к о в том, что он действительво сотоит государственным стипендиатом, получив в июле месяце 1923 г. стипендию в размере ...... [illegible] ..... рублей за т/г.

Дано для представления в Домком по месту жительства.

Зам. ректора

Управделами

---

Литературно-Художественный
институт
имени Брюсова

Декабря 18 дня 1924 г.
№ 1260

Ул. Воровского, 52.
Тел. 1-87-06.

УДОСТОВЕРЕНИЕ.

Правление Высшего Литературно-Художественного имени Валерия БРЮСОВА Института удостоверяет, что тов. ДУБОВКА Владимир Николаевич был в продолжение одного года ученым секретарем кабинета поэтики при Институте, председателем которого состоял В.Я. БРЮСОВ.

ЗАМ. РЕКТОРА

УПРАВДЕЛАМИ

даследчыкі спасылаліся як на навукова абгрунтаваныя матэрыялы.

Вершаскладанне выкладаў Іван Рукавішнікаў, вершазнаўства — Георгі Шэнгелі, агульную метратанічную вершалогію — Міхаіл Малішэўскі, гістарычны матэрыялізм — Пётр Коган, гістарычную паэтыку — Канстанцін Локс, рускую літаратуру пачатку XVIII стагоддзя — Мсціслаў Цяўлоўскі, англійскую мову — Іван Кашкін. Сам Валерый Якаўлевіч «даваў» старажытнагрэчаскую літаратуру, лацінскую мову ў звязку з агульным мовазнаўствам, гісторыю рымскай літаратуры, семінары па агульнай гісторыі.

Студэнт Дубоўка, як відаць з дакументаў, займаў актыўную пазіцыю (быў асістэнтам прафесара Грыгор'ева на кафедры псіхалогіі мовы і творчасці, а таксама сакратаром кабінета паэтыкі) і вучыўся вельмі старанна. Асабліва звяртае на сябе ўвагу адзін з дакументаў — прашэнне аб допуску да здачы дзяржаўных экзаменаў. Адзнакі ў ім адпавядаюць сістэме ацэнкі ведаў, якая існавала ў 1920-я гады. Адзнакі «у.» і «в.у.» (іншых Уладзімір Дубоўка не меў) трэба разумець як «удовлетворительно» і «весьма удовлетворительно», што адпавядала балам «4» і «5» па пяцібальнай сістэме.

*Зміцер Давідоўскі*

*Самая цікавая гісторыя з майго студэнцтва? Хм, нават не ведаю, што прыгадаць. Справа ў тым, што я вучылася завочна, — і ў Магілёўскім дзяржаўным каледжы мастацтваў, і ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў. І ўвесь час працавала. Таму для мяне студэнцтва — гэта сесіі два разы на год з шалёным тэмпам падрыхтоўкі да іспытаў, калі прыязджаеш у сталіцу на два тыдні, здаеш пяць экзаменаў і дзесяць залікаў — і з'язджаеш дадому. Але ўсё-ткі самым запамінальным эпізодам, напэўна, была пастаноўка «Лысая спявачка» паводле п'есы Эжэна Іанэска — наш экзамен па рэжысуры і акцёрскім майстэрстве за трэці курс. Тэатр абсурду! Я грала там спецыяліста па супрацьпажарнай бяспецы з вострай цягай да тэатральнага мастацтва. Насіла аранжавую каску, жылет у стылі мілітары і фіялетавы шарф-боа з махнаценькімі пёркамі. І танцавала пад песню Мірэй Мацье. На жаль, не захавалася ніводнага фотаздымка.*

*Шчыра кажучы, заўсёды з задавальненнем хадзіла і на заняткі, і на іспыты, а веды, атрыманыя ў альма-матэр, вельмі дапамагаюць у прафесіі. Нізкі паклон усім выкладчыкам, асабліва нашаму куратару Аляксею Камінскаму, які навучыў нас быць смелымі, самастойнымі і ўпэўненымі ў сабе!*

*Алёна Беланожка*



## «Чамадан з кракадзілавай скуры» — працяг ёсць!

**Аповесць Алёны Беланожкі «Зоркі Ракхігархі» чытайце ўжо ў наступным нумары.**




Трыццаць серый таму дынастыі Каўраваў і Пандаваў сышліся ў вялікай бітве пры Курукшэтры. Цяпер у бітве настаў пераломны момант. Шыкхандзіні, дачка цара Драўпады, — у мінулым жыцці прынцэса Амба, пакрыўджаная магутным Бхішмам, — праз вялікія выпрабаванні атрымала права на адзін дзень зрабіцца мужчынам і выйсці на поле бою. Калі сонца кранулася чырвоным бокам лініі далягляду, Шыкхандзіні, параненая, але не зломленая, выканала абяцанне, дадзенае ў мінулым жыцці, — стаць прычынай смерці свайго крыўдзіцеля. Яна пусціла ў Бхішму вырашальную стралу. Высакародны Бхішма прыняў пакаранне і не супраціўляўся.

Следам за Шыкхандзіні, абліваючыся слязьмі, свае лукі паднялі ўнукі Бхішмы, якія, па волі кармы, змагаліся супраць яго. Яны нацягвалі цяцівы і стралялі, не гледзячы, куды цэляць, але чароўныя стрэлы траплялі Бхішму проста ў грудзі і часткова — у плечы. Нарэшце Бхішма, сын Гангі, увесь утыканы стрэламі, з салодкай усмешкай вызвалення ўпаў на акрываўлены пясок. Але яшчэ ў маладосці ён атрымаў блаславенне самастойна выбраць дзень сваёй смерці. Таму паміраць ад ран яму належала, мяркуючы па ўсім, яшчэ сорак серый.

Між тым у акцёра паціху адклейвалася барада.

**Васіль Шур**

# Роля загалоўка ў мастацкім тэксце

Назва мастацкага тэксту любога жанру — самая актуальная яго прыкмета. На думку псіхолагаў, якія вывучалі ўздзеянне загалоўкаў на схільнасці чытача да ўспрымання ўсяго тэксту, прыблізна 80% чытачоў наогул звяртаюць увагу толькі на загаловак, які, як даследавана і эксперыментальна пацверджана, дае магчымасць абудзіць цікавасць да ўсяго твора.

Гэты галоўны онім з’яўляецца вянцом, зернем, з якога пры ўважлівым чытанні вырастае ідэя твора. Па сваёй сутнасці і галоўнай функцыі загалоўкі як асноўныя, ключавыя кампаненты тэксту абавязкова суадносяцца з усімі сюжэтнымі ходамі, з усімі вобразамі і элементамі мастацкага твора. У загалоўку зашыфравана даволі важная і істотная інфармацыя для правільнага ўспрыняцця твора.

Часткова фразеалагізмы-загалоўкі намі ўжо даследаваліся на навуковай канферэнцыі «Славянская фразеология в синхронии и диахронии» (Гомель, 2011), дзе на прыкладах з беларускай мастацкай літаратуры было выяўлена: у якасці галоўных онімаў мастацкіх тэкстаў могуць выступаць некаторыя агульнавядомыя фразеалагізмы і метафарызаваныя словазлучэнні-перыфразы — патэнцыяльна ўстойлівыя выразы, вельмі арыгінальныя, змястоўныя, пераважна з іншасказальным зместам. Мы ўжо разгледзелі наступныя фразеалагізмы і перыфразы, выкарыстаныя пісьменнікамі як загалоўкі мастацкіх тэкстаў: *«На ростанях»*, *«На ростані»*, *«Лявоніха на арбіце»*, *«Зямля пад белымі крыламі»* (гл., напрыклад, манаграфію «Уласнае імя ў соцыуме і мастацкім тэксце» [2, с. 47—77].

І. Я. Лепешаў прасачыў, што ў беларускай мастацкай літаратуры ў выніку метафарызацыі і іншых лінгвістычных працэсаў сталі загалоўкамі мастацкіх твораў свабодныя словазлучэнні *«Махальнік Іваноў»*, *«Зацікаўленая асоба»*, *Мілы чалавек»*, фразеалагізаваныя крапівоўскія выразы *«Жаба ў каляіне»*, *«Хто смяецца апошнім»*. Гэтым даследчыкам таксама перакананальна растлумачана, як фразеалагізаваліся і нават ідэалагізаваліся загалоўкі апавядання В. Быкава *«Ружовы туман»* і аповесці *«У тумане»*. Кузьма Чорны адно сваё апавяданне, якое стала хрэстаматыйным, назваў *«Вялікае сэрца»*. І. Лепешаў у асобным артыкуле падрабязна раскрыў, як з дапамогай шырокага мастацкага фону метафарызуецца, рэалізуецца значэнне гэтага параўнальна новага фразеалагізма, узніклага на аснове свабоднага словазлучэння (пра таго, хто здольны моцна адчуваць, быць добрым, чулым, спагадлівым), і як некаторыя, нават спецыялісты-філолагі, памылкова выкарыстоўваюць гэты выраз ужо як кампанент загалоўка навуковага тэксту (напрыклад, у «Родным слове» (2013, № 6) быў змешчаны артыкул з няўдалай назвай *«Васіль Быкаў — Вялікае сэрца народа»*) [1, с. 107].

У двухтомніку І. Лепешава «Слоўнік фразеалагізмаў» (2008) растлумачана, што як загалоўкі або іх кампаненты ў творах розных пісьменнікаў ужываюцца наступныя выразы, якія фразеалагізаваліся, а потым сталі бібліёнімамі: *воўчая зграя, дыпламаваны баран, жыве Беларусь, зацюканы апостал, кактэйль Молатава, крыжовы паход, прыняць на грудзі, спачываць на лаўрах, пусціць з дымам да Бога, чортаў палец, гонар мундзіра, набіванне кішэняў* і інш. Безумоўна, кожны з названых фразеалагізмаў і метафарызаваных выразаў-спалучэнняў, стаўшы воляй пісьменніка загалоўкам мастацкага тэксту, *«мае патрэбу ў гістарычна-этымалагічнай даведцы, у гістарычна-лінгвістычным вытлумачэнні свайго ўзнікнення і свайго мінулага»* (А. Малаткоў), што найчасцей выяўляецца праз інтэртэкстуальную кампетэнцыю чытача або канкрэтны каментарый даследчыкам такіх адзінак. І іншасказальнасць уласціва большасці загалоўкаў твораў мастацкай літаратуры. Некаторыя з іх у выніку шырокага ўжывання, набытай шматзначнасці, метафарызацыі, глыбокай філасафічнасці становяцца фразеалагізмамі, крылатымі словамі-сімваламі.

Патрабавальны да сябе пісьменнік не заўсёды можа адразу падабраць удалы онім-загаловак да свайго новага твора. І такіх прыкладаў нямала. Вядома, што вельмі ўважлівым і асцярожным да загалоўкаў быў Леў Талстой. Канстанцін Федзін таксама ў гэтай сувязі адзначаў, што выбраць добры загаловак — даволі цяжкая задача: прыйдуць у галаву цудоўныя варыянты, але потым выяўляецца, што яны ўжо былі ў іншых пісьменнікаў. Напрыклад, Іван Мележ, прынёс у рэдакцыю «Полымя» свой чарговы рукапіс, як успамінаў яго зямляк Барыс Сачанка, і падрыхтаваў спачатку 15 варыянтаў загалоўкаў да новага рамана з *«Палескай хронікі»*; цяпер добра вядомага пад назвай *«Людзі на балоце»*, але найбольш тады яму падабаліся дзве — *«Людзі на балоце»* і *«Туман над багнай»*... А прапаноўвалася і *«Людзі ў балоце»*, і *«Людзі сярод балот»*, і *«Балотныя людзі»* і інш. У рэдакцыі пачалося няспешнае, павольнае абмеркаванне то адной, то другой назвы. У кожнай з іх было нешта мілае, прывабнае і разам з тым... Другі раман гэтага аўтара з цыкла *«Палеская хроніка»*, як працягваў Б. Сачанка, у канчатковым варыянце быў названы *«Подых навальніцы»*, а папярэдне, як успамінаюць сябры пісьменніка, меў рабочую назву *«Навальніца над полем»*. Сэнс некаторых загалоўкаў мастацкіх тэкстаў не заўсёды лёгка ўсведамляецца: у іх звычайна выяўляецца аўтарская ідэя, асабліва тады, калі загортваецца апошняя старонка твора. Напрыклад, І. Лепешаў, каменціруючы загалоўкі Янкі Купалы, адзначаў, чаму гэты класік літаратуры называў свае паэмы менавіта *«Бандароўна»*, *«Курган»*, *«Магіла льва»*, камедыі — *«Паўлінка»* і *«Прымакі»*. А ёсць жа шэраг твораў, загалоўкі якіх прымушаюць чытача задумацца. Яны або атрымалі сэнсавае прырашчэнне, або ў іх суіснуюць два значэнні. Такія, на яго думку, загалоўкі апавядання Янкі Брыля *«Memento mori»*, паэмы *«Тарас на Парнасе»*, трагікамедыі Янкі Купалы *«Тутэйшыя»*, байкі Кандрата Крапівы *«Жаба ў каляіне»*, апавядання Васіля Быкава *«У тумане»* і інш.

У пачынальнікаў новай беларускай літаратуры загалоўкі твораў, зборнікаў, паводле меркавання некаторых даследчыкаў (У. Калеснік, Н. Роўба і інш.), былі зборнымі, абагулена безыменнымі: *«Дудка беларуская»*, *«Скрыпка беларуская»*, *«Жалейка»*, і аўтары падпісваліся таксама ў «стылі абшчыннай безыменнасці»: *Мацей Бурачок, Янка Лучына, Гаўрыла з Полацка, Цётка, Змітрок Бядуля*. А безыменнасць, як прасачыў У. Калеснік, тагачасныя пісьменнікі бачылі ў наступным: *Не рвуся я к славе гэткай німала, хоць песеньку-думу і высную, можа, завуся я толькі — Янка Купала»* [Полымя. — 1981. — № 6. — С. 203]. Такім чынам, галоўны нацыянальны паэт не лічыў сябе тым, кім ён стаў у нашай свядомасці, такім, як у рускай літаратуры А. Пушкін, ва ўкраінскай — Т. Шаўчэнка, у польскай — А. Міцкевіч. Гісторыя і час паказалі: *«Завуся я толькі Янка Купала»*. А гэтым сказана ўсё без эмоцый і лозунгаў. Потым псеўданім класіка стаў сімвалам з вялікім абагульняльным сэнсам.

Даволі часта літаратурныя крытыкі, аналізуючы мастацкі твор, найперш у самым агульным выглядзе спрабуюць растлумачыць яго назву. Так, У. Юрэвіч у артыкуле *«Вяртанне ў маладосць»* каменціруе некаторыя загалоўкі раманаў і зборнікаў І. Навуменкі: «Кожны раз, калі я сустракаю Івана Якаўлевіча Навуменку, гляджу на яго высокую, мажную постаць, на тое, як ён штораз прывычным жэстам рукі адкідвае непаслухмяную копачку цёмных, не кранутых яшчэ як след узростам валасоў, чую яго прыглушаную гаворку, мне прыгадваецца сасна на сухім грудку ля чыгуначнага пераезда, якіх давялося шмат бачыць на радзіме пісьменніка, на Палессі. Адно з такіх дрэў дасць назву першаму раману *«Сасна пры дарозе»*, і вобраз гэты запомніцца надоўга як сімвал сонечнага харaства на зямлі, якое нікому не па сіле адолець. *«Сямнаццатай вясной»* — так называўся першы зборнік І. Навуменкі, выдадзены ў 1957 годзе ў серыі «Бібліятэка беларускага нарыса і апавядання». У назве зборніка як бы канцэнтраваўся абсяг тагачасных задум маладога аўтара — узнавіць вобраз таго пакалення, якое ў няпоўныя сямнаццаць вымушана было сутыкнуцца з вялікай бядой, што навалілася на нашу краіну». Большасць яго сюжэтаў — гэта ўспаміны, пераважна своеасабліва перанесенае праз мастацкія ўмоўнасці вяртанне ў маладосць і юнацтва. Героі яго апавяданняў, аповесцей і раманаў, як падкрэсліваюць даследчыкі творчасці пісьменніка, — у большасці сваёй летуценнікі, максімалісты, рамантыкі, верныя

Гісторыя і час паказалі: «Завуся я толькі Янка Купала». А гэтым сказана ўсё без эмоцый і лозунгаў. Потым псеўданім класіка стаў сімвалам з вялікім абагульняльным сэнсам

вечным каштоўнасцям — дабрыні, сяброўству, справядлівасці. Загалоўкі твораў І. Навуменкі даюць магчымасць чытачу ўбачыць асаблівасці выяўлення фактаў «знешняй» і «ўнутранай» біяграфіі пісьменніка. Іх умела абыграў паэт Уладзімір Верамейчык у вершы «Таполі юнацтва»: *«Вы сталі народным. / Высокае званне. / **Ля Цітавай копанкі** — мір. / Лятуць з Васілевіч да Вас віншаванні, / Бо Вы і зямляк і кумір. / Хоць **хлопцы-равеснікі** моцна ссівелі, / **Таполі юнацтва** шумяць. / Ды Вы, **летуценнік,** не пастарэлі, / Мы просім пісаць і пісаць. / Няхай не паўторыцца той **сорак трэці**. / Хай **бульба** раскошна цвіце, / Няхай на планеце не ведаюць смерці, / **Дзяцінства** хай шчасна расце. / Не быць Вам ніколі ў зморы і скрусе, / Часцей к землякам прыязджаць, / Бо ў Васілевічах і ў Беларусі / **Таполі юнацтва** шумяць»*. У творах Івана Навуменкі выяўляюцца спецыфічныя блокі-загалоўкі, якія ў канцэнтраваным згустку настальгічных успамінаў лірычнага героя, з пазіцый пэўнага жыццёвага вопыту, з перспектыў аддаленасці ў часе і прасторы вяртаюць чытача ў маладосць і юнацтва галоўных персанажаў, а перш за ўсё самога пісьменніка: *«Вераніка», «Сямнаццатай вясной», «Хлопцы самай вялікай вайны», «Таполі юнацтва», «Водгулле далёкіх вёснаў», «Падарожжа ў юнацтва», «Хлопцы-равеснікі», «Пераломны ўзрост», «Замяць жаўталісця», «Сорак трэці»* і інш. Такія загалоўкі ілюструюць выразны аўтабіяграфізм творчасці, «вяртанне» пісьменніка і яго лірычных персанажаў у маладосць і юнацтва ўсяго пакалення пачатку 40-х гадоў ХХ стагоддзя.

Некаторыя загалоўкі як алюзійны кампанент усяго тэксту паўторна выкарыстоўваюцца ў новым тэксце для стварэння пэўнага культурна-гістарычнага каларыту, што засноўваецца на кампетэнцыі стваральніка новага тэксту (пісьменніка) і інтэлектуальна дасведчанага чытача. Алюзійны кампанент, г. зн. паўтор вядомага чытачу, у новым тэксце, напрыклад, у вершы С. Чыгрына *«Васілю Быкаву»* ўяўляе сабой тэкставы фрагмент з твораў В. Быкава, які адрозніваецца ад звычайных тым, што ён здольны ўскладняць новы вершаваны тэкст дзякуючы магчымасці спалучаць у адным значэнні два; адно з іх належыць іншай семіятычнай прасторы. Такім чынам, алюзійны кампанент — у нашым выпадку гэта загалоўкі або іх кампаненты з твораў В. Быкава — набывае выразна акрэсленую мастацка-эстэтычную напоўненасць, якая паўтараецца і актуалізуецца ў наступных вершаваных радках паэта С. Чыгрына: *Вайна — гэта знак бяды, / яе немагчыма забыць. / А мёртвым не трэба вады, / А мёртвым ужо не баліць. // Праз порах і дым вайны, / Праз пасткі / І праз вышыні / Ішлі батальёна сыны / І воўчую зграю крушылі. // Абеліскі вітаюць зару, / Жураўліныя крыкі ачнуцца… / Праз Альпы ў Беларусь / Пайсці, дажыць і вярнуцца.* (С. Чыгрын «Васілю Быкаву»). Алюзійнае выкарыстанне онімаў у тэкстаўтварэнні, актыўнае ўздзеянне іх на ўяўленне, эмоцыі, падсвядомасць чытача пры дапамозе самых розных анамастычных, тэматычных, вобразных, гукавых асацыяцый уяўляе сабой спецыфічны тып мастацкай семантыкі слова, які ў наш час набывае павышаную ўвагу і паглыбленае вывучэнне [2, с. 58].

Выраз *«Вайна над стрэхамі»*, які Алесь Адамовіч зрабіў алагічна вобразным загалоўкам мастацкага твора — назвай аднайменнага рамана, у нашай літаратуры стаў сімвалам усенароднай партызанскай барацьбы. Невыпадкова ж даследчыкі ваеннай прозы Івана Навуменкі пісалі, што ён, як і А. Адамовіч, «узнавіў пераважна *«вайну пад стрэхамі»*, …што пэўна выцякала з імкнення пісьменніка стварыць у сваёй трылогіі панараму ўсенароднай вайны на акупіраванай ворагамі тэрыторыі» (Т. Грамадчанка). Скульптар Заір Азгур, малюючы творчыя партрэты дзеячаў беларускай культуры Алеся Адамовіча, Рыгора Шырмы, Стэфаніі Станюты, Фларыяна Жыновіча і інш., падрабязна выказаўся пра творчасць Алеся Адамовіча. У прыватнасці, пракаменціраваў і некаторыя загалоўкі твораў пісьменніка: лаканічная назва аповесці *«Карнікі»* дакладна перадае яе агульны змест, бо *карнік*, як піша Азгур у артыкуле «Тое, што помніцца» [Полымя. —

1981. — № 9], гэта вораг чалавека, кат, узброены хам, крывапіўца… У вайну зразумелі мы гэта, і, мусіць, ніколі ўжо наша пакаленне не ўбачыць і не адчуе іншага сэнсу ў слове «*карнік*»… «Карнікі» — своеасаблівая духоўная анатомія бесчалавечнасці, а аўтар кнігі — сапраўдны савецкі чалавек. Другі твор гэтага аўтара «*Хатынская аповесць*» мае набатную назву спаленай вёскі — *Хатынь*. Гэтыя кнігі — высновы і развагі, выказаныя вельмі пераканальна, пра самую бесчалавечную і пачварную сілу фашызму — пра выканаўцаў волі фюрэра.

Нейкая запамінальная прымета, дэталь ператвараецца пад пяром аўтара ў вызначальны кампанент тэксту. «*Дэталь, як заўважыў У. Юрэвіч, у некаторых пісьменнікаў часам выходзіць за межы, адведзеныя ёй як падрабязнасці, часцінцы чагосьці цэлага. Яна бярэ на сябе большую нагрузку — выяўляць галоўную ідэю твора. І ці не таму пісьменнік часта выносіць яе ў загаловак («Таполі юнацтва», «Трымценне дубовага лісця», «Соль»).* «*Соль*» — апавяданне І. Навуменкі пра тое, як здабыванне солі для атрада ператварылася ў баявую партызанскую аперацыю. Але яно мае высокі маральны зарад, скандэнсаваны ў вядомай народнай мудрасці: «Каб пазнаць чалавека, трэба з'есці з ім не адзін пуд солі…». Параўн.: у ТСБМ *соль* таксама гэта «*асаблівы сэнс, значэнне чаго-небудзь*». Яшчэ адзін загаловак І. Навуменкі — «*Трымценне дубовага лісця*». Лісце на зімовых дубах, якое «*трымцела праз усю зіму*», — гэтая дэталь скарыстана аўтарам, каб увасобіць тую вялікую трывогу, што ахапіла маладога чалавека, які пранёс праз усю вайну любоў да дзяўчыны і раптам даведаўся пра яе здраду» [Полымя. — 1975. — № 2. — С. 205—209].

Іван Шамякін таксама ўважліва ставіўся да выбару загалоўкаў сваіх твораў. Даследчыкі яго прозы ўжо ў першых раманах і аповесцях аўтара выяўляюць сімвалізм, сэнсавыя прырашчэнні, наватарства, узбагачанае традыцыямі сусветнай літаратуры ў выбары бібліёнімаў. Так, загаловак аповесці «*Помста*» (параўн.: *помста* — адплата за прычыненае зло) выразна прэтэндуе на шматзначнасць. Змест жа гэтай аповесці, як падкрэслівалі ўважлівыя, самыя першыя крытыкі яго твораў, наадварот, заклікаў да чалавечнасці і разважлівасці, нагадваў пра неабходнасць гуманнага, разумнага і справядлівага размежавання вінаватых і невінаватых. Удалым і метафарычна ўзбагачаным з'яўляецца выраз «*глыбокая плынь*». Стаўшы загалоўкам, назвай першага ў гэтага маладога аўтара рамана, ён набыў асаблівую яскравасць і новае семантычнае напаўненне. Як пісалі даследчыкі, «*глыбіня*» выклікае цэлы ланцуг самых розных асацыяцый, выводзячы да сэнсу сакральнага, метафізічнага: «*глыбокі*» — значыць, важны, неадназначны, мудры. Так, дачка пісьменніка прафесар Таццяна Шамякіна, якая крытычна ставілася да асобных загалоўкаў бацькі-пісьменніка, адзначала: «…назва выключна ўдалая. Сам выраз — «*глыбокая плынь*» — хоць і не крылаты, але сустракаецца ў народным уяўленні… Назва прама падказвала пра народны характар партызанскай барацьбы». Пад «*глыбінёй*» разумеюць і ваду, і зямлю з яе падводнымі рэчышчамі, і падсвядомасць самога чалавека. Пісьменніка хвалявалі *глыбіня* (сутнасць) і першавыток розных з'яў, сімвалічна звязаных перш за ўсё з вобразам вады, пра што сведчыць загаловак яшчэ аднаго рамана — «*Крыніцы*»; крыніцы, як вядома, «*б'юць з глыбінь*», так што назва, такім чынам, працягвае сімвалічную лінію першага рамана» [3, с. 138—139]. Параўнайце ў гэтым плане афарыстычныя радкі, што належаць паэту Аляксею Пысіну: «*Трывала тое на паверні, / Што даспявае ў глыбіні*». Лінгвагеаграфічныя асаблівасці апелятыву *крыніца* даволі падрабязна прасачыла А. Манаенкава, узяўшы за аснову зыходныя формы і значэнні гэтага слова з родных для Шамякіна добрушскіх і веткаўскіх гаворак. Прывядзём некаторыя абагульненні, зробленыя даследчыцай, важныя ў нашым кантэксце. Калі ваду для жывёл і для гаспадарчых патрэб бяруць з калодзежа (або копанкі), то для піцця і гатавання ежы жыхары некаторых сёл Гомельшчыны выкарыстоўваюць крынічную: з крыніцы (у рэчышчы спецыяльна выкапана заглыбленне, дзе збіраецца вада, або ў тым месцы ставяць калодзеж). Слова *крыніца* са значэннем «*калодзеж*» вядомае як «*абласное*» ў курскіх, смаленскіх, пскоўскіх, данскіх, варонежскіх, бранскіх гаворках. Наяўнасць яго ў названых рускіх гаворках, як лічыць Ф. Філін і А. Манаенкава, тлумачыцца ўплывам на іх беларускай і ўкраінскай моў [4, с. 81].

Сімвалізмам, шматзначнасцю вызначаюцца і іншыя загалоўкі твораў гэтага класіка. Так, *сэрца на далоні* — гэта не анатамічны экспанат, не алагічнае словазлучэнне, а з лёгкай рукі пісьменніка назва рамана — гэта сімвал дзейснага гуманізму. Чалавечае сэрца на далоні сапраўды знаходзілася ў час аперацыі ў руках унікальнага хірурга *Антона Яраша* — сапраўднае траўмаванае сэрца жанчыны-пакутніцы Зосі Саевіч. Пасля цяжкіх перажыванняў жанчыны яно дало збой, і хірург Яраш правёў унікальную па тых часах аперацыю на сэрцы дачкі доктара Саевіча — падпольшчыка ў гады вайны, які, рызыкуючы жыццём, выратаваў ад фашыстаў-гестапаўцаў маладога Антона Яраша — тагачаснага студэнта медінстытута, падпольшчыка. Іван Шамякін як майстар арыгінальнага сюжэту на фоне шырокага кантэксту пераканальна правёў метафарызацыю гэтага свабоднага словазлучэння, што пад пяром класіка набыло выразны пераносны сэнс: стала сімвалам чалавечнасці, чуласці да чужога болю, любові да людзей. Твор пісаўся на хвалі аднаўлення савецкай краіны пасля культу асобы Сталіна. Людзі, як пісаў пра гэты раман Алесь Бельскі, верылі ў «добры час», справядлівасць, змены да лепшага і сваю будучыню. Шырокім фонам, не толькі сапраўднай аперацыяй на траўмаваным сэрцы дачкі Савіча, што правёў доктар Яраш, іншымі апісаннямі пра гуманізм І. Шамякін падводзіць чытачоў да думкі: толькі сумленнасць, спагада, міласэрнасць, чалавекалюбства, служэнне людзям могуць зрабіць духоўна трывалым наша грамадства [5, с. 17].

Назва яшчэ аднаго рамана І. Шамякіна — *«Злая зорка»* — таксама выразна сімвалічная. Гэты твор пра самую вялікую катастрофу ХХ стагоддзя, якую найбольш спазнала наша Беларусь і асабліва малая радзіма пісьменніка, — пра падзеі, звязаныя з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС. Вобраз палыннай зоркі, сведчаць даследчыкі, узяты з *Апакаліпсісу* і прарочыць канец свету. Гэта назва-полісемант сімвалізавала вынікі і «брэжнеўскага застою», і пачатак катастрафізму «дэмакратычнай эпохі», і «перабудовы», уласцівай 90-м гадам ХХ стагоддзя ў былым СССР. Стварэнне гэтага загалоўка каменціруе сам пісьменнік: «*…ездзілі з хойніцкімі хлопцамі, маімі маладымі сябрамі — Міколам Мятліцкім і Барысам Сачанкам. Трапілі на другое адсяленне: галасіла родная вёска Міколы, Бабчын. Не помню, з якога факта завязаўся сюжэт… Ці не з рэплікі нейкага з кіраўнікоў, што жаніў сына ў страшны красавіцкі дзень. А другі вельмі хваляваўся, што сына-афіцэра з Грузіі паслалі ў Афганістан. Звязаў у адно, пісаў ліхаманкава, як, можа, некалі ў маладосці «Глыбокую плынь». Ажно сэрца забалела. Напісаў хутка. Назву ўзяў з Біблії, з «Адкрыцця Святога Іаана Багаслова»: «Третий ангел вострубил и упала большая звезда. Имя той звезды Полынь…» Па-ўкраінску палын — чарнобыль* [Полымя. — 2003. — № 9. — С. 49]. Такім чынам, у аснове назвы ляжыць спецыфічная метафарызаваная перыфраза, а назва горада *Чарнобыль*, знішчанага ў выніку радыяцыйнга забруджвання, якая стала сімвалам самай буйной тэхнагеннай катастрофы ХХ стагоддзя, вядомая ва ўсім свеце. Станаўленне назвы можна ілюстраваць наступнай схемай: *чарнобыль* (назва разнавіднасці палыну)— *Чарнобыль* — айконім, назва горада на беразе Прыпяці, дзе, відаць, раней было многа гэтага палыну: *Чарнобыль* (*ЧАЭС*) — метафарызаваная назва — сімвал сусветнай глабальнай катастрофы, вынікі якой найбольш закранулі Беларусь, асабліва паўднёва-ўсходнія раёны беларускага Палесся, малую радзіму пісьменніка.

Некаторыя загалоўкі ўзнікаюць на аснове незвычайных спалучэнняў слоў-кампанентаў, утвараючы такую стылістычную фігуру, як *аксюмаран* — узаемадзеянне супрацьлеглых дэфініцый, што лагічна выключаюць адна другую, але ўжытыя разам даюць новае, патрэбнае пісьменніку паводле яго задумы мастацкае ўяўленне. Параўн.: *«Гарачы снег», «Жывы труп», «Святыя грэшнікі», «Аптымістычная трагедыя», «Жывыя мошчы»*. У гэты незвычайны і запамінальны для любога чытача набор загалоўкаў з твораў сусветнай літаратуры ўваходзіць і назва тэтралогіі І. Шамякіна, таксама з алагічнай назвай, *«Трывожнае шчасце»* — адзін з лепшых яго твораў пра вайну і каханне, вернасць пачуццяў і сардэчнасць, абавязак і, безумоўна, як скразная тэма амаль усіх яго раманаў і аповесцей — найперш пра патрыятызм, вернасць абавязку, любоў да блізкіх, да малой і вялікай Радзімы. Твор і сёння, хаця і быў напісаны ў канцы 50-х — пачатку 60-х гадоў ХХ стагоддзя,

актуальны і лічыцца наватарскім у беларускай мастацкай літаратуры, і, як сведчаць апытанні школьнікаў і студэнтаў, ён у ліку і самых папулярных у беларускай літаратуры (Э. Іофе).

«Абаяльнасць» рамана *«Трывожнае шчасце»* не ў апошнюю чаргу абумоўлена тымі абставінамі і тым месцам, дзе твор пісаўся (пераважна ў *Церусе* на працягу некалькіх гадоў)… Знаёмства з *Церухой* у І.Шамякіна адбылося яшчэ ў дзяцінстве. Яго бацьку Пятра Мінавіча, лесніка, здаралася, пераводзілі з месца на месца. Нейкі час у пачатку 1930-х гадоў ён працаваў у лесе каля вялікай вёскі, фактычна мястэчка, *Церухі,* блізкай да Гомеля. Тут сям'я жыла на працягу аднаго года, калі Іван вучыўся ў пятым класе. Прыгожая прырода ваколіц асабліва кранула сэрца ўражлівага хлопца, але галоўнае — тут ён сустрэў сваю будучую жонку — карэнную церушанку *Марыю Філатаўну Кротаву*, што стала прататыпам многіх яго гераінь. …Прыгажосць ваколіц *Церухі* на ўсё жыццё ўвайшла ў сэрца будучага пісьменніка. У 1951 годзе на грошы Сталінскай прэміі за раман *«Глыбокая плынь»*, у якім пазнаецца згаданая мясцовасць, І. Шамякін пабудаваў ў *Церусе* звычайную вясковую хату, куды пастаянна прыязджаў з сям'ёй на лета прыкладна да сярэдзіны 60-х гадоў. Тут былі напісаны раманы *«У добры час», «Крыніцы», «Трывожнае шчасце», «Сэрца на далоні»…* Нягледзячы на адсутнасць звыклага камфорту, І. Шамякін любіў Церуху, як любяць родны кут, малую радзіму, месца, што дае магутны стымул для творчасці і ў той жа час дорыць сапраўдны адпачынак — не бяздумны, а таксама творчы. Ужо ў канцы жыцця І. Шамякін гаварыў, што нідзе яму так добра не працавалася, як у *Церусе* [3, с. 60—70]. Над цыклам аповесцей, увасобленых у пенталогіі «*Трывожнае шчасце*», пісьменнік працаваў восем гадоў (1956—1963), змясціўшы ў сюжэце значную частку сваёй жыццёвай біяграфіі і грунтуючыся на рэальных прататыпах. Пра гэты час і працу пісьменнік пісаў: «*У "Трывожным шчасці" найбольш поўна апісаў я гісторыю свайго юнацтва, сваіх дзіцяча-юнацкіх захапленняў і таго кахання, што засталося на ўсё жыццё, што дало мне найлепшага сябра — жонку, маю Машу, і з ёй поўнае чалавечае шчасце»*. Марыя Філіпаўна, жонка пісьменніка, і ёсць прататып фельчаркі Сашы Траянавай. Яна з'яўляецца той рэальнай асобай, жыццё і асобныя ўчынкі якой паслужылі пісьменніку асновай для стварэння літаратурнага вобраза. Такім чынам, «Трывожнае шчасце» мае аўтабіяграфічную аснову, што ў значнай ступені забяспечыла псіхалагічную дакладнасць, пераканальнасць характараў [5, с. 119].

Гэты мастацкі прыём (аксюмаран) у апісанні рэалій пры стварэнні загалоўкаў выкарыстоўваецца даволі часта ў сучаснай літаратуры. Так, даследчыкі (Н. Кузьміч, Н. Дамброўская, М. Тычына і інш.), аналізуючы аповесць В. Адамчыка *«Падарожжа на Буцафале»*, у працэсе ацэнкі і інтэрпрэтацыі згаданага тэксту вызначаюць і адносяць яго да самых розных жанравых прыналежнасцей (прыгодніцкай, фантастычнай, гістарычна-фантастычнай, фантастычна-рэальнай і інш.). Аднак такая аксюмарыстычная жанравая характарыстыка цалкам апраўдана, бо служыць адмысловым папярэджаннем пра выкарыстанне пісьменнікам нетрадыцыйнай для яго творчай манеры, бо падзагаловак, створаны В. Адамчыкам, не расчароўваў канчаткова адносна пераважна эпічнага характару яго творчасці [7, с. 10]. Лінгвістычны кампанент у падзагалоўку, створаны аўтарам, пабудаваны на кантрастах («неверагодна-праўдзівая і фантастычна рэальная аповесць»), дамінуе ў тэксце, што, безумоўна, засяроджвае ўвагу чытача, таму што пісьменнік малюе захапляльную гісторыю, пабудаваную на экстраардынарных здарэннях, а гэта адна з прыкмет твораў, якія любяць чытачы, і гэтую асаблівасць абавязкова павінны ўлічваць творцы.

Загаловак п'есы А. Макаёнка «*Пагарэльцы*» раскрываецца зусім нечакана, бо галоўныя персанажы-пагарэльцы *Ухватаў, Бусько, Клёпкін, Гарык* зусім не тыя, што пацярпелі ад пажару, не тыя, у каго згарэла хата або іншая асноўная маёмасць. Гэтыя персанажы трагікамедыі «гараць» на розных махінацыях, якія ўмела абыгрывае драматург. А коратка пра гэта — наступная рэпліка. *Бусько* пытаецца ў Клёпкіна: «*Зразумеў, Сілан? Гарыць*». Клёпкін адказвае: «*Гарым*».

Сэнсавыя павароты фразеалагізма са словам «пагарэць», як піша М. Верціхоўская, у гэтай трагікамедыі самыя нечаканыя. Так, *Гарык* (у кантэксце п'есы імя гаваркое — В. Ш.) на працы *гарэць* не жадае, бо гэта небяспечна. Можна

Сэрца на далоні — гэта не анатамічны экспанат, не алагічнае словазлучэнне, а з лёгкай рукі пісьменніка назва рамана — гэта сімвал дзейснага гуманізму

стаць *пагарэльцам*. На паведамленне *Кудасава* пра магчымую ліквідацыю іх канторы Гарык свайму апекуну Бусько пагражае выкрыццём і патрабуе дапамогі, абароны. «*Якія тут жарты? Тут смаленым пахне! Гарэлым*!» На махінацыях з будаўніцтвам дачы *пагарэў* Ухватаў. «Гарэць» яму дапамагалі яго ж «надзейныя кадры». Аднак Бусько папрок не прымае: «*Не я, не я… Калі помніш, я сам ледзь не пагарэў тады…*» У Кудасава ж свае падлікі: *«Вы мяне ўратавалі, а я вас не выдаў. Гарэлі б мы разам. Значыць — квіты! Не напамінайце пра смаленае…»*.

Даследчыкі творчасці А. Макаёнка (В. Рагаўцоў, С. Лаўшук, Дз. Бугаёў, Я. Усікаў, М. Верціхоўская) звярталі ўвагу на ўдалы падбор і каментарыі да самых розных імён і прозвішчаў персанажаў п'есы, што ў сваёй большасці можна класіфікаваць як гаваркія характарыстыкі самых розных прайдзісветаў. Напрыклад, *Ухватаў Хведар Паўлавіч* — старшыня райвыканкама, былы абкамаўскі лектар (параўн. рускі дзеяслоў *ухватить* — злавіць, зубамі ўхапіцца). Для *Ухватава* — улада асноўнае; яна, пераканаы ён, галоўны закон дыялектыкі, а кадры — *«мухаловы», «балты ненарэзаныя»* — яе ўлады, «насенны фонд, зярняткі, каласкі». Яго вылучэнец — цынік і прайдзісвет *Бусько*, у якога таксама гаваркое прозвішча, бо, як піша М. Верціхоўская, у народзе такіх называюць «*пацалуйкамі*»: яны здольныя на *юдаў пацалунак* — г. зн., калі былы гаспадар ім ужо не патрэбны. «Пацалунак» *Бусько* каштаваў *Ухватаву* жыцця — ён памёр ад інфаркту пасля лаянкі з Бусько, а некалі ж *Ухватаў* зрабіў яго сваёй «правай рукой» [8, с. 16—20].

*Сілан Клёпкін* — удалае спалучэнне ў адной антрапаформуле гаваркога ўласнага імя і прозвішча. У адной з рэплік *Бусько* іранічна зазначыў і вызначыў «*сілу» Сілана: «Затое — ідэйны. Ух, які ідэйны*!» Трапна і лаканічна этымалагізавала гэта прозвішча М. Верціхоўская: «У народзе пра такіх кажуць: без клёпкі ў галаве, клёпкі не хапае. І пра іх жа: дурны, дурны, а скварку любіць». Дапаўняе яго характарыстыку і рэдкае ва ўжыванні, але натуральнае ў такім кантэксце імя *Сілан* (Сіла) — што ў мове грэкаў мела значэнне «права валодання». Такім чынам, загаловак п'есы «Пагарэльцы» (першая яе назва — «З кірмашу») раскрываецца паступова праз выдуманы мастаком арыгінальны сюжэт, адносна якога П. Машэраў спачатку добразычліва параіў драматургу: *«Хай паляжыць, адлежыцца, выспее, пашліфуецца»*, а таксама умела падабраныя дыялогі і маналогі персанажаў, арыгінальныя гаваркія ўласныя імёны і вельмі ўдалыя фразеалагізмы з кампанентам *гарэць*, прыказкі, шматлікія аказіяналізмы, што ва ўсёй сукупнасці раскрываюць сутнасць метафарызаванага загалоўка.

Некаторыя аўтары ў якасці загалоўкаў сваіх твораў выбіраюць вядомыя ў народзе трапныя выразы, прыказкі з іншасказальным зместам, афарызмы. Так, К. Крапіва як загалоўкі некаторых баек і сатырычных вершаў узяў вядомыя ў народзе прыказкі: *«Еш, дурань, бо то з макам», «Давялося свінні на неба глядзець», «Вось такія дактары вымуць душу без пары», «Лісі хвост і воўчы клык»* і інш. У сваю чаргу ў аснове твораў К. Крапівы таксама ляжаць і прыказкі: *«У чужое проса не сунь носа»* («Сука ў збане»), *«Баба з калёс — калёсам лягчэй»* («Дзед і баба»), *«Кожны цыган сваю кабылу хваліць»* («Пра цыгана і кабылу»), *«Пнецца, як жаба на купіну»* («Жаба ў каляіне»), *«Кажух ляжыць, а дурань дрыжыць»* («Чорт»), *«Вялікаму каню — вялікі хамут»* («Саманадзейны конь») і інш.

Я. Іваноў у артыкуле «*Афарызмы ў мове твораў Максіма Гарэцкага*» паказаў, што такія глыбокія сэнсам адзінкі гэты класік літаратуры ўмела і адметна выкарыстоўваў і як назвы сваіх апавяданняў («*Усё мінуецца*» і інш., а таксама ў якасці эпіграфаў да ўсяго твора ці яго асобных частак (параўн.: у апавяданнях «*Смачны заяц*», «*Прысяга*» і інш.). Змест афарызма можа быць пакладзены ў аснову цэлага мастацкага твора. Параўнаем, напрыклад, індывідуальна-аўтарскае «разгортванне» сэнсу прыказкі *Лазня ўсіх мые, а сама ў гразі* стаіць у адным са зместавых планаў апавядання «*У лазні*» (1912).

Загаловак аповесці *«Пакахай мяне, салдацік»*, Васіль Быкаў запазычыў, відаць, з народнай

песні, вядомай у яго на радзіме: *Пакахай мяне, салдацік, / Буду вернай жонкай… / А забудзеш — толькі разам / З роднаю старонкай.* У аповесці пісьменніка ён метафарызаваўся. Гэта, безумоўна, не наіўны дзявочы жарт, які набыў глыбокі філасофскі сэнс, што паступова вырастае са зместу ўсяго твора.

Як сімвалічны трэба разглядаць і загаловак аповесці Якуба Коласа *«Дрыгва»*, асабліва з ідэалагічных пазіцый 30-х гадоў XX стагоддзя, — пра падзеі Грамадзянскай вайны на Мазырскім Палессі. У аснову назвы гэтага твора пакладзены апелятыў *дрыгва* — топкае балота, багністая мясціна. У народных павер'ях усходніх славян *балота, дрыгва* — небяспечныя, нячыстыя мясціны, звязаныя з дзейнасцю нячыстай сілы (У. Коваль). *Дрыгва* — гэта і ўсё тое, што характарызуецца застоем, маральным падзеннем. Прамое значэнне гэтага слова тлумачыць пісьменнік у разважаннях дзеда Талаша: *А дрыгва там вялікая! Людзі не ходзяць па ёй, калі ступіш на яе, дык ужо наверх не выберашся. Не, не выберашся.* Аднак загаловак трэба разумець і як сімвалічны: неадольнаю *дрыгвою* для акупантаў Палесся былі не толькі бяскрайнія дрыгвяністыя і непраходныя балоты Беларусі, *дрыгва* паглынала кожнага, хто спрабаваў паквапіцца на гэты край, на яго народ. *«Дрыгвою»*, *«балотам»* была і тая колькасна абмежаваная купка мясцовых здраднікаў, якая падтрымлівала акупантаў і не разумела тагачасную ідэалогію перамен новай савецкай дзяржавы, пра што сведчыць шырокі тэкст аднайменнай аповесці Якуба Коласа.

Онімы-сімвалы шырока ўжываў у сваіх творах і Я. Купала. Так, у драме *«Раскіданае гняздо»*, створанай ім на падставе ўласных жыццёвых фактаў, многія персанажы, іх онімы ўспрымаюцца даследчыкамі творчасці як сімвалы: абвешаны торбамі, з сукаватым кіем у руках *Старац* сімвалізуе долю тых, каго паны праўдамі і няпраўдамі прагналі з зямлі-карміцелькі; параўн.: у беларусаў *торба* — сімвал жабрацтва [БРС-62, с. 920]. *Незнаёмы* — вястун лепшай долі, бунтар, які заклікае ўсіх абяздоленых і пакрыўджаных на вялікі Сход, да вялікага змагання. Відаць, гэты онім-сімвал і вобраз, лічыць Р. Шкраба, сталі аналагам-узорам для стварэння вобраза *Нявіднага* ў аповесці Я. Коласа *«Дрыгва»*; *Паніч* сімвалізуе чорныя сілы, што выжываюць з роднага кута яго законных гаспадароў, стваральнікаў. У гэтай п'есе аўтар зусім не паказвае побыт сям'і Зяблікаў, затое буйным планам малююцца вобразы, якія набываюць сэнс вялікіх сімвалаў. Прычым сімвалаў вельмі рэальных і ў той жа час вельмі абагуленых...

> Сілан Клёпкін — удалае спалучэнне ў адной антрапаформуле гаваркога ўласнага імя і прозвішча. У адной з рэплік Бусько іранічна зазначыў і вызначыў «сілу» Сілана

Вобразы-сімвалы птушак і гнёздаў, як сведчаць даследчыкі, прасочваюцца ў беларускім фальклоры з глыбокай старажытнасці, што тлумачыцца культурна-гістарычнымі традыцыямі нашага народа. Так Т. Трыпуціна, аналізуючы моўна-стылявыя асаблівасці творчасці Я. Брыля, адзначала, што літаратурная традыцыя, пачатая Я. Купалам і звязаная з вобразам раскіданага гнязда, знайшла далейшае творчае ўвасабленне не толькі ў вядомым рамане гэтага сучаснага класіка, а і ў іншых яго творах. *«Птушкі і гнёзды»* — не толькі назва рамана, але і тэма, і праблема. Пісьменнік невыпадкова замяніў першую рабочую назву *«Дзе твой народ»*. У творчасці Я. Брыля, адзначыла даследчыца, сімвалічныя вобразы птушак і гнёздаў, а таксама выраю рэалізуюцца і ў апавяданні *«Адзін дзень»*, і ў аповесці *«У Забалоцці днее»*.

У творах паэта У. Верамейчыка многія рэальныя айконімы (гідронімы, мікратапонімы, урбанонімы), выконваючы ключавыя функцыі, сталі загалоўкамі твораў, але гэта ўжо не проста назвы гідронімаў, айконімаў, мікратапонімаў. Яны ў тэкстах паэта выконваюць самыя разнастайныя мастацка-эстэтычныя функцыі. Гэта назвы яго зборнікаў *«Прыпяць»*, *«Клянуся Прыпяццю»*, *«Ліхаўня»*. Яго яшчэ пры жыцці, выкарыстоўваючы перыфразы, узнёсла-вобразна называлі *«лірнік Палесся»*, *«рыцар яе Вялікасці Прыпяці»*, *«адданы сын Палесся»*, *«палескі абраннік»* і інш. У. Верамейчык самаахвярна любіў родную зямлю, ганарыўся, захапляўся многімі куткамі Мазыршчыны і ўсяго Усходняга Палесся, пра што яскрава сведчаць

«Птушкі і гнёзды» — не толькі назва рамана, але і тэма, і праблема. Пісьменнік невыпадкова замяніў першую рабочую назву «Дзе твой народ»

яго дасканалыя дыскурсы-апісанні, насычаныя ўласнымі лексічнымі адзінкамі, індывідуальна-аўтарскімі перыфразамі, трапнымі параўнаннямі, эпітэтамі, якімі густа заселены яго вершы і паэмы. Так, у паэтычным зборніку *«Клянуся Прыпяццю»* (191 ст.) змешчаны 281 паэтычны твор, 50 з іх — загалоўкі, якія ўтрымліваюць анамастычныя адзінкі (*«Старыя Дарогі»*, *«Чурчхела»*, *«Мазыр»*, *«Наша «Чырвонка»*, *«Урочышча Нехарань»*, *«Вясна ў Рэчыцы»*, *«У Ялце»*, *«На беразе Прыпяці»*, *«Лёнька Сахор»*, *«Славечна»* і інш.). Асабліва часты ў яго творах гідронім *Прыпяць*. У зборніку *«Клянуся Прыпяццю»* ў розных творах ён паўтараецца 106 разоў, у тым ліку ў 13 загалоўках (*«Пціч»*, *«Прыпяць, Славечна»*, *«Салоўка над Прыпяццю свішча»*, *«Навальніца на Прыпяці»*, *«Прыпяць і Мазыр»* і інш.); выкарыстоўваў У. Верамейчык і апісальныя выразы — загалоўкі-перыфразы, узнёсла называючы галоўную раку Палесся Прыпяць *«Каралевай Палесся»* і інш. Выкарыстанне ў паэтычных творах У. Верамейчыка рэальных палескіх паэтонімаў-гідронімаў (*Прыпяць, Славечна, Пціч* і інш.), паэтонімаў-айконімаў (*Мазыр, Калінкавічы, Хойнікі, Васілевічы, Рэчыца, Барбароў, Нароўля, Перароў, Тураў, Міхалкі* і інш.), ужыванне іх у якасці загалоўкаў мастацкіх твораў — вершаў, паэм, паэтычных зборнікаў (*зборнікі «Прыпяць»*, *«Клянуся Прыпяццю»*, паэма *«Ліхаўня»*, вершы-прысвячэнні *«Прыпяць»*, *«Прыпяці»*, *«Славечна»*, *«Прыпяць, Мазыр»*, *«Васілевічы»*, *«Мазыр»*, *«Гомелю»*, *«Міхалкі, пяты клас»*, *«Мазырскі кірмаш»* і інш.) — яскравае сведчанне яго творчай манеры. Онімы як кампаненты тэкстаў у самых розных спалучэннях маюць не толькі назыўную функцыю, якой найперш уласціва «фарміраванне агульнай анамастычнай прасторы тэксту, свайго роду контурнай карты, на якую накладваецца дзеянне сюжэту», яны ў значнай меры падкрэсліваюць рэгіянальнасць стылю паэта. У гэтага паэта яна найперш праяўляецца ў квяцістай гаме маляўніча апісаных рэальных айконімаў і гідронімаў Мазыршчыны як адметнай і непаўторнай часткі Палесся, што пераканальна засведчана ў яго дэталёва пазначаных паэтычных дыскурсах і рэгіянальных апісаннях экзатычных палескіх краявідаў, іх уласных назваў. Паэтонімы ў якасці загалоўкаў твораў валодаюць таксама самымі рознымі канатацыйнымі асаблівасцямі — узмацняюць (напрыклад, паўторамі, рыфмай) эмацыйны змест пачуццяў і думак мастака і яго літаратурных персанажаў, разам з іншымі сродкамі ўдзельнічаюць у фарміраванні вобразаў, ствараючы ў чытача наглядна-вобразнае ўяўленне пра мясцовасць, асаблівасці яе флоры і фаўны, уклад жыцця палешукоў, іх заняткі, мары і спадзяванні, з'яўляюцца вызначальнымі тэкстаўтваральнымі адзінкамі з высокім асацыятыўным патэнцыялам. Такія высокія вобразна-апісальныя асаблівасці онімаў Мазыршчыны ў вершах і паэмах У. Верамейчыка, безумоўна, уплываюць на агульны тон мастацкага адлюстравання падзей і краявідаў усходняга Палесся, якім быў зачараваны паэт, што спрыяла паглыбленай меладычнасці і лірызму, уласцівых яго паэзіі.


1. Лепешаў, І. Пошукі і роздум: зб. артыкулаў / І. Лепешаў. — Гродна: ЮРСаПрынг, 2014. — 152 с.
2. Шур, В. В. Уласнае імя ў соцыуме і мастацкім тэксце : манаграфія / В.В.Шур. — Мазыр : МДПУ імя І. П. Шамякіна, 2015. — 300 с.
3. Шамякін І.: вядомы і невядомы: успаміны, эсэ, аповесць / уклад. Т.І. Шамякіна. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 272 с.
4. Манаенкава, А. Ф. Русско-белорусские языковые отношения (на матер. русских говоров Ветки) / А. Ф. Манаенкава. — Мн.: БГУ, 1978. — 168 с.
5. Бельскі, А. І. Раман І. Шамякіна «Сэрца на далоні»// Беларуская мова і літаратура. — 2009. — № 4. — С. 14—17.
6. Васілеўская, А. Загаловак мастацкага тэксту: на прыкладзе рамана «Каласы пад сярпом тваім» У. Караткевіча / А. Васілеўская // Роднае слова. — 2003. — № 3. — С. 55—58.
7. Аммон, М. Матыў фантастычнага падарожжа ў творчасці В. Адамчыка / М. Аммон // Роднае слова. — 2013. — № 11. — С. 3—6.
8. Верціхоўская, М. І. Вывучэнне творчасці Андрэя Макаёнка / М. І. Верціхоўская // Беларуская мова і літаратура. — 2009. — № 4. — С. 3—20.
9. Лепешаў, І. З увагаю да слова / І. Лепешаў // Полымя. — 1975. — № 10. — С. 213—221.

**Ягор Конеў**

# Сакрэт рэдакцыйнага поспеху — адвечнае, асабістае, упакаванае і раскручанае

## Угледзець шанец там, дзе іншыя бачаць цяжкасці

Глабальны фінансавы крызіс мае афіцыйны пачатак — 25 верасня 2008 года, але пакуль не займеў нават намёку на заканчэнне. За восем гадоў многія развітыя краіны зазналі аж чатыры крызісныя хвалі. Кожная такая хваля моцна шкодзіла не толькі эканоміцы, але і залежнай ад яе журналістыцы. На практыцы гэта праявілася ў франтальным скарачэнні штатаў, даходаў, аўдыторыі і тыражоў. Так, з 2009 года чвэрць штатных журналістаў у Злучаных Штатах Амерыкі (звыш 250 тысяч чалавек) страціла працу. Ганарары ў еўрапейскіх выданнях зменшыліся амаль утрая — з 1,5 еўра за радок да 65 еўрацэнтаў. Тысячы фрылансераў-пазаштатнікаў, якія раней жылі за кошт ганарараў, цяпер адначасова з пошукам сенсацый падпрацоўваюць прыбіральшчыкамі або афіцыянтамі. 90% выпускнікоў вышэйшых навучальных медыяўстаноў (толькі ў ФРГ каля 2 тысяч штогод) не могуць атрымаць працу: няма і не прадбачыцца вакансій.

Папяровыя выданні (медыёлагі называюць іх прынт-медыя) ва ўсім свеце жывуць з адной бядой — няўхільнае скарачэнне тыражоў. Дарэчы, гэты працэс пачаўся яшчэ ў 2004 годзе, калі статыстыка зафіксавала, што колькасць падпісчыкаў сталага ўзросту незваротна змяншаецца, а моладзь губляе цікавасць да газет і збольшага шукае інфармацыю ў Глабальнай Сетцы. Тады ўпершыню з'явіліся асцярожныя прагнозы, што, маўляў, «папера» пражыве яшчэ гадоў 40 і знікне разам з апошнімі падпісчыкамі, народжанымі прыблізна ў 1950-х. Аднак фінансавы крызіс надаў гэтай тэндэнцыі нечуванае паскарэнне. Зараз ужо прагназуюць, што жыць «паперы» засталося не больш за 10 гадоў, — нават старыя юзеры-карыстальнікі «здраджваюць» падпісцы і пачуваюцца камфортна ў інтэрнэце, дзе колькасць разнастайных паслуг павялічваецца, а кошты — змяншаюцца. Рэкламадаўцы накіраваліся ўслед за спажыўцом з папяровай сферы ў электронную, што зусім не павысіла рэнтабельнасці прынт-медыя. Разам з рэкламнымі інвестыцыямі і тыражом скарачаецца фінансавая падтрымка дзяржаўных органаў і дабрачынных устаноў. Не дзіва, што з кожным крызісным «усплескам» у свеце штодня закрываюцца дзясяткі выданняў — напрыклад, толькі ў ЗША за дзесяць гадоў з 9 тысяч англамоўных газет засталося меней чым 6 тысяч.

Што могуць гэтаму супрацьпаставіць рэдактары друкаваных выданняў, якіх у нашай краіне больш за тысячу?

Можна спадзявацца, што масавы чытач раптам адумаецца, адчуе настальгію па тыпаграфскіх пахах і дотыку да паперы. Маўляў, экран манітора, планшэта або смартфона такіх асалод не дорыць! Іншых пераканаўчых аргументаў на карысць друку пакуль не прыдумалі.

Можна смуткаваць з нагоды легкадумнасці аўдыторыі, якая хоча за колькі клікаў пазнаёміцца і з друкаваным тэкстам, і з яго гукавым або відэаадапаўненнем, і з меркаваннямі на форуме, і са спасылкамі на аналагічныя тэмы і г.д. Прыкладна такі смутак у сваю пару адчувалі ўладальнікі дыліжансаў, калі пасажыры перасаджваліся ў цягнікі, вытворцы грамафонаў і патэфонаў ды інш. Прагрэс звычайна не спыняецца, але ўкараняецца балюча.

Можна і надалей штоквартал звяртацца з палымянымі заклікамі да чытачоў, каб аформілі падпіску. (Яны, праўда, наўрад ці пачуюць, бо ў крызісны час папяровая газета або часопіс трапляюць у шэраг раскошы.)

Можна актыўней працаваць з вэб-версіямі друкаваных выданняў — і насуперак чаканням гэта не дужа павялічыць іх сеткавую аўдыторыю, бо ў інфармацыйным акіяне складана канкураваць з такімі інтэрнэт-«кітамі», як «The Huffington Post», «BuzzFeed», «Yahoo!», «Facebook», «Twitter», «LinkedIn», якія пачкамі запускаюць новыя прадукты.

А можна вывучаць досвед тых выданняў, якія не толькі выжываюць ва ўмовах абвостранай канкурэнцыі, але і зарабляюць. Істотным тут з'яўляецца тое, што друкаваная версія

Томпсана завабілі не толькі зарплатай у 1 млн доллараў штогод (столькі ён зарабляў і ў Бі-бі-сі), але і бонусам у дадатковыя 5 млн у залежнасці ад вынікаў працы. І свае 6 млн Марк Томпсан адпрацаваў напоўніцу

ўспрымаецца як дапаможная да электроннай, а не наадварот. І галоўную ролю ў гэтым пераасэнсаванні адыгрывае не тэхнічны, а чалавечы, асобасны фактар. Бо тых, хто наракае на крызісныя часы, шмат, а тых, хто ўгледзіць шанец там, дзе іншыя бачаць цяжкасці, адзінкі. Ды толькі тыя адзінкі якраз і ствараюць гісторыю сучаснасці.

У якасці яскравага прыкладу хацелася б спаслацца на рэдакцыйную стратэгію амерыканскай газеты «Нью-Ёрк Таймс» («The New York Times»). Гэта выданне славутае тым, што, па-першае, з яго бярэ пачатак якасная прэса ў ЗША, па-другое, завецца «Бібліяй навін» за ўзровень асвятлення і асэнсавання падзей, а па-трэцяе, яго часцей за іншыя газеты бэсціў у сваім «Твітэры» Прэзідэнт Дональд Трамп, называючы то «*правальным*», то «*паміраючым*».

Праўду кажучы, да 2012 года справы ў адной з самых аўтарытэтных у свеце газет сапраўды складваліся не лепшым чынам. Штогадовыя страты медыякампаніі «Нью-Ёрк Таймс» складалі ў сярэднім 40 млн долараў, а кошт яго акцый зменшыўся з 35 долараў за штуку да 7. Генеральны дырэктар Джанэт Робінсан прыкладала тытанічныя намаганні, каб захаваць ранейшы друкаваны тыраж газеты (900 тысяч у будні і 1,3 млн у суботу), але адток чытачоў так і не спыніла. Тады ўладальнік «Нью-Ёрк Таймс» Артур Сульцбергер-малодшы скасаваў кантракт з Робінсан і запрасіў на яе пасаду з Лондана генеральнага дырэктара Бі-бі-сі Марка Томпсана, які праславіўся запускам у вытворчасць такіх серыялаў, як «Шэрлак» і «Абацтва Даўнтон». Томпсана завабілі не толькі зарплатай у 1 млн доллараў штогод (столькі ён зарабляў і ў Бі-бі-сі), але і бонусам у дадатковыя 5 млн у залежнасці ад вынікаў працы. І свае 6 млн Марк Томпсан адпрацаваў напоўніцу.

## Скарачаецца «папера»? Павялічвайце «лічбу»!

Яму дасталася стратная гаспадарка, якая складалася з газеты «The New York Times» і дадатка «The International New York Times» (асвятляе пераважна міжнародныя падзеі), а таксама вэб-сайтаў «Nytimes.com» і «International.nytimes.com».

Марк Томпсан не жывіў ілюзію, нібыта зможа ўратаваць тыраж газеты. Наадварот, быў упэўнены, што «папера» будзе толькі змяншацца. Значыць, трэба нарошчваць «лічбу»! Прычым гаворка ішла не пра вэб-сайты, на якія выдаткоўваліся значныя рэсурсы і ўскладаліся вялікія надзеі. Аднак электронная копія «папяровай» версіі не зацікавіла ні сваіх падпісчыкаў, ні звычайных карыстальнікаў інтэрнэту. Томпсан разумеў, што юзерам не захочацца знаёміцца з сайтам «Нью-Ёрк Таймс», каб потым захапіцца яго кантэнтам і падпісацца на выданне. Навошта ім такія намаганні? Значыць, трэба, каб «Нью-Ёрк Таймс» сам прыйшоў да іх!

І Томпсан скіраваў высілкі падначаленых на стварэнне новых мабільных праграм. Недарма ў першы працоўны дзень новы гендырэктар сказаў калегам: «*У нас няма часу чакаць, пакуль нехта скочыць са скалы, і пабачыць, што атрымаецца. Трэба сягаць першымі*».

Своеасаблівым «скокам» Томпсана стаў шэраг праграм для смартфонаў, якія прапаноўваліся чытачам «Нью-Ёрк Таймс» за далейшае афармленне падпіскі, — «*NYT Opinion*», «*NYT Now*», «*NYT VR*», «*NYT Cooking*» ды інш.

А потым адбылося нечаканае: тое, што маркетолагі прагназавалі як паспяховы прадукт, аказалася стратай, а тое, што ўспрымалі як дадатак да асноўных вынаходніцтваў, прынесла прыбытак.

Першай давялося згарнуць запушчаную ў чэрвені 2014-га мабільную праграму «*NYT Opinion*» (скар. «*Нью-Ёрк Таймс меркаванне*»), якая прапаноўвала карыстальнікам аналітычныя артыкулы і каментарыі. Аднак праз пяць месяцаў высветлілася, што сярод уладальнікаў смартфонаў мала аматараў такой прадукцыі. (Як мне здаецца, нельга здымаць віну і з саміх аналітыкаў «Нью-Ёрк Таймс», якія з 2013 года, асэнсоўваючы міжнародныя падзеі, амаль

ва ўсіх нягодах вінавацілі толькі Прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна. Такім чынам яны парушылі свяшчэнны прынцып непрадузятасці, усталяваны Адольфам Оксам яшчэ ў 1896 годзе. Між іншым, гэты прынцып і зрабіў газету «флагманам» якаснага амерыканскага друку.)

Вясной 2015-га «Нью-Ёрк Таймс» скасаваў і праграму «*NYT Now*» (скар. «*Нью-Ёрк Таймс цяпер*»), якая транслявала звесткі пра самыя важныя падзеі ў рэжыме рэальнага часу. Яно каштавала 2 долары штотыдзень, але сабрала ўсяго 20 тысяч плацяжоў. Гэта не акупляла выдаткаў на абслугоўванне праграмы.

Насамрэч стваральнікі «*NYT Now*» не ўлічылі, што карыстальнікі ахвотней «спампуюць» анлайн-навіны з інфармацыйна-забаўляльных парталаў «*First Look Media*» або «*Flipboard*», якія свой кантэнт размяшчаюць не толькі аператыўна і бясплатна (што вельмі істотна для спажыўцоў), але і суправаджаюць яго прывабнымі загалоўкамі, кшталту: «*Ад слоў Трампа ў мільёны амерыканцаў затаілі дыханне*». (Дарэчы, у тым дзесяцірадковым матэрыяле ўсяго толькі цыталася фраза кандыдата ў Прэзідэнты ЗША, што, маўляў, трэба абсталяваць сцяну на мяжы з Мексікай. На такіх медыяплатформах «траскучыя» назвы звычайна не адпавядаюць зместу.)

Затое на дзіва паспяховым аказаўся праект «*NYT VR*» (скар. «*Нью-Ёрк Таймс віртуальнасць*»), які скептыкі ў рэдакцыі спярша наогул лічылі тэхнічным жартам. Гэтая праграма ўяўляе сабой акуляры з прасаванага кардону, у якіх замест шкельцаў — трохвымерны экран. Дзякуючы яму глядач нібы трапляе ў эпіцэнтр падзей. Пры гэтым ён можа абіраць зручную кропку агляду і нават бачыць тое, што адбываецца ў яго за спінай. Акуляры з кардону і з праграмай «эфекту прысутнасці» бясплатна даслалі кожнаму падпісчыку папяровай версіі «Нью-Ёрк Таймс». Так у лістападзе 2015-га быў пакладзены пачатак так званай «*журналістыцы паглыблення*», якая кардынальна скараціла адлегласць паміж гледачом і месцам здарэння.

Першым дакументальным фільмам, прадэманстраваным у праграме «NYT VR», стала стужка пра лёс трох дзяцей з сем'яў бежанцаў з Паўднёвага Судана, Украіны і Сірыі. Вельмі паспяховым аказаўся фільм 2016 года, прысвечаны перадвыбарнай кампаніі Хілары Клінтан і Дональда Трампа. Пасля яго трансляцыі «NYT VR» усталявала на свае смартфоны звыш паўмільёна чалавек. Пераважная большасць з іх раней не падпісвалася на «Нью-Ёрк Таймс».

Але сапраўднай сенсацыяй стала запушчаная ў верасні 2014-га праграма «*NYT Cooking*» (скар. «*Нью-Ёрк Таймс гатаванне*»), даступная толькі для айфонаў. Яна ўяўляла сабой спалучэнне кулінарнай кнігі і сервіса дастаўкі інгрэдыентаў для самастойнага гатавання ежы. Прычым паўфабрыкаты былі ўжо расфасаваны ў патрэбнай колькасці, дастаткова было, зверыўшыся з рэцэптам, толькі перамяшаць іх і паставіць на пліту. Менш чым праз год пасля запуску «*NYT Cooking*» сервіс займеў звыш 8 мільёнаў наведвальнікаў штомесяц. Каб заахвоціць іх да падпіскі, паміж разнастайных рэцэптаў і рэкламных аб'яў неназойліва змяшчалася забаўляльная інфармацыя з рубрыкі «*Entertainment*».

Даходы ад рэкламы і абаненцкай платы за карыстанне «*NYT Cooking*» з лішкам кампенсавалі страты ад няўдалых праектаў.

Гучалі, праўда, і галасы скептыкаў: маўляў, няўжо цяпер вяршыня журналісцкай дзейнасці — акуляры з кардону і сервіс дастаўкі ежы?

Ды Марка Томпсана такія кпіны не дужа бянтэжылі. Трыццаць гадоў рэдактарскай працы прывучылі яго да таго, што незадаволеныя заўсёды будуць. А паколькі, маўляў, нельга ўсім дагадзіць, то і спрабаваць не трэба. Лепей займацца *манетызацыяй* — атрымліваць прыбытак з кожнага рэдакцыйнага праекта за кошт платных паслуг, дэманстрацыі рэкламы, размяшчэння спасылак і г. д. Таму, не саромячыся, М. Томпсан і яго памочнікі развівалі сумежны бізнес, які, шчыра кажучы, меў ускоснае дачыненне да журналістыкі, але служыў добрай падтрымкай выдавецкага дома «Нью-Ёрк Таймс». Маецца на ўвазе продаж віна, аксесуараў з лагатыпам выдання, арганізацыя канферэнцый і нават турыстычных падарожжаў. Летась на такіх няпрофільных паслугах «Нью-Ёрк Таймс» зарабіў 95 мільёнаў долараў.

Зразумела, лёгка дакараць «Біблію навін» за тое, што яна займаецца нежурналісцкай справай. (З асаблівай ахвотай на гэта конт жартуюць супрацоўнікі стратных выданняў, а такіх у свеце

амаль што 95 %.) Асабіста я не бачу заганы ў тым, каб і нашым выданням заканадаўча дазволіць аказваць спажыўцам няпрофільныя паслугі. Мажліва, нямала здольных людзей перамясцілася б з сектара малога бізнесу, дзе зараз не лепшыя часы для развіцця, у рэдакцыі, дзе яны маглі б выкарыстаць свае здольнасці на ніве электронных паслуг і рэкламы.

Ды і самі журналісты маглі б прыкласці болей намаганняў для творчага самавыяўлення. Напрыклад, журналістаў «Нью-Ёрк Таймс» грашова заахвочваюць штомесяц здымаць на свае лічбавыя фотаапараты або смартфоны дакументальныя стужкі працягласцю ад 30 секунд да 2 гадзін. Найбольш удалыя з іх дэманструюцца ў электроннай версіі газеты або ў мабільнай праграме «*NYT VR*» (з адпаведнымі аўтарскімі адлічэннямі ад абаненцкай платы — чым болей «спампавалі», тым яны вышэйшыя). Пагадзіцеся, прыемна ведаць, што кожная хвіліна працы прыносіць дадатковы даход. Пачуццё фінансавай самапавагі — лепшы матыватар для «акул пяра» даваць нырца ў непрадказальныя плыні інфармацыйнага акіяна.

Да гонару Марка Томпсана трэба зазначыць, што мабільныя праграмы і сумежны бізнес маюць для яго ўсё ж дапаможны характар у дачыненні да галоўнага — даходу ад падпіскі і рэкламы. З адным істотным дапаўненнем — гаворка ідзе пра электронную падпіску і анлайн-рэкламу. Бо калі хочаш у першай чвэрці XXI стагоддзя быць паспяховым кіраўніком, то мусіш паважаць законы лічбавай эпохі.

## Законы лічбавай эпохі

Першы закон для рэдакцый гучыць немудрагеліста: анлайн-падпіска будзе ўзрастаць, папяровая — зніжацца. Без варыянтаў. Для кансерватараў (такіх у друку процьма, прычым неабавязкова гэта людзі сталага ўзросту, сярод моладзі таксама багата носьбітаў спажывецкай філасофіі) такі тэзіс непрымальны. Ён вымагае не толькі зменаў у рабочым рытме, але і болей намаганняў у лічбавай прасторы, дзе густы пераменлівыя, паводзіны аўдыторыі — непрадказальныя, а поспеху ніхто не гарантуе. Куды прасцей працаваць, як раней, і чакаць, што дзяржава аднекуль здабудзе грошы і не паквапіцца на сферу медыя. Але праблема ў тым, што ў крызісны час хутчэй дачакаешся выспятка ад кіраўніцтва і загаду самім зарабляць. Ва ўсялякім выпадку восем гадоў таму такую прачуханку ад свайго ўладальніка атрымала ўся рэдакцыя «Нью-Ёрк Таймс». А зараз газета мае анлайн-падпісчыкаў нават у Антарктыдзе.

Электронная версія «Нью-Ёрк Таймс» з платным доступам была запушчана ў 2010 годзе. Яе дызайн максімальна адпавядаў чорна-беламу афармленню папяровай версіі. Старонкі трэба гартаць, водзячы пальцам па экране смартфона, а лепей — планшэта. Звычайна папяровая версія складае 200 палос у будні і 400 — у суботу, прычым 2/3 зместу — рэклама. Вядома, на 7-цалевым экране такі аб'ём не ўтоўпіцца, таму кантэнт анлайн-версіі меншы, але змястоўны — каля 150 нататак штодня, а ў выхадны — яшчэ і 250 артыкулаў. Сюды трэба дадаць 65 журналісцкіх блогаў, якія штогадзінна абнаўляюцца, а яшчэ парачку дзясяткаў інтэрактыўных графікаў і відэаролікаў. Атрымліваецца звыш 200 матэрыялаў у будні і каля 300 — на уік-энд. І гэта толькі тое, што пішуць 1300 журналістаў «Нью-Ёрк Таймс». А ёсць яшчэ і перадрукоўкі з матэрыялаў інфармацыйных агенцтваў — да 400 нататак штодня. Сучасныя дзіджытал-распрацоўкі дазваляюць «упакаваць» такую процьму матэрыялаў да прымальнага для смартфона фармату.

Самае каштоўнае для чытацкага вока ў электроннай версіі — гэта тое, што рэклама займае меней месца, чым у папяровай. І гэта яшчэ адзін закон лічбавай эпохі. Каб папяровая газета акупілялася, рэклама на яе старонках павінна займаць прыблізна палову ўсёй прасторы. Усё, што болей 50 %, з'яўляецца чыстым прыбыткам. Таму аддзел маркетынгу дбае пра тое, каб рэкламы было болей, а дызайнеры — каб прыгожа суразмясціць яе напалову з інфармацыйнымі ды забаўляльнымі тэкстамі. У анлайн-версіі не патрабуецца такая колькасць рэкламы дзеля акупнасці праекта, бо выдаткі значна меншыя — не трэба аплочваць ні выдавецтва, ні транспарт, ні паштовыя паслугі. Нават амартызацыя памяшканняў змяншаецца, бо набіраць тэкст на ноўтбуку журналіст можа і на вуліцы, і дома. Вядома, рэклама і ў электронным выданні вітаецца, але яна не пераважае над тэкстам, і таму чытачу такая версія здаецца больш змястоўнай.

Як вынік — няспынны рост падпіскі на «лічбу». Так, у 2011-м «Нью-Ёрк Таймс» мела 320 тысяч карыстальнікаў электроннай версіі. У 2014-м іх колькасць узрасла да 500 тысяч. У 2015-м — да 1 мільёна анлайн-падпісчыкаў. Сёлета — ужо да 1,5 мільёнаў. Як бачым, за шэсць гадоў анлайн-падпіска вырасла ў пяць разоў. Між тым, «папяровая» падпіска за гэты час скарацілася ў паўтара раза — з 900 тысяч да 600 тысяч у будні і з 1,3 млн да 1 млн у нядзелю.

Аднак найважнейшай задачай для Марка Томпсана з'яўляецца не барацьба паміж электроннай і папяровай версіямі выдання (яе вынік ужо прадвырашаны), а змаганне за чытача. І чарговы закон лічбавай эпохі сцвярджае: у анлайн-версіі лягчэй завабіць чытача ў «пастку».

З чатырох такіх «пастак» складаецца сакрэт рэдакцыйнага поспеху.

## «Пасткі» для чытачоў

Пад «пасткамі» ў «Нью-Ёрк Таймс» разумеюць тыпы матэрыялаў, якія прыцягваюць прыярытэтную ўвагу чытачоў і тым дапамагаюць у барацьбе з папулярнымі інфармацыйнымі парталамі «BuzzFeed», «Circa», «ESPN», «First Look Media», «Flipboard», «Vox» і «Yahoo News». Канкурэнты «Нью-Ёрк Таймс» збольшага «нарошчваюць» аўдыторыю за кошт эксперыментаў з новымі фарматамі, хуткасці падачы матэрыялаў і надання ім сенсацыйнасці. Рэдакцыя ж «Бібліі навін» па-ранейшаму ўпэўнена, што адукаваны і плацежаздольны чытач усё роўна будзе шанаваць якасць тэксту, а не яго тэхнічнае аздабленне.

І першай такой «пасткай» стала «*адвечнае*» («*eternal*»). Маюцца на ўвазе матэрыялы, апублікаваныя ў «Нью-Ёрк Таймс» з часу стварэння газеты (з 1851 года іх назбіралася каля 15 мільёнаў, і некаторыя з іх набылі статус класічных твораў) і якія не губляюць актуальнасці нават сёння. Напрыклад, нязменным поспехам карыстаюцца перадрукоўкі, прымеркаваныя да святкавання Дня Святога Валянціна, кшталту якіх пісалі на гэты конт у 2017-м, 1967-м, 1917-м і 1867-м гадах. Наогул, увесь архіў з 15 мільёнаў матэрыялаў зрабіўся для падпісчыкаў «Нью-Ёрк Таймс» анлайн-бібліятэкай, цікавай не толькі для аматараў журналістыкі.

Праблема ў тым, што ў крызісны час хутчэй дачакаешся выспятка ад кіраўніцтва і загаду самім зарабляць. Восем гадоў таму такую прачуханку ад свайго ўладальніка атрымала ўся рэдакцыя «Нью-Ёрк Таймс». А зараз газета мае анлайн-падпісчыкаў нават у Антарктыдзе

Другая «пастка» мае назву «*індывідуальнае*» («*individual*»). Сутнасць яе заключаецца ў тым, што на смартфон карыстальніка праграмы «NYT Now» прыходзіць водгук кулінарнага крытыка аб рэстаране або тэатральнага крытыка — аб спектаклях тэатра, міма якіх часта ходзіць чытач. (Высветліць месца жыхарства ўладальніка смартфона можна за некалькі клікаў.) Таксама ў праграме «NYT Now» падпісчык атрымлівае ўсе публікацыі, у якіх згадваецца месца яго вучобы або працы. Адпаведна іншы падпісчык атрымае тэкст публікацый, прысвечаных яго хобі, прафесійным інтарэсам і г.д.

Зразумела, высвятляць штодзённы маршрут кожнага падпісчыка — справа не зусім журналісцкая. Таму і займаюцца ёю не прафесіяналы, а стажоры, якіх яшчэ не дапусцілі нават да рэпарцёрскай справы. А ў дапамогу ім — разнастайныя праграмы, арыентаваныя на апрацоўку масы даных і выяўленне алгарытмаў чалавечых паводзін. Галоўнае ў гэтай «індывідуалізацыі» — тое, што аніводны падпісчык не з'яўляецца лішнім, ён мае адметнае аблічча і за яго прыхільнасць трэба ўсяляк змагацца.

Яшчэ адной праявай «*індывідуальнага*» стала з'яўленне на клавіятуры кнопкі «Follow», якая падпісвае на тыя ці іншыя тэмы, рубрыкі або аўтараў. Такім чынам, цікавыя чытачу матэрыялы перамяшчаюцца ў спецыяльны раздзел — «Following Inbox». Пра яго абнаўленне падпісчыка рэгулярна папярэджваюць эсэмэскі.

Трэцяя «пастка» для чытача — «*упакоўка навін*» («*news packing*»). Гэта інфармацыйная даведка, якая ранкам прыходзіць на смартфон падпісчыка. З ёй зручна знаёміцца, пакуль едзеш у метро або ў таксі на працу. Даведка ўяўляе сабой падборку матэрыялаў, якія знаёмяць з падзеямі папя-

рэдняга дня і анансуюць сённяшнія. Зразумела, у адпаведнасці з інтарэсамі чытача. (Яны лёгка выяўляюцца дзякуючы аналізу яго частых запытаў у пошуковых сістэмах.) Вядома, даведка заўсёды мае звесткі пра надвор’е і пра змены ў руху грамадскага транспарту. Іх гарантавана прачытаюць у першую чаргу, а затым працягнуць знаёмства з дадатковым кантэнтам.

Нарэшце, чацвёртая «пастка» — «*раскручанае*» («*untwisted*») у сацыяльных сетках. Кожны журналіст «Нью-Ёрк Таймс», а іх толькі ў аддзеле інфармацыі каля 1100 (дзесяць гадоў таму, да крызісу, было звыш 1500), мае старонку ў «Фэйсбуку» і іншых сетках, дзе ў вольны ад працы час усяляк нахвальвае ўласнае выданне, папікае канкурэнтаў ды звяртае ўвагу соцень «сяброў» (а «пасябрукавацца» імкнецца з кім заўгодна) на ўдалыя публікацыі — як свае, так і сваіх калег. Так штодня «раскручваецца» імідж выдання, а далей яго падтрымлівае так званае «народнае радыё» (у Расіі яго называюць *сарафанным*), калі раіць адно аднаму матэрыялы «Нью-Ёрк Таймс» пачынаюць далёкія ад рэдакцыі людзі. Пакрысе з гэтай віртуальнай сукупнасці з’яўляюцца рэальныя падпісчыкі.

Такая пазарэдакцыйная праца не патрабуе значных выдаткаў, але вымагае багата вольнага часу. Для прафесійных журналістаў яна такая ж умова знаходжання ў штаце, як і напісанне матэрыялаў. Усе добра памятаюць, што права на датэрміновае звальненне ёсць у кожным журналісцкім кантракце. Адпаведна загадчык аддзела сочыць за тым, каб вэб-старонкі яго падначаленых рэгулярна абнаўляліся і каб іх змест меў яўную або ўскосную карысць для рэдакцыі.

## Мараль і рэдакцыйны поспех — разам ці паасобку?

З маральнага пункту гледжання ў такой актыўнай рэдакцыйнай дзейнасці ёсць свае заганы: карыстальнікі праграм, падпісчыкі ды і самі журналісты трапляюць пад кругласутачны вэб-кантроль.

Ды толькі для сучаснай дэмакратыі гэта звычайная з’ява. Дзякуючы сайту Джуліяна Асанджа «Вікілікс» увесь свет ведае, што спецслужбы слухаюць усе тэлефонныя размовы і чытаюць усю электронную пошту. Зразумела, дзеля абароны праў чалавека. Гэтак жа і рэдакцыя «Нью-Ёрк Таймс» апраўдвае збор звестак пра сваіх падпісчыкаў клопатам аб паўнавартасным задавальненні іх інфармацыйных патрэб. Насамрэч усё гэта робіцца дзеля камерцыйнага поспеху. Нездарма яшчэ сто гадоў таму Адольф Окс, які набыў амаль бясплатна стратную газеціну «Нью-Ёрк Таймс» і ператварыў яе ў «Біблію навін», казаў сваім падначаленым: «*Каб служыць сваёй краіне, спярша навучыцеся зарабляць на інфармацыі*». Рэнтабельнасць і прыбытак, на думку Окса, гэта падмурак для ажыццяўлення галоўнага прызначэння журналістыкі — уплываць на грамадства пры дапамозе дакладнай інфармацыі, укараняць прагрэс і маральныя нормы, выкрываць заганы.

Дарэчы, не ўсе выдаўцы здолелі прытрымлівацца пастулата Окса. Многія не вытрымалі балансу паміж служэннем грамадскім ідэалам і сваёй кішэні і ўрэшце патанулі ў балоце камерцыі. Ва ўсёй Амерыцы зараз ёсць бадай што тузін медыя (акрамя «Нью-Ёрк Таймс», у гэты ганаровы шэраг уваходзіць газета «Ю-Эс-Эй Тудэй», часопіс «Нью Рэпаблік», інфармацыйны партал «Хафінгтан Пост» і інш.), якія ўдала дбаюць і пра якасць матэрыялаў, і пра прыбытак. І тым даказваюць, што поспех у журналістыцы не супярэчыць маралі, а спалучаецца з ёй.

Для нашай журналістыкі рэдакцыйны досвед «Нью-Ёрк Таймс» сёння можа падацца не дужа прыдатным, прычым не толькі па тэхнічных прычынах. Пакуль наша эканамічная мадэль непахісная, пра пераўтварэнні ў інфармацыйнай сферы гаворкі не ўзнікне. Ды ўсё змяняецца ў гэтым свеце — нават і тое, што здавалася нязменным. Рана ці позна давядзецца паклапаціцца пра фінансавы дабрабыт беларускіх медыя. Паўстане слушнае пытанне: з каго браць прыклад? Мяркую, спярша паспрабуюць скапіраваць расійскую мадэль (галоўным чынам таму, што з усіх замежных моў нашы кіраўнікі добра ведаюць толькі рускую), каб з цягам часу зразумець, што там насамрэч процьма недахопаў. А можна пашырыць кругагляд і ўзяць на ўзбраенне здабыткі «Нью-Ёрк Таймс». І тады адзінкамі медыйнага вымярэння стане трафік у лічбавых версіях, папулярнасць у сацыяльных сетках і карысныя «пасткі» для чытачоў.

**Анастасія Петрушко**

# Ён любаваўся кропляю расы і бачыў у ёй Сусвет

**Уладзімір Марук — беларускі пісьменнік, таленавіты паэт, вядомы сваімі дзіцячымі творамі і лірычнымі вершамі. На жаль, сем гадоў таму ён пайшоў з жыцця. Але памяць пра яго засталася. Сёлета выйшла яго пасмяротная кніга «Яршы плялі кашы» — зборнік жартаўлівых вершаў для дзяцей. Ён вельмі любіў дзяцей, сваю справу і сваю сям'ю. Дзве дарагія яму жанчыны — малодшая сястра і жонка — распавялі пра цікавыя эпізоды з жыцця паэта.**



«Нас у сям'і было чацвёра. Валодзя быў старэйшым. Валодзя, Валодзік, Валодзька — так называлі яго ў сям'і. Рос вельмі паслухмяным, спакойным, добрым хлопчыкам. Ніколі нікога не крыўдзіў, шмат чытаў. Любіў гуляць з дзецьмі, часта прыдумляў розныя цікавыя гульні, але вельмі часта заставаўся адзін, а дакладней — з кнігай, ручкай і блакнотам. Такім ён мне запомніўся больш. Чытаў, нешта думаў і запісваў. У гэты момант я, сястра Галя і брат Саша стараліся не парушаць яго спакою, не перашкаджаць яму думаць «свае думкі». А як хацелася даведацца, што ён думае, аб чым марыць! Бацькі часам казалі яму: «Сынок, ідзі пагуляй, хопіць ужо з кніжкай сядзець». А ён, бывае, выйдзе на вуліцу, усміхнецца нам і зноў ідзе чытаць. Мы яго лічылі самым разумным, задавалі шмат пытанняў, на якія ў яго заўсёды былі адказы», — успамінае малодшая сястра паэта Вольга Антонаўна Марук (Буйневіч), настаўніца беларускай мовы і літаратуры сярэдняй школы № 121 горада Мінска.

Творчасць патрабуе адзіноты. Колькі кніг, карцін, артыкулаў, мелодый так і не напісана толькі таму, што блізкія людзі і сябры не давалі адно аднаму «неабходнай прасторы». Тут Уладзіміру Антонавічу вельмі пашанцавала: блізкія людзі разумелі, што паэту трэба час ад часу пабыць аднаму, каб сабрацца з думкамі і выкласці іх на паперы.

Першая спроба пяра адбылася ў шостым класе. Аднак, на жаль, першы верш юнага Марука не захаваўся. Псіхолагі лічаць, што чалавек звяртаецца да пісьменніцкай справы тады, калі ёсць невыказаныя думкі, якія трэба некаму адкрыць. Вершаваная форма мацней уплывае на чытача, адбіваецца ў яго памяці, што дапамагае паэту перадаць свой пасыл і, магчыма, неяк паўздейнічаць на чытача і закранутую ў вершы праблему.

У кожнага з нас сэрца раскрываецца, калі мы бачым ласкавую, пяшчотную усмешку дзіцяці. Менавіта таму Уладзімір Марук і выбраў для сябе дзіцячую тэматыку. Некаторы час паэт працаваў настаўнікам. Менавіта падчас настаўніцтва ён і сфарміраваў адзін са сваіх прынцыпаў — «дзецям трэба растлумачыць зробленую памылку і даць магчымасць выправіць яе». У сваіх вершах Уладзімір Антонавіч у жартаўлівай форме павучае дзяцей, раскрывае ім праўду жыцця, што можна ярка ўбачыць ў вершы «Хамелеон-міліянер» са зборніка «Яршы плялі кашы»:

Прамяняў хамелеон
Сто адзежын за сезон.
Быў то ў сінім,
То ў чырвоным,
То ў зялёным…
Мабыць, меў хамелеон
Грошай болей,
Чым мільён.

Самыя складаныя адносіны заўсёды назіраюцца паміж чалавекам і «тэрыторыяй», дзё ён жыве. Нарадзіўся Уладзімір Марук у вёсцы Гута Ганцавіцкага раёна, але большую частку жыцця правёў у горадзе. Сказаць, што ён стаў цалкам гараджанінам, немагчыма. Па словах жонкі паэта Наталлі Андрэеўны Марук, настаўніцы беларускай мовы і літаратуры сярэдняй школы № 55 горада Мінска, душою







ён адпачываў менавіта там, на сваёй малой радзіме, у прыгожым палескім куточку. Аднак і ў Мінску у яго было любімае месца — бераг Свіслачы. Доўгі час пісьменнік жыў на вуліцы Маякоўскага і часта хадзіў на рэчку з сябрамі, пісьменніцкай кагортай. Прырода роднага краю натхняла беларускага паэта: ён любаваўся кропляю расы і бачыў у ёй Сусвет. Шчасце — назіраць за простымі з'явамі і бачыць у іх кожны раз нешта надзвычайнае, новае.

Вершы часта становяцца асновамі песень. Так адбылося і з некаторымі вершамі Уладзіміра Марука. Самы вядомы з іх — «Віно зеляно». Сам аўтар аддаваў перавагу народным песням, асабліва беларускім. А вось эстрадныя не шанаваў. Пеўчага таленту ў яго не было, таму асабліва і не спяваў.

Некаторы час Уладзімір Антонавіч працаваў бібліятэкарам. Менавіта бібліятэка дала яму штуршок да паступлення на філалагічны факультэт БДУ. Уладзімір, як ужо гаварылася, вельмі любіў кнігі і чытаў іх запоем. Перавагу аддаваў, канешне, класіцы. Дома паэт меў цэлую бібліятэку, якая складалася з твораў класікаў розных літаратур — і сусветнай, і айчыннай. Яго вабілі творы, якія мелі больш філасофіі ў змесце. Творы-аднадзёнкі вельмі не любіў.

Філалагічны факультэт БДУ даў Уладзіміру Антонавічу не толькі адукацыю, але і сяброў. Самым блізкім яго сябрам быў Алесь Пісьмянкоў. Гэты вельмі абаяльны знешне і прыгожы душой чалавек пайшоў з жыцця вельмі рана — яму было толькі 48 гадоў. Уладзімір моцна перажываў гэтую страту: пайшоў з жыцця не проста чалавек, таленавіты пісьменнік, а блізкі сябар. Сябраваў ён таксама з пісьменнікамі Навумам Гальпяровічам, Міколам Мятліцкім, Валянцінам Лукшам, Віктарам Стрыжаком, Уладзімірам Ягоўдзікам, Алегам Лойкам, Анатолем Зэкавым, Алесем Марціновічам, Алесем Бадаком, Віктарам Шніпам…

Вольга Марук расказала, што ў брата быў яшчэ адзін сябар, які з дзяцінства і да самай смерці ішоў побач з ім. Гэта Аляксандр Вярбінскі — з ім яны сядзелі за адной партай у школе. Яны рэдка бачыліся, бо Аляксандр жыве ў Маскве, але яны і на адлегласці падтрымлівалі вельмі цёплыя сяброўскія адносіны.

Ці трэба казаць, што Уладзімір Марук вельмі любіў Радзіму: беларусаў, прыроду, архітэктуру і мову. Паэт размаўляў паўсюль выключна па-беларуску: у гасцях, паездках, падарожжах. Рускай

мовай карыстаўся вельмі рэдка. І менавіта дзякуючы беларускай мове ён знайшоў сваё шчасце, сваю каханую. «Я, маладая настаўніца, першы год працавала ў школе. Гэта была Чыжоўка, школа № 46. Настаўніцкі калектыў быў вельмі добры. Мая калега — выкладчыца беларускай мовы і літаратуры Зінаіда Іосіфаўна Шалягіна, цётка майго будучага мужа — неяк увосень запрасіла мяне да сябе ў госці. Прыйшла да яе, нічога не падазраючы. Праз нейкі час завітаў да нас і яе пляменнік, Уладзімір Марук, студэнт 4 курса філалагічнага факультэта БДУ. Гэтая сустрэча спачатку ператварылася ў сяброўства, а потым узнікла каханне», — падзялілася гісторыяй знаёмства з будучым мужам Наталля Марук.

Ці лёгка быць жонкай таленавітага чалавека? «З аднаго боку, гэта паэт, паэт філасофскага складу, — кажа Наталля. — З другога боку, гэта чалавек, не пазбаўлены ні чалавечых недахопаў, ні станоўчых рыс. Чалавек-загадка. Ён быў нешматслоўны, і часам цяжка было вызначыць, што ў яго на душы, каб нечым, калі трэба, дапамагчы. Валодзя сам вырашаў свае праблемы, ніколі не перакладваў іх на іншых».

Маўклівасць — рыса, якую адзначалі ўсе сваякі і сябры паэта. Псіхолаг Б.Ф. Поршнеў лічыў маўклівасць першым крокам да ўнутранай гармоніі. Вылучаюць некалькі прычын маўклівасці. Па-першае, чалавеку няма чаго сказаць. Па-другое, маўчанне можа быць і тактыкай, калі чалавек дае выказацца субяседніку, вывучае яго, каб выявіць моцныя і слабыя бакі апанента. Маўклівасць часта суседнічае з уменнем слухаць, чым і быў надзелены Уладзімір Антонавіч. Гэта быў чалавек, які ніколі не падкрэсліваў сваё «я». Ён быў сціплы, сарамлівы — менавіта ў гэтай сарамлівасці ўсе знаёмыя бачылі вельмі вытрыманы характар. Асоба чалавека такая шматгранная, што ў ёй заўсёды можна знайсці рысы, адна адной супрацьлеглыя. Уладзімір Марук быў чалавекам спакойным, церпялівым, стрыманым, але меў пры гэтым вялікую сілу волі і моцны характар і ніколі не баяўся выказваць адкрыта свае думкі.

Паэт, брат, муж, тата, карэспандэнт, галоўны рэдактар, настаўнік, бібліятэкар — ролі, якія паспеў прымераць на сябе Уладзімір Марук. Заўсёды існуюць ралявыя канфлікты, абумоўленыя няздольнасцю людзей асвоіцца ва ўсіх ролях адразу. Адна з сацыяльных роляў выходзіць заўсёды на пярэдні план. Для Уладзіміра Марука на першым месцы была сям'я. Вольга Антонаўна з гонарам успамінае свайго брата: «Валодзя адносіўся з усёй адказнасцю да журналісцкай і пісьменніцкай працы, быў вельмі адданы, працавіты. І, вядома, яму было нялёгка. Уладзімір Марук быў перфекцыяністам — любую справу даводзіў да канца, і таму аднолькава сур'езна ставіўся і да журналісцкай, і да пісьменіцкай працы. Яго сумленнасць не дазваляла яму інакш працаваць».




Паэт мае вялікую патрэбу выразіць словам кожную з'яву, кожны рух і разам з тым жаданне выразіць самога сябе на паперы. У гэтым вельмі дапамагае дзённік. Уладзімір Марук таксама вёў дзеннікі, якія цяпер захоўваюцца ў яго жонкі. Чытаеш і захапляешся — столькі ідэй, планаў напісаць пра тое, пра гэта. Многа цікавых фактаў з жыцця, якія маглі б стаць асновай будучых твораў. Але часу не хапіла, многае не атрымалася выканаць… Шмат якія думкі і ідэі былі выкарыстаны ў якасці асновы сюжэтаў дзіцячых зборнікаў «Ехаў Чыж у Парыж» і «Чыж вярнуўся з-за мяжы».

Калі ў чалавека знікаюць ўспаміны, то ён духоўна памірае. Успаміны Уладзіміра Антонавіча захаваліся ў дзённіках, якія разам з вершамі сталі яго своеасаблівым духоўным скарбам для нашчадкаў.

Акадэмія кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь

# МАТЫВАЦЫЯ

Выкладчык Аляксандр Брас



Пытанне матывацыі паўстала перад грамадствам, калі ўзровень развіцця вытворчасці стаў такім, што чалавек здолеў выраблясць (збіраць у лесе, здабываць на паляванні, вырошчваць і г.д.) трошкі больш, чым ён мог з'есці адразу. Як толькі гэта адбылося, адразу давялося вырашаць дзве гіганцкія задачы:

1) як забраць у чалавека тое, што ён не паспеў з'есці (што не мае дачынення да матывацыі);

2) як прымусіць чалавека вырабляць (збіраць, здабываць, вырошчваць) яшчэ больш (што мае да матывацыі непасрэднае дачыненне).

Тысячагоддзямі лічылася, што існуе адзін вельмі зразумелы для кожнага спосаб матывацыі — пугай і пернікам. Хоць некаторыя сцвярджаюць, што калі пуга добрая, то пернік увогуле не патрэбны. Знакамітаму амерыканскаму гангстэру Аль Капоне прыпісваецца выраз: «Добрае слова і пісталет — нашмат лепшы аргумент, чым проста добрае слова».

А як суадносіцца пуга і пернік у сучасных арганізацыях?

За некалькі дзясяткаў тысяч гадоў праблема матывацыі знаходзіла і страчвала мноства спосабаў свайго вырашэння — ад натуральных пугі і перніка да даволі вытанчаных маніпуляцыйных методык. Але сутнасць матывацыі — як прымусіць чалавека працаваць як мага больш, а плаціць яму за гэта як мага менш — заставалася нязменнай.

У самым агульным выглядзе матывацыю можна вызначыць як сілу, якая стварае матывы, схільнасць для ажыццяўлення нейкіх дзеянняў. Яна фарміруецца пад уплывам мноства знешніх і ўнутраных фактараў, якія тут не разглядаюцца. Менавіта матывацыя з'яўляецца неабходнай умовай мэтанакіраваных паводзін чалавека. Як адзначаў Дуайт Эйзенхаўэр, «матывацыя — гэта здольнасць прымусіць чалавека рабіць тое, што ты хочаш, калі хочаш і дзе хочаш, таму што ён

Тут друкуюцца самыя цікавыя лекцыі на самыя розныя тэмы па самых розных дысцыплінах. Галоўныя ўмовы: зразумела ўсім, карысна для кожнага, цікава шырокаму колу маладых чытачоў-інтэлектуалаў. Прымаем ад выкладчыкаў тэксты ў форме лекцый з фатаграфічнымі доказамі студэнцкага захаплення.

сам гэтага хоча». Інакш можна сказаць, што добрая працоўная матывацыя дае магчымасць атрымліваць задавальненне, робячы тое, што патрабуецца арганізацыі.

Пры стварэнні матывацыйнай сістэмы арганізацыі кіраўніку неабходна ўлічваць наступнае:

1. Людзі, якія працуюць у арганізацыі, імкнуцца нечага дасягнуць або пазбегчы, кіруючыся найперш уласнымі інтарэсамі. Таму мэты самой арганізацыі і яе работнікаў могуць быць несумяшчальнымі між сабой. Апроч таго, далёка не ўсе работнікі ведаюць і разумеюць мэты арганізацыі і тое, як іх дасягненне адаб'ецца на іх уласным дабрабыце. Калі кіраўніцтва здолела зрабіць так, каб, працуючы дзеля арганізацыі, работнікі задавальнялі і некаторыя ўласныя інтарэсы, значыць, яно стварыла дзейсную сістэму матывацыі.

2. Не існуе найлепшага (аптымальнага) спосабу матывацыі для ўсіх людзей і пры любых умовах, бо

- людзі адрозніваюцца жаданнямі, мэтамі і патрэбамі;
- выклікаць учынак чалавека можна рознымі метадамі;
- людзі развіваюцца і ўвесь час мяняюцца, адпаведна павінны змяняцца і метады іх матывацыі.

Таму кіраўнік павінен умець комплексна выкарыстоўваць самыя розныя спосабы ўздзеяння на работнікаў.

3. Па шкале рэзультатыўнасці работнікі любой дастаткова складанай арганізацыі размяркоўваюцца ў адпаведнасці з нармальным законам размеркавання [1]. Гэта значыць, што

- асноўная маса работнікаў арганізацыі працуе з сярэдняй, тэхналагічна абумоўленай рэзультатыўнасцю;
- ёсць работнікі, чыя рэзультатыўнасць з не вельмі зразумелых прычын перавышае сярэднюю, але такіх адносна нямнога;


Аляксандр Брас, кандыдат эканамічных навук, дацэнт.

- ёсць работнікі, чыя рэзультатыўнасць ніжэй за сярэднюю, але іх таксама нямнога;
- рэзультатыўнасць лепшага работніка можа ў два—тры разы пераўзыходзіць рэзультатыўнасць горшага;
- 4. Прынцып Парэта [2] робіць справядлівымі наступныя сцвярджэнні:
- 80% поспеху арганізацыі прыносяць 20% яе супрацоўнікаў, рэзультатыўнасць якіх пераўзыходзіць сярэдні паказчык (у рэальнасці лічба не такая круглая);
- 80% праблем арганізацыі ствараюць 20% яе супрацоўнікаў, рэзультатыўнасць якіх значна меншая за сярэднюю.

Адсюль вынікаюць наступныя заўвагі:

1) Кіраўніку вельмі важна ведаць, з якой рэзультатыўнасцю працуе кожны яго падначалены. Пры гэтым важна разумець, што чым вышэй ў іерархіі ўпраўлення знаходзіцца чалавек, тым большы ўплыў мае яго асабістая рэзультатыўнасць на агульныя вынікі дзейнасці арганізацыі. Няправільныя рашэнні начальніка цэха могуць знішчыць усе намаганні работнікаў.

2) Калі ў працэсе стварэння нейкага прадукту або паслугі тая ці іншая аперацыя выконваецца няякасна і несвоечасова, гэта вельмі цяжка кампенсаваць больш якасным выкананнем іншай аперацыі.

Здавалася б, калі кіраўнік ведае, чыя рэзультатыўнасць ніжэй за сярэднюю, дык мае сэнс проста звольніць такіх работнікаў. Але ў гэтым выпадку, як ні дзіўна, пачынаюцца так званыя «перацяканні» персаналу і праз некаторы час арганізацыя вяртаецца да ранейшай сітуацыі.

3) Адзіны спосаб павялічыць агульную рэзультатыўнасць працы — павялічыць сярэднюю рэзультатыўнасць за кошт увядзення новых тэхналогій вытворчасці (у шырокім сэнсе слова) і кіравання.

Асноўнымі, але не апошнімі фактарамі, якія вызначаюць працоўныя паводзіны, з'яўляюцца:

- патрэбнасці і кампетэнцыі канкрэтнага чалавека;
- матывы яго працоўных паводзін;
- ацэнка справядлівасці існуючых у арганізацыі стасункаў;
- заахвочванне да працы, якое сыходзіць ад арганізацыі;
- наяўнасць і выкарыстанне сістэмы ацэнкі рэзультатыўнасці работніка.

Уплыў патрэбнасцей на паводзіны не аспрэчваецца сёння нікім. Пры гэтым пад патрэбнасцю маецца на ўвазе фізіялагічнае або псіхалагічнае адчуванне чалавекам нейкага дэфіцыту. Патрэбнасць — гэта не тое, што чалавеку неабходна насамрэч, а тое, чаго яму, на яго думку, не хапае сёння. Патрэбнасці чалавека заўсёды суб'ектыўныя — іх немагчыма назіраць непасрэдна і вельмі складана ацаніць. Таму класіфікацый патрэбнасцей існуе процьма. Разгледзім класічны на сёння падыход Абрахама Маслоу і яго практычнае выкарыстанне (варта звярнуць увагу і на работы Дэвіда МакКлеланда і Клейтана Альдэрфера).

Маслоу раздзяліў усе чалавечыя патрэбнасці на пяць катэгорый:

фізіялагічныя, пры задавальненні якіх чалавек атрымлівае магчымасць выжыць (патрэбнасці ў ежы, вопратцы, жытле);

у бяспецы і ўпэўненасці ў будучыні, што ўключае, па-першае, патрэбнасці ў абароне ад фізічнага і псіхічнага нападу іншых і, па-другое, патрэбнасць ва ўпэўненасці, што будуць задаволены фізіялагічныя патрэбнасці;

сацыяльныя — бачыць сябе членам супольнасці, мець сацыяльныя кантакты, адчуваць прыхільнасць і падтрымку іншых людзей;

*у павазе* — гэта патрэбнасць у прызнанні іншымі людзьмі асабістых якасцей і дасягненняў, патрэбнасць ў атрыманні пэўнага статусу ў супольцы або грамадстве;

*у самасцвярджэнні* — патрэбнасць у веданні сваіх патэнцыйных магчымасцей, у росце сябе як асобы, у праве быць сабой.

Сутнасць тэорыі А. Маслоу ўключае ў сябе два палажэнні:

1. Патрэбнасці чалавека іерархічныя, што можна прадставіць ў выглядзе піраміды (мал.). Калі ў чалавека ёсць дзве патрэбнасці розных узроўняў, то вызначаць яго паводзіны будзе патрэбнасць ніжэйшага ўзроўню. Галодны чалавек мала цікавіцца тым, наколькі яго паважаюць у грамадстве.




Іерархія патрэбнасцей паводле А. Маслоу.

2) Фізіялагічныя патрэбнасці і патрэбнасці ў бяспецы з'яўляюцца першаснымі, прыроджанымі, або патрэбнасцямі ніжэйшых узроўняў. Паколькі яны прадвызначаны ад нараджэння, то яны канечныя і іх, хаця б тэарэтычна, можна задаволіць. Патрэбнасці сацыяльныя, а таксама ў павазе і самасцвярджэнні з'яўляюцца другаснымі, набытымі, або патрэбнасцямі вышэйшых узроўняў. Гэтыя патрэбнасці развіваюцца разам з чалавекам, таму іх немагчыма задаволіць нават тэарэтычна, і матывацыя тут бясконцая. Адпаведна кіраўнік, зацікаўлены ў рэзультатыўнай працы сваіх падначаленых, павінен пастаянна развіваць іх патрэбнасці. Толькі той, каму нешта неабходна ў гэтым жыцці, будзе імкнуцца павышаць прыбытковасць сваёй працы і развіваць сябе як асобу. А ад таго, чые патрэбнасці невялікія, не варта чакаць высокіх працоўных вынікаў. Сацыяльная рэклама «Вып'ем па чарачцы, з'ядзім па шкварцы», на шчасце, праіснавала нядоўга. Калі чалавеку

нічога акрамя «чаркі ды шкваркі» не трэба, то ў эканоміцы ведаў ні яму, ні з ім рабіць няма чаго.

Тэорыі А. Маслоу больш за 70 гадоў. За ўвесь час свайго існавання яна крытыкавалася з розных бакоў, але, нягледзячы на гэта, па-ранейшаму ўваходзіць амаль ва ўсе падручнікі па менеджменце, кіраванню персаналам, эканамічнай тэорыі і маркетынгу.

Асноўная крытыка палажэнняў А. Маслоу датычылася наступных пазіцый:

1. У рэальным жыцці, у адрозненне ад карцінкі з пірамідай, вельмі складана аддзяліць адну патрэбнасць ад другой. Больш за тое, робячы адзін учынак, чалавек можа задаволіць самыя розныя патрэбнасці. Напрыклад, перад надыходам зімы кабета хоча набыць сабе футра, неабходнае ёй для таго, каб не мёрзнуць (патрэбнасць фізіялагічная). Аднак, прыйшоўшы ў краму і пачаўшы выбіраць футра (працэс гэты можа быць вельмі доўгім), кабета чамусьці звяртае ўвагу не на тое, наколькі цёплае футра, а на тое, як яна ў ім выглядае і што скажуць пра яе ў гэтым футры родныя і знаёмыя. Фізіялогія, як бачым, некуды знікае, на першы план выступаюць патрэбнасці сацыяльныя і патрэбнасці ў павазе. У выніку, як ні дзіўна, кабета набывае не самае цёплае футра, а самае, на яе думку, прыгожае. Такім чынам, набыццё футра задавольвае розныя патрэбнасці.

2. Можна прывесці як прыклад жыцці людзей, што ў прынцыпе не трапляюць пад тэорыю Маслоу. Звычайна гэта мастакі, пісьменнікі, музыкі. Вінсент Ван Гог жыў практычна ў жабрацтве, але займаўся самарэалізацыяй. Пад тэорыю Маслоу відавочна не трапляюць жыцці яркіх прадстаўнікоў большасці рэлігій, напрыклад, апосталы Хрыста жылі зусім не паводле Маслоу. Больш за тое, шмат якія рэлігіі ставяцца да патрэбнасцей ніжніх узроўняў даволі пагардліва.

3. Пад палажэнні Маслоу не трапляюць паводзіны людзей у экстрэмальных сітуацыях. Подзвігі салдат розных армій апісаны ў літаратуры даволі падрабязна.

Гэтыя крытычныя заўвагі цалкам справядлівыя. Аднак доўгае жыццё тэорыі Маслоу вызначаецца не яе недахопамі, а яе вартасцямі, якія выяўляюцца ў тым, што,

па-першае, учынкі і жыццё многіх звычайных людзей (на шчасце — не ўсе вялікія, ёсць і нармальныя) у звычайных, неэкстрэмальных умовах (на шчасце, не кожны дзень узнікае патрэбнасць кідацца з гранатай пад танк) трапляюць пад тэорыю Маслоу;

па-другое, ставіцца да тэорыі Маслоу можна з дзвюх пазіцый: 1) пазіцыя студэнцкая: «Маслоу прыдумаў, а нам бедным — вучы», што не вельмі канструктыўна; 2) пазіцыя практыка-арыентаваная, бо піраміда Маслоу прадугледжвае практычна ўсё, што неабходна для пабудовы ў арганізацыі правільнай сістэмы матывацыі.

Разгледзім магчымасць практычнага выкарыстання тэорыі Маслоу больш падрабязна.

***Фізіялагічныя патрэбнасці***. Калі складанае словазлучэнне «фізіялагічныя патрэбнасці» перавесці на практычную мову, то гэта азначае патрэбнасць чалавека ў грошах, а дакладней у тых даbabротах, якія за іх можна набыць. Грошы работнік атрымлівае (ва ўсялякім выпадку, павінна так быць) за колькасць і якасць сваёй працы. Калі кіраўнік зацікаўлены ў тым, каб атрыманы заробак успрымаўся супрацоўнікам як матыватар, ён павінен вельмі добра растлумачыць яму, чым вымяраецца колькасць і якасць яго працы і што ён павінен зрабіць на сваім працоўным месцы, каб заўтра зарабляць больш, чым сёння. Інакш грошы матыватарам не будуць, яны не падштурхнуць да таго, каб працаваць больш і лепш.

***Патрэбнасці ў бяспецы***. Натуральна, што арганізацыя не можа адгарадзіць ад небяспекі супрацоўніка, які ідзе позна вечарам па цёмнай вуліцы. Але арганізацыя можа забяспечыць два аспекты:

1. Бяспека ў арганізацыі. Гэта азначае, з аднаго боку, стварэнне, як мінімум, бяспечных, а яшчэ лепш камфортных умоў працы. З іншага боку, гэта прадастаўленне супрацоўніку гарантый будучай занятасці, што ва ўмовах нестабільнай эканомікі мае значэнне для вельмі многіх людзей.

2. Бяспека на рынку працы. Справа ў тым, што сярэдняя працягласць жыцця арганізацыі на рынку — 30 гадоў. Сярэдняя працягласць працоўнага жыцця чалавека — 40 гадоў. Такім чынам, рана ці позна чалавек можа апынуцца на рынку працы, дзе запатрабаваны пэўныя кампетэнцыі. Арганізацыя можа забяспечыць чалавеку пэўную

бяспеку ў сітуацыі, калі ён вымушаны шукаць сабе новае працоўнае месца. Для гэтага трэба дапамагаць людзям развіваць іх кампетэнцыі, пастаянна арганізуючы іх навучанне.

***Сацыяльныя патрэбнасці.*** Чалавек — істота сацыяльная. Яму неабходныя стасункі з іншымі людзьмі для вырашэння вытворчых і невытворчых пытанняў, для таго, каб трошкі адпачыць і адвесці душу. Людзі маюць зносіны і на працоўным месцы. Больш за тое, шмат хто трымаецца сёння там не за грошы, а за калектыў, за тыя пазітыўныя эмоцыі, якія ўзнікаюць на працягу дня. Кіраўнік павінен быць заклапочаны тым, дзе такія стасункі адбываюцца. Калі работніку трэба на вытворчую тэму пагаварыць з калегамі з суседняга падраздзялення, то ён ідзе да іх і яны размаўляюць, адрываючы ад працы іншых супрацоўнікаў у тым жа памяшканні? Ці такая размова адбываецца ў калідоры, «курылцы» або абсталяваным для гэтага памяшканні, дзе можна і пагаварыць, і пачаставацца смачненькім за кошт арганізацыі? Калі не створана месца для нармальных стасункаў супрацоўнікаў аднаго з адным, кліентаў з партнёрамі, дык не трэба здзіўляцца, што рэзультатыўнасць працы будзе нізкай.

Ёсць яшчэ некалькі момантаў, якія неабходна ўлічваць пры стварэнні ўмоў, што спрыяюць задавальненню сацыяльных патрэбнасцей супрацоўнікаў і павышэнню рэзультатыўнасці іх працы:

- мае сэнс арганізаваць працу такім чынам, каб яна пабуджала супрацоўнікаў стасавацца адно з адным і фарміраваць дух адзінай каманды (канечне, калі гэта не пярэчыць тэхналогіі вытворчасці);
- на нарадах, у межах усталяванага рэгламенту, варта заахвочваць абмен падначаленых думкамі;
- сумесныя перапынкі спрыяюць узаемадзеянню людзей, таму не трэба ім перашкаджаць (зноў жа, без прычынення шкоды вытворчаму працэсу). Бо пасля пяці хвілін абмеркавання вартасцей новага піва работнікі пачынаюць вырашаць рэальныя вытворчыя праблемы.

***Патрэбнасць ў павазе***. Напэўна, кожны чалавек хоча атрымаць прызнанне сваіх дасягненняў і асабістых якасцей, што, па сутнасці, і з'яўляецца павагай. І арганізацыя, у якой чалавек працуе, можа яму ў гэтым дапамагчы. Можна вылучыць два ўзроўні павагі.

1. Павага ў мікраасяродку, у калектыве, з боку калег, з боку кіраўніка або, калі ты сам кіраўнік, з боку падначаленых. Канечне, узнікае пытанне: «Які з гэтых вектараў самы важны?» Адказ на яго ў дастаткова папулярнай форме даў заснавальнік кампаніі IBM Томас Уотсан [3]. Ён выбудаваў просты, але чамусьці для многіх кіраўнікоў не відавочны ланцужок разважанняў. Пакупнік стане пастаянным кліентам кампаніі, забяспечваючы рост продажу і атрыманне стабільнага прыбытку, і будзе рэкамендаваць яе сваім знаёмым толькі тады, калі адчуе да сябе павагу з боку супрацоўнікаў кампаніі. Але чалавек, якога не паважаюць, не можа некага паважаць. Ён проста не ведае, што такое паважлівае стаўленне. Таму кіраўнік, зацікаўлены ў росце продажу і дабрабыце арганізацыі ў цэлым, павінен паважаць падначаленых, усімі сродкамі гэта дэманструючы. Як мінімум, гэта павінна выражацца ў ацэнцы пазітыўных вынікаў працы.

На жаль, у некаторых арганізацыях стасункі кіраўніка і падначаленага будуюцца па вельмі простай схеме. Калі зроблена не тое і не так, кіраўнік не саромеецца пакараць падначаленага маральна ці матэрыяльна. Хваляць жа падначаленых толькі тады, калі робіцца нешта выключнае, ды і тое не заўсёды. Пазітыўна адзначаць штодзённую звыклую працу падначаленых неяк не прынята. Такое стаўленне да працы статраннага чалавека фарміруе ў яго перакананне ў непатрэбнасці яго самога і яго працы. У гэтай сувязі можна ўспомніць цудоўны фільм Нэнсі Мейерс «Чаго хочуць жанчыны» з Мэлам Гібсанам у галоўнай ролі. У ім ёсць такі эпізод. Дзяўчына, унутраны кур'ер кампаніі, чые думкі чытае герой Мэла Гібсана, думае, што яе праца і яна сама будуць заўважаны толькі ў тым выпадку, калі яна памрэ. Да якой жа ступені трэба ігнараваць чалавека, каб для яго адзіным спосабам звярнуць на сябе ўвагу стала ўласная смерць! Бо не бывае ж, каб чалавек сумленна ўвесь дзень працаваў і не зрабіў нічога добрага. Задача кіраўніка — заўважыць і сказаць яму «дзякуй».

2. Павага ў макраасяродку — гэта значыць, у грамадстве. На гэтым узроўні можна вылучыць:

1) існуючае ў грамадстве стаўленне да прафесіі, спецыяльнасці. Магчыма, вы звярталі ўвагу на тое, што адны, называючы сваю спецы-

яльнасць, пачуваюць сябе камфортна, іншым жа адказваць на пытанне «Кім працуеш?» нeяк няўтульна. Калі чалавек саромеецца назваць сваю прафесію, дык вялікай радасці ад выканання сваёй работы ён, зразумела, не атрымлівае. Нават пры ўмове, што зарплата вялікая. І працаваць з высокай рэзультатыўнасцю ён не будзе. Арганізацыя, зацікаўленая ў добрай працы сваіх работнікаў, павінна ўвесь час павышаць грамадскі статус іх прафесій. Для гэтай мэты можна выкарыстаць увесь арсенал сродкаў і метадаў сацыяльнай рэкламы;

2) адносіны ў прафесійным асяродку да арганізацыі, дзе працуе чалавек. Магчыма, вам даводзілася трапляць на прафесійную тусоўку (канферэнцыя, сімпозіум, банкет з нагоды свята), дзе збіраюцца супрацоўнікі розных арганізацый адной галіны. У гэтай сітуацыі адны з гонарам называюць арганізацыю, у якой працуюць, а іншым гэта рабіць некамфортна. Але ж адчуванне працы ў кампаніі, якая прадастаўляе магчымасць уплываць на развіццё краіны, а мо і свету вельмі важнае для чалавека. Напрыклад, кожны, хто прыходзіць працаваць у кампанію Apple, атрымлівае ліст з наступным зместам: «Вы маеце работу, і гэта работа вашага жыцця. Ніводная дэталь гэтай работы не павінна ўцячы з-пад вашай увагі. Падчас гэтай работы вы ніколі не павінны ісці на кампраміс. Дзеля гэтай работы вы павінны быць гатовы ахвяраваць выхаднымі. Такую работу вы будзеце выконваць у Apple. Сюды прыходзяць не для таго, каб застацца ў зоне камфорту. Сюды прыходзяць, каб ісці да канца. Бо хочуць, каб іх работа нешта падарыла свету. Нешта большае. Нешта немагчымае ў іншых кампаніях. Сардэчна запрашаем у Apple» [4].

***Патрэбнасць у самарэалізацыі***. Яна задавальняецца тым, што чалавек выконвае працу не толькі цікавую, але такую, якая дазваляе ўдасканальвацца. Магчыма, вы звярталі ўвагу на тое, што розныя людзі ацэньваюць выкананне адной і той жа працы па-рознаму. Адзін кажа: «Якая цікавая ў мяне праца». Іншы, робячы тое самае, сцвярджае: «Як мне гэта абрыдла, сумна і зусім нецікава». Паколькі розныя людзі адну і тую ж працу ацэньваюць па-рознаму, можна сцвярджаць, што не так і важна, што чалавек робіць, нашмат важней, як ён да гэтага ставіцца.

Амерыканскія навукоўцы Р.Хакман і Э.Лоулер [5] вылучылі шэсць асноўных параметраў успрыняцця людзьмі сваёй працы.

1. *Аўтаномнасць дзейнасці*. Гэты параметр вызначаецца ўзроўнем самастойнасці работніка падчас планавання сваёй працы і выбару тэхналогіі яе выканання. Некаторыя лічаць сябе незалежнымі (аўтаномнымі), калі пра выкананне задання, атрыманага раніцай, яны дакладваюць кіраўніцтву ў канцы дня. Бо начальнік іх цэлы дзень «не чапае». Іншыя ўспрымаюць такі кантроль як празмернае ўмяшанне ў сваю дзейнасць. Аўтаномнасць дазваляе чалавеку адчуваць асабістую адказнасць за працу, усе поспехі і няўдачы.

2. *Завершанасць дзейнасці***.** Гэты параметр характарызуе магчымасць атрымання канчатковага выніку працы на канкрэтным працоўным месцы. Два чалавекі могуць рабіць адно і тое ж, напрыклад, спінку для крэсла. Але адказы на пытанне: «Што вы робіце?» могуць быць рознымі. Адзін скажа: «Я раблю спінку для крэсла», — то бок, ён выраблае канчатковы прадукт, які мае свайго спажыўца, — таго, хто забярэ крэсла. Другі скажа: «Я раблю частку крэсла», — то бок, ён лічыць, што мае дачыненне толькі да часткі вырабу, што яго работа не будзе завершана і не мае спажыўца. Той, хто стварае канчатковы прадукт, матываваны на атрыманне якаснага выніку значна больш, чым той, хто ўдзельнічае ў сумеснай дзейнасці.

3. *Разнастайнасць дзейнасці***.** Гэты параметр вызначаецца разнастайнасцю ў наборы выконваемых аперацый, выкарыстаных для гэтага ведаў, навыкаў і прылад працы. Напрыклад, фінансавы дырэктар адной кампаніі можа сцвярджаць, што яго праца сумная і аднастайная, бо для яе выканання яму патрэбна ўласная галава і камп'ютар. Фінансавы дырэктар іншай кампаніі лічыць, што для выканання працы яму патрэбны пастаянна абнаўляльныя веды (у галіне фінансавага менеджменту, існуючага заканадаўства і г.д.), уменне мець рэзультатыўныя стасункі ўнутры і за межамі арганізацыі. Прызнаць такую працу сумнай і аднастайнай проста немагчыма. Чым больш разнастайнай і адпаведна творчай з'яўляецца праца, тым больш яна сама па сабе з'яўляецца матыватарам.

4. *Значнасць дзейнасці*. Параметр, які вызначаецца ўплывам працы на самаадчуванне, дабрабыт, перакананні іншых людзей, на вынікі працы ўсёй арганізацыі. У якасці прыкладу можна прывесці двух работнікаў аўтасервісу. Для аднаго з іх прызначэнне аўтасервісу — гэта якаснае выкананне рамонту. Для другога — дапамога клієнтам у падтрыманні іх іміджу і прэстыжу. Такое адрознае разуменне значнасці адной і той жа працы з'яўляецца вытворнай ад унутранага свету чалавека і адначасова ад пазіцыяніравання працы ў самой арганізацыі. Ад дырэктара аўтасервісу вельмі залежыць тое, як работнікі ўспрымаюць значнасць сваёй працы і сваю ўласную значнасць.

5. *Рэзультатыўнасць дзейнасці* (зваротная сувязь). Гэты параметр вызначаецца ўзроўнем інфармаванасці выканаўцы аб выніках яго дзейнасці праз саму працу, тым, наколькі чалавек можа самастойна бачыць і ацэньваць гэтыя вынікі. Напрыклад, два кіраўнікі правялі нарады. Пасля іх завяршэння адзін лічыць, што яго нарада была падрыхтавана добра, прысутнічалі амаль усе супрацоўнікі, але пра яе эфектыўнасць можна будзе меркаваць толькі па выніках працы падначаленых. У гэтым выпадку чалавек самастойна не можа ацаніць сябе і сваю працу.

Другі кіраўнік сцвярджае, што нарада, мяркуючы па пытаннях і выступленнях супрацоўнікаў, прайшла даволі ўдала. Супрацоўнікі ўсвядомілі важнасць пастаўленай задачы і зразумелі, як яе трэба рашаць. У гэтым выпадку кіраўнік здолеў сам ацаніць рэзультатыўнасць выкананай ім работы.

6. *Таварыскасць дзейнасці.* Параметр, які характарызуе магчымасць усталявання нефармальных стасункаў з людзьмі падчас выканання работы. Вельмі па-рознаму меру таварыскасці сваёй працы могуць ацэньваць, напрыклад, настаўнікі. «Як мне абрыдлі гэтыя бацькі, з імі можна гаварыць толькі пра адзнакі іх дзяцей, усё астатняе ім нецікава», — кажа адзін класны кіраўнік. «Якія цікавыя бацькі ў маіх вучняў, у стасунках з імі я магу атрымаць шмат карыснага», — кажа другі.

Даследаванне ўспрымання працы можна правесці пры дапамозе апытальніка «Дыягнастычнае даследаванне працы», які ўключае шэсць пытанняў з шасцібальнай шкалой адказаў.

$A_1$ — бал па 1-м пытанні,
$A_2$ — бал па 2-м пытанні,
$A_3$ — бал па 3-м пытанні,
…
$A_6$ — бал па 6-м пытанні.

Вынікам апытання з'яўляецца «матывацыйны працоўны бал» (**М**), які вызначаецца так:

$M = ((A_2 + A_3 + A_4) / 3) * A_1 * A_5 * A_6$

$M \geq 1200$ указвае на тое, што работа, якую выконвае чалавек, сама па сабе з'яўляеццпа моцным матыватарам. Змест яе для яго важней, чым атрыманыя матэрыяльныя ўзнагароджванні.

Калі $600 \leq M < 1200$, значыць, змест работы чалавеку цікавы. Але грошы, якія ён за яе атрымае, важныя для яго не менш.

Калі $80 \leq M < 600$, то чалавек ходзіць на працу галоўным чынам з-за грошай, якія там атрымлівае. Змест дзейнасці яму мала цікавы.

Калі $M < 80$, значыць, чалавека не цікавіць ні праца, ні грошы, якія ён за яе атрымлівае. Можна сказаць, што патэнцыйна ён гатовы да звальнення.

Адпаведна кіраўнік, зацікаўлены ў працы сваіх падначаленых, павінен пастаянна адсочваць, наколькі змест работы, якая выконваецца імі, з'яўляецца для іх матыватарам. Бо з энтузіязмам чалавек можа рабіць толькі тое, што прыносіць яму няхай і маленькую, але радасць.


1. Корн, Г., Корн, Т. Справочник по математике для научных работников и инженеров / Г. Корн, Т. Корн. — М.: Нау-ка, 1978. — 831 с. — С. 539—549.
2. Закон Парето // Википедия. Свободная энциклопедия [Электронный ресурс] — Режим доступа: https://ru.wikipedia.org/wiki/Закон_Парето — Дата доступа: 8.02.2017.
3. Роджерс, Ф. Дж. ИБМ. Взгляд изнутри. Человек — фирма — маркетинг / Ф. Дж. Роджерс. — М.: Прогресс, 1990. — 280 с.
4. Правила мотивации: 15 способов заставить персонал работать на полную // Коммерческий директор [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://www.gd.ru/articles/3340-pravila-.motivatsii?utm_source=letternews&utm_medium=letter%2cletter&utm_campaign=letternews_2015.07.25_top_of_gd_readers_65000%2cletternews_2015.07.25_gendirtop_sa_25_07_15_material_readers_64997&IdSL=409099106&IdBatch=2729360. — Дата доступа: 12.02.2016.
5. Брасс, А. А. Управление организацией: учеб. пособие / А. А. Брасс. — Минск: Амалфея: Мисанта, 2014. — 346 с.

## Апытальнік «Дыягнастычнае даследаванне працы»

1. Якую ступень аўтаномнасці мае ваша праца? У якой ступені ваша праца дае вам магчымасць самастойна вырашаць, калі і як яе трэба выконваць?

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Зусім мала | | | У сярэднім | | | Вельмі многа |

2. Наколькі завершанай з'яўляецца ваша праца, ці мае яна пачатак і канец? Ваша праца з'яўляецца самастойнай ці часткай агульнай працы, якую завяршае нехта іншы?

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Праца з'яўляецца часткай агульнай | | | Праца адносна самастойная, але не з'яўляецца завершанай | | | Праца — адно цэлае, якое мае пачатак і канец |

3. Наколькі разнастайнай з'яўляецца ваша праца? У якой ступені яна патрабуе разнастайных навыкаў і ўменняў, выканання розных аперацый?

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Вельмі мала | | | Сярэдне | | | Вельмі многа |

4. Наколькі значнай і важнай з'яўляецца ваша праца? Ці ўплываюць яе вынікі на жыццё, дабрабыт і светапогляды іншых людзей?

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Не вельмі значная | | | Сярэдняя значнасць | | | Вельмі значная |

5. У якой ступені ў ходзе выканання працы вы атрымліваеце інфармацыю пра дасягнутыя вынікі? У якой ступені ваша праца дае адказ на пытанне пра паспяховасць яе выканання?

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Вельмі мала | | | Сярэдне | | | Вельмі многа |

6. Ці характэрна таварыскасць для вашай працы? У якой ступені? У якой ступені праца дазваляе вам кантактаваць з іншымі людзьмі?

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Вельмі мала | | | Сярэдне | | | Вельмі многа |



# Гук і не паэзія

**Калісьці брытанскі музыкант Роджэр Гловер казаў: спытай яго іншапланецяне пра вартае ўвагі на Зямлі, ён даў бы ім паслухаць рок. Калі звузіць радыус і пашукаць вартае ўвагі менавіта ў нашай краіне, то адной з самых яркіх знаходак, безумоўна, будзе гурт «Naka». Марыя Страх сустрэлася з Анастасіяй Шпакоўскай, але так і не пагутарыла пра гісторыю стварэння гурта і творчыя планы.**

**— Калі параўнаць рок з іншымі жанрамі, першасным у ім з'яўляецца тэкст ці музычнае афармленне?**

— Мне здаецца, што рок — адзін з тых накірункаў, дзе тэкст вяршэнствуе над музыкай. Чым каштоўны рок, чаму гэта не проста паэзія, не проста чытанне вершаў пад музыку — тым, што ў року, як ні ў якім іншым жанры, сэнс тэксту можна дапоўніць музычным гучаннем. Мне вельмі падабаецца цяжкі гук, падабаецца кантраст гукаў. Песня можа быць лірычная і ў той жа час вельмі цяжкая паводле гучання.

Гэта мой накірунак. Я свядома хацела стварыць менавіта рок-гурт. Зараз мы працуем над чарговым альбомам «Naka Piano» (сайд-праект, дзе песні выконваюцца акустычна). Часам знаходзяцца людзі, якія любяць менавіта акустыку. Спакойнае, ціхае, выразнае гучанне. Але я разумею, што па-іншаму разважаю ў фармаце «piano». Калі ёсць рок-гук, калі ёсць барабаны, гітара — увесь гэты драйв — мае тэксты набываюць іншае гучанне, іншы сэнс, што вельмі важна і цікава для мяне.

**— Якой папулярнасці вы не жадаеце сваім песням?**

— Мне б не хацелася абмяжоўваць нейкімі рамкамі сваю творчасць. Магчыма, хтосьці, паглядзеўшы рэкламу красовак, адкрые для сябе Бетховена, зацікавіцца, што за цудоўная музыка там гучыць. Калі музыка добрая і запатрабаваная — некаму без яе ніяк. Я не бачу абмежаванняў. Не магу сказаць: «Толькі не ў рэкламе лекаў». Гэта такія «закіды», што, як кругі на вадзе, разыходзяцца кудысьці далей. Гэта лепш, чым нічога.

**— Што можа прымусіць вас моцна засумнявацца ў значнасці «Naki»?**



— Гэта адбываецца апошнім часам вельмі часта. Нават не цяжкасці з саставам — яны ёсць у кожнага аўтарскага праекта. Часцей я сумняваюся не ў значнасці «Naki», а ў сэнсе працягу гурта. Наша творчасць свядома не мае камерцыйнай накіраванасці. Вельмі няпроста адбываецца і чалавечы абмен: мая затрата і аддача ў адказ. Хочацца адчуваць, што гэта камусьці патрэбна. Можна ўсё перанесці ў рамкі аднаго стала, аднаго фартэпіяна, і, груба кажучы, спяваць сябрам. А для таго, каб гэта насіла маштабны характар, каб пісаць альбомы і збіраць саставы, патрэбны магутны энергетычны штуршок. Неабходна вера ў тое, што гэта трэба. Проста з гэтай верай у мяне ўзнікаюць цяжкасці.

**— Калі б была магчымасць папрацаваць з выканаўцам любой эпохі, хто б гэта быў?**

— Так шмат, адразу цэлы шэраг людзей. Пачынаючы з класікаў: мне, магчыма, было б цікава папрацаваць з Бетховенам. З Бахам, з Рахманінавым. Калі браць больш сучасных, адразу ўзнікае столькі імён, што зараз буду скакаць з эпохі ў эпоху. З Вярцінскім, з Высоцкім… Можна бясконца пералічваць. Неабавязкова, што гэтыя людзі будуць звязаны з музыкай. Могуць быць і пісьменнікі, мастакі, скульптары, акцёры... Вакол столькі цудоўных людзей, якія натхняюць, што абмяжоўвацца асобнымі імёнамі, нават дзясяткам імён, вельмі складана.

**— Якія ўрокі засвоіў гурт за трынаццаць гадоў існавання?**

— Урокі? Насамрэч я зрабіла вельмі шмат глупстваў. У першую чаргу глупстваў, вытокі якіх — чалавечы характар. Настолькі была ахоплена сваёй ідэяй, сваім куражом, што не цаніла шматлікія моманты, не ставілася да іх беражліва, як ставілася б, мабыць, зараз. Ды і гурт, акрамя творчасці, даў мне вельмі шмат у плане чалавечага выхавання. Зрабіла шмат памылак, на якіх потым сама і вучылася.

Была больш нястрыманая, эмацыянальная, больш адчайная. Цяпер разумею: часам шчырыя, добрыя людзі побач больш каштоўныя за падзеі, якія, магчыма, адбудуцца ў тваім жыцці. І гэта, мабыць, галоўны ўрок. Не кажу ўжо пра колькасць канцэртаў і фестываляў — яны, безумоўна, мне, выканаўцу, вялікі вопыт. Але дзякуючы гурту, я, мне здаецца, «сфарміравалася» ў лепшы бок. Калі б не гурт, была б больш жорсткая, арыентаваная толькі на сябе. А так стала схільная да самааналізу, абавязковай ацэнкі таго, што раблю, і як на гэта рэагуюць людзі. Увогуле, цаніць якасць і простыя чалавечыя рэчы стала намнога больш. Ты ўзаемадзейнічаеш з жывымі людзьмі, і яны ад цяжкасці гуку не становяцца меней жывымі. Я вельмі рада мець гэты вопыт.

**— Пабло Пікасо казаў, што мастацтва — гэта выключэнне непатрэбнага. Ад чаго варта пазбавіць сучасную беларускую музыку?**

— У некаторых перакананнях я чалавек цвёрды. Я, безумоўна, не Юрый Юліянавіч Шаўчук — барацьбіт з папсой і камерцыялізацыяй, зараз мне ўжо спакойней, не як раней. Але мне вельмі не падабаецца творчая другаснасць у любых сваіх праяўленнях. Мяне цікавяць асобы, якія нясуць штосьці новае. А мы знаходзімся, на шчасце ці на жаль, на тэрыторыі, дзе пераважае другаснасць другаснага. Людзі, асабліва камерцыйна арыентаваныя, імкнуцца пераймаць тое, што ўжо і так пераня-



та. Мяне гэта не тое што хвалюе — мне гэта проста нецікава. Здаецца, засілле гэтага танненькага занадта распаўсюджана, але так было заўсёды. Заўсёды масавае было простым, банальным. І не садзейнічала ні празмерным роздумам, ні празмерным пачуццям.

**— Музычную дзейнасць вы сумяшчаеце з працай у тэатры імя Горкага. Што можна перадаць з дапамогай акцёрства, чаго нельга перадаць з дапамогай музыкі?**

— Мне падабаецца разважаць на гэтую тэму. Тэатр не дае мне таго, што дае гурт. Як і гурт не дае таго, што дае тэатр. Мяне часта пытаюць, што б я выбрала: гурт ці тэатр? Я не хацела б апынуцца перад такім выбарам ні ў якім выпадку. Мне вельмі падабаецца такое выказванне: «Тэатр — гэта месца, дзе я іграю лёсы чужых людзей, а музыка — гэта тое, дзе я іграю сябе». Гэта вельмі важна.

Той свабоды, якая ёсць у мяне з гуртом «Naka», не можа быць на тэатральнай сцэне. У гурце я сама сабе рэжысёр, сама сабе сцэнарыст, сама сабе я — галоўны герой. А ў тэатры мне вельмі падабаецца пошук гэтай свабоды менавіта ў зададзеных мізансцэнах, зададзеным сцэнарыі, зададзенай ролі, зададзеным лёсе. Гэта таксама вельмі цікава. Крутая праца ўвогуле.

**— Трайное «нельга» Шпакоўскай як маці-рокера-актрысы?**

— Нельга і немагчыма не любіць дзяцей. Не берагчы іх і кожную секунду сэрцам не знаходзіцца з імі. Нельга непаважліва ставіцца да сваёй працы, партнёраў, да рэжысуры і ўвогуле да тэатра як свету. Нельга ставіцца да гэтага нядбайна і безадказна. А што з немажлівага ў гурце … Пачынаць выраўнівацца. Пачынаць прагінацца і рабіць тое, што не адпавядае сабе. Хочацца адпаведнасці самой сабе, як гэта першапачаткова было задумана. І каб ніякія цяжкасці — ні фінансавыя, ні чалавечыя — не садзейнічалі таму, каб я падстройвалася і з-за іх мяняла сябе ў творчым плане.

*Фота Кацярыны Караткевіч.*

**Яна Нікіфарава**

# Мой дыягназ: Максім Багдановіч

Дыябетыкі носяць з сабой маленькія шкляначкі з інсулінам, людзі з гемафіліяй заўсёды маюць пры сабе спецыяльныя шпрыцы. А як завецца хвароба, калі ў кішэні пры любых абставінах ляжыць маленькі зборнік «Выбранае» Максіма Багдановіча?

Праўду кажучы, раней я ставілася да яго даволі абыякава. Ведаем, на якіх трох «кітах» Беларусь трымаецца — «КупалаКоласБагдановіч». Цікава, але Багдановіча наперад амаль ніколі не ставяць. Аднак варта паглыбіцца ў творчасць кожнага з трох паасобку — і яны набываюць выбітнасць і індывідуальнасць.

Асабліва моцна гэта адчуваецца з Максімам. Я была сведкам таго, як людзі з захапленнем цытавалі «Ад родніх ніў, ад роднай хаты...» ці «Цвяток радзімы васілька» і на гэтым імпэт завяршалі. Для мяне штуршком да бліжэйшага знаёмства з паэтам стала размова ў ціхую сінюю ноч... Яна была вельмі далікатная (як і ўсе словы, накіраваныя да нас МБ), але мела ўплыў значна мацнейшы за гучныя прыгожыя прамовы. Асабліва мяне ўразіла тое, што Максім не перабольшвае каштоўнасці нас (людзей) на Зямлі, а трапна называе «толькі падарожнымі».

Хто мы?  
Толькі падарожныя,  
Папутнікі сярод нябёс.

У падлеткавым узросце часта ўспрымаеш сябе нязначным. Па сутнасці, Багдановіч гэта пацвярджае, але ў яго вершы мы паўстаем нязначнымі перад Вечным, але важкімі і важнымі тут, на Зямлі. У зносінах з блізкімі. Паверыце вы ці не, аднак калі я чытаю гэты верлібр, мая неўтаймаванасць знікае.

Шчыра кажучы, пасля першага прачытання я запомніла «паПутнікаў» «паКутнікамі». Можа, мне хацелася так запомніць. Думаю, што ў маўчанні сцен, абклееных плакатамі любімых гуртоў і фотаздымкамі з дарагімі ўспамінамі, найвялікшай пакутай Багдановіча здаецца яго адзінота, а не смяротная хвароба. Давайце адкрыта, які вобраз узнікае ў думках, калі кажуць «смяротна хворы»? Асабіста я ўяўляю, як самотныя члены сям'і абдымаюць і трымаюць за рукі свайго любага родзіча, так несправядліва адзначанага лёсам. А хто трымаў за руку Багдановіча? Так, яго наведвалі сябры-паэты. З павагай стаўлюся да Самуіла Плаўніка, які ўсё ж крыху «разбаўляў» адзіноту паэта перад смерцю. Але сапраўды не разумею дзяўчат, якія з захапленнем слухалі яго вершы, а потым беглі на спатканне з кімсьці не такім летуценным і надзвычайным. А вось сярод сучасных дзяўчат інтэлектуальнага накірунку, упэўнена, Багдановіч меў бы поспех. Зацікаўлены шэпт за спінай і меркаванні, каму ж прысвечаны «броўкі цёмныя, вузкія рукі і галоўкі радок залаты», былі б забяспечаны.

Для мяне ён хутчэй добры сябар. Здаецца, шмат аддала б за тое, каб шчыра паразмаўляць з ім пра Беларусь і яе гісторыю, паслухаць яго вершы і пачытаць свае. Але паэт паміраў у адзіноце. Пэўна, малады чалавек быў не з тых, хто, даведаўшыся пра непазбежнасць страшнага, пачынае складаць доўгія спісы таго, што трэба паспець зрабіць да смерці, і актыўна сацыялізавацца. Часта ўяўляю сябе на месцы Багдановіча: якія б пачуцці апаноўвалі мяне? І, верыце ці не, я думаю, што пачала б складаць вершы. Канечне, адсутнасць такога кшталту пагрозы не перашкаджае спрабаваць сябе ў паэзіі і цяпер, але ў тых варунках вершы былі б абавязковай умовай жыцця.

Доўга і часта перачытваю яго «Павукоў»:

Дзесь у хмарах жывуць павукі,  
Што снуюць павучыну дажджа.  
Кожны тлусты і мяккі такі,  
Скура слізкая, як у вужа;  
Ў целе стыгне халодная кроў,  
Злосць бясцэльная ў круглых вачах...  
Чуеш! Во шорах ног павукоў,  
Аплятаючых сцены і дах.

Я старанна шукала ў інтэрнэце, часопісах, кнігах і дапаможніках для настаўнікаў тлумачэнне гэтага верша, але безвынікова. Усе з разумным выглядам прамаўлялі: «Так, Багдановічаў сімвалізм...» і задуменна змаўкалі. Памятаю, спытала калісьці добрага сябра, што ён думае на гэты конт. «Гэта пра смерць», — упэўнена адказаў ён. «Мяркую, гэта пра здраду», — сказаў другі. Можа, калі-небудзь сапраўды пачую ці адчую таемных павукоў і адразу зразумею, што меў на ўвазе Максім.

Не менш захапляльны для мяне яго верш, які часта параўноўваюць з «П'яным караблём» Арцюра Рэмбо:

Мы доўга плылі ў бурным моры,
І ўраз — жаданая зямля!
Вы пэўны пуць казалі, зоры,
Зарука ў тым — трэск карабля,
Што сеў на скалы ў змрочным моры.
Прывет, жаданая зямля!
І бестрывожна бачаць зоры,
Як тонуць людзі з карабля.

Думаю, калі б існаваў тэрмін «беларускае дэкадэнцтва», то гэтыя радкі выступалі б у якасці яскравага прыкладу. Я даўно люблю паэзію Поля Верлена, Шарля Бадлера і Арцюра Рэмбо. Як жа радасна я ўсміхалася, калі прачытала артыкул пра чытацкія захапленні Максіма Багдановіча: ён быў шчырым прыхільнікам дэкадэнцтва.

Наша «сяброўства» ўмацоўвае і стаўленне да беларускай гісторыі і яе знакавых падзей. Калі для вусных выступаў мне патрэбна нешта эмацыйнае і вельмі шчырае пра Беларусь, я разгортваю нізку «Вольныя думы». Амаль кожны верш мне блізкі. Аддаю асаблівую перавагу наступным радкам:

Увесь поўны смяротнай жуды,
Ты крыкнуць не вольны «Ратуйце!»,
І мусіш ты «Дзякуй» крычаць.
Пачуйце жа гэта, пачуйце,
Хто умее з вас сэрцам чуваць!

Паверце, гэта заўсёды дзейнічае! Галоўнае — адчуць. Прапусціць праз розум і сэрца, паверыць. Я веру.

Я не магу не падзякаваць Максіму і за тое, што дапамагае ва ўзаемаадносінах. Яго паэзія абяззбройвае і прыўносіць шчырасць. Немагчыма негатыўна ставіцца да чалавека, калі ён цытуе табе радкі «Пагоні». І ўжо канечне адчуваеш цеплыню, калі ён дорыць табе аўтэнтычнае выданне «Вянка». Калісьці я выпадкова, без аніякіх намёкаў, сказала свайму хлопцу: «Ведаеш, мець «Вянок» — гэта найвялікшая мара». Тады ён нічога мне не адказаў. Але дзесьці праз месяц, калі мы ўдваіх адзначалі яго дзень народзінаў, ён раптам дастаў з заплечніка пяшчотна аздоб-лены пакуначак, які відавочна змяшчаў кнігу. Тады я нават і забылася на свае словы пра «найвялікшую мару», і якім жа моцным было маё здзіўленне, калі з-за святочнай паперы паказаўся «Вянок». Мне шкада насіць яго з сабой, каб не папсаваўся, але ён заўсёды стаіць на маім стале, побач з дарагімі фотаздымкамі. Максім Багдановіч стаў для мяне здзіўленнем і радаснай знаходкай. Ён насамрэч заўсёды знаходка. Памятаю, вышуквала пэўную кнігу на старых паліцах у бабулінай кватэры, і раптоўна адкульсці зверху на мяне пасыпаўся стос папер. Вядома, мне гэта зусім не спадабалася, і спачатку я хацела без разбору сабраць іх і пакласці далей у шафу, але штосьці прымусіла амаль бяздумна праглядзець. Увагу прыцягнулі зжаўцелыя паперкі з надрукаванымі на машынцы тэкстамі. Бровы прыўзняліся ад здзіўлення — «Раманс» Багдановіча ў перакладзе на англійскую мову! Дарма што за ўвесь гэты час я запомніла толькі першы радок: «The Venus has risen above the sky», я ўсё роўна заўсёды маю з сабой гэты тэкст. Ён як купон на натхненне.

Апроч таго, радкі паэта заўсёды са мной у галаве. Між іншым, гэта даволі добра дапамагае «забіць» час чакання: на палях сшытка я дробнымі літарамі крэмзаю найлюбімейшыя творы Максіма. Калісьці я выпадкова запісала верш проста на вокладцы сшытка для водгукаў па беларускай мове. Апамяталася, як кажуць, толькі калі выправіць нешта было немагчыма. Але выкладчыку не падалося, што сшытак сапсаваны, — ён нават ухваліў мой паэтычны выбар. Дарэчы, вокладку ўпрыгожваў верш «Credo»:

Ёсць адна толькі мудрасць жыцця,
І яе шаную.
Вось што кажа яна:
Калі хочаш праўдзіва ты жыць,
Дык пей чару любую,
Ды толькі да дна.

Вось дзіўна: набіраю гэты тэкст на тэлефоне, седзячы ў машыне. Падымаю вочы — аказваецца, мы зараз на вуліцы М. Багдановіча. Прывітанне, дружа! Напэўна, вырашыў падарыць мне творчыя сілы.

Я спадзяюся, што Максім Багдановіч так і застанецца радаснай выпадковасцю ў маім жыцці. Адначасова хвароба і лекі.

Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання

праект

# «ВАРШТАТ»

**Стагоддзі:** XIX – XX

**З’явы:** прыватныя друкарні ў «адліжным» Мінску; унікальныя калекцыі Генрыха Татура і Сяргея Зубакіна;

**Акалічнасці:** інфармацыя на контртытулах і авантытулах

**У выпуску:**

- Ларыса Доўнар. Абразкі з кніжнага жыцця Мінска (другая частка)
- Ксенія Тарасевіч. Тытульны аркуш — «фасад» кнігі (артыкул-ілюстрацыя з працягам, завяршэнне)



**нгофь ю швцяю цф чыпзф**

Ларыса Доўнар

# Абразкі з кніжнага жыцця Мінска[1]

## Кніга, якую шукаем як вяртанне

Першыя крокі да ўзнаўлення прыватнай друкарскай і выдавецкай справы ў Горадзе адважыўся зрабіць мінскі мешчанін Берка Саламонаў. У красавіку — чэрвені 1874 года ён аформіў неабходныя паперы па куплі прыватнай друкарні ў шляхціца Івана Эмерыкавіча Адамовіча, што дасталася таму ў спадчыну ад бацькі. Напачатку новы ўладальнік паспрыяў выпуску ў Мінску нават нотна-музычных выданняў Міхала Грушвіцкага. Праўда, паланэз — «На шлюбную ўрачыстасць» («Dla godowej uroczystości»), вальс — «Вальс-заклад» («Valse pari»), полькі — «Эміле» («Emilie»), «Маня-полька» («Mania-polka»), мазуркі — «Чатыры арыгінальныя мазуркі» («Quatre Mazourkas Originales»), апрацоўка музыкі Міхала Ельскага — «Салонная мазурка» («Mazourka de Salon») былі надрукаваны ў 1879 годзе пераважна накладам самога кампазітара. І нейк дзіўным чынам атрымалася, што сярод французскамоўных назваў і суправаджаючых ноты кароценькіх тэкстаў удалося «схавацца» і некалькім на забароненай да друку польскай мове. Можа здацца, як гэта бывае пасля жорсткіх урадавых уціскаў, што Горад нарэшце дачакаўся «адлігі».

Працягваючы справу А. Валіцкага, не пакідала надзеі на ўзбуджэнне інтэлектуальнага руху ў Горадзе яго сястра Зоф'я Савіцкая, якая наследавала кнігарню брата ў Мінску. Нягледзячы на забарону польскага друку, і яна здолела ў 1880-я гады пры падтрымцы друкароў з Варшавы (Ю. Сікорскага) і з Кракава (У. Анчыца) ажыццявіць некалькі выдавецкіх праектаў, дзякуючы якім у Мінску з'явіліся арыгінальныя польскамоўныя мастацкія творы Юзафа Крашэўскага — «Два Богі, дзве дарогі» («Dwa Bogi, dwie drogi», у 2 т. — у 1881 г.), апавяданні для дзяцей Канстанцыі Дарэўскай-Вярыгі — «У горадзе і на вёсцы» («W mieście i na wsi», 1889). У канцы 1894 года (ужо пасля смерці А. Валіцкага) кнігарня З. Савіцкай была набыта Багуславам Адамовічам, паэтам і яшчэ адным сынам Эмерыка Адамовіча, а праз чатыры гады перайшла да наступнага ўладальніка — Яна Філіповіча-Дубовіка, які таксама падтрымаў фінансаванне выдання зборнікаў паэзіі мінскіх аўтараў: Б. Адамовіча — «Мелодыі» («Melodye») і Ю. Вяржбіцкага — «На досвітку» («O brzasku») — у 1898 годзе, а ў наступным годзе — «Музычных даследаванняў» («Studia muzyczne») М. Ельскага, за друк якіх зноў узяліся варшаўскія (В. Каўтц) і кракаўскія (У. Анчыц) друкары.

1880-я гады сталі часам вяртання да кніжных спраў і сям'і Ёкеля Дворца ці Янкеля Дворжаца, нашчадкі якога, як аказалася, таксама паспяхова прадоўжылі сямейную справу. У друкарні Равекі Мордухавай Дворжац выпускаюцца «Памятные книжки Минской губернии» (1880—1886) і «Памятные книжки Минской дирекции народных училищ» (1891, 1892); друкалітаграфія Хаіма Якаўлевіча Дворжаца ў 1894—1904 гг. і яго жонкі Леі Гдалеўны Дворжац у 1904—1913 гг. асаблівую ўвагу надае супрацоўніцтву з буйнейшым мінскім выдаўцом — Таварыствам сельскай гаспадаркі.

[1] Заканчэнне. Пачатак у чэрвеньскім нумары.

### Пра незразумелыя літаркі на вокладцы праекта «Варштат»

*З нумара ў нумар, ад студзеня да снежня 2017-га на вокладцы сур'ёзнага праекта, прысвечанага значнай даце, размяшчаецца абракадабра?!*

*Ніякая не абракадабра, а… арбадакарба. Баараkадрба. Аьматацаьма. F,hfrflf,hf. Бвсблбебвсб. Што мы выкарысталі для зашыфроўкі такога простага слова «абракадабра» — тарабарскую грамату, мудрую літарэю, шыфр пад назвай ROT1, іншыя перастановачныя ключы?*

*На вокладцы нашага праекта размяшчаецца не абракадабра, а зашыфраваная частка выказвання. Займець цэлы зашыфраваны выраз магчыма толькі пры чытанні ўсіх нумароў «Маладосці» за год. Сабраўшы часткі ў парадку, які супадае з нумарацыяй часопіса, знайшоўшы ключ і расшыфраваўшы выказванне, можна атрымаць ад «Маладосці» шыкоўны прыз!*

*Месца выдачы прызоў — рэдакцыя «Маладосці». Тэрмін выдачы: 25—31 снежня 2017 года.*



Купец 2-й гільдыі Х.Я.Дворжац, уладальнік не толькі друкарні ў Мінску, але і фабрыкі запалак у Мазыры, у 1898 годзе хадайнічаў аб стварэнні «Товарищества типолитографии и фабрики спичек «Молния»». Хаця ў адкрыцці названага таварыства адмовілі, але спроба была адной з першых у Мінску ў галіне стварэння кааператыўнага тыпаграфскага таварыства.

Шматфункцыянальную кніжную дзейнасць разгарнула ў Мінску ў 1878—1917 гг. сям'я Тасьманаў. Яе пачынальнік — мінскі мешчанін Ілья Тасьман — меў 18-гадовы стаж друкарскай працы ў Губернскай друкарні, а потым, набыўшы нямецкія і англійскія прэсы, каб яны маглі скласці адпаведную канкурэнцыю двум буйнейшым прадпрыемствам — Саламонава і Дворжацаў, адкрыў у Мінску ўласную друкарню з філіялам, а таксама кнігарню пры ёй. Сыны Тасьмана — Вульф і Ісаак — спрабавалі пашырыць сваю тыпаграфскую дзейнасць нават за межы Мінска і хадайнічалі перад начальнікамі Віленскай, Гомельскай, Віцебскай, Магілёўскай і Чарнігаўскай губерняў аб адкрыцці і там сваіх друкарняў. Вульф Тасьман вядомы як заснавальнік «Товарищества Минчанин», якое ў 1908—1909 гг. выдавала штодзённую грамадска-палітычную і літаратурную газету «Минское Эхо», выпускаў таксама газеты «Северо-Западный край» і «Минский Голос», спрабаваў арганізаваць спецыяльную «контору для продажи газет и журналов».

Кола канкурэнтаў у кнігадрукаванні Горада, асабліва пасля 1905 года, усё больш і больш пашыралася, з'яўляліся новыя прыватныя друкарні, але галоўныя ўтрымальнікі друкарскага прэса — Дворжацы (у якіх працавалі 80 рабочых), Тасьманы (мелі звыш 60 працаўнікоў), Саламонаў (займаў працай амаль 60 супрацоўнікаў) — не вельмі расступаліся, каб дазволіць наблізіцца да яго камусьці выпадковаму. Таму менавіта ў іх руках быў выпуск асноўнай часткі сацыяльна-эканамічнай, сельскагаспадарчай, рэлігійнай, гістарычнай, медыцынскай літаратуры, што замаўлялі ў друкароў разнастайныя таварыствы і ўстановы горада ці губерні.

У выпуску твораў у многіх галінах прыватныя друкары былі першымі ў Горадзе. Значную ролю тут адыграў Б.Саламонаў, дзякуючы якому з другой паловы 1870-х гадоў актывізаваўся друк выданняў па мовазнаўстве, матэматыцы, гісторыі і краязнаўстве, выйшлі першыя асобныя работы па псіхалогіі — «Любовь, преступление и нравственность» Ю. Ахаровіча ў перакладзе А. Ельскага з польскай мовы (1876); па мастацтвазнаўстве, а менавіта па музыказнаўстве, — «Иоганн Себастьян Бах и его значение в музыке» С. Л. Халюціна (1894), таксама ў перакладзе з французскай мовы таго ж аўтара «Краткий обзор истории русской музыки» А. Субіса (1895); шматтомныя прававыя выданні — «Гражданский процесс» (у 6 т., 1890—1895) і «Русское гражданское судопроизводство» (у 2 т., 1901) В. Л. Ісачанка.

Шчыравалі прыватныя друкарні і ў выпуску даведачных выданняў, усплёск якіх асабліва праявіўся ў 1865—1904 гг., калі іх колькасць павялічылася у сем разоў у параўнанні з папярэднімі 1795—1864 гг., з'явіліся новыя віды дапаможнікаў. Праўда, на гэтым этапе ў Мінску як асобныя выданні амаль не выходзілі календары (выключэннем стаў «Календарь и справочный указатель правительственных учреждений, фабрик, заводов и проч. в гор. Минске и окрестностях...» на 1895 і на 1896 год, надрукаваны ў Вільні накладам кнігарні Ё. Фрэнкеля), аднак іх адсутнасць даволі паспяхова замянялі штогадовыя памятныя кніжкі і агляды Мінскай губерні.

Дзякуючы прыватным друкарам і грамадскім выдавецтвам у 1905—1917 гг. у Мінску з'ўляюцца новыя выданні твораў мастацкай літаратуры (выйшла не менш за 65 асобных выданняў), пашыраюцца жанры: ад казак — «Казачнік польскі» («Bajarz polski») А. Гліньскага (1907, 1913) да рамана — «Спартак» Р. Джаваньёлі (1917), назіраецца рост перакладных выданняў. Выдаўцамі твораў мастацкай літаратуры становяцца нярэдка самі пісьменнікі, як Дарафей Бохан, паэт і перакладчык на рускую мову (у асноўным з польскай мовы), рэдактар і супрацоўнік шэрагу мясцовых перыядычных выданняў. У 1898 годзе яго накладам выйшаў зборнік вершаў «Колосья», а ў 1905 годзе з'явіліся яго пераклады твораў больш 40 аўтараў «Из польской поэзии», сярод якіх Л. Кандратовіч, М. Канапніцкая, А. Міцкевіч, В. Макоўскі, Я. Неслухоўскі. Пад рэдакцыяй Д. Бохана рыхтавалася да выдання «Собрание сочинений в новых переводах русских писателей»

Дзіўным чынам атрымалася, што сярод французскамоўных назваў і суправаджаючых ноты кароценькіх тэкстаў удалося «схавацца» і некалькім на забароненай да друку польскай мове. Можа здацца, як гэта бывае пасля жорсткіх урадавых уціскаў, што Горад нарэшце дачакаўся «адлігі»

А. Міцкевіча, раман Марселя Прэво «Шоншетта» у перакладзе з французскай Е. Бохан, «Очерки истории русской поэзии с древнейших времен до наших дней», «Польские поэты в биографиях и образцах». У 1904 годзе, калі К. Кастравіцкі (К. Каганец) падаваў міністру ўнутраных спраў просьбу дазволіць выдаваць у Мінску беларускую газету «Палессе», рэдактарам яе меўся быць Д. Бохан. Праўда, многае з запланаванага, як і названая газета, так і не выйшла, ці толькі ў Мінску? Бо ў 1911 годзе ў віленскім выдавецтве «Edytor» («Эдитор») мінскі літаратар усё ж выпусціў свой нарыс «Адам Мицкевич. Биографический очерк» з перакладамі на рускую мову вершаў паэта «Bachczysaraj» і «Ruiny zamku w Bałakławie». Лідарамі ж сярод літаратурна-мастацкіх выданняў у Горадзе заставаліся невялікія апавяданні, пераважна на гістарычныя тэмы, а таксама выданні для дзяцей на рускай, польскай, беларускай і габрэйскіх мовах.

Ад канкурэнтнай барацьбы з прыватнымі друкарнямі не адступалася хіба што казённая Губернская друкарня, славу якой прынёс выпуск «Памятных книжек» і «Обзоров» Мінскай губерні, а прыбытак — прыватныя друкарскія замовы, а таксама аб'явы, якія яна друкавала ў «Минских губернских ведомостях». У 1906 годзе з усіх 70 губернскіх друкарняў Расійскай імперыі па атрыманні прыбытку Мінская губернская друкарня здолела нават выйсці на трэцяе месца, уступаючы толькі Пермскай і Віленскай. «В то время как всё вокруг типографии вертелось в вихре освободительного движения [1905 г. — *Л. Д.*], — як успамінаў кіраўнік друкарні М. Ю. Вагнер, — всё бастовало, всё безобразничало, бастовали даже правительственные учреждения, Губернская типография, осажденная революционерами, неуклонно исполняла свои обязанности, работая даже по ночам, т. к. вследствие забастовки и беспорядков работа в типографии увеличилась».

У 1914 годзе мінскія выдаўцы дасягнулі найвышэйшых лічбаў у выпуску мясцовых кніжных выданняў — 224 найменні ў год. Што ж гэта былі за выданні? Для каго? Пяць найменняў, або 2,2 %, выйшлі па-беларуску; тры, або 1,3 % — па-польску і адно, або 0,4 % — на ідыш і іўрыце, астатнія 96 % — рускамоўныя выданні, як і павінна было быць у дзяржаве пад назвай Расійская імперыя. Але… У 1795—1865 гг. (а гэта ажно 70 гадоў, за якія ў Горадзе выйшла каля 250 назваў кніг) мінскія выданні на рускай мове складалі толькі каля 9 % кнігавыдавецкага рэпертуару. І вось за наступныя 50 «з хвосцікам» гадоў — з 1865-га да 1917 года — выйшла каля 2900 назваў кніг, з якіх рускамоўныя склалі ўжо 94 %. З аднаго боку, відавочны агульны колькасны рост выпуску кніжнай прадукцыі — у 12 разоў, але рост рускамоўных выданняў выявіў проста неверагодную лічбу: прыкладна з 21 да 2701 наймення — амаль у 130 разоў!

Кніга ў Горадзе стала сапраўднай зброяй «дэпаланізатараў», якія найлепш ведалі, а таму і пісалі, і нават друкавалі, хоць і «совершенно секретно», у Губернскай друкарні такія рэкамендацыі, як «Докладная записка о мерах, могущих укрепить национальное сознание белорусов и противодействовать их полонизации» (1914), аўтарам якой быў мінскі губернатар А. Ф. Гірс. Змены як у культурным асяроддзі мінскай інтэлігенцыі, так і ў мінскім кніжным жыцці сталіся і таму, што амаль уся паліграфічная і выдавецкая база горада была пераарыентавана на выпуск рускамоўнай літаратуры, а кнігарні і бібліятэкі — на яе распаўсюджванне і спажыванне. Таму мінскія аўтары і выдаўцы шукалі паратунку і нярэдка звярталіся па друкарскія паслугі ў Вільню, Санкт-Пецярбург, Варшаву, Кракаў, Маскву, Львоў. У 1890-я гады асабліва актыўныя кніжныя сувязі па друку беларускамоўных выданняў меў Аляксандр Ельскі, якому ўдалося выпусціць у Львове ў 1892 годзе наступны пасля

В. Дуніна-Марцінкевіча пераклад «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча лацінскім шрыфтам, а таксама ў Пецярбургу надрукаваць некалькі беларускамоўных брашур кірыліцай (у 1895—1900 гг.). Лацінскі шрыфт зноў быў выкарыстаны А. Ельскім для друку ўласных беларускамоўных выданняў, што з'явіліся ў 1906—1908 гг. у Вільні.

Калі-нікалі ў нашым Горадзе праз маўклівую згоду праблісквaў няўрымслівы шляхетны гонар і ўсё ж рабіліся адважныя спробы ажыццяўлення некаторых «хітрых» праектаў па выпуску польскамоўнай літаратуры, якой у 1879—1900-я гг. выйшла каля 20 выданняў. Яшчэ і пасля атрымання дазволу легальнага друку на мясцовых мовах, пачынаючы з 1905 года, цяжка было разлічваць на рэалізацыю доўгатэрміновых нацыянальных выдавецкіх праектаў, пад якімі заўсёды бачыліся рэвалюцыйныя памкненні супраць царскага ўраду. Але яны і былі насамрэч, што праяўлялася ў дзейнасці падпольнага друку, які выкарыстоўвалі ў Горадзе то народнікі «Черного передела», то Беларуская сацыялістычная грамада ці іншыя палітычныя арганізацыі («Союз 17 октября», «Поалей-Цион»), выпускаючы розныя пракламацыі сіламі ўласных таемных друкарняў, а найболей практыкавалі яны часовы захоп легальных прыватных друкарняў і выданне ў іх масавымі накладамі ўлётак, якія і былі асноўнай партыйнай выдавецкай прадукцыяй. Пасля абвяшчэння кастрычніцкага Маніфеста 1905 года стала магчымай і неабходнай падтрымка легальнага нацыянальнага кнігавыдання, у задачы якога ўваходзіла найперш асветніцкая праца. Таму хоць і з недаверам — і з таго, і з іншага боку, у кнігавыдавецкім рэпертуары Горада пачынаюць з'яўляюцца габрэйскія (з 1905 года), польскія (з 1906 года), і беларускія (з 1907 года) легальныя выданні.

У 1905—1906 гг. габрэйскае «Выдавецтва «Культура» («Verlag «Kultur») проста выбухнула сваёй актыўнасцю ў Горадзе і выпусціла 40 найменняў габрэйскія выданняў, пераважную частку якіх склалі мастацкія творы. Габрэйскае насельніцтва Мінска, а гэта большая палова яго жыхароў, атрымала для чытання на літаратурным ідыш шэраг танных белетрыстычных выданняў, дзе адлюстроўваліся рэвалюцыйныя падзеі (творы Л. Андрэева, Д. Айзмана), барацьба супраць прыгнятальнікаў і народныя паўстанні (гістарычная драма М. Мінскага), антываенныя настроі (творы У. Гаршына), няпростае жыццё габрэяў як у межах аседласці, так і ў эміграцыі (творы Ш. Аша, А. Гаркаві, Э. Кагана, Г. Номберга, І. Перэца, Тана). Выйшла і каля дзесяці брашур палітычнай тэматыкі, асноўнай мэтай якіх была барацьба з самадзяржаўем. Асаблівай папулярнасцю карысталіся такія аўтары, як І. Перэц, А. Чэхаў, У. Гаршын, Ш. Аш, У. Караленка, Тан.

1910-я гады прынеслі ў Мінск ажыўленне і ў справе распаўсюджвання іўрыту як гутарковай мовы. Узнік нават цэлы нацыянальна-культурны рух, які жывіўся праз кантакты з Палестынай, з Тэль-Авівам, куды ў гімназію «Герцлія» — першую ў свеце школу з выкладаннем на сучасным іўрыце — адпраўляліся і мінчукі. Таму асабліва летам, падчас канікул, у Горадзе можна было пачуць прывезенае з Палестыны сэфардскае вымаўленне. Яно істотна адрознівалася ад тутэйшага традыцыйнага ашкеназійскага, што гучала ў сінагогах і рэлігійных навучальных установах. Новыя павевы знайшлі адлюстраванне і ў кнігадрукаванні Мінска, калі ў 1911—1914 гг. габрэйскія друкарні Гатоўскага і Юршчыка, Меера Зысьмана, Ліўшыца-Баршая ўзнавілі выпуск габрэйскіх выданняў, якія ў большасці сваёй былі на іўрыце. Аднак і мясцовая традыцыя заставалася трывалай, аб чым сведчыў друкаваны на ідыш «Мінскі альманах» (1912).

Першая спроба ўзнаўлення ў Горадзе выпуску кніжных выданняў на беларускай мове, зробленая ў 1907 годзе, таксама выявіла два падыходы, але адносна перадачы «на пісьме» беларускай мовы: лацініцай і кірыліцай. І такімі вось першынцамі-дэмакратамі, праз паўстагоддзя пасля В. Дуніна-Марцінкевіча, што наважыліся абвясціць годнасць беларускага слова ў Мінску, сталі два выданні — адно лацінскім, другое кірылічным шрыфтам — твора Элізы Ажэшкі «Гедалі» («Gedali»), што выпусціла беларуская выдавецкая суполка «*Мінчук*» (1907—1909) пры падтрымцы віленскага выдавецтва «Наша Ніва» і віленскай друкарні Марціна Кухты.

Наступныя друкі з'явіліся толькі праз сем гадоў, у год пачатку Першай сусветнай вайны, калі ў Мінск эвакуіраваліся беларускія выдаўцы з Вільні — Аляксандр Уласаў і Алаіза Пашкевіч (Цётка), за якімі стаялі такія выданні, як «Саха» (1914—1915)

і «Лучынка» (1914). Праз год узнікла выдавецтва «Вясёлка» (1915), а потым і «Вольная Беларусь» (1917—1918), якія абралі для друку кірылічны алфавіт. Разам з мінскімі выдавецтвамі «Саха», «Лучынка», «Вясёлка», «Вольная Беларусь» далучыліся да новай справы выдання кніг на беларускай мове і ўладальнікі прыватных друкарняў — Невах Моўшавіч Нахумаў і Якаў Абрамавіч Грынблат. Дзякуючы такому супрацоўніцтву выйшлі ў 1914 годзе чатыры папулярныя брашуры «Сахі», прызначаныя для сельскай гаспадаркі, — «Гадоўля кролікаў (трусоў)» і «Найвялікшы наклад у гаспадарцы. Будова» А. Вілецкага, «Новая расліна. Каўказскі жывакост» Ф. Марцінца, «Пчалярства», а таксама адзін літаратурна-мастацкі — коштам Тэрэзы Гардзялкоўскай і ў яе перакладзе — зборнік апавяданняў «Што б ні здарылася — вытрываю». У 1915 годзе «Вясёлка» выпусціла «Беларускія жарты», а «Саха» — «Зімовае кармленне кароў». 10 беларускіх выданняў з'явілася ў 1917 годзе дзякуючы «Вольнай Беларусі», адну палову з іх склалі мастацкія творы, напрыклад, зборнік вершаў «Дзіцячая чытанка», «Сцэнічныя творы» Якуба Коласа, паэма «Тарас на Парнасе», «Літаратурны зборнік "Вольнай Беларусі"», апавяданне «Як Мікіта бараніў сваіх» М. Міцкевіча і Я. Лёсіка, другую палову — брашуры палітычнага зместу — «Аўтаномія Беларусі» Я. Лёсіка ці «Чаго хоча Беларуская Сацыялістычная Грамада», «Мэморыя прадстаўнікоў Беларусі на ІІІ канферэнцыі народаў».

Усяго атрымалася на сціплым рахунку Горада за 1907, 1914—1917 гг. каля 20 беларускіх кніжных выданняў. Найбольш асветніцкі патэнцыял і выдавецкая праца беларусаў былі скіраваны з Мінска да сталічных цэнтраў. І такімі цэнтрамі беларускага нацыянальнага друку былі Варшава, Пецярбург і Вільня, якія падтрымліваліся ў тым ліку з Мінска. Найперш мінская грамадскасць ахвяравала сродкі на выданне беларускіх твораў, што потым распаўсюджваліся праз кнігарні Багуслава Адамовіча, Яна Філіповіча-Дубовіка, Вацлава Макоўскага, Беркі Гарадзенскага, Ёселя Фрэнкеля, контрагентаў з «Мінчука», а большасць прадавалася пазней у «Беларускай кнігарні» Аляксандра Прушынскага (Алеся Гаруна).

На парозе ж новых і вірлівых змен XX стагоддзя Горад мог і здзіўляць, хацеў зноў здавацца лепшым і прагным талерантнасці і шляхетнасці, дазволіўшы адкрыць нават польскую кнігарню з чытальняй. Ёй стала філія віленскай кнігарні Вацлава Макоўскага, які ў верасні 1900 года распачаў сваю справу і ў Мінску. Запатрабаванасць кніг у Горадзе здалася новаму ўладальніку яшчэ досыць слабай, адначасова прыйшлося адчуць і моцную канкурэнцыю з боку крам габрэйскіх, уладальнікі якіх былі вопытнымі кнігарамі і арыентаваліся ў гэты час найбольш на выгоды з продажу кніг на рускай мове — імі і была захоплена так званая група прагрэсіўных чытачоў. Аднак В. Макоўскі, выкарыстаўшы свой прафесіяналізм і ўменні, змог распачаць тут у 1906 годзе легальны польскамоўны друк, а таксама прадставіў чытачам шырокі выбар сучасных еўрапейскіх выданняў. У 1908 годзе мінская кнігарня В. Макоўскага налічвала сотні перыядычных выданняў на англійскай, нямецкай і рускай мовах, дзясяткі — на італьянскай, ідыш і іўрыце, польскай і эсперанта; прадавала беларускую «Нашу Ніву» і афармляла падпіску на яе. Штотыдзень прыбывалі новыя выданні, якія раскрывалі неабсяжны сусвет разнастайных ведаў, а таксама і іх геаграфію, месцы, адкуль яны прыбывалі: з Вільні, Пецярбурга, Кіева, Варшавы, Кракава, Познані, Любліна, Львова, Адэсы, Лондана, Парыжа, Берліна і г. д.

Хоць асартымент кнігарні быў у стане задаволіць розныя густы і ўплываў на іх фарміраванне, аднак жа, як лічыла Эўфемія Вайткевіч, кіраўніца філіі кнігарні В. Макоўскага ў Мінску, мясцовая публіка была «raczej konserwatywna, niż postępowa», для якой «powieść i książka religijna — to największy towar na naszym księgarskim rynku zbytu». Гімназісты і інтэлігенцыя набывалі творы як сур'ёзныя па змесце, так і папулярныя, танныя і даступныя ўсім. Сярод улюбёных — шэраг варшаўскіх і віленскіх літаратурна-мастацкіх часопісаў на польскай мове.

Нягледзячы на цэнзурныя прадпісанні, жандармскія рэвізіі, кнігарня патаемна і бясплатна забяспечвала падручнікамі і сшыткамі падпольныя польскія школы, праводзіла працу і па выданні польскамоўных кніг, якія друкаваліся

пераважна ў Вільні, а таксама ў Варшаве і Кракаве і вылучаліся высокай паліграфічнай якасцю. На працягу 1901—1903, 1906—1915 гадоў ад супольнага імя віленскай і мінскай кнігарняў В. Макоўскага выйшлі 24 выданні. Сярод першых — гістарычныя творы Канстанцыі Скірмунт «Нарыс літоўскай гісторыі» («Zarys dziejów Litewskich», 1901), Уладзіслава Загорскага «Трокі і замак Трокскі» («Troki i Zamek Trocki», 1902), «Шымон Канарскі» («Szymon Konarski», 1907). Найболей жа было выпушчана мастацкіх кніг: «Паята, дачка Ліздэйкі» («Pojata, córka Lizdejki», 1908) Фелікса Бернатовіча; «Час пагарды» («Godzina pogardy», 1906), «Уражанні і даследаванні» («Wrażenia i studia», 1913) Вацлава Макоўскага; «Адна чатырнаццатая» («Jedna czternasta», 1914) Міхаліны Даманскай, «Казачнік польскі» («Bajarz polski»; два тамы 4-га перавыдання выйшлі ў 1907 г. у серыі «Wydawnictwo Groszowe» і два тамы 11-га перавыдання — у 1913 г.) Антона Глінскага; «Кніга цішы» («Księga ciszy», 1914) Юзафа Вяржбіцкага, зборнік-прысвячэнне Адаму Міцкевічу і Тамашу Зану «З-над Віліі і Нёмана» («Z nad Wilii i Niemna», 1906). Сістэматычна выпускаліся таксама каталогі кнігарні (1903, 1906, 1907, 1908, 1913), была выдадзена і пара рэлігійных кантычак у 1903 годзе і каляндар — у 1915 годзе.

Першая рэвізія ў «Księgarni, składzie nut i materialów piśmienych W. Makowskiego w Mińsku lit.», якая прайшла ў 1910 годзе і пра якую змясцілі нават артыкул ў газеце «Goniec Wileński» (№ 33 ад 25 лютага — 12 сакавіка), была справакавана менавіта надрукаваным у мінскай друкарні Ільі Каплана календаром, што меў назву «Kalendarz Miński na rok zwyczajny 1910 zastosowany do potrzeb ludności, zamieszkałej na Litwie i Rusi» (1910), за распаўсюджванне забароненага выдання «nałożono na księgarnię karę». Сярод канфіскаваных выданняў аказаліся і ўсе беларускія кнігі, што знаходзіліся на той час у кнігарні, а таксама зборнік, выдадзены накладам В. Макоўскага да юбілею Э. Ажэшкі — «Gloria victis» (Вільня, 1910).

У найменшым пройгрышы ў Горадзе былі кнігары вучэбнай кнігі на рускай мове, па якую звярталіся найперш у «Книжный магазин и Библиотеку для чтения Б. А. Городенского», дзе і знаходзілі вялікі выбар рускамоўных выданняў для гімназій, семінарый, рэальных, ваенных, гарадскіх і іншых вучэльняў. Прыходзілі сюды і па сучасныя рэлігійныя, сельскагаспадарчыя і медыцынскія творы — была магчымасць пачытаць іх нават на месцы, у бібліятэцы-чытальні пры кнігарні. На ўсе без выключэння кнігі, што выйшлі ў Расіі, тут можна было аформіць падпіску. Для настаўнікаў па запатрабаванні бясплатна высылаліся першыя экзэмпляры. Прываблівалі чытачоў як сталай і працяглай працай (кнігарня існавала з 1846 года), так і навінкамі замежнай французскай літаратуры, разнастайнымі перыядычнымі выданнямі на рускай мове.

Французскай дзіцячай кнігай сваіх пакупнікоў прыцягвала Кніжная і нотная крама з бібліятэкай для чытання *Вульфа Борухава Фрумкіна* —таксама адзін з асноўных у Горадзе кніжных збораў падручнікаў. Тут прадаваліся кнігі Святога Сінода, Біблейскага таварыства, танныя выданні маскоўскай і пецярбургскай Сінадальных друкарняў, медыцынскія, тэхнічныя, фармацэўтычныя, юрыдычныя, вучнёўскія календары выдавецтваў «Польза», А. С. Суворына, І. Д. Сыціна, Г. Д. Гоппэ. У 1901 годзе кнігарня В. Фрумкіна прапаноўвала сваім наведвальнікам і такія папулярнейшыя тутэйшыя выданні, як дапаможнікі па вядзенні гаспадаркі — «Gospodynia Litewska» і «Kucharka Litewska» (першае выданне выйшла ў 1854 годзе, а аўтаркай з'ўлялася жонка віленскага выдаўца Адама Завадскага), што друкаваліся і асабліва шматразова перавыдаваліся Завадскімі ў Вільні. Першае ж выданне кнігі «Gospodynia Litewska» з'явілася крыху раней, у 1848 годзе, а яго аўтаркай была ўраджэнка Міншчыны Ганна Цюндзявіцкая, дачка Міхала Прушынскага.

У краме В. Фрумкіна дзейнічаў букіністычны аддзел, ладзіўся кнігаабмен. З 1890 года ён адкрыў яшчэ і кніжную лаўку па продажы рускіх кніг на Саборнай плошчы, а з 1900 года атрымаў дазвол на кніжны гандаль у Саборным скверы.

Разам з буйнешымі кнігарнямі ў Мінску працаваў шэраг дробных кніжных лавак і кнігарняў па продажы рускіх кніг, рускіх і замежных, рускіх і габрэйскіх, габрэйскіх; рускіх, замежных і польскіх. Некаторым удавалася весці сямейны кніжны бізнес: Рыўкіны (з 1847 года

гандлявалі кнігамі на рускай і замежных мовах), Машкілейсоны (з 1875 года — габрэйскімі кнігамі). Размяшчаць кнігарні і кніжныя лаўкі імкнуліся ў бойкіх публічных месцах у цэнтры — на Захар'еўскай, Губернатарскай вуліцах і на Саборнай плошчы. На станцыях Маскоўска—Брэсцкай і Лібава—Роменскай чыгунак гандаль друкаванай прадукцыяй належаў Кацярыне Гудвіловіч і Марыі Ярашэвіч, якія мелі права на продаж рускіх і замежных кніг. Гандаль кнігамі мог мець часовы характар, як, да прыкладу, арганізаваныя кніжныя склады «при чайных» «для продажи населению некоторых одобренных сочинений поэта А. С. Пушкина и брошюр с биографическими сведениями» — да 100-годдзя святкавання юбілею паэта. У Горадзе таксама была пашырана «разносная торговля» — яе выкарыстоўвалі не толькі для распаўсюджвання рэлігійнай літаратуры, але і забароненых выданняў.

Дзякуючы Кнізе ў Горадзе ажывалі і жылі разнастайныя нацыянальныя культурныя асяродкі, якія працягвалі дзейнічаць нават і ў час Першай сусветнай вайны, калі наплыў бежанцаў у Мінску «spowodował masową wyprzedaż książek w księgarni i tłok w czytelni», бібліятэках. Нягледзячы на вялікія складанасці, якія чыніла ваеннае становішча і кантроль нямецкіх улад асабліва ў адносінах да польскай і расійскай друкаванай прадукцыі, кнігі ў Мінск усё ж дастаўляліся; вязліся часцей на фурманках, на працягу нават цэлага месяца.

Кнігу чакалі і чытачы публічных бібліятэк Горада, колькасць якіх проста неверагодна расла за кошт вялікага прытоку бежанцаў. Калі, напрыклад, фонд Гарадской публічнай бібліятэкі імя А.С. Пушкіна ў 1904 годзе складаў 2379 кніг, то на 1 студзеня 1915 года бібліятэка мела 15 117 выданняў. Вырасла таксама і колькасць падпісчыкаў больш чым у 14,5 разоў у параўнанні з 1905 годам. Усяго за 1914 год бібліятэку наведалі 59 196 чытачоў (9361 — платны абанемент, 49 835 — бясплатны). У гэты год бібліятэка атрымлівала 92 назвы перыядычных выданняў: 70 — на рускай мове, 8 — на польскай, 8 — на старажытнагабрэйскай, 6 — на рускай і ідыш; набыла нават 18 кніг на літоўскай мове. У ліку мінскіх перыядычных выданняў, выпісаных бібліятэкай, быў «Минский голос», «Минская Газета Копейка», «Северо-Западная жизнь», «Северо-Западная мысль». Сярод штотыднёвікаў — «Наша Ніва», адзінае беларускамоўнае выданне ў бібліятэцы.

Наступным і апошнім выпрабаваннем для кнігі ў Горадзе стала нават не вайна, не рэвалюцыйныя падзеі, а муніцыпалізацыя ці нацыяналізацыя кніжнай справы, абвешчаная прынятай Савецкай уладай пастановай у лютым 1919 года. Спадзеючыся на слова і яго жыццядзейную сілу, кніжнікі Мінска шукалі і прасілі ў новай улады немагчымага — літасці і разумення: «Мы, опытные люди этой отрасли, всю жизнь провели за прилавком и у стен наших книг, всецело были заинтересованы, чтобы наши магазины, по мере самой малейшей возможности, всегда были пополняемы все новыми и новыми изданиями. Всегда на наших складах были книги, которые требовались всеми местными учебными заведениями. До сих пор город Минск недостатка в книгах не ощущал. Это создавалось взаимной конкуренцией и нашим интересом к книжному делу. Опытных служащих нашей отрасли мало и муниципализацией книжного дела парализуется тот многолетний опыт наш и та инициатива, каковыми мы были бы полезны для общества. <…> Теперь мы заявляем, что если Исполнительный Комитет найдет возможность передать наши книжные магазины вновь в наше ведение, мы обязуемся в самых малейших деталях выполнять все указания Советских Властей в смысле расценки и распределения книг, в каждом отдельном случае малейшего нарушения готовы отвечать перед самыми суровыми мерами взыскания. Готовы всецело работать под абсолютным контролем и, возможно, доказать, что контроль нашей отрасли полезнее муниципализации как для общества, так для Комиссариата Народного Просвещения, и без того обремененного. В виду всего вышесказанного просим освободить наши книжные магазины от муниципализации» (з «Заявы» ад імя «Б. А. Городенского, Годеля, Кинкулькина, Консториума, И. Соловейчика, М. И. Ривкина, М. Френкеля, В. Б. Фрумкина, Чернявской», падпісанай 20 лютага 1919 г.).

Але ніякія тагачасныя прашэнні, планы і спадзяванні на захаванне і развіццё прыватнай дзейнасці ў галіне кніжнай справы ў Горадзе, як і ў цэлым у савецкай краіне не маглі быць рэалізаваны, таму што, як, да прыкладу, прама

пішацца ў сакрэтнай запісцы аднаго з членаў Губернскага агенцтва, усё, а не толькі «самый светлый магазин (Городенского)» «будет принадлежать партии».

## Кніга, якую шукаем як памяць

Не быў літасцівым лёс і да мінскіх бібліятэчных кнігазбораў: ці то манастырскіх ці царкоўных, ці то ведамасных ці грамадскіх, ці то прыватных. Пасля скасавання ў 1832 годзе каталіцкіх кляштараў дамініканцаў (заснаваныя ў 1605 годзе), францысканцаў (1680), бенедыкцінаў (1700), баніфратаў (1700), рахітаў (1752), марыявітак (1771) іх кнігазборы ў пераважнай большасці трапілі ў Вільню, склаўшы аснову фонду Віленскай публічнай бібліятэкі.

Перад гэтым кнігі са скасаваных кляштараў Горада і губерні звозіліся і складзіраваліся ў будынку Мінскай ратушы. Быў створаны і спецыяльны Мінскі губернскі камітэт «для распределения помонастырских библиотек». Дарэчы, у склад гэтага камітэта ўваходзіў вядомы мінскі калекцыянер, літаратар-аматар, аўтар рукапіснага зборніка жартаў «Тысяча фацэцыяў і адна», мастак і рэстаўратар, а таксама губернскі радца, калежскі асэсар Юры Кабылінскі (1779—1858), у «хатнім кабінеце» якога, як называлі яго калекцыю, размяшчаліся не толькі карціны розных мастакоў ці абразы, але і старыя выданні і манускрыпты. Віленскі губернатар Ф. Я. Міркові, які 30 чэрвеня 1840 года агледаў археалагічную і нумізматычную калекцыі Кабылінскага, адзначыў, што бачыў тут Статут Вялікага Княства Літоўскага і нават карту Хрыстафора Калумба, вядомую таксама як геаграфічны атлас 1560 года. Імя Ю. Кабылінскага ўвекавечыў яго сябра В. Дунін-Марцінкевіч у сваіх творах «Wieczernice i Obłąkany» («Вечарніцы і Апантаны». Мінск, 1855) і «Пінская шляхта» (першая публікацыя ў часопісе «Вольная Беларусь». — Мінск, 1918. — № 30—31), а і сам пан Юры пакінуў след, узвёўшы ў Горадзе Кальварыйскую браму — помнік, які прысвяціў сваёй жонцы Юзэфе Кабылінскай з роду Барташэвічаў (памерла ў 1830 годзе). Гэта і засталося, дайшло да нашага часу ў адрозненне ад неаднаразова перададзеных і перапрадаваных, бясследна зніклых кніжных рарытэтаў ці старажытных абразоў.

Паводле складзеных у 1841 годзе Мінскім губернскім камітэтам каталогаў асноўнымі месцамі для перамяшчэння пакляштарных кнігазбораў была абрана Мінская духоўная (праваслаўная) семінарыя і Рымска-каталіцкая семінарыя, а таксама Пецярбургская Імператарская публічная бібліятэка, куды адпаведна маглі патрапіць кнігі, пры ўмове, што былі вывезены з будынка Мінскай ратушы да пажару, які здарыўся ў 1841 ці 1842 годзе.

У выніку пажараў кнігазборы Горада страчваліся неаднойчы і раней, як, да прыкладу, кнігазбор бернардзінцаў (1624—1866) — у 1809 і 1835 годзе. Але і паступова, дзякуючы фундушам, узнаўляліся, асабліва калі былі неабходнымі для забеспячэння навучання ў кляштары клерыкаў ці для пачатковай школы.

Адным са старэйшых мінскіх кнігазбораў паводле часу свайго заснавання з'яўлялася і бібліятэка Мінскай гімназіі, створаная на аснове фондаў бібліятэкі школы езуітаў (1654), якая ў 1773 годзе была перайменавана Адукацыйнай камісіяй у свецкую, а з 1803 года стала дзейнічаць як губернская гімназія. У 1805 годзе «JP. Melchior Wołodkowicz, Deputat szlachecki Gubernii Mińskiej Powiatu Wileyskiego» ахвяраваў бібліятэцы 469 тамоў, з якіх 361 — на польскай, а астатнія — на французскай і нямецкай мовах. Перад тым як быць разрабаваным французамі ў 1812 годзе, фонд бібліятэкі налічваў 7500 асобнікаў, пасля засталося ўсяго 600 тамоў лацінскіх філасофскіх і тэалагічных твораў з езуіцкага кнігазбору, а таксама каля 300 выданняў на польскай мове. У 1835 годзе загінуў у агні расійскі аддзел бібліятэкі.

Змяніў лёс кнігазбору Мінскай гімназіі і 1863 год. Палітычнае супрацьстаянне польскага і расійскага бакоў найперш адбілася на стане адукацыі: гімназія павінна была быць чыста расійскай, а таму ўсе кнігі і перыядычныя выданні на польскай мове з гімназіі выключылі. Фонд жа стаў паступова папаўняцца за кошт абавязковай рассылкі кнігарням пры губернскіх гімназіях расійскай літаратуры: з Санкт-Пецярбурга — ад Смірдзіна і Глазунова, з Масквы — ад Шыраева, з Вільні — ад Завадскага, Сыркіна, Марціноўскага і г.д. У 1888 годзе ў бібліятэцы налічвалася больш за 11000 тамоў (ці каля 5000 назваў) кніг, не толькі купленых, але і атрыманых у дар ад выдаўцоў і

аўтараў. Адным з важнейшых набыткаў бібліятэкі ў 1891—1892 навучальным годзе стаў падарунак М. Доўнар-Запольскага — яго выданне «Очерк истории кривичской и дреговичской земли до конца XII столетия».

У польскім «Słowniku geograficznym» бібліятэка Мінскай гімназіі была названа найважнейшым навуковым зборам у Мінску, у якім «nie mało starych i pozniejszych druków polskich, zebranych z dawnych zakladów naukowych i bibliotek poklasztornych». Як відаць, кнігі на польскай мове са скасаваных бібліятэк кляштараў усё ж заставаліся ў бібліятэцы, што стала прэцэдэнтам, таму што частка кнігазбору Мінскай гімназіі трапіла пасля ў Польшчу.

«Асядалі» рарытэты і ў мясцовых прыватных кнігазборах, але і гэта іх не выратоўвала ад чарговых перамяшчэнняў і страт. У XIX стагоддзі ў Мінску існавала не менш як 20 значных прыватных кнігазбораў, пра некаторыя з якіх можна было прачытаць у тагачасных польскіх ці расійскіх бібліяфільскіх даведніках. Сярод іх унікальная кніжная калекцыя гісторыка, археалага і краязнаўцы Генрыха Татура (1846—1907), што налічвала каля 6500 тамоў славянскіх, расійскіх і польскіх твораў і была адной з багацейшых у Мінску ў XIX — пачатку XX стагоддзя. Аматарскае захапленне пошукавай працай і збіраннем рэдкасцей ператварылася ў прафесійны інтарэс, у выніку якога Г. Татур стаў аўтарам працы «Очерк археологических памятников на пространстве Минской губернии и её археологическое значение» (Мінск, 1892). Дзякуючы намаганням Г. Татура быў упарадкаваны археалагічна-этнаграфічны музей пры Мінскім губернскім статыстычным камітэце, у якім было каля 1000 тамоў «dawnych druków polskich i lacinskich, z bibliotek poklasztornych», што потым уліліся ў склад музея і бібліятэкі Мінскага царкоўнага гісторыка-археалагічнага камітэта. Пасля смерці вучонага было складзена «Описание библиотеки и собраний Г. Х. Татура», што прызначалася для Расійскай Імператарскай Акадэміі навук у якасці экспертнай ацэнкі каштоўнасці кнігазбору. У спісе кніг у аддзеле манускрыптаў значылася 48 рукапісаў XIV—XIX стагоддзяў (напрыклад, кнігі з бібліятэкі Радзівілаў, з мінскіх бенедыкцінскіх збораў, Статут ВКЛ 1529 г.), сярод друкаваных — Біблія Скарыны, Біблія на польскай мове (Кракаў, 1540) і г. д. Вызначыўшы каштоўнасць калекцыі, Расійская акадэмія навук тым не менш прапанавала за яе ўсяго 1000 рублёў, у той час як уладальнікі ацэньвалі яе вартасць у 200—300 тысяч. Амаль усю калекцыю Г. Татура распрадалі розным прыватным асобам, калекцыянерам: трапіла да Тышкевічаў у Лагойск і пад Вільню (у Чырвоны Двор), у Львоўскі музей у збор графа Рамана Шэптыцкага (праз Івана Луцкевіча), у бібліятэку Урублеўскіх у Вільні. І сёння даследчыкаў не пакідае цікавасць і яны спрабуюць шукаць сляды калекцыі і кніжныя сувязі Г. Татура з Эмерыкам Чапскім і Антоніем Радзівілам па справах продажу тых ці іншых антыкварных прадметаў, у тым ліку кніжных.

У кнігазборы выкладчыка-філолага Мінскай мужчынскай гімназіі, а потым і ўладальніка прыватнай гімназіі Сяргея Пятровіча Зубакіна (канец 1840-х — 1918 год) у XIX — пачатку XX стагоддзя налічвалася каля 10 000 тамоў па гісторыі, прыродазнаўстве, усеагульнай і расійскай славеснасці. Кнігі са збору С. П. Зубакіна былі пазначаны пячаткай (у трох варыянтах), а таксама экслібрысам. Паводле ўспамінаў А. Уласава, «Беларуская рада ў Менску збіралася адкупіць яго вялікую бібліятэку, каторая асталася ў Менску пасля яго смерці». Аднак бібліятэка была рэквізавана бальшавікамі і паступіла ў распараджэнне бібліятэчнай камісіі, і стала «базай для папаўнення» існуючых і ствараемых бібліятэк.

З дзесяцітысячнага прыватнага кнігазбору С. П. Зубакіна сёння ў бібліятэках Мінска апазнаецца каля 60 выданняў XVII—XIX стагоддзяў. Адна са старэйшых кніг калекцыі Зубакіна — філасофскі трактат Дыягена (Амстэрдам, 1692) — *Diogenis Laertii. De vitis, dogmatibus apophtegmatibus glarorum philosophophorum* — знаходзіцца зараз у аддзеле рэдкіх кніг Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. У фондах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі — помнік нацыянальнага пісьменства і кнігадруку на старабеларускай мове — супральскае выданне Л. Кішкі «Собрание припадков краткое» (1722), «Histoire générale de Pologne» (Парыж 1750) і «История о покорении Мексики» А. Соліса (Санкт-Пецярбург, 1765), «Деяния Петра Великого, мудрого преобразователя России, собранные из достоверных источников и расположенные по годам» І. І. Голікава (Масква, 1788—1789), «Видимый мир = Orbis visibiles» Я. А. Каменскага (Масква, 1788) і інш.

У Дзяржаўным архіве Мінскай вобласці зберагаецца вопіс (спіс) бібліятэкі С. П. Зубакіна, праўда, далёка не поўны і схематычны, а таксама разнастайныя дакументы, звязаныя з лёсам кнігазбору, нацыяналізаванага паводле пастановы Часовага ўрада. Як адзначалася Бібліятэчнай камісіяй Аддзела народнай адукацыі, «приобретением этой библиотеки Отдел Народного Образования значительно смягчил крайнюю нужду всех существующих в Минске Городских библиотек в наиболее требуемых книгах».

Бібліятэка Мінскай духоўнай (праваслаўнай) семінарыі, кнігі з якой таксама ідэнтыфікуюцца ў сучасных буйнейшых бібліятэчных зборах, трапіла ў Мінск са Слуцка ў 1840 годзе, калі сюды была пераведзена Духоўная семінарыя. Большую частку кніг Фундаментальнай бібліятэкі прадстаўлялі старадрукі XVI—XVIII стагоддзяў у пергаменных аправах. У фондзе бібліятэкі вылучаліся адпаведныя калекцыі — «библиотеки»: «Библиотека древних языков», «Библиотека Российская», «Библиотека Французская», «Библиотека Немецкая», «Библиотека Польская», «Библиотека малоизвестных языков» адпаведна з шырокай еўрапейскай геаграфіяй выданняў, былі кнігі і з буйнешых мясцовых друкарняў Вільні, Супрасля, Нясвіжа, Брэста, Астрога, Мінска.

У ліку рэдкіх асобнікаў з Фундаментальнай бібліятэкі Мінскай духоўнай семінарыі, што захаваліся і сёння і зберагаюцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, напрыклад, ёсць два помнікі нацыянальнай кніжнай культуры Беларусі. Гэта рукапіс другой паловы XVI стагоддзя беларускім паўуставам «Жыціе Грыгорыя Архіепіскапа Амірыцкага» і выданне Брэсцкай друкарні «Sprawy i słowa Jezusa Krystusa Syna Bożego» (1565).

А каб адшукаць астатнія кнігі з буйнейшага дваццацітысячнага збору бібліятэкі, як і шэраг іншых бібліятэк і прыватных кнігазбораў Горада, што трапілі пад неаднаразовае пераразмеркаванне, трэба ведаць шлях, які ім давялося прайсці. Адны — на падставе ўрадавага дэкрэта Савецкай Беларусі ад 30 студзеня 1919 года, прынятага ў адпаведнасці з дэкрэтамі СНК РСФСР «Об охране библиотек и книгохранилищ» (1918), «О порядке реквизиции библиотек, книжных складов и книг вообще» (1918) — паступілі ў бібліятэкі савецкіх школ, другія склалі аснову Беларускай дзяржаўнай і ўніверсітэцкай бібліятэк —

> У 1890-я гады асабліва актыўныя кніжныя сувязі адносна друку беларускамоўных выданняў меў Аляксандр Ельскі, якому ўдалося выпусціць у Львове ў 1892 годзе наступны пасля В. Дуніна-Марцінкевіча пераклад «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча лацінскім шрыфтам, а таксама ў Пецярбургу надрукаваць некалькі беларускамоўных брашур кірыліцай

а гэта «<…> каля 40000 томаў, сабраных у часе рэвалюцыі Наркамасьветам Беларусі, потым 5000 томаў з іншых крыніц, больш за 20 000 томаў б-кі б. Духоўнай сэмінарыі і каля 5000 томаў з Цэнтральнай Беларускай б-кі, што закладалася ў Менску да адчыненьня унівэрсытэту», а іншыя бібліятэкі Горада яшчэ на працягу доўгага савецкага часу заставаліся ў становішчы дэпазітных — былыя бібліятэкі Мінскай Марыінскай гімназіі, Мінскага Рускага грамадскага сходу, бібліятэка для чытання Б. А. Гарадзенскага і шэраг іншых.

Гісторыя мінскіх кнігазбораў — гісторыя страт і разбурэння разнастайных і каштоўных бібліятэк,назапашаных стараннямі прыватнымі ці грамадскімі з рознымі мэтамі — калекцыйнымі, асветніцкімі, навучальнымі, што сведчылі аб развіцці даўняй кніжнай культуры, шырыні і нават бязмежнасці кніжнага свету, яго ўнутраных сувязях і адзінстве з цэлым сусветам.

І нават праз напісанне гісторыі тых страт адбываецца вяртанне страчанага, якое пераўтвараецца ў новыя веды, пашыраючы рэканструкцыйную прастору мінулага нашай кніжнай культуры. Як важныя пытанні фізічнага вяртання гвалтоўна вывезеных з Беларусі кніжных помнікаў, што станавіліся актуальнымі ў часы адраджэнння беларускай дзяржаўнасці (у 1917—1918 гг., у 1920-я гг., у 1990-я гг.), так не менш важным з'яўляецца захаванне і шанаванне таго, што мы маем з мінулага, а яно як разнастайнае, так і супярэчлівае, але ў гэтым цалкам і яго важнейшы маральны бок, і перспектывы развіцця нашага грамадства.

## Тытульны аркуш — «фасад» кнігі

...У XIX стагоддзі адбылася так званая «шрыфтавая рэвалюцыя», якая змяніла прынцыпы пабудовы кнігі. Структура выдання стала больш экспрэсіўнай. Шырокае выкарыстанне атрымалі віньеткі і арнаменты. Элементы тытульных аркушаў таго часу маюць самае экзатычнае напісанне: кожны радок набіраўся сваім шрыфтам і кегелем, шырокія знакі чаргаваліся з вузкімі. Галоўныя, на думку аўтара, радкі абавязкова вылучаліся, што не спрыяла метадычнаму чытанню, а прымушала выхопліваць асноўныя думкі з тэксту. Аднак у канцы стагоддзя погляд на афармленне тытула змяніўся: друкары пачалі змяншаць колькасць гарнітур і выступілі за абсалютную ўніфікацыю пабудовы тытульных аркушаў.

На пачатку XX стагоддзя тытульныя аркушы становяцца больш сціплымі. Паміж загалоўкамі і выхаднымі звесткамі з'яўляецца адкрытая прастора. Стылізацыя як мастацкі прыём застаецца, аднак выкарыстанне асобных выяўленчых элементаў (рамак, малюнкаў) залежыць не столькі ад існуючай моды, колькі ад аўтарскай задумы.

У сярэдзіне XX стагоддзя канчаткова сфарміравалася міжнародная сістэма стандартаў выдавецкай справы. У 1978 годзе яшчэ ў Беларускай ССР афіцыйны статус атрымлівае Сістэма стандартаў па інфармацыі, бібліятэчнай і выдавецкай справе. Былі дакладна сфармуляваныя патрабаванні да зместу тытульнага аркуша, якія выкарыстоўваюцца і сёння.

Галоўнае патрабаванне да сучасных беларускіх тытульных аркушаў — адпаведнасць існуючым кніжным стандартам. Бясспрэчна, ты-



ORNITOLOGIA
POWSZECHNA
CZYLI
OPISANIE PTAKÓW
WSZYSTKICH CZĘŚCI ŚWIATA
przez
Hr. KONSTANTEGO TYZENHAUZA
CZŁONKA WIELU TOW. UCZONYCH.
Z dodatkiem kilku tablic.
Tom I.
WILNO.
NAKŁADEM AUTORA.
DRUKIEM TEOFILA GLÜCKSBERGA.
1843.



GOSPODYNI
LITEWSKA
CZYLI
NAUKA UTRZYMYWANIA PORZĄDNIE
DOMU
I
ZAOPATRZENIA GO WE WSZYSTKIE PRZYPRAWY, ZAPASY
KUCHENNE, APTECZKOWE I GOSPODARSKIE.
tudzież
HODOWANIA I UTRZYMYWANIA BYDŁA, PTASTWA
I INNYCH ŻYWIOŁÓW,
według sposobów wyprobowańszych i najdoświadczeńszych,
a razem najtańszych i najprostszych.
Wydanie Szóste,
poprawne i pomnożone różnemi przepisami przez Autorkę
Kucharki Litewskiej.
WILNO.
Nakładem i drukiem Józefa Zawadzkiego.
1873.


Е. Романовъ.

Бѣлорусскій сборникъ.

Томъ первый

Губернія Могилевская.

Выпускъ первый и вторый.

Пѣсни, пословицы, загадки.



Кіевъ.


МАКСІМ БОГДАНОВІЧ.

ВЯНОК

кніжка выбраных вершоў.

ВІЛЬНЯ, ДРУКАРНЯ МАРЦІНА КУТЫ.
1913.

тул — галоўная старонка аркуша — павінен утрымліваць інфармацыю пра аўтара, назву твора, выдаўца, месца і год выдання. Акрамя гэтага, абавязкова павінны прысутнічаць надзагаловачныя (найменне арганізацыі, ад імя ці з удзелам якой створана выданне, звесткі пра серыю і падсерыю) і падзагаловачныя (звесткі пра від выдання, жанр твора, чытацкі адрас, мэтавае прызначэнне, мову арыгінальнага тэксту, стваральнікаў выдання і інш.) даныя.

Даволі шмат, праўда? У залежнасці ад віду выдання ДАСТ прадугледжвае перанос надзагаловачных звестак на пераплёт, інфармацыі пра серыю — на контртытул (гэта значыць, другую старонку двайнога тытульнага аркуша), на авантытул (першую старонку двайнога тытульнага аркуша) ці на адгорт. Звесткі пра чытацкі адрас, перакладчыка і арыгінальнае выданне, укладальніка, навуковага рэдактара і іншых стваральнікаў кнігі могуць быць перанесеныя на адгорт тытула ці на контртытул.

ДАСТ рэгламентуе таксама афармленне адгорту тытульнага аркуша. Абавязковыя звесткі, якія павінен утрымліваць адгорт, — класіфікацыйныя індэксы УДК і ББК, код Міжнароднай класіфікацыі ISBN; аўтарскі знак або капірайт — знак аховы аўтарскага права. Сярод факультатыўных звестак — анатацыя (рэферат) і бібліяграфічнае апісанне (БА), якія разам складаюць макет каталожнай карткі, сканаванай бібліятэкарамі падчас фарміравання кніжнага каталога.

Згодна з ДАСТ, вышэйпералічаныя звесткі могуць быць перанесеныя на элемент выдання, які замяняе адгорт тытула, калі гэтага патрабуе мастацкае афармленне. Часцей за ўсё даныя змяшчаюцца на апошняй старонцы выдання, дзе публікуецца так званая метрыка: падсумаванне ўсёй інфармацыі пра кнігу — надвыпуск-

ныя даныя, а таксама звесткі пра асаблівасці паліграфічнага выканання і яго творцаў — выдаўца і друкарню — выпускныя даныя. У склад надвыпускных звестак, якія абавязкова павінны прысутнічаць на адгорце тытульнага аркуша, уваходзяць: від выдання згодна з мэтавым прызначэннем, загаловак і нумар выпуску серыі, поўныя імёны аўтара і ўкладальніка, загаловак выдання і падзагаловачныя звесткі. Выпускныя звесткі ўтрымліваюць дату падпісання ў друк, фармат паперы і долю аркуша, від паперы і друку, тыраж, нумар замовы паліграфічнага прадпрыемства, поўныя афіцыйныя найменні выдаўца і друкарні, нумары ліцэнзіі на выдавецкую і паліграфічную дзейнасць і даты іх выдачы.

У той жа час па-за межамі кампетэнцыі ДАСТу застаецца афармленне авантытула і контртытула (гэтак жа, як і выбар паміж адзінарным і двайным тытульным аркушам), што дае стваральнікам кнігі пэўную ступень свабоды і дазваляе выкарыстаць вольную прастору для мастацкага аздаблення.


Выдавецтва Менскага Камісарыяту Асьветы.

Янка Купала.

РАСКІДАНАЕ ГНЯЗДО.

ДРАМА у 5-цёх АКТАХ.

ВІЛЬНЯ — 1919.
ДРУКАРНЯ „ПРАМЕНЬ“

Згодна з распрацоўкамі даследчыкаў, на авантытуле мэтазгодна размяшчаць надзагаловачныя звесткі, выхадныя звесткі з іншых тытульных старонак (напрыклад, назву выдавецтва); сярод неабавязковых элементаў — выдавецкая марка, дэвіз і іншыя чыста рэкламныя элементы.

На контртытуле звычайна знаходзіцца арыгінальны тытул перакладнога выдання, партрэт аўтара ці іншая ілюстрацыя (тады контртытул прынята называць франтыспісам). Гэтая старонка таксама можа застацца пустой.

Аднак нягледзячы на, здавалася б, даволі строгія стандарты, у беларускай кніжнай прасторы, часцей у выданнях перакладной літаратуры прыватных выдавецтваў, сустракаюцца эксперыменты. Магчыма, гэта тлумачыцца памкненнем выдаўцоў, якія максімальна наблізілі іншамоўны тэкст да айчыннага кантэксту ўжо самім фактам перакладу, праз нетыповае для беларускай кніжнай прасторы афармленне падкрэсліць яго прыналежнасць да іншай культуры і ў той жа час укараніць лепшыя напрацоўкі кніжнага руху Еўропы. Сярод такіх эксперыментаў наступныя: партрэт аўтара і разгорнутыя анатацыі на авантытуле; максімальнае ашчаджанне звестак на адгорце тытула з іх пераносам на апошнюю старонку кнігі; размяшчэнне друкарскай метрыкі на адгорце тытула; мінімізацыя звестак на апошняй старонцы выдання; нестандартнае размяшчэнне звыклых элементаў тытульнага аркуша (тытул ці адгорт тытула на месцы контртытула).

Увогуле, у апошняе дзесяцігоддзе ў Беларусі назіраецца тэндэнцыя да спрашчэння напаўнення тытульных аркушаў нават на ўзроўні нарматыўных дакументаў: паступова адзін за адным асобныя, раней абавязковыя, элементы прызнаюцца факультатыўнымі (напрыклад, колькасць умоўна-друкаваных аркушаў у друкарскай метрыцы). Гэта сведчыць пра паступовую інтэграцыю беларускага кнігадруку ў міжнародны кантэкст, што адкрывае новыя магчымасці для супрацоўніцтва ў выдавецкай сферы.

*Ксенія Тарасевіч*

## Айцец Аляксандр Богдан

# Жыццё паводле Бібліі

Біблія для кожнага хрысціяніна, безумоўна, з’яўляецца свяшчэннай кнігай ці, інакш кажучы, Святым Пісаннем. Аднак важна памятаць, што заснавальнік хрысціянства богачалавек Ісус Хрыстос не пакінуў нам ніводнай старонкі з Бібліі. У гэтай свяшчэннай кнізе мы не знойдзем ані радочка, Яго рукой напісанага. Усё, што пакінуў нам Сын Божы, — гэта Сябе, а значыць, Сваю Царкву. Не будынак і не інстытут, а менавіта Царкву як містычнае Цела Хрыстова (Еф.1:22—23).

Усім вядома, што Біблія складаецца з кніг Старога і Новага Запаветаў. Дык вось, Новазапаветныя кнігі пачалі пісацца апосталамі ў той час, калі хрысціянства было ўжо даволі распаўсюджана, але далёка не кожная абшчына мела ў сябе хаця б адзін экзэмпляр Бібліі: кнігі перапісваліся ўручную і па гэтай прычыне не маглі разыходзіцца хутка. Таксама не ўсе ўмелі чытаць. Непісьменнымі маглі быць нават манархі, і тады яны падпісваліся з дапамогай трафарэта. Таму Бібліяй для непісьменных называлі абраз, у нашы дні яго яшчэ называюць «Багаслоўем у фарбах».

Акрамя таго, толькі ў IV стагоддзі спыніліся ганенні на хрысціян, і любая дзейнасць паслядоўнікаў Хрыста перастала лічыцца незаконнай. У першыя ж чатыры стагоддзі, калі атрымлівалася здабыць хаця б главу з Евангелля ці апостальскага паслання, было вялікай радасцю. Хрысціяне яе беражліва захоўвалі і чыталі на малітоўных сходах. Аднак нават пры адсутнасці Свяшчэннага Пісання хрысціяне збіраліся на малітву, і кульмінацыяй богаслужэння было не чытанне Свяшчэннага Пісання, а Пераламленне хлеба ці Таінства Еўхарыстыі (Прычашчэння).

Не толькі апосталы імкнуліся пісаць кнігі Свяшчэннага Пісання, а менавіта Новага Запавета. На той час з’яўлялася даволі шмат так званай апакрыфічнай літаратуры. Напрыклад, прадстаўнікі філасофска-містычнага вучэння гнастыцызму, каб надаць больш вагі сваім сачыненням, падпісваліся імёнамі апосталаў. Мы ведаем, што існуюць апакрыфічныя Евангеллі ад Іакава, ад Фамы, ад Пятра, ад Нікадзіма, ад Піліпа, ад Іуды, акрамя тых чатырох (ад Матфея, ад Марка, ад Лукі і ад Іаана), якія сапраўды з’яўляюцца Свяшчэнным Пісаннем. У 364 годзе ў Лаадзікіі (Малая Азія) сабраліся епіскапы і даследавалі ўсе сачыненні, якія нейкім чынам маюць дачыненне да хрысціянства. Тады, на Лаадзікійскім саборы, было вызначана, якія кнігі насамрэч богадухнавенныя, і быў складзены канон Свяшчэннага Пісання, у які апакрыфічныя творы не ўвайшлі.



Атрымліваецца, што Біблія не з неба звалілася — мы атрымалі яе з рук Царквы. Аднойчы да праваслаўнага свяшчэнніка падышоў сектант і прапанаваў:

— Хочаце, я раскажу вам пра Царкву, пра якую напісана ў Бібліі?

— Давайце лепш я вам раскажу пра Царкву, якая напісала Біблію, — быў адказ.

Таму вельмі неразумна прызнаваць Свяшчэннае Пісанне і пры гэтым абвяргаць Царкву, ад якой мы яго атрымалі. Не зусім зразумела і тое, чаму з усяго вялікага царкоўнага Падання сучасныя сектанты выбралі Біблію і адрынулі ўсё астатняе?

Тут трэба заўважыць, што не варта строга раздзяляць Свяшчэннае Пісанне і Свяшчэннае Паданне царквы. Пісанне з’яўляецца часткай Падання. За шмат гадоў свайго існавання Праваслаўная Царква назапасіла пісанні мужоў апостальскіх, сачыненні святых айцоў, пастановы сабораў, кананічныя правілы,

багаслужэбныя тэксты і іншыя малітвы, традыцыі і абрады, жыцці святых, працы сучасных багасловаў, самі гістарычныя падзеі царкоўнага жыцця, аднак на першым, галоўным, месцы знаходзіцца Свяшчэннае Пісанне. Сектанты адпрэчваюць увесь пазітыўны і негатыўны вопыт Царквы, але пры гэтым ствараюць уласнае паданне. Застаецца тады незразумелым, навошта наноў вынаходзіць веласіпед, ды яшчэ з квадратнымі коламі?

Сучасныя сектанты для павышэння ўласнага статусу, аўтарытэту і значнасці любяць атаясамліваць сябе з пратэстантамі. Адзначым усё ж, што пратэстанты не абвяргалі цалкам Паданне, пакідаючы сабе толькі Біблію. Яны рэфармавалі тое, што мела Царква, на ўласнае разуменне. Тады мала хто з іх разумеў, што нічога добрага з гэтага не выйдзе.

Дарэчы, першы пратэстант Марцін Лютэр гаварыў: «Сам д'ябал можа цытаваць Біблію з вялікай выгодай для сябе». Гэта здаецца дзіўным, а то і ўвогуле немагчымым? Але ў Евангеллі ад Матфея ў 4-й главе якраз і напісана, як д'ябал, спакушаючы Ісуса Хрыста ў пустыні, цытаваў Свяшчэннае Пісанне. Дык калі да нас падыдзе сектанцкі прапаведнік і пачне прыводзіць цытаты з Бібліі, то ён не будзе першаадкрывальнікам, а проста паўторыць за тым, хто так рабіў больш за дзве тысячы гадоў таму ў пустыні.

Вельмі важна разумець усё напісанае правільна. Тое самае і ў школе: з намі не проста вучаць літары, а вучаць, каб мы маглі складаць іх у словы. На ўроках літаратуры мы вучымся правільна разумець сэнс, які ўклаў у свой твор аўтар. Біблія ўяўляе сабой таксама асаблівы літаратурны жанр. Каб разумець яе, недастаткова проста ўмець чытаць. Трэба разглядаць тэксты Свяшчэннага Пісання, улічваючы ўсё Царкоўнае Паданне. Калі ж успрымаць усё напісанае бяздумна і літаральна, то можа атрымацца, як у наступным анекдоце:

— Тата, а ці праўда, што ў нашай бабці склероз?

— Не, дачушка. А чаму ты так вырашыла?

— Проста кожны раз, калі мы да яе прыязджаем, яна пытае: «І хто гэта да нас прыехаў?!»

У старажытнасці св. Іларый Піктавійскі ў пасланні да імператара Канстанціна казаў: «Пісанне не ў словах, а ў іх разуменні».

Калі нехта наважыцца пачаць чытаць Біблію, то няхай пачне з Новага Запавету, тады больш зразумелым будзе для яго і Стары Запавет.

Калі мы хочам атрымаць карысць ад чытання Евангелля, рабіць гэта трэба чэсна, непрадузята, без пыхі, імкнучыся спасцігнуць сэнс напісанага, з адным жаданнем — даведацца Ісціну. Можна натрапіць на такія месцы, якія пададуцца абсалютна незразумелымі. Тут не трэба даваць разгуляцца фантазіі і прыдумляць неіснуючае. Лепш даведацца, як Царква тлумачыць гэты момант, звярнуцца з ім да свяшчэнніка або самастойна пашукаць меркаванні Святых Айцоў.



Чытаць Евангелле трэба рэгулярна. Існуе нават тайнае правіла, якое гаворыць: хрысціяніну трэба прачытваць у дзень хаця б адну главу. Толькі гэта не павінна ператварацца ў руцінны абавязак. Чытанне Свяшчэннага Пісання — гэта таксама малітва, бо да нас са старонак кнігі звяртаецца сам Бог. Пасля прачытання свяшчэннага тэксту пажадана нейкі час затрымацца ў цішы, паспрабаваць засвоіць прачытанае.

Канечне, мы павінны не толькі чытаць Евангелле, але і паводзіць сябе адпаведна. Інакш будзем падобныя да повара, які рэгулярна чытае кулінарную кнігу, але ніколі не гатуе ніякія стравы з яе.

Каб выканаць усе Евангельскія запаведзі, нам не хопіць уласных сіл. Таму Гасподзь і пакінуў нам не Кнігу, а Царкву, дзе кожны праз агульную малітву, праз удзел у Таінствах можа атрымаць усё неабходнае для ўвасаблення евангельскіх ідэалаў у сваім жыцці.

Вітаю, мая любая сяброўка!

Я доўга табе не пісала з прычыны бяды, якая на нас звалілася і якой я была моцна прыгнечана. Накрыла нас ёй, як лавінай, нечакана-негадана, заспела знянацку, неспадзявана, былі непадрыхтаваныя, сонна-лянівыя. Хоць, шчыра кажучы, калі мы ўвогуле бываем падрыхтаванымі да бяды? Я жыла ў дабрадушнай упэўненасці, што з намі такое ніколі не здарыцца. З кім заўгодна, але не з намі, не ў нашай шчаслівай, на першы пагляд, сям'і.

Але ж недарэмна кажуць: «Ад сумы і ад турмы не заракайся». Я была так агаломшана тым, што здарылася, ні пра што больш не магла і думаць, нічога не хацела рабіць, ранкамі не магла падняцца з пасцелі. Муж сілаю выцягваў з ложка: «Уставай! Трэба далей жыць! Хто за цябе працаваць будзе?» Для чаго працаваць? Каб жыць. А навошта жыць, калі ўсё правалілася ў адно імгненне, усё прахам пайшло! Боль і страх невядомасці, непазбежнасці ахінуў душу. Божа, памілуй! Думкі сутыкаліся, збіваліся ў кучкі, рассыпаліся, хаатычна круціліся ў галаве, як назойлівыя мухі, збянтэжана змяняючы адна адну, — ад «Не веру, такога не можа быць!» да «Як далей з гэтым жыць?». Цяпер сорамна, але чым больш мяне суцяшалі, тым больш няўцешна я плакала. Тваё званок мяне выратаваў. Ты не распытвала, не шкадавала, не супакойвала, а строга сказала: «Хопіць раўці! Слязьмі бядзе не дапаможаш. Ведаеш малітву Іаана Красцьянкіна, якую ў скрусе чытаюць? Няма пад рукой паперы? Так запомніш!»

І ты пачала дыктаваць, як у школе на ўроку: «Слава Табе, Ойча наш, слава Табе! Дзякую Табе за смутак майго жыцця. Заслужана прымаю. Памяні мяне, Божа, у Царстве Тваім!»

І калі горла сціскалася ад набеглых слёз, я шаптала: «Слава Табе, Божа, дзякую, па заслугах цярплю». Так і трэба нам, за грахі нашы… І адступала.

А праз некалькі дзён я размаўляла са схімніцай у Свята-Амвросьеўскім скіце пад Жыровічамі. Запомніла, як матушка гаварыла: «Мы ж малаверы, а то і зусім няверуючыя. Мы ў Бога верым. І чэрці вераць у Бога і дрыжаць. А трэба Богу верыць. Разумееш? Верыць Богу! Адзін Ён ведае, як для чалавека будзе лепш. Ён усё робіць, каб душу нашу выратаваць. Калі інакш чалавек не разумее, дык журботу яму пасылае, толькі каб душу ад граху ачысціць. У Свяшчэнным пісанні як сказана? «Шматлікімі скрухамі трэба нам увайсці ў Царства Нябеснае». Гасподзь нам Царства Сваё падрыхтаваў, а мы ўсё за зямное чапляемся. Усё будзе добра. Ты толькі Богу вер!»

Бласлаўлёныя тыя, хто надзею дае, хто моліцца за нас грэшных.

Праца і малітва дапамаглі падняцца, вытрымаць выпрабаванне.

Дзякую табе, мілая сяброўка, за тваю любоў і падтрымку. Як жа хочацца назваць цябе па-старадаўняму — не сяброўкай, а «другіняй». Чуецца мне ў слове «другіня» «дружына», і бачу я сваіх другаў, якія сталі нябачна побач, плячо ў плячо, і не даюць у цяжкую хвіліну ўпасці, падтрымліваюць малітвай і добрым словам, умацоўваючы ў веры. Дзякуй вам, мае другі! Беражы вас Бог!

*P.S.* Чытаю «Парады Оптынскіх старцаў», што купіла ў скіце ў Русакове. Дазволь падзяліцца гэтай мудрасцю святою з табой.

**Парада прападобнага Анатолія (Зярцалава):**

«Відаць, што стараешся і жадаеш выратавацца, — толькі не ўмееш, не разумееш духоўнага жыцця. Тут увесь сакрэт у тым, каб трываць усё, што Бог пасылае. І не ўбачыш, як у рай увойдзеш.

Лічы сябе горшым за іншых, і будзеш лепшым за іншых.

… Цярпенне тваё не павінна быць безразважным, гэта значыць, бязрадасным, а цярпенне з розумам, што Бог бачыць усе справы твае, самую душу тваю, як мы глядзім у твар каханага чалавека… Глядзіць і выпрабоўвае: якою ты апынешся ў журбе? Калі цярпець будзеш, то станеш Яго ўлюбёнаю. А калі не стрываеш і наракаць будзеш, але пакаешся, то ўсё ж такі будзеш Яго ўлюбёнаю.

Малітва да Бога ўсялякая дойдзе. А якая дакладна — мы пра тое не ведаем. Ён — Адзін Судзія праведны, а мы няпраўду можам за ісціну прыняць. Маліся і вер!»

**Парады прападобнага Нектарыя (Ціханава):**

«Пытаецца, якім шляхам да Бога ісці. Ідзіце шляхам пакоры! Пакорлівым нясеннем цяжкіх акалічнасцей жыцця, пакорлівым цярпеннем пасланых Госпадам хвароб; пакорлівай надзеяй, што не будзеце пакінуты Госпадам, Скорым памочнікам і поўным любасці Айцом Нябесным; пакорлівай малітваю звыш аб прагнанні маркоты і пачуцця безнадзейнасці, якімі вораг выратавання прагне прывесці да адчаю, які для чалавека пагібельны, які пазбаўляе яго Боскай ласкі і аддаляе ад яго міласэрнасць Божую».

«Палажэнне Іова — закон для кожнага чалавека. Пакуль багаты, знатны, у дабрабыце, Бог не адгукаецца. Калі чалавек на гноішчы, усімі адрынуты, тады з'яўляецца Бог і сам размаўляе з чалавекам, а чалавек толькі слухае і заклінае: «Божа, памілуй!» Адно што ступені выпрабаванняў розныя».

# Кепска не спяваць

**Расійскі дырыжор Георгій Струве называў хор правобразам ідэальнага грамадства. Чалавечы ідэал насамрэч не ўбачыш, а вось музычны, ды пры тым студэнцкі, паслухаць можна. Аляксандр і Вольга Міненковы робяць усё магчымае, каб галасы харавой капэлы БДУ чуліся як мага далей. Марыя Страх пагутарыла з Вольгай Юр'еўнай пра галоўнае сугучча галоўнага ўніверсітэта.**

**— Які музычны ўзровень павінен мець той, хто жадае далучыцца да капэлы?**

— Сказаць, што любы, будзе ў нашым выпадку няправільна. Мы з мужам кіруем гэтым калектывам крыху больш за шаснаццаць гадоў. Першапачаткова да нас прыходзілі вельмі розныя студэнты. У мяне не было выбару, я прыйшла на руіны вежы. Давялося пачынаць спачатку, таму прымала каго заўгодна і неяк спрабавала навучыць. Гэта доўгая прадмова — растлумачу, да чаго вяду.

Цяпер праца ў калектыве пабудавана такім чынам, што чым хутчэй удзельнікі капэлы будуць схопліваць ад нас інфармацыю, тым больш мы зможам сабе дазволіць. Тым больш мы вывучым, тым складанейшая будзе музыка. Таму ўзровень… Безумоўна, вельмі хочацца, каб за плячыма ўдзельніка была музычная школа. Ідэальна, калі харавая. Хоць практыка паказвае, што далёка не заўсёды гэта плюс. Часам мы здзіўляемся: як жа ў ёй адвучыліся?

Магу сказаць, што дзяўчаты, за выключэннем трох-чатырох, усе скончылі музычную школу. А хлопцаў такіх, мабыць, толькі палова. Але хлопцы — гэта ўвогуле асобны «артыкул». У нас іх





мала, і мы бяром кожнага, хто больш-менш мае добры слых. Гэта адбываецца не толькі ў нас. Гендарная праблема ўвогуле па-за стагоддзямі *(смяецца)*. Калі на праслухоўванне прыходзяць сорак пяць чалавек, сярод якіх дваццаць пяць моцных, а дваццаць так сабе, мы ў хор можам усіх прыняць. Але заўсёды ёсць некалькі чалавек, якім мы кажам: «Для агульнага узроўню вы слабаватыя, але можаце хадзіць на ўсе рэпетыцыі». Як правіла, чалавек, калі хоча і зацікаўлены, ён развіваецца. Развіваюцца яго вушы і галава. Праз нейкі час ён шчыльна становіцца ў рад. Але працаваць яму прыйдзецца больш, чым астатнім. Сказаць, што мы хочам, каб у нас былі супермузыканты… Безумоўна, хацелася б, каб усе чыталі з ліста. Але мы не ставім перад сабой такую мэту.

Ёсць у нас дзве дзяўчыны, якія спяваюць у хоры ўжо на працягу года. Прыйшлі яны вельмі слабымі — і адна, і другая. Мы вельмі неахвотна сказалі: «Добра, пахадзіце. Далей будзем бачыць». У выніку яны аказаліся самымі адказнымі, на якіх дакладна можна спадзявацца. Не толькі на іх… Але яны ніколі не падвялі. Гэта таксама добрая якасць. Якое будзе развіццё праз год-два — хто ведае. Можа здарыцца, што і салісткамі стануць.

Калі мне кажуць: «Я вельмі хачу спяваць, але ў мяне няма ні слыху, ні голасу», я заўсёды адказваю: «Слыху няма ў глухіх, а голасу — у нямых. Астатнія гэта маюць». Калі чалавек жадае, ён можа развівацца ў любым узросце. Супервакалістам ён мо і не стане, але інтаніраваць — трапляць у патрэбную ноту ў патрэбны час — навучыць можна. Гэта маё перакананне. Я сутыкалася з такімі прыкладамі шмат разоў.

**— Ці ёсць шанец у студэнтаў іншых навучальных установаў стаць удзельнікамі вашага калектыву?**

— У нас ёсць такія студэнты. Раней на гэты конт увогуле не было пытанняў: «Так-так, прыходзьце-прыходзьце, адкуль хочаце». Цяпер мы не настолькі зацікаўленыя ў людзях з боку. БДУ — гэта асобная ячэйка. Мы імкнёмся, каб асноўная колькасць удзельнікаў была з БДУ. Але сёння ў нас шасцёра ўдзельнікаў з іншых установаў. Чацвёра з іх ужо скончылі вучыцца.

**— Ад чаго прыйдзецца адмовіцца дзеля ўдзелу ў хоры?**

— Добрае пытанне. Мабыць, ад штотыднёвых паездак дадому. Гэта балючая тэма. У нас канцэрт гарыць, а ў паловы хору пачынаецца: «Я два тыдні дома не была», «У мяне аўтобус толькі ў пятніцу вечарам». А ў пятніцу вечарам у нас рэпетыцыя. Гэта першае. Другое — вольны час. Ёсць добрыя прыклады тых, хто адмовіцца ад чаго заўгодна і прыйдзе ў хор насуперак усяму. Калі пакласці на шалі тое, ад чаго трэба адмовіцца, і тое, што можна пры гэтым набыць, то пераважыць другое. Я вельмі на гэта спадзяюся.

**— Вялікую частку вашага рэпертуару складае духоўная музыка. Перш за ўсё гэта выбар светапогляду ці густу?**

— Светапогляд на першым месцы. Духоўнай музыкі існуе неверагодная колькасць. Без яе выхаваць не музыканта, а чалавека — немагчыма. Гэта нават не абмяркоўваецца. Хор не можа не мець духоўнай музыкі ў рэпертуары, ён проста не мае на гэта права. На мой погляд, музыка — гэта адна з тых моў, якая выкарыстоўваецца адтуль (глядзіць уверх), каб дастукацца да сэрцаў. Музыка проста не можа існаваць, не закранаючы гэтую тэму. А што мы бяром у рэпертуар? Тут усё проста. Калі твор са старой эпохі, то гэта Бяртнянскі, Беразоўскі, Ведэль і г.д. Не таму, што мы вельмі іх любім, няхай яны нас прабачаць. Проста на фестывалях і конкурсах ёсць патрабаванне: выконваць рускую музыку таго часу. Далей у нас ідзе больш сучасная музыка, сярод якой абавязкова Ірына Дзянісава (цяпер — манахіня Іуліанія). Разам з ёй намі пройдзена ўжо шмат-шмат гадоў. Ну, і трэцяе — гэта мае творы. «Калі зоркі запальваюцца — значыць, гэта камусьці патрэбна». Я зрабіла б больш духоўнай праграмы. Але тут важна, каб харысты не занудзіліся. Каб яны не вырашылі, што толькі так і ніяк інакш. Музыка занадта шматгранная.

**— У скарбонцы хору — дзясяткі перамог у краіне і за мяжой. А якія галоўныя дасягненні капэлы па-за сцэнай?**

— Гэта мы ўсім расказваем, гэта наша любімае. За ўвесь час нашай працы ў капэле склаліся шэсць сем'яў, у тым ліку і наша. Гэта самае галоўнае. Ёсць удзельнікі, якія пазнаёміліся і пачалі сустракацца менавіта ў нашым хоры.

Дасягненне не дасягненне, але ведаю: многія моцна сябруюць. У мяне гэта выклікае радасць. Мінае пяць-шэсць гадоў, студэнты завяршаюць вучобу і кажуць пасля, што адзін з самых светлых успамінаў пра яе, — гэта менавіта хор. І вось што яшчэ. Я чалавек няўрымслівы, вельмі люблю падарожжы. Але сам не паездзіш. А вось з хорам…

**— У харыстаў няма вышэйшай музычнай адукацыі, аднак калектыў складана назваць непрафесійным. Як увогуле паняцці адукацыі і прафесіяналізму ў музыцы ўзаемазвязаны і ўзаемавыключаны?**

— З нашай капэлай вельмі добра працаваць дырыжору. Чаму? Людзі ідуць у хор, хоць іх да гэтага ніхто не прымушае. Ім не даюць за гэта грошы, за правіны іх не б'юць рублём. Яны ідуць рабіць тое, што ім падабаецца. З людзьмі, якім падабаецца, можна шмат дасягнуць. Гэта іншае імкненне душы. Мой вялікі боль, што многія выпускнікі кансерваторыі з-пад палкі ідуць працаваць у калектывы, атрымліваюць там капейкі, прымушаюць сябе хадзіць на рэпетыцыі. І няхай музыка фантастычнай прыгажосці, а не будзе нічога добрага, бо маўчыць душа. У гэтым сэнсе нам працаваць лягчэй. Іншая справа, што бывае няпроста растлумачыць патрэбнае з дапамогай непрафесійнай тэрміналогіі. Часта я смяюся, бо пераўтвараюся ў крыніцу алегорый. Плюс я сутыкнулася з такім: мы з мужам робімся старэйшымі, сённяшнія студэнты нам ужо па ўзросце, як дзеці. І нашы алегорыі не заўсёды ім зразумелыя. Але стараемся ісці ў нагу са студэнтамі, трапляць у іх погляды.



Што датычыцца ўзроўню хору… Ёсць такое выказванне, яго вельмі любіць дырыжор Мацюхоў: «Калі хочаш, каб твой хор спяваў добра, не давай яму спяваць кепска». Гэта больш чым зразумела. Ёсць чарнавая праца. Уявім, што мы гатуем катлеты. Хтосьці рэжа мяса, круціць мясарубку, робіць фарш. А хтосьці лепіць прыгожыя катлеткі, смажыць і нясе на стол. Рэжа мяса і добра смажыць — гэта мой муж. Ён цудоўна робіць усю працу хормайстра. Ён вельмі таленавіты чалавек. Такіх дырыжораў, як ён, менавіта такіх, хто працуе з аматарскім хорам, з людзьмі без адукацыі, вельмі мала. У яго вялізны вопыт, ён умее рабіць тое, чаго не ўмеюць іншыя. Я даўно зрабіла адкрыццё: важна, з каго складаецца хор, важная якасць спевакоў. Але калі дырыжор няўмелы — нічога не будзе. Канчатковае гучанне хору залежыць ад таго, хто з ім працуе. Гэта заслуга Аляксандра, што калектыў так спявае. Я выконваю іншую працу — «шліфую». Мы робім розныя творы. Ён рыхтуе адну частку праграмы, я — другую.

Акрамя выканання твораў, ёсць правапіс. Як у першым класе. Трэба напісаць сорак радкоў літары «а» — усе сядзяць і старанна пішуць. У выніку фарміруецца почырк, правільна? Такім жа чынам фарміруецца почырк удзельнікаў нашага хору — са штодзённых практыкаванняў і нашых заўваг. Студэнты слухаюць і, дзякуй Богу, успрымаюць тое, што мы гаворым. Адзінае, з чым змагаюся і чаго ніяк не магу дабіцца, — каб усе хадзілі на рэпетыцыю з алоўкамі, рабілі запісы ў нотах. Той жа Мацюхоў заўсёды кажа: «Кепскі аловак лепшы за добрую памяць». І почырк жа набываецца з часам, не за адзін год. Цяжка не тое, што ў нас не прафесіяналы, а тое, што ад нас сыходзяць. Прыйдуць дваццаць пяць першакурснікаў, адвучацца пяць гадоў, дваццаць з іх пойдуць, застануцца пяцёра, якія ведаюць, чаго хочам мы. І зноў прыйдуць дваццаць. Цыклічнасць — гэта цяжка. А ўвогуле, нават за год можна атрымаць нядрэнныя вынікі. Патрабуецца прысутнасць адных і тых жа людзей на рэпетыцыі, іх увага і зацікаўленасць, як я ўжо казала. Часам вельмі прыгожы твор можна «забіць» дрэнным выкананнем. І наадварот, вельмі пасрэдную музыку можна выканаць проста цудоўна.

**— У дэвізе капэлы напісана: «Музыка вышэйшая за палітыку». А што вышэй за музыку?**

— Малітва. Яна вышэйшая за ўсё. А потым — нічога.

**Харавая капэла БДУ запрашае жадаючых у новы набор.**
**З Вольгай Міненковай можна звязацца праз сацыяльныя сеткі**
**або па тэлефоне на нумар: +375-29-707-51-13.**



**«Нашы Руіны»**
**Аўтарскі праект Уладзіміра Цвіркі**

Гомельская вобласць, Жыткавіцкі раён, вёска Ленін.
Крыжаўзвіжанская праваслаўная каплічка. 1863 год.

У кожным нумары часопісаў «Маладосць» і «Бярозка». Поўны камплект выяў будзе мець той, хто чытае абодва выданні.

# Кніга пра часопіс «Маладосць». Спытай у кнігарні!




...пазваніў фотакар Валянцін Ждановіч і сказаў, што паколькі я цяпер аўтар «Маладосці», то падборку маіх апавяданняў павінен упрыгожыць фотаздымак. І дзеля гэтага ён выклікае мяне ў рэдакцыю.

У кабінеце Ждановіч паказаў на стул, павернуты спінкай да сцяны. Я развярнуў гэты стул, мяркуючы, што трэба здымацца ў анфас. Ждановіч скрывіўся, нібы яго кіслым яблыкам пачаставалі, ды паважна мовіў:

— Лепей сядзі, як я прашу. А вось галаву павярні, глядзі на мяне...

Пашчоўкаў затворам фотаапарата і сказаў:

— Ну, бывай здаровы...

Калі ў верасні 1990-га я ўзяў у рукі дзявяты нумар «Маладосці», то адшукаў там свае апавяданні і нават здзівіўся: які прыгожы аўтар пазірае на мяне з фотаздымка! Валянцін Ждановіч — славуты беларускі фотамайстар другой паловы XX стагоддзя — праз аб'ектыў фотаапарата разгледзеў не толькі аблічча не дужа ўпэўненага ў сабе юнака, але і тое, які насамрэч я разумны і прыгожы.

*З успамінаў Ягора Конева*

**Пра Валянціна Ждановіча і фоталабараторыю «Маладосці» чытайце ў наступным нумары.**